С я р г е й   К а в а л ё ў

# Л І Т А Р А Т У Р А
# Вялікага Княства Літоўскага XVI – пачатку XVII ст.

## Феномен культурнага памежжа

Мінск, «Кнігазбор», 2011

УДК 821.161.3.09
ББК 83.3(4Беи)
К12

Рэцэнзенты:
*доктар філалагічных навук*
А.І. Мальдзіс,
*доктар філалагічных навук*
В. П. Рагойша

**Кавалёў, С.**
К12 Літаратура Вялікага Княства Літоўскага XVI — пачатку XVII ст.: феномен культурнага памежжа / Сяргей Кавалёў. — Мінск : Кнігазбор, 2011. — 344 с.
ISBN 978-985-6976-72-1.

У новай манаграфіі вядомага беларускага даследчыка разглядаюцца такія жанры шматмоўнага пісьменства Вялікага Княства Літоўскага XVI — пачатку XVII ст., як эпіграматычная і эпічная паэзія, эпісталаграфія, рыцарскі раман, мемуары, школьная драма. У «Дадатку» змешчана некалькі інтэрв'ю, рэцэнзій, артыкулаў, якія дапаўняюць асноўную тэму кнігі.

**УДК 821.161.3.09**
**ББК 83.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-6976-72-1**



# Уступ

Манаграфія «Літаратура Вялікага Княства Літоўскага XVI — пачатку XVII ст.: феномен культурнага памежжа» з'яўляецца вынікам індывідуальных даследаванняў аўтара ў перыяд пасля 2002 г. і адначасова адлюстраваннем таго складанага шляху, які прайшла за апошняе дзесяцігоддзе беларуская медыявістыка[1].

Пачатак XXI стагоддзя аказаўся надзвычай плённым перыядам для развіцця беларускага гістарычнага літаратуразнаўства ў тэксталагічна-фактаграфічным, тэарэтычна-інтэрпрэтацыйным і структурна-арганізацыйным плане. Пошукам у архівах і бібліятэках, выданню і перакладу старадаўніх тэкстаў на сучасную беларускую мову спадарожнічалі паспяховыя спробы арыгінальнага прачытання знаных твораў і пошукі адпаведнага ключа для расшыфроўкі мастацкага кода тэкстаў, нядаўна далучаных да нацыянальнай спадчыны. Вывучэнне старадаўняй літаратуры ператварылася з незразумелага шырокаму грамадству занятку (якім было ў савецкія часы) у важную і перспектыўную галіну навукі, запатрабаваную грамадствам *не больш*, але і *не менш*, чым вывучэнне творчасці пісьменнікаў-«нашаніўцаў» і пісьменнікаў-«шасцідзясятнікаў» альбо постмадэрністычных эксперыментаў сучасных аўтараў.

---

[1] Тэрмін «медыявістыка» ўжываецца тут у шырокім значэнні, як галіна даследаванняў старадаўняй літаратуры ад эпохі Сярэднявечча да эпохі Барока.

Падмурак для плённага развіцця гістарычнага літаратуразнаўства ў Беларусі быў закладзены яшчэ ў 60-х — пачатку 80-х гг. XX ст. такімі даследчыкамі, як Аляксей Коршунаў, Мікола Прашковіч, Віктар Дарашкевіч, Уладзімір Калеснік, Якаў Парэцкі, Алег Лойка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Чамярыцкі. Менавіта іх намаганнямі старадаўняя беларуская літаратура перастала атаясамлівацца з творчасцю на старабеларускай і царкоўнаславянскай мовах праваслаўных па веравызнанні аўтараў, была звернута ўвага на шматмоўнае пісьменства Вялікага Княства Літоўскага XVI–XVIII стст. Надзвычай вялікае значэнне і ўплыў на грамадскую думку мелі даследаванні У. Калесніка, В. Дарашкевіча, Я. Парэцкага, прысвечаныя «Песні пра зубра» Мікалая Гусоўскага, а таксама архіўныя пошукі і шматлікія публікацыі А. Мальдзіса, асабліва яго манаграфія «На скрыжаванні славянскіх традыцый. Літаратура Беларусі пераходнага перыяду: другая палавіна XVII — XVIII ст.» (Мінск, 1980), якая стала знакавай для беларускага літаратуразнаўства і нязменна цытуецца ва ўсіх найноўшых працах па гісторыі беларускай літаратуры і тэатра.

У другой палове 80-х — пачатку 90-х гг. XX ст. беларускае гістарычнае літаратуразнаўства развівалася ў спрыяльных варунках дэмакратызацыі грамадства, на хвалі нацыянальнага адраджэння ў краіне і карысталася значнай дзяржаўнай падтрымкай у рэалізацыі важнейшых праектаў. У Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы з нагоды 500-годдзя з дня нараджэння Францішка Скарыны была распрацавана грунтоўная «Скарынаўская праграма», у рамках якой былі выдадзены: «Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г.» (1989), «Творы» Ф. Скарыны, (1990), факсімільная скарынаўская «Біблія» (у 3 т., 1990–1991), зборнікі «Францыск Скарына і яго час» (1988), «Спадчына Скарыны» (1989), «Скарына і яго эпоха»




(1990), «Прадмовы і пасляслоўі паслядоўнікаў Францыска Скарыны» (1991), манаграфіі Г. Галенчанкі, С. Падокшына і іншых аўтараў[1]. Увогуле, у гэты час выйшла шмат помнікаў даўняй беларускай літаратуры: «Вирши» Сімяона Полацкага (1990), «Авантуры майго жыцця» Саламеі Пільштыновай (1993), зборнік «Кніга жыцій і хаджэнняў» (1994), «Беларускія летапісы і хронікі» (1997).

Якраз у 80-я гг. XX ст. у медыявістыку прыйшло новае пакаленне даследчыкаў: Уладзімір Кароткі, Мікола Нікалаеў, Аляксей Мельнікаў, Іван Саверчанка, Таццяна Казакова, Алесь Жлутка, у 90-я гг. да іх далучыліся Сяргей Гаранін, Любоў Ляўшун, Жанна Некрашэвіч-Кароткая, Аляксандр Бразгуноў, Надзея Старавойтава. Асабліва плённа працаваў у гэты перыяд І. Саверчанка, выдаўшы тры манаграфіі: «Старажытная паэзія Беларусі : XVI — першая палова XVII ст.» (1992), «Сымон Будны — гуманіст і рэфарматар» (1993), «Aurea mediocritas. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі: Адраджэнне і ранняе барока» (1998) і тры навукова-папулярныя кнігі «Канцлер Вялікага Княства: Леў Сапега» (1992), «Астафей Валовіч» (1992), «Апостал яднання і веры: Язэп Руцкі» (1994).

Менавіта ў гэты час у Беларусі з'яўляюцца новыя асяродкі даследаванняў нацыянальнай літаратуры: Скарынаўскі цэнтр на чале з А. Мальдзісам і кафедра гісторыі беларускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, якую ўзначаліў У. Кароткі. На жаль, Скарынаўскі цэнтр праіснаваў нядоўга, а вось кафедра гісторыі беларускай літаратуры БДУ стала не толькі «кузняй кадраў» для Аддзела гісторыі старажытнай і новай беларускай літаратуры Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі, але і другім па значэнні

---

[1] Падрабязней пра «скарынаўскую серыю» чытай у гутарцы з В. Чамярыцкім, змешчанай у «Дадатку» да манаграфіі.

асяродкам вывучэння беларускай літаратуры XI–XIX стст. у краіне.

Далейшае развіццё беларускай медыявістыкі на пачатку XXI ст. — насуперак неспрыяльным грамадска-палітычным умовам, на схіле нацыянальнага адраджэння, — з'яўляецца непасрэдным вынікам таго творчага ўздыму, які беларуская гуманітарная навука перажыла ў другой палове 80-х — пачатку 90-х гг.

На кафедры гісторыі беларускай літаратуры БДУ, якую з 2000 г. узначаліў Мікола Хаўстовіч, была распрацавана новая вучэбная «Праграма па гісторыі беларускае літаратуры XI–XIX стагоддзяў» (2002), а пазней дзве асобныя праграмы «Гісторыя беларускай літаратуры XI–XVII стст.» і «Гісторыя беларускай літаратуры XVIII–XIX стст.». У 2001 г. распачалося выданне штогодніка «Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта», дзе публікуюцца артыкулы супрацоўнікаў і аспірантаў кафедры, а таксама пераклады іншамоўных твораў XI–XIX стст. Менавіта на старонках гэтага выдання ўпершыню пабачылі свет пераклады асобных твораў Кірылы Тураўскага, Грыгорыя Цамблака, Пятра Раізія, Гальяша Пельгрымоўскага, Францішкі Уршулі Радзівіл, Караля Жэры. Сімптаматычна, што гэты сціплы ў паліграфічных адносінах, але ўнікальны ў навуковым плане штогоднік выдаваўся без дзяржаўнай падтрымкі: два першыя выпускі — з асабістых складак супрацоўнікаў кафедры, з трэцяга выпуску фінансаванне выдання ўзяў на сябе Польскі Інстытут у Мінску. Цяжка паверыць, але згаданыя вышэй праграмы пад грыфам «Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь» таксама выдаваліся з асабістых складак супрацоўнікаў кафедры.

Зменшылася, але не прыпынілася дзяржаўнае фінансаванне навуковых праектаў у Інстытуце літаратуры імя Янкі

Купалы Акадэміі навук, дзе пад рэдакцыяй Вячаслава Чамярыцкага былі падрыхтаваны да друку два найважнейшыя для беларускай медыявістыкі выданні: «Анталогія даўняй беларускай літаратуры : XI — першая палова XVIII стагоддзя» (2003) і «Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стст. : у 2 т. Т. 1 : Даўняя літаратура : XI — першая палова XVIII стагоддзя» (2006)[1].

Адсутнасць саліднай анталогіі па старадаўняй беларускай літаратуры адчувалася ў Беларусі з 60-х гг. XX ст. Легендарная «Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры», падрыхтаваная А. Коршунавым, выйшла ў 1959 г. (друкавалася ў друкарні імя Сталіна на праспекце Сталіна) і ні разу з таго часу не перавыдавалася. Зборнік «Старажытная беларуская літаратура», падрыхтаваны Л. Курбекам у 1990 г., адрасаваўся школьнікам. Універсітэцкія выкладчыкі прымушалі студэнтаў чытаць тэксты па газетных і часопісных публікацыях. З улікам гэтай парадаксальнай сітуацыі не будзе перабольшаннем сказаць, што выдадзеная ў 2003 г. «Анталогія...» (1015 с.) не проста падсумавала здабыткі беларускіх тэкстолагаў і перакладчыкаў за пэўны перыяд, а ўратавала гонар айчыннай медыявістыкі ў вачах студэнтаў і аматараў старажытнасці. У «Анталогіі...» побач з творамі на царкоўнаславянскай і ста-

---

[1] Варта згадаць таксама распрацаваны Інстытутам філасофіі Акадэміі навук Беларусі праект выдання шасцітомнай «Гісторыі філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі» (пад рэд. В. Евароўскага, С. Санько і інш.). Першыя два тамы ўжо выйшлі з друку: Т. 1 : Эпоха Сярэднявечча. Мінск, 2008. Т. 2 : Протарэнесанс і Адраджэнне. Мінск, 2010. У першым томе ёсць раздзелы пра Еўфрасінню Полацкую, Клімента Смаляціча, Кірылу Тураўскага, усходнеславянскія летапісы, у другім томе — пра Францішка Скарыну, Мікалая Радзівіла Чорнага, Сымона Буднага, Мацея Стрыйкоўскага, Льва Сапегу, трактат «Размова Паляка з Ліцвінам». У працы над унікальным праектам прымалі ўдзел філолагі-медыявісты С. Гаранін і І. Саверчанка.




рабеларускай мове была багата прадстаўлена лацінамоўная і польскамоўная літаратура Вялікага Княства Літоўскага ў перакладах на сучасную мову: творы Яна Вісліцкага, Мікалая Гусоўскага, Барбары Радзівіл, Андрэя Волана, Мікалая Крыштофа Радзівіла, Мацея Стрыйкоўскага, Станіслава Лаўрэнцція, Андрэя Рымшы, Гальяша Пельгрымоўскага, Мялеція Сматрыцкага, Яна Пратасовіча, Тамаша Яўлевіча, Самуіла Маскевіча, Альбрыхта Станіслава Радзівіла, Адама Каменскага-Длужыка, Яна Цадроўскага, Францішкі Уршулі Радзівіл і іншых. «Анталогію...» падрыхтавалі да друку медыявісты Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (В. Чамярыцкі, С. Гаранін, А. Бразгуноў, Л. Ляўшун і інш.), дапамогу ў публікацыі асобных тэкстаў аказвалі ім супрацоўнікі кафедры гісторыі беларускай літаратуры БДУ (Т. Казакова, У. Кароткі, Ж. Некрашэвіч-Кароткая і інш.).

«Анталогія даўняй беларускай літаратуры» паклала пачатак выданню хрэстаматый, зборнікаў, асобных помнікаў старадаўняй беларускай літаратуры ў XXI ст. У 2003 г. выйшлі ў свет падрыхтаваныя намі «Выбраныя творы» Ф.У. Радзівіл. У 2004 г. у Беластоку выйшла змястоўная хрэстаматыя «Старабеларуская літаратура XI–XVIII стст.» пад рэдакцыяй Г. Твврановіч, І. Саверчанка выдаў «Выбраныя творы» Францішка Скарыны (2008), а таксама зборнікі «Старажытная беларуская літаратура: XII–XVII стст.» (2007) і «Беларуская літаратура X–XV стст.» (2010). Ж. Некрашэвіч-Кароткая апублікавала ў арыгінале і ў перакладзе на беларускую мову «Прускую вайну» Яна Вісліцкага (2005). А. Бразгуноў падрыхтаваў зборнік «Беларускія *Александрыя, Троя, Трышчан*...: перакладная белетрыстыка Беларусі XV–XVII стст.» (2009) і, разам з М. Машкевічам і Н. Старавойтавай, публікацыю «Трышчана» ў арыгінале і ў перакладах на беларускую мову: «Беларускі Трышчан. Białoruski Tristan» (2006).

А. Бутэвіч і У. Сіўчыкаў пераклалі і выдалі «Аўтабіяграфію» Багуслава Радзівіла (2009), В. Варонін падрыхтаваў зборнік летапісаў «Летапісы і хронікі Беларусі. Сярэднявечча і раннемадэрны час» (2010).

Папулярызацыі старадаўняй беларускай літаратуры спрыялі зробленыя Алесем Разанавам паэтычныя пераказы твораў Кірылы Тураўскага, Францішка Скарыны, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Іпація Пацея, Язэпа Руцкага, Кірыла Транквіліёна-Стаўравецкага, Мялеція Сматрыцкага, Льва Сапегі, сабраныя пад адной вокладкай у «Кнізе ўзнаўленняў» (2005).

Варта прыгадаць таксама навуковыя манаграфіі, апублікаваныя ў гэты час: «Леонтий Карпович. Жизнь и творчество» (2001) Л. Ляўшун, «Нясвіжская Мельпамена : драматургія Францішкі Уршулі Радзівіл» (2002) Ж. Некрашэвіч-Кароткай, «З неапублікаванай спадчыны» (2005) А. Мельнікава, «Перакладная белетрыстыка Беларусі XV–XVII стагоддзяў» (2007) А. Бразгунова, «Сямейная муза : паэзія Францішкі Уршулі Радзівіл» (2007) Н. Русецкай, «Грыгорый Цамблак : царкоўны дзеяч і пісьменнік» (2008) Т. Казаковай, «Невядомыя і малавядомыя помнікі духоўнай спадчыны і культурных сувязей Беларусі XV — сярэдзіны XVII ст.» (2008) Г. Галенчанкі, «Скарынаўская сімволіка: вытокі, традыцыі, інтэрпрэтацыі» (2009) Г. Кісялёва, «Кніжная культура Вялікага Княства Літоўскага»[1] (2009) М. Нікалаева, «О слове преображенном и слове преображающем» (2009) Л. Ляўшун, «Беларуская лацінамоўная паэзія : ранні Рэнесанс» (2009) Ж. Некрашэвіч-Кароткай.

Але найважнейшым дасягненнем беларускага гістарычнага літаратуразнаўства на сучасным этапе сталася двухтомная

---

[1] Выдадзена як першы том «Гісторыі беларускай кнігі».

акадэмічная «Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стст.» (2006–2007)[1]. У першым томе, які называўся «Даўняя літаратура : XI — першая палова XVIII стагоддзя», акрамя аглядных раздзелаў змешчана 15 персанальных, прысвечаных творчасці канкрэтных пісьменнікаў: Кірылы Тураўскага, Грыгорыя Цамблака, Францішка Скарыны, Мікалая Гусоўскага, Сымона Буднага, Андрэя Рымшы, Гальяша Пельгрымоўскага, Іпація Пацея, Мялеція Сматрыцкага, Лявонція Карповіча, Афанасія Філіповіча, Яна Пратасовіча, Саламона Рысінскага, Сімяона Полацкага, Францішкі Уршулі Радзівіл (9 новых імёнаў у параўнанні з выданнем 1968 г.). Акрамя ўзбагачэння фактаграфічнага матэрыялу новае выданне адрозніваецца ад папярэдняга канцэптуальнасцю асэнсавання матэрыялу, большай незалежнасцю ад расійскай гістарыяграфіі. Падрыхтавана акадэмічная гісторыя літаратуры сіламі айчынных медыявістаў розных пакаленняў: старэйшага (В. Чамярыцкі, А. Мальдзіс, У. Конан), сярэдняга (І. Саверчанка, С. Гаранін, А. Жлутка і інш.) ды малодшага (Ж. Некрашэвіч-Кароткая, А. Бразгуноў, Л. Гедзімін).

З'явіліся за апошняе дзесяцігоддзе ў беларускім гістарычным літаратуразнаўстве і зусім новыя імёны: Вольга Крычко, Наталля Гальго, Наталля Русецкая, Ганна Карповіч, Таццяна Нятбаева, Элеанора Дзюкава (пералік імёнаў дае падставы гаварыць пра суцэльную фемінізацыю беларускай медыявістыкі). Гэтыя маладыя даследчыцы публікуюць свае артыкулы ў беларускім, украінскім, польскім друку, большасць з іх абараніла ўжо кандыдацкія дысертацыі.

---

[1] Папярэдняе выданне такога плана выходзіла на беларускай мове амаль сорак гадоў назад: Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры : у 2 т. Мінск, 1968–1969. Крыху пазней з'явіўся рускамоўны варыянт: История белорусской дооктябрьской литературы. Минск, 1977.

Характэрнай рысай развіцця беларускай медыявістыкі на сучасным этапе з'яўляецца яе выхад за нацыянальныя межы: актывізацыя кантактаў беларускіх навукоўцаў з літоўскімі, украінскімі і польскімі калегамі, публікацыя артыкулаў па гісторыі беларускай літаратуры ў замежных часопісах (напрыклад, у штогодніку Інстытута літоўскай літаратуры і культуры АН Літвы «Senoji lietuvos literatūra» альбо ў беларусазнаўчых часопісах, што выдаюцца ў Польшчы: «Acta Albaruthenica», «Studia Białorutenistyczne», «Białorutenistyka Białostocka»), удзел у міжнародных канферэнцыях і арганізацыя сумесных семінараў і сімпозіумаў, абарона дысертацый у замежных універсітэтах. Напрыклад, у Люблінскім універсітэце імя Марыі Складоўскай-Кюры (Польшча) былі абаронены дысертацыі «Паэзія Францішкі Уршулі Радзівіл у кантэксце літаратуры Беларусі XVIII ст.» (2009) Н. Русецкай, «Кніжнаэпіграматычная паэзія Беларусі XVI ст. у рэчышчы антычнай традыцыі» (2010) Г. Карповіч, падрыхтавана да абароны дысертацыя Т. Нятбаевай «Чалавек і гісторыя ў беларускіх мясцовых хроніках XVII–XVIII стст.».

Кароткі агляд здабыткаў беларускай медыявістыкі за першае дзесяцігоддзе XXI ст. дазваляе зрабіць выснову пра высокі ўзровень гэтай важнай галіны літаратуразнаўства і спадзявацца на яе далейшае развіццё насуперак неспрыяльным грамадска-палітычным варункам у краіне[1].

Свой асабісты ўклад у вывучэнне гісторыі старадаўняй беларускай літаратуры імкнуўся ўнесці і аўтар гэтай кнігі. Наш шлях у медыявістыку пачаўся ў другой палове 80-х гг. з даследавання эпічнага жанру ў шматмоўнай паэзіі Вялікага Княства

---

[1] Падрабязней пра сучасны стан беларускай медыявістыкі гл.: Kawalou S. Literatura Wielkiego Księstwa Litewskiego XIII–XVII wieku w najnowszych badaniach białoruskich // Studia Interkulturowe Europy Środkowo-Wschodniej. Warszawa, 2009. T. 3. S. 84–92.

Літоўскага позняга Рэнесансу, вынікам чаго сталася абароненая кандыдацкая дысертацыя і манаграфія «Героіка-эпічная паэзія Беларусі і Літвы канца XVI ст.» (1993). Пасля абароны доктарскай дысертацыі і выдання аднайменнай манаграфіі «Станаўленне польскамоўнай паэзіі ў полілінгвістычнай літаратуры Беларусі эпохі Рэнесансу» (2002) нашую ўвагу прыцягнулі іншыя жанры шматмоўнага пісьменства Беларусі і Літвы эпохі Рэнесансу: эпісталаграфія, рыцарскі раман, мемуарная літаратура, школьная драматургія. Артыкулы, прысвечаныя ўзнікненню гэтых жанраў, а таксама некаторым аспектам развіцця паэзіі, увайшлі ў зборнік «Літаратура Беларусі позняга Рэнесансу: жанры, творы, асобы» (2005), а таксама былі выкарыстаны для падрыхтоўкі вучэбнага дапаможніка «Гісторыя беларускай літаратуры: другая палова XVI ст.» (2005). У дадатку да зборніка «Літаратура Беларусі позняга Рэнесансу…» змешчаны ўрыўкі з некаторых паэтычных твораў другой паловы XVI — пачатку XVII ст., якія не прадстаўлены ў «Анталогіі даўняй беларускай літаратуры...» (творы П. Раізія, Г. Пельгрымоўскага, Я. Радвана, Радагляда Гладкатварскага ў перакладах Г. Карповіч, Ж. Некрашэвіч-Кароткай, Н. Русецкай), а таксама поўны тэкст паэмы С. Лаўрэнція «Лямант няшчаснага Рыгора Осціка» ў перакладзе А. Бразгунова (у «Анталогіі...» змешчаны ўрывак).

Для акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры XI–XIX стст.» намі былі падрыхтаваны раздзелы «Андрэй Рымша», «Гальяш Пельгрымоўскі», «Ян Пратасовіч», у сааўтарстве з У. Конанам — раздзел «На парозе Новага часу», у сааўтарстве з І. Саверчанкам — раздзел «Паэзія эпохі Адраджэння», у сааўтарстве з С. Гаранінам — раздзел «Драматургія».

Задума манаграфіі «Літаратура Вялікага Княства Літоўскага XVI — пачатку XVII ст.: феномен культурнага памеж-

жа» ўзнікла яшчэ ў 2002 г., а рэалізавалася ў 2010 г., калі манаграфія была падрыхтавана да друку. У кнізе розныя жанры шматмоўнага пісьменства Беларусі і Літвы XVI — пачатку XVII ст. разгледжаны з перспектывы феномену культурнага пагранічча. Манаграфія складаецца з раздзелаў, напісаных пасля 2002 г., толькі ў «Дадатку» змешчана некалькі гутарак, рэцэнзій, артыкулаў, напісаных у розныя гады: гэты матэрыял, на нашу думку, добра падсвятляе асноўную тэму манаграфіі і адлюстроўвае кола навуковых зацікаўленняў аўтара (напрыклад, гутаркі з патрыярхамі айчыннай медыявістыкі Алегам Лойкам і Вячаславам Чамярыцкім, рэцэнзія на манаграфію І. Саверчанкі «Сымон Будны — гуманіст і рэфарматар» альбо артыкул пра творчасць Францішкі Уршулі Радзівіл).

Амаль адначасова намі была падрыхтавана да друку кніга «Шматмоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу», у якой узнаўлялася гісторыя развіцця *паэзіі* ў Вялікім Княстве Літоўскім у эпоху Рэнесансу, разглядаліся праблемы яе сучаснага вывучэння і функцыянавання ў беларускай культурнай прасторы. У кнігу ўвайшлі як новыя распрацоўкі, так і фрагменты нашых ранейшых прац («Героіка-эпічная паэзія Беларусі і Літвы канца XVI ст.», «Станаўленне польскамоўнай паэзіі ў полілінгвістычнай літаратуры Беларусі эпохі Рэнесансу»). Манаграфія была выдадзена, дзякуючы падтрымцы Амерыканскага савета навуковых таварыстаў.

Як сведчаць апублікаваныя ў апошнія дзесяцігоддзі працы, беларускія даследчыкі па рознаму называюць шматмоўнае пісьменства Вялікага Княства Літоўскага: «беларуская літаратура», «беларуская шматмоўная літаратура», «літаратура Беларусі», «літаратура Беларусі і Літвы». Карыстаючыся ў ранніх працах азначэннямі «літаратура Беларусі» ці «літаратура Беларусі і Літвы», мы паступова прыйшлі да пераканання ў правамернасці і перспектыўнасці ўжывання

паняцця «літаратура Вялікага Княства Літоўскага»[1], разглядаючы гэтую літаратуру, па-першае, як агульную спадчыну літоўскага, беларускага, украінскага і польскага народаў, а па-другое — як састаўную частку шматмоўнай беларускай літаратуры даўніх стагоддзяў (зразумела, што літоўскія даследчыкі разглядаюць яе як інтэгральную частку літоўскай літаратуры, украінскія — як частку літаратуры ўкраінскай, а польскія — як частку літаратуры польскай).

Такі плюралістычны падыход дазваляе пазбегнуць непатрэбных спрэчак пра нацыянальную прыналежнасць таго ці іншага пісьменніка, спрыяе навуковаму супрацоўніцтву даследчыкаў літаратуры Вялікага Княства Літоўскага з розных краінаў, а ў выніку — яе лепшаму веданню і разуменню яе як *феномена культурнага памежжа*. Толькі спецыфікай літаратуры Вялікага Княства Літоўскага як феномена памежжа можна растлумачыць той факт, што імёны Яна Вісліцкага, Мікалая Гусоўскага, Андрэя Рымшы, Мялеція Сматрыцкага, Францішкі Уршулі Радзівіл і многіх іншых пісьменнікаў XVI–XVIII стст. сустракаюцца ў падручніках па гісторыі літоўскай, беларускай, украінскай і польскай літаратур.

---

[1] Гл.: Кавалёў С. Літаратура Вялікага Княства Літоўскага як агульная спадчына літоўцаў, беларусаў, украінцаў, палякаў // На ўшанаванне памяці Ежы Гедройца : матэрыялы Міжнар. навук. канферэнцыі «Канцэпцыя УЛБ (Украіна, Літва, Беларусь) — ад ідэі да рэалізацыі». Мінск, 2006. С. 135–146; Кавалёў С. Літаратура Вялікага княства Літоўскага ў эпоху рэнесанса: тры плыні // Феномен памежжа. Славянскія мовы, літаратуры і культуры: этнас у святле гісторыі і сучаснасці : зб. навук. прац / рэд. С. Мусіенка. Гродна, 2009. С. 31–39; Кавалёў С. Шматмоўнасць літаратуры Вялікага княства Літоўскага ў эпоху Рэнесансу // Cyryl i Metody w duchowym dziedzictwie Słowian : materiały III Międzynarodowej konferencji naukowej «Cyryl i Metody w języku i kulturze Słowian» / red. P. Sotirow. Biała Podlaska, 2009. S. 253–259.

Менавіта феномен культурнага памежжа ў пісьменстве Вялікага Княства Літоўскага, гетэрагенічны характар гэтага пісьменства, механізмы і парадоксы сучаснай рэцэпцыі помнікаў старадаўняга пісьменства ў нацыянальных культурах, паралельнае функцыянаванне і ўзаемаўплыў беларускай, украінскай, літоўскай і польскай літаратур сталіся ў апошняе дзесяцігоддзе прадметам нашых навуковых зацікаўленняў, а таксама асноўным кірункам даследаванняў люблінскага асяродку літаратуразнаўцаў-беларусістаў. У 2006 г. у Люблінскім універсітэце адбылася навуковая сесія «Францішка Уршуля Радзівіл у польскай і беларускай культуры», у 2007 г. — канферэнцыя «Феномен пагранічча: польская, украінская і беларуская літаратура — уплывы і ўзаемаўзбагачэнне», у 2008 г. — канферэнцыя «Польска-беларускія моўныя, літаратурныя і культурныя сувязі», у 2009 г. — канферэнцыя «Культурная спадчына Вялікага Княства Літоўскага. Да 440-годдзя Люблінскай уніі»[1].

Трэба адзначыць, што ў апошні час назіраецца прыкметнае ажыўленне даследавання літаратуры і культуры Вялікага Княства Літоўскага ў Літве, Беларусі, Польшчы, Украіне, пра што сведчыць з'яўленне кніг Я. Ульчынайтэ «Baroque Literature in Lithuania» (Вільнюс, 1996), С. Нарбутаса «The

---

[1] Матэрыялы канферэнцый змешчаны ў наступных зборніках: У гонар Францішкі Радзівіл : даклады з навуковай сесіі «Францішка Уршуля Радзівіл у польскай і беларускай культуры» // Працы кафедры гісторыі беларускай літаратуры Белдзяржуніверсітэта. Мінск, 2006. Вып. 7. С. 113–201; Феномен пагранічча: польская, украінская і беларуская літаратура — уплывы і ўзаемаўзбагачэнне : зборнік / рэд. С. Кавалёў і І. Набытовыч. Мінск, 2008; Polsko-białoruskie związki językowe, literackie i kulturowe / red. S. Kawalou, R. Radzik, M. Sajewicz. Lublin, 2010; Dziedzictwo kulturowe Wielkiego Księstwa Litewskiego / red. S. Kawalou, M. Kojder. Lublin, 2011 (w przygotowaniu).

Mysterious Island: a Review of 13$^{th}$–18$^{th}$ Centuries Literature of the Grand Duchy of Lituania» (Вільнюс, 2000), М.Б. Тапольскай «Społeczeństwo i kultura w Wielkim Księstwie Litewskim od XV do XVIII wieku» (Познань — Зялёная Гура, 2002), В. Шаўчука «Муза Роксоланьска. Українська література XVI–XVIII століть. Т. 1–2» (Кіеў, 2004–2005), М. Нікалаева «Гісторыя беларускай кнігі. Ч. 1 : Кніжная культура Вялікага Княства Літоўскага» (Мінск, 2009), энцыклапедычных даведнікаў «Вялікае княства Літоўскае» (у 3 т., Мінск, 2005–2010), «Вялікае княства Літоўскае : гісторыя вывучэння ў 1991–2003 гг.» (Мінск, 2006), «Kultura Wielkiego Księstwa Litewskiego : analizy i obrazy» (Кракаў, 2006) і інш.

Адной з прынцыповых задач, якую мы перад сабой ставілі, было аб'яднаць досвед беларускіх, польскіх, літоўскіх і ўкраінскіх даследчыкаў у вывучэнні шматмоўнай літаратуры Вялікага Княства Літоўскага.

Аўтар выказвае шчырую ўдзячнасць Я. Ульчынайтэ, С. Нарбутасу, Д. Куолісу за кансультацыі ў галіне літоўскай літаратуры, Г. Карповіч за дапамогу ў працы над лацінамоўнымі тэкстамі і за падрыхтоўку «Паказальніка іменаў», В. Гапеевай — за пераклад рэзюмэ на англійскую мову, рэцэнзентам А. Мальдзісу і В. Рагойшу — за добразычлівую ацэнку даследавання.





# Пачатак вершаскладання на нацыянальных мовах

Узнікненне паэзіі ў пісьменстве Вялікага Княства Літоўскага ў эпоху Рэнесансу звязана з дзейнасцю выдатнага беларускага першадрукара і гуманіста Францішка Скарыны (каля 1490 — перад 1552). У здзейсненым у 1517–1519 гг. у Празе выданні шэрагу кніг «Біблії» ён змясціў тры ўзоры дасілабічнага вершаскладання на старабеларускай мове: «Богу въ Троици единому ко чти и ко славе…», «Веруй в Бога единаго…», «Не копай под другом своим ямы…»[1]. Гэтыя вершы, а таксама рытмізаваны празаічны ўрывак «Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни…» з прадмовы да кнігі «Юдзіф» уваходзяць у склад большасці беларускіх паэтычных анталогій і хрэстаматый. І хаця вытокі беларускай паэзіі можна шукаць яшчэ раней: у старарускім «Слове пра паход Ігаравы» (XII ст.), царкоўнаславянскіх творах Кірылы Тураўскага (XII ст.), лацінамоўным зборніку «Пруская вайна» (1516) Яна Вісліцкага, але менавіта Скарыне належыць заслуга быць аўтарам першых *беларускіх* вершаў і тым самым

[1] У манаграфіі не разглядаюцца творы гімнаграфічнай паэзіі, вядомай са старажытных часоў і прынцыпова адрознай ад паэзіі ў рэнесансавым і сучасным значэнні гэтага паняцця. Таму не аналізуюцца і акафісты Ф. Скарыны з «Малой падарожнай кніжкі».

пачынальнікам вершаскладання на нацыяльных мовах у Вялікім Княстве Літоўскім: «...Вершы Скарыны — не проста працяг "рыфматворчых" традыцый старажытных кніжнікаў. Гэта якасна новая з'ява, своеасаблівы дыялектычны скачок у мастацкай свядомасці, які стаўся пачаткам новага віду літаратуры — вершаскладання»[1].

У кантэксце далейшага развіцця паэзіі ва ўсходнееўрапейскіх літаратурах важным з'яўляецца сама прысутнасць скарынаўскіх вершаў у кніжным выданні, а таксама іх жанравая спецыфіка, вершаваны памер і мова, на якой яны былі напісаныя.

Першым вершам Ф. Скарыны трэба лічыць чатырохрадкоўе, змешчанае на тытульнай старонцы кнігі «Іоў» (1517):

Богу въ Троици единому ко чти и ко славе,
Матери Его пречистой Марии к похвале,
Всем небесным силам и святым Его к веселию,
Людям посполитым к добраму научению[2].

Даследчыкі па-рознаму вызначалі жанр і функцыю гэтага верша ў структуры кнігі. М. Грынчык назваў яго «эпіграфам» і «вершам-прысвячэннем, у якім аўтар у панегірычнай форме раскрывае ўнутраныя творчыя імпульсы сваёй асветніцкай дзейнасці»[3], А. Лойка таксама ўжыў паняцце «эпіграф» і дадаў азначэнне «духоўны вірш»[4], складальнікі «Анталогіі даўняй беларускай літаратуры...»

---

[1] Саверчанка І. Старажытная паэзія Беларусі : XVI — першая палова XVII ст. Мінск, 1992. С. 31.

[2] Анталогія даўняй беларускай літаратуры : XI — першая палова XVIII стагоддзя / пад рэд. В. Чамярыцкага. Мінск, 2003. С. 338.

[3] Грынчык М. Зараджэнне і развіццё беларускай сілабічнай паэзіі // Беларуская літаратура. Мінск, 1977. Вып. 5. С. 16.

[4] Лойка А. Старабеларуская літаратура. Мінск, 2001. С. 302–303.

далі скарынаўскаму чатырохрадкоўю загаловак «Эпікграма да кнігі "Іоў"»[1], І. Саверчанка адзначыў, што «ў вершаванай форме паэт вельмі сцісла, але надзвычай дакладна сфармуляваў прызначэнне свайго выдання»[2]. Па-сутнасці, усе прапанаваныя назвы, азначэнні і характарыстыкі — слушныя, але адначасова недакладныя, бо кароценькі скарынаўскі верш надзвычай семантычна-насычаны і сінкрэтычны па сваёй жанравай прыродзе: змешчаны на месцы эпіграфа, але гэта не цытата; пачынаецца як малітва, але заканчваецца свецкім зваротам да чытача; сваю працу Скарына Богу прысвячае (*дэдыкацыя*) і тым самым яго ўслаўляе (*гімн*), а чытачу кнігу адрасуе (*прадмова да чытача*), прычым не кожнаму чытачу, а таму, хто прызнае догмат Тройцы і шануе святых, г. зн. не арыянам і не лютэранам (*рэлігійна-палемічная паэзія*).

Скарынаўскі верш «Богу въ Троици единому...» — спецыфічны ўзор кніжна-эпіграматычнай паэзіі, разнавіднасцямі якой у еўрапейскай паэзіі эпохі Рэнесансу з'яўляліся вершы на гербы («эпікграмы»), вершаваныя прадмовы, пасляслоўі, дэдыкацыі і звароты да нядобразычлівага крытыка. Асноўнымі функцыямі кніжных эпіграм была прэзентацыйная (прадстаўленне кнігі чытачу) і панегірычная (услаўленне мецэната і фундатара выдання), але ў эпоху рэлігійных спрэчак і канфліктаў кніжныя эпіграмы нярэдка набывалі палемічныя акцэнты. Таксама як празаічныя прадмовы, пасляслоўі і дэдыкацыі, эпіграмы з'яўляліся сталым элементам прадмоўна-пасляслоўнага комплексу кніжных выданняў з часоў Гутэнберга, выкарыстанне вершаў сталася часткай кнігавыдавецкай традыцыі, своеасаблівай модай.

---

[1] Анталогія даўняй беларускай літаратуры. С. 338.

[2] Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стст. : у 2 т. Т. 1 : Даўняя літаратура : XI — першая палова XVIII стст. / пад рэд. В. Чамярыцкага. Мінск, 2006. С. 426.

Хаця ў чэшскай каталіцкай Бібліі (Прага, 1506), з якой непасрэдна рабіў пераклад Францішак Скарына, эпіграм не было, беларускі першадрукар несумненна бачыў іх у іншых кракаўскіх, пражскіх, венецыянскіх выданнях. Таму ён і змясціў вершаванае прысвячэнне на тытульнай старонцы адной з біблейных кніг; аддаючы даніну еўрапейскай традыцыі, стаў эксперыментатарам на айчыннай культурнай глебе. Два іншыя вершы Скарыны таксама ўзыходзяць да жанру эпіграмы, але, у адрозненне ад прысвячэння «Богу въ Троици единому…», не адыгрываюць самастойнай ролі ў структуры выдання, а змешчаны ў празаічных прадмовах.

У прадмове да кнігі «Выхад» (1519) Скарына падаў вершаваны дэкалог:

Веруй в Бога единаго,
А не бери надармо имени Его!
Помни дни светые святити,
Отца и матку чтити!
Не забивай ни едина
И не делай греху блудна!
Не вкради, что дружнего,
А не давай сведецства лживаго!
Не пожелай жены ближнего,
Ни имения или речи его![1]

А ў прадмове да кнігі «Эсфір» (1519) беларускі першадрукар і гуманіст змясціў вершаванае чатырохрадкоўе маральна-дыдактычнага зместу, на думку А. Лойкі, «блізкае да жанру сярэднявечнай польскай фрашкі»[2]:

Не копай под другом своим ямы,
Сам ввалишся в ню.

---

[1] Скарына Ф. Творы : прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхаліі. Мінск, 1990. С. 53.

[2] Лойка А. Старабеларуская літаратура. С. 303.

Не став, Амане, Мардохею шибенице,
Сам повиснеш на ней[1].

Адзначаючы заслугі Скарыны ў зараджэнні айчыннага вершаскладання, не варта, аднак, іх перабольшваць. Невытлумачальным, але бясспрэчным фактам з'яўляецца адсутнасць вершаваных эпіграм у віленскіх выданнях беларускага першадрукара: «Малая падарожная кніжка» (каля 1522 г.) і «Апостал» (1525). Ды і эпіграмы з пражскіх выданняў з'яўляюцца, хутчэй, правобразам будучых паэтычных твораў, чым сталымі ўзорамі вершаскладання, прынаднымі для наследавання. Многія даследчыкі (Я. Карскі, М. Прашковіч, М. Грынчык і інш.) памылкова залічвалі скарынаўскія паэтычныя спробы да сілабічнага вершаскладання. Але праведзены І. Саверчанкам грунтоўны метрычны аналіз засведчыў: «...паэтычныя творы Скарыны — гэта няроўнаскладовыя, дасілабічныя вершы, у якіх як выключэнне сустракаецца ізасілабізм — роўнаскладовасць у межах вершаванага перыяду»[2].

Вершаваныя спробы Ф. Скарыны прыцягвалі ўвагу многіх аўтарытэтных вучоных, пачынаючы ад моманту публікацыі ў 1888 г. славутай кнігі П. Уладзімірава «Доктор Франциск Скорина: его переводы, печатные издания и язык», але менавіта ў манаграфіі І. Саверчанкі «Старажытная паэзія Беларусі: XVI — першая палова XVII ст.» паэтычныя творы Скарыны — не толькі эпіграмы, але і акафісты — разгледжаны найбольш падрабязна і грунтоўна[3]. Адзінае, што выклікае пярэчанне, гэта вызначэнне І. Саверчанкам мовы скарынаўскіх вершаў як *стараславянскай (у беларускай рэдакцыі)*. Што праўда, беларускі літаратуразнаўца-медыявіст імкнецца

---

[1] Скарына Ф. Творы. С. 71.

[2] Саверчанка І. Старажытная паэзія Беларусі. С. 36.

[3] Тамсама. С. 13–38.

абыходзіць дыскусійныя моваразнаўчыя пытанні, але напрыканцы падраздзела ўсё ж такі адкрывае сваю пазіцыю: «Вершаваныя спробы Скарыны, якія з'явіліся пераломным момантам у развіцці беларускай кніжнай паэзіі, былі працягнутыя толькі ў другой палове XVI ст., але ўжо не на стараславянскай мове беларускай рэдакцыі, а на жывой народнай мове»[1].

Падобнае сцвярджэнне патрабуе ўдакладнення. Папершае, мова скарынаўскіх вершаў «Богу въ Троици единому…» і «Не копай под другом своим ямы…» усё ж такі бліжэй да кніжнай старабеларускай, чым да стараславянскай. Па-другое, мову паслядоўнікаў Францішка Скарыны — паэтаў-эпіграматыстаў Андрэя Рымшы, Лявона Мамоніча — жывой народнай мовай ніяк не назавеш, гэта таксама кніжная старабеларуская мова. А ўжо мову вершаў іншых скарынаўскіх паслядоўнікаў — Лаўрэнція Зізанія і Крыштафа Філалета — адназначна выпадае назваць стараславянскай (дакладней, царкоўнаславянскай). Па-трэцяе, для гісторыі літаратуры і культуры важныя не толькі канкрэтныя лексіка-граматычныя асаблівасці вершаў, прадмоў і перакладаў Скарыны, але і свядомы, дэкларатыўны зварот першадрукара і паэта да нацыянальнай мовы, цвёрдае рашэнне «тиснути книгу <…> руским языком»[2]. У адрозненне ад Скарыны, Зізаній і Філалет свядома пісалі свае эпіграмы «языком словенскым», хоць і ў іх мове можна знайсці сляды ўплыву старабеларускай мовы.

З храналагічнага пункту гледжання прадаўжальнікам спробаў Францішка Скарыны пісаць вершы на роднай мове з'яўляецца ў пісьменстве Вялікага Княства Літоўскага не Андрэй Рымша, Лявон Мамоніч ці Лаўрэнцій Зізаній,

---

[1] Саверчанка І. Старажытная паэзія Беларусі. С. 37.

[2] Скарына Ф. Творы. С. 20.

а Марцінас Мажвідас, які ў сваёй славутай кнізе «Простыя словы катэхізіса» («Catechismus prasty szadei...», Кёнігсберг, 1547) змясціў верш на літоўскай мове «Кніга прамаўляе да ліцвінаў і жмудзінаў» («Knigieles Paczias byla Letuninkump ir Szemaicziump»). З кнігі Марцінаса Мажвідаса (каля 1520 — 1563), выдадзенай у друкарні Ганса Вайнрэйха, пачалася гісторыя літоўскага кнігадрукавання. Характэрна, што, як і гісторыя беларускага кнігадрукавання, пачалася яна па-за межамі Вялікага Княства Літоўскага.

У 40-я гг. XVI ст. у Кёнігсбергу пад апекай прускага герцага Альбрэхта ўтварыўся гуманістычны гурток эмігрантаў з Літвы, вызнаўцаў лютэранства (М. Мажвідас, А. Кульвецiс С. Рапалёніс і інш.). Менавіта з мэтай распаўсюджання рэфармацыйных ідэй сярод літоўцаў у Прусіі і Вялікім Княстве Літоўскім М. Мажвідас і ягоныя паплечнікі падрыхтавалі і выдалі «Простыя словы катэхізіса», а пазней яшчэ некалькі кніг на літоўскай мове[1]. Першая літоўская кніга змяшчала не толькі сам катэхізіс, але таксама кароткую літоўскую азбуку і канцыянал: тэксты 11 рэлігійных песень разам з нотамі. Вершаваныя тэксты з канцыянала былі напісаны або перакладзены М. Мажвідасам і С. Рапалёнісам, з гэтых песенных тэкстаў пачынаецца развіццё рэлігійна-метафізічнай паэзіі ў Вялікім Княстве Літоўскім, прадоўжанае стваральнікамі берасцейскага (1558) і нясвіжскага (1563–1564) канцыяналаў, а таксама Мікалаем Даўкшам у ягоным «Катэхізісе» (1595).

Але значна большую літаратурную каштоўнасць, чым песенныя тэксты, уяўляў змешчаны напачатку кнігі Мажвідаса (адразу пасля лацінамоўнай прадмовы) арыгінальны верш «Кніга прамаўляе да ліцвінаў і жму-

---

[1] Гл. падрабязней: Анушкин А. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970. С. 33–53; Narbutas S. Litewskie piśmiennictwo // Kultura Wielkiego Księstwa Litewskiego : analizy i obrazy / oprac. V.註 Ališauskas, L. Jovaiša i in. Kraków, 2006. S. 316–333.

дзінаў». Калі чатырохрадкоўе Скарыны «Богу въ Троици единому...» з'яўляецца першым прыкладам вершаскладання на старабеларускай мове, то вершаваная прадмова Мажвідаса да «Катэхізіса» — першы прыклад вершаскладання на літоўскай мове і ўвогуле першы літоўскі літаратурны тэкст. Працытуем пачатак гэтага верша ў польскім перакладзе Тадэвуша Хрусцялеўскага (на жаль, беларускага перакладу пакуль няма):

Bracia, siostry, imajcie mnie pilno, czytajcie,
czytanie zaś dobrze spamiętajcie!
Moich nauk jeszcze pożądali wasi rodziciele,
wszako ich oskoma nie dała im wiele.
Żądali bo na oczy uźrzeć, co w nas pisze,
a też o czym prawim na swe uszy usłyszeć.
To, czego nie mógł poznać wasz nieumiały rodzic,
ninie samo do was przychodzi[1].

І скарынаўскі верш, і мажвідаўскі, несумненна, адносяцца да эпіграматычнага жанру, абодва яны змешчаны ў складзе прадмоўна-пасляслоўнага комплексу. Але функцыю ў структуры кнігі гэтыя творы адыгрываюць розную. Як мы ўжо адзначалі, чатырохрадкоўе «Богу въ Троици единому...» — гэта *прысвячэнне* кнігі «Іоў», яе *адрасацыя*: Богу і людзям паспалітым. У «Простых словах катэхізіса» аналагічную функцыю адыгрывае змешчанае на адвароце тытульнай старонкі лацінскае чатырохрадкоўе «Вялікаму Княству Літоўскаму»: «Прымі набожным сэрцам гэтыя навукі Бога, слаўная Літва, шчаслівая карміцелька вялікіх князёў!»[2]. А літоўскамоўны верш «Кніга прамаўляе да ліцвінаў і жмудзінаў» з'яўляецца разнавіднасцю паэтыч-

---

[1] Borussia. Ziemia i ludzie : antologia literacka / oprac. K. Brakoniecki, W. Lipscher. Olsztyn, 1999. S. 260.

[2] Цыт. у падрадковым перакладзе паводле: Narbutas S. Litewskie piśmiennictwo. S. 324–325.

най прадмовы ў форме ўяўнага звароту Кнігі да чытачоў з заклікам да ўважлівага вывучэння асноў праўдзівай (г. зн. лютэранскай) веры і — такім шляхам — да выратавання душы:

Patrzajcie i dziwujcie się, mili ludkowie,
toż Królestwo Niebieskie spieszy k wam w mym słowie.
<…>
Gdy mieć mnie będziecie, bracie i siostry, w estymie,
Bóg Ociec ze swym Synem do łaski was przyjmie[1].

У адрозненне ад лацінамоўнага прысвячэння «Вялікаму Княству Літоўскаму» верш Мажвідаса на літоўскай мове мае не грамадзянска-патрыятычную, а рэлігійна-прапаведніцкую накіраванасць. Гэта характэрны прыклад, які пацвярджаў агульную тэндэнцыю: «У першых літоўскамоўных кнігах мы не знойдзем такой грамадзянскай заангажаванасці, як у лацінскіх альбо польскіх выданнях. Бо для касцёла важная была не столькі нацыянальнасць верніка, колькі яго вера»[2]. Літоўская мова выкарыстоўвалася прадстаўнікамі розных веравызнанняў для прапаганды рэлігійных ідэй сярод літоўскай часткі насельніцтва, а не дзеля абуджэння патрыятычных пачуццяў грамадзян Вялікага Княства Літоўскага. Характэрна, што нават палымяная прадмова М. Даўкшы да літоўскага перакладу «Пасцілы» Якуба Вуйка (Вільня, 1599), у якой літоўскі гуманіст заклікае любіць і шанаваць родную мову, напісана па-польску.

Кніга з верша Мажвідаса ўвасабляе сабой хрысціянскую веру, а не звыклую асвету, сваю задачу яна бачыць не ў адукацыі чытача, а ў выратаванні ягонай душы. Таму яе звароты і заклікі да патэнцыяльнага адрасата надзвычай катэгарычныя і патрабавальныя:

---

[1] Borussia. S. 260.

[2] Narbutas S. Litewskie piśmiennictwo. S. 324.

Dzień i noc przed oczyma wy mnie trzymajcie,
a nigdy przecz od siebie nie odrzucajcie.
Jeśli kto mnie odtrąci dla proznego zbytku,
nijakiego nie będzie miał przez to pożytku.
Taki, wierę, głupoty będzie ino świetkał
i na zdrowiu swym szkody nie będzie on znał.
I ten nauczania mojego nijak nie posiędzie
i póki życia w ćmie grubej znajdować się będzie[1].

Напрыканцы XVI ст. у шматмоўнай паэзіі Вялікага Княства Літоўскага з'явіцца яшчэ некалькі вершаваных прадмоў да чытача, тыпалагічна вельмі блізкіх да паэтычнай прадмовы Марцінаса Мажвідаса. Гэта эпіграма Лаўрэнція Зізанія «Типограф младенцем» з «Грамматики словенской...» (Вільня, 1596) і эпіграма Крыштафа Філалета «Книга да минаючих мовит» з ягонага антыўніяцкага трактата «Апокрисис...» (Вільня, 1597).

Верш Крыштафа Філалета (псеўданім пісьменніка-пратэстанта Марціна Бранеўскага) таксама напісаны ў форме звароту Кнігі да чытача, мае выразную рэлігійна-прапаведніцкую, нават рэлігійна-палемічную накіраванасць («Отвѣт Римляном православных содержаще»). Усведамляючы сваю значнасць і патрэбнасць для праваслаўных вернікаў, якіх імкнецца завабіць у свае сеці унія, Кніга Філалета, як і Кніга Мажвідаса, поўная рашучасці трапіць у рукі чытача:

Купи, читай, разъсуждай, брате и тщателю,
Повинни ли повѣжд, се къ благодателю
Превышнему с покааніем възвратятся,
Узриши ли яко неповинни явятся[2].

---

[1] Borussia. S. 260–261.

[2] Цыт. па дадатку да кн.: Саверчанка І. Старажытная паэзія Беларусі. С. 215.

Верш Л. Зізанія «Типограф младенцем» змешчаны ў падручніку, таму як і іншыя эпіграмы з «Граматыкі славянскай» («Стихи къ младенцем, въвъдящии их на дело», «Епиграмма на грамматику») мае чыста адукацыйны характар, без дадатковых рэлігійных ці палітычных падтэкстаў. Напісаны верш у форме звароту Аўтара да чытачоў, і гэта Аўтар пераконвае будучых вучняў («младенцев») у карыснасці, навуковай дасканаласці і... таннасці кнігі:

Не просто книжнику называйте тую грамматику,
Але наставницу добру словенскому языку.
Научает добре писати и добре читати,
Досконалым и певным быць а не в чом не портати.
Тую вы, о спудеи, малым коштом собе набывайте,
А великого ся розуму и ростропности з ней ж научайте[1].

Разгледжаныя намі эпіграмы Ф. Скарыны, М. Мажвідаса, К. Філалета, Л. Зізанія выконвалі ў прадмоўна-пасляслоўным комплексе кнігі функцыю вершаванай прадмовы. Такія вершаваныя прадмовы часта сустракаліся таксама ў лацінамоўных і польскамоўных выданнях Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу, аўтарамі іх былі С. Будны, М. Стрыйкоўскі, Я. Казаковіч, Я. Пратасовіч, Б. Будны, С. Грахоўскі, Я. Пятровіч і інш.

Яшчэ адной — самай папулярнай — разнавіднасцю кніжна-эпіграматычнай паэзіі XVI — пачатку XVII ст. з'яўляліся геральдычныя вершы, якія размяшчаліся звычайна на адвароце тытульнага ліста кнігі пад выявай шляхецкага герба.

Першыя ўзоры геральдычных вершаў на лацінскай мове ў пісьменстве Вялікага Княства Літоўскага мы знаходзім у кракаўскіх зборніках Яна Вісліцкага і Мікалая Гусоўскага 1516–1525 гг. Ні ў пражскіх, ні ў віленскіх вы-

[1] Анталогія даўняй беларускай літаратуры. С. 682.

даннях Ф. Скарыны не было эпіграм на гербы. Магчыма, гэта тлумачылася тым, што ягоныя мецэнаты і фундатары выданняў Якуб Бабіч і Багдан Онькаў належалі да мяшчанскага саслоўя. Не знойдзем мы літоўскамоўных геральдычных вершаў у кнігах М. Мажвідаса і ягоных паслядоўнікаў Б. Вілентаса, Й. Брэткунаса, С. Вайшнораса, М. Даўкшы. Магчыма, гэта тлумачылася рэлігійнай сферай ужывання літоўскай мовы, прычым пераважна ў сялянскім асяроддзі, а геральдычныя вершы былі, як правіла, свецкімі па змесце і адрасаваліся шляхце ды магнатам. Паказальна, што эпіграма на герб біскупа Мельхіёра Гедройца, змешчаная на адвароце тытульнай старонкі «Пасцілы» М. Даўкшы, напісана В. Лабунаўскісам-Даўётасам на лацінскай мове.

Найбольш ранні геральдычны верш на старабеларускай мове «На герб ясневельможного пана, пана Остафея Воловича…» належыць пяру Андрэя Рымшы, змешчаны ён у кнізе «Генадия патриарха Константинопольского… диалог…», выдадзенай у 1585 г. у віленскай друкарні Мамонічаў. Нягледзячы на невялікі аб'ём (4 радкі), эпіграма Рымшы з'яўляецца ўзорным прыкладам геральдычнага верша, бо выконвае яго галоўную функцыю — апісанне гербавых знакаў:

Што две стрелы, што врубы, што лилеи значать,
то вси люди мудрые вельми горазд бачать,
Которых зацный тот дом за герб уживаеть,
вер мне, иж там Господу цнота свою маеть[1].

На старабеларускай мове А. Рымша напісаў яшчэ дзве эпіграмы: на герб Льва Сапегі (1588) і на герб Фёдара Скуміна (1591), на лацінскай — эпіграму на герб Крыштафа Радзівіла Перуна (1585), на польскай — эпіграму на герб Астрожскіх (1595). З увагі на месца публікацыі асобна

[1] Анталогія даўняй беларускай літаратуры. С. 455.

трэба вылучыць эпіграму «На преславные а староречные клейноты... пана Лва Сапеги...» — яна ўпрыгожвала першае выданне «Статута Великого Князства Литовского» (Вільня, 1588), суседнічала з патрыятычнай прадмовай Льва Сапегі «Всим вобец станом Великого Князства Литовского».

Аўтарамі шэрагу геральдычных вершаў былі таксама Ц. Базылік, С. Будны, М. Стрыйкоўскі, Я. Казаковіч, Я. Радван, Л. Мамоніч, але толькі апошні з іх пісаў на старабеларускай мове («На герб... пана Лукаша Ивановича Мамонича...», «На герб... пана Лео Сапеги...» і інш.). З канца XVI ст. дайшоў да нас ананімны верш «На зацный клейнот места... Могилева, герб, названый вежа», унікальны прыклад эпіграмы не на шляхецкі ці магнацкі, а на гарадскі герб:

От могилок Могилов чому бы прозвано,
Вежу за герб пры праве Майдебурском дано?
С тых мер же, бы мешканцы на смерть памятали,
А над цноту вышшого ничого не знали.
При совитой до Бога и до пана вере,
Без одмены сталыми были в кождой мере
Даючи дань, повинность, почесть ведлуг стану
Духовенству од души, а од тела пану[1].

Усяго захавалася каля дзесяці старабеларускіх геральдычных эпіграм XVI — пачатку XVI ст. («эпікграм», як прынята іх называць), яны перыядычна публікаваліся ў айчынных хрэстаматыях і паэтычных анталогіях і былі прадметам даследавання многіх вучоных, пачынаючы з Я. Карскага. Аўтар фундаментальнай працы «Беларусы» вельмі нізка ацэньваў мастацкую вартасць эпіграм на гербы: «Паэзіі ў іх амаль ніякай. Паўсюль усхваленне моцных гэтага свету, праслаўленне заслуг іх продкаў. Вобразы

[1] Анталогія даўняй беларускай літаратуры. С. 714.

трафарэтныя. Малавыразныя мова і стыль. Натуральна, што такая паэзія не магла быць даўгавечнаю»[1].

Аднак толькі пасля комплекснага, усебаковага даследавання эпіграматычнай паэзіі Вялікага Княства Літоўскага, пасля супастаўляльнага аналізу шматлікіх твораў на лацінскай, польскай, старабеларускай мовах (Я. Карскі разглядаў толькі эпіграмы з кірылічных выданняў Мамонічаў) можна выявіць агульныя асаблівасці гэтага жанру, вызначыць яго месца ў гісторыка-культурным кантэксце XVI–XVII стст. Такое даследаванне ў сучасным беларускім літаратуразнаўстве распачаў І. Саверчанка[2], а працягнула маладая даследчыца Г. Карповіч у сваёй дысертацыі «Кніжна-эпіграматычная паэзія Беларусі XVI ст. у кантэксце антычнай традыцыі» (Люблін, 2010).

Што датычыць сучаснай рэцэпцыі падобных вершаў, можна смела прадказваць зборніку «эпікграм» поспех у чытача, прагнага да рыцарскай атрыбутыкі і старажытнай экзотыкі. Трэба толькі друкаваць такія эпіграмы ў іх натуральным выглядзе *эмблематычных* вершаў, гэта значыць — разам з гербамі, якім яны прысвечаны. Кожная пасобку, без сваёй графічнай часткі, эпіграмы на герб робяцца малацікавымі і цяжкімі для сучаснага ўспрымання.

Эпіграмы на радавыя гербы магнатаў і шляхты з'яўляліся, па-сутнасці, правобразам героіка-эпічнай паэзіі, яе папярэднім ідэйна-мастацкім фундаментам і пазнейшым пазаструктурным працягам. Таксама, як і вялікія па памерах эпічныя паэмы, кароценькія эпіграмы на гербы ўслаўлялі культ рыцарства, воінскай мужнасці, былі прасякнуты патрыятычнымі настроямі і традыцыйнай павагай да патрыярхальнага, гераічнага жыцця продкаў.



---

[1] Карский Е. Белорусы. Петроград, 1921. Т. 3, ч. 2. С. 133.

[2] Гл. раздзел «Паэтыка панегірычных жанраў» у кн.: Саверчанка І. Старажытная паэзія Беларусі. С. 39–62.

«Подавайте ж потомъком, што маете зъ предъков, / Ведже и ваших цных справ въвесь свет полон светъков!» — гэты заклік А. Рымшы з эпіграмы «На... клейноты... пана Лва Сапеги...» з'яўляецца, па-сутнасці, галоўнай ідэяй героіка-эпічнай паэзіі эпохі Рэнесансу, лацінамоўных і польскамоўных паэм М. Стрыйкоўскага, Ф. Градоўскага, А. Рымшы, Я. Казаковіча, Я. Радвана, Г. Пельгрымоўскага.

Ацэньваючы развіццё вершаскладання на нацыянальных мовах у Вялікім Княстве Літоўскім у эпоху Рэнесансу, паэтычныя спробы Ф. Скарыны, М. Мажвідаса і іх паслядоўнікаў, трэба быць аб'ектыўным. Для далейшага развіцця нацыянальных літаратур важнымі з'яўляюцца сама наяўнасць гэтых спробаў яшчэ на пачатку XVI ст. і тэндэнцыя іх узрастання ў другой палове XVI ст. Такія вершы, як «Богу въ Троици единому...» Ф. Скарыны, «Кніга прамаўляе да ліцвінаў і жмудзінаў» М. Мажвідаса, «На... клейноты... пана Лва Сапеги...» А. Рымшы, «На герб... пана Лукаша Ивановича Мамонича...» Л. Мамоніча, песенныя тэксты з катэхізісаў М. Мажвідаса і М. Даўкшы, уваходзяць у залаты фонд беларускай і літоўскай літаратур. Але ў колькасных адносінах вершаваныя творы на кніжнай старабеларускай мове і на розных дыялектах літоўскай мовы з'яўляліся кропляй у вялізным моры лацінамоўных і польскамоўных паэтычных тэкстаў.

Усе названыя намі прыклады вершаскладання на нацыянальных мовах замыкаюцца ў жанравых рамках эпіграматычнай паэзіі і адыгрываюць службовую ролю ў структуры выдання: яны непасрэдна звязаны з асноўным зместам кнігі (вершаваныя прадмовы) альбо з гравюрамі (эпіграмы на гербы). Можна, праўда, згадаць яшчэ «Храналогію» А. Рымшы або верш-гекзаметр на літоўскай мове «Прысвячэнне літоўскім родам» («Pakwietimas Lietuwos gimines») з панегірычнага зборніка

«Віншаванне… караля Жыгімонта III» (Вільня, 1589). І. Саверчанка залічвае да паэзіі Беларусі таксама рэлігійна-палемічныя вершы з Загараўскага і Кіева-Міхайлаўскага рукапісных зборнікаў[1]. Але гэтыя вершы створаны пераважна ў XVII ст. па-за межамі Вялікага Княства Літоўскага і выходзяць за рамкі нашага даследавання.

Адсутнасць у пісьменстве Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу вялікіх паэтычных твораў на беларускай альбо літоўскай мовах — героіка-эпічных паэм, сатырычных паэм, вершаваных трактатаў — тлумачыцца не толькі культурна-гістарычнымі прычынамі (рэгламентаванымі сферамі ўжывання старабеларускай і літоўскай моў у грамадскім жыцці), але і пануючымі эстэтычнымі ўяўленнямі таго часу. Найбольш адпаведнай мовай для напісання героіка-эпічнай паэмы лічылася лацінская, для сатырычных паэм і вершаваных трактатаў — польская. Лацінская і польская мовы сталі асноўнымі мовамі полілінгвістычнай паэзіі Вялікага Княства Літоўскага ў XVI–XVII стст., вершы на старабеларускай або на літоўскай мове ўспрымаліся як адступленне ад правіла, і іх з’яўленне, бясспрэчна, звязана з дэкларацыяй нацыянальна-патрыятычных пачуццяў аўтараў.



[1] Саверчанка І. Старажытная паэзія Беларусі. С. 165–207.



# Ян Вісліцкі ў беларускай культурнай прасторы

У 1516 г. у Кракаве пабачыла свет лацінамоўная паэма Яна Вісліцкага «Пруская вайна» («Bellum Prutenum»). Фактычна, выданне ўяўляла сабой цэлы зборнік, бо па традыцыі таго часу эпічную паэму (1057 радкоў) суправаджаў вялікі прадмоўна-пасляслоўны комплекс (347 радкоў): эпіграмы, вершы-прысвячэнні, оды, элегіі самога Вісліцкага, а таксама два прэфацыйна-дэдыкацыйныя вершы ягоных сяброў, знаных гуманістаў Паўла Русіна і Валянціна Экія. Мастацкі помнік Грунвальдскай бітве — паводле аўтарскай задумы, а насамрэч — вершаваная гісторыя дынастыі Ягелонаў, «Пруская вайна» яшчэ ў XIX ст. зрабілася прадметам скрупулёзнага аналізу польскіх філолагаў, а ў 1932 г. Ян Смярэка апублікаваў пераклад твора на польскую мову.

Не захавалася звестак пра месца нараджэння Яна Вісліцкага, але на падставе прозвішча-прыдомка («Vislencius») усталявалася меркаванне, што нарадзіўся паэт у мястэчку Вісліца над ракой Ніда (прыток Віслы). Мястэчка Вісліца знаходзіцца недалёка ад Кракава, паводле сучаснага адміністрацыйнага падзелу Польшчы — у Бускім павеце Свентакшыскага ваяводства. У Кракаўскай акадэміі Ян з Вісліцы (так пішацца імя паэта ў польскай традыцыі) вучыўся і пазней выкладаў; у кракаўскай друкарні Яна Галера выдаў свой зборнік; Кракаву — адзінаму з усіх

гарадоў — прысвяціў натхнёныя радкі ў паэме «Пруская вайна»:

…Горад цудоўны стварыўшы, што стане сталіцай дзяржавы,
Кракавам горад назваў ад імя свайго Крак, збудаваўшы
Там, дзе разлёгся шырокі прастор Герцынійскага лесу,
Што дакранаецца выгібам доўгім да плодных палеткаў;
Выгіб жа той утварыўся адно з дапамогай цячэння
Віслы шырокай, якая шуміць мнагаводнаю плынню.
Кракаў высока шануе адвечныя творы Платона,
Блізкага да Тэспіядаў: на іх нам указвае неба,
Што адгукаецца ўздоўж галасамі руплівых паэтаў.
Горад цудоўны, як Атыка, слаўная ў цэлым сусвеце,
Тая, што ззяла калісьці вучонасцю мудрых Афінаў,
Ці як Італія, слаўная грэцкай і рымскай скульптурай,
Што зіхацела вучонасцю і красамоўствам патронаў[1].

Імя Яна Вісліцкага — кракаўскага паэта-лацініста XVI ст., аўтара першага паэтычнага эпасу, патрыёта Айчыны і дынастыі Ягелонаў — трывала замацавалася ў гісторыі *польскай літаратуры*.

Але ў 1963 г. на V Міжнародным з'ездзе славістаў вядомы рускі вучоны І. Галянішчаў-Кутузаў назваў Я. Вісліцкага «першым спеваком Літвы»[2], праз год малады беларускі даследчык Мікола Прашковіч у сваёй дысертацыі згадаў Я. Вісліцкага як аднаго з папярэднікаў Сімяона Полацкага[3], а ў 1968 г. ён жа прысвяціў паэту старонку ў акадэмічнай

[1] Вісліцкі Я. Пруская вайна = Visliciensis J. Bellum Prutenum : на лац. і бел. мовах ; укл., перакл., камент. Ж.В. Некрашэвіч-Кароткай. Мінск, 2005. С. 121. Тут і далей паэма цытуецца паводле гэтага выдання, у дужках пазначаюцца старонкі.

[2] Гл.: Голенищев-Кутузов И.Н. Гуманизм у восточных славян (Украина и Белоруссия). Москва, 1963.

[3] Прашковіч М.І. Паэзія Сімяона Полацкага (Ранні перыяд — 1648–1664) : дыс. … канд. філал. навук. Мінск, 1964. С. 29.

гісторыі *беларускай літаратуры*[1]. З таго часу беларускія ды літоўскія даследчыкі пачалі праяўляюць да «Прускай вайны» ўсё большую цікавасць[2].

Сапраўды, аўтар «Прускай вайны» не ўтойваў, што дынастыя Ягелонаў паходзіла ад вялікага князя літоўскага Ягайлы і беларускай магнаткі Соф'і Гальшанскай і што ў Грунвальдскай бітве супраць крыжакоў змагаліся не толькі польскія харугвы, але і войскі Вялікага Княства Літоўскага. Уславіўшы Польшчу і яе сталіцу Кракаў у першай частцы паэмы, Ян Вісліцкі распачаў другую частку твора з велічнага апісання Літвы, звяртаючыся непасрэдна да караля Жыгімонта I:

Ёсць нязведаны край, славуты сваімі лясамі,
Ён уладанні шырока раскінуў да скіфскіх прастораў;
Плодны, квітнее лугамі, цячэ ў ім струмень меданосны;
Край на народы багаты, таксама й на вояў адважных.
Простым найменнем — зямлёю Літоўскай — краіну назвалі
Продкі мясцовага люду. Яны лемяшом зацвярдзелым
Цвёрдую глебу рыхлілі ў багатай сваёй гаспадарцы.
З гэтага краю паходзіць і той валадар знакаміты —
Продак твой велічны з імем вядомым Ягайла —
Слава суровага Марса і лютых спаборніцтваў ратных.

*[С. 129]*

З-за свайго гістарычнага зместу паэма «Пруская вайна» нават як твор *польскай літаратуры* была вартая ўвагі даследчыкаў культурнай спадчыны Вялікага Княства

---

1 Гісторыя беларускай старажытнай літаратуры : у 2 т. Мінск, 1968. Т. 1 : З старажытных часоў да канца XVIII ст. С. 354–355.

2 Гісторыя вывучэння паэтычнай спадчыны Я. Вісліцкага досыць падрабязна асветлена ў найноўшай манаграфіі Ж. Некрашэвіч-Кароткай «Беларуская лацінамоўная паэзія: ранні Рэнесанс» (Мінск, 2009), аднак аўтарка не згадвае чамусьці артыкулаў А. Лойкі і У. Конана і, зразумела, не ацэньвае ўласны даробак.

Літоўскага, заслугоўвала перакладу на літоўскую, беларускую і ўкраінскую мовы.

Але ў сярэдзіне 70-х гг. XX ст. у беларускім друку з'явіліся адразу два артыкулы, у якіх выказвалася гіпотэза пра беларускае паходжанне Яна Вісліцкага (праўдападобна, з ваколіц Клецка). Аўтарамі першага былі Якаў Парэцкі і Юлія Прэнская[1], артыкул уяўляў сабой невялікую прадмову да публікацыі ўрыўкаў з «Прускай вайны» ў перакладзе на рускую мову Я. Парэцкага[2]. Другі артыкул належаў пяру Віктара Дарашкевіча[3], які неўзабаве падрабязна абгрунтаваў сваю гіпотэзу ў кандыдацкай дысертацыі і манаграфіі «Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы: первая половина XVI века» (1979).

У сваёй працы В. Дарашкевіч не толькі па-новаму асэнсаваў дакументы і матэрыялы, сабраныя польскімі гісторыкамі і філолагамі У. Вісލоцкім, К. Мехежыньскім, Ю. Мучкоўскім, Я. Смярэкам, С. Віткоўскім, і ў выніку прапанаваў лакалізаваць месца нараджэння Яна Вісліцкага ў Беларусі, але і грунтоўна прааналізаваў «Прускую вайну» з улікам мастацкіх вартасцяў і недахопаў «гісторыка-гераічнай эпапеі». Беларускі даследчык слушна вызначыў сутнасць творчага метаду паэта: «Ян Вісліцкі нідзе не збіваецца на павярхоўную кампіляцыю, хаця кампіляцыі адпавядалі духу таго часу, а падыходзіць да крыніцы творча, пакідаючы за сабой права на адбор і асэнсаванне гістарычных фактаў і падзей, на паэтычнае "дадумванне"

[1] Парэцкі Я.І., Прэнская Ю.І. Паэма Я. Вісліцкага «Пруская вайна» // Беларуская літаратура і літаратуразнаўства. Мінск, 1973. Вып. 1. С. 161–164.

[2] Вислицкий Я. Прусская война ; пер. Я.И. Порецкого // Беларуская літаратура і літаратуразнаўства. Мінск, 1973. Вып. 2. С. 165–175.

[3] Дарашкевіч В. Мастацкі помнік Грунвальду // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1975. № 3. С. 55–59.

і адлюстраванне ў адпаведнасці з агульнай эпічнай задумай. Праўда, у Яна Вісліцкага, сына свайго часу, адчуваецца ўласцівы тагачаснай гістарыяграфіі і літаратуры павучальны тон, дыдактызм, імкненне зблізіць гісторыю і мастацтва, жывапіс і літаратуру, але непасрэдная сіла вобраза і голас чалавечага ўзрушання перамагаюць маралізатарскую тэндэнцыю»[1]. Ацэньваючы сёння манаграфію В. Дарашкевіча, трэба памятаць, што пісалася яна ў савецкія часы і таму даследчык быў вымушаны свядома перабольшваць «дэмакратызм» аўтара і «народнасць» паэмы, вышукваць «фальклорныя вобразы» нават у радках, запазычаных Вісліцкім у Вергілія, а рэлігійныя ідэі і антымаскоўскі пафас твора, наадварот, старанна хаваць.

Дзякуючы Я. Парэцкаму і В. Дарашкевічу, паэма Яна Вісліцкага на пачатку 80-х гг. XX ст. стала вядомая іншым беларускім літаратуразнаўцам, гісторыкам, краязнаўцам, якія не займаліся спецыяльна вывучэннем лацінамоўнай паэзіі Беларусі XVI ст., але згадвалі і цытавалі «Прускую вайну» ў сваіх кнігах, артыкулах, нататках навуковага навукова-папулярнага характару. Напрыклад, у 1983 г. Аляксей Мельнікаў, вядомы пазней даследчык усходнеславянскай літаратуры XI–XIII стст., у артыкуле «Станаўленне напрамку барока ў беларускай літаратуры» вылучаў прыкметы стылю барока ў творы Яна Вісліцкага на той падставе, што «ў невялікай па памерах паэме больш як дваццаць разоў прыгадваюцца імёны старажытных багоў, міфалагічныя паданні»[2].

---

[1] Дорошкевич В.И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы : первая половина XVI в. Минск, 1979. С. 114.

[2] Мельнікаў А.А. Станаўленне напрамку барока ў беларускай літаратуры // Беларуская літаратура. Мінск, 1983. Вып. 11. С. 143.

Руплівы філолаг-лацініст Якаў Парэцкі здзейсніў у сярэдзіне 80-х гадоў поўны пераклад «Прускай вайны» на беларускую мову, але яго пераклад атрымаўся недасканалы, вымагаў мастацкай апрацоўкі прафесійнага паэта[1]. На хвалі нацыянальнага адраджэння Я. Парэцкі апублікаваў у 1990 г. артыкул «Сармацкі паэт Ян Вісліцкі»[2], а праз год — манаграфію «Ян Вісліцкі» (навуковым рэдактарам манаграфіі быў прафесар, член-карэспандэнт АН БССР А. Лойка). У манаграфіі ўзнаўлялася біяграфія Яна Вісліцкага на падставе ягоных твораў і згадак у лістах і вершах ягоных сучаснікаў, аналізаваўся ідэйна-мастацкі змест «Прускай вайны» і «Оды да караля Жыгімонта», разглядаліся міфалагічныя вобразы і літаратурныя традыцыі ў творах Вісліцкага, аналізаваліся асаблівасці мовы пісьменніка, звярталася ўвага на недакладнасць перакладу некаторых фрагментаў «Прускай вайны» ў манаграфіі В. Дарашкевіча. Я. Парэцкаму ўдалося ўзнавіць літаратурны кантэкст творчасці Яна Вісліцкага, параўнаць яго творы з вершамі і паэмамі польскіх паэтаў-лацiністаў Яна Дантышка і Анджэя Кшыцкага. А вось грамадска-палітычны кантэкст напісання «Прускай вайны» і «Оды да караля Жыгімонта» паказаны ў кнізе недакладна і нават тэндэнцыйна. Аўтар манаграфіі спрабаваў перакânаць чытача ў патаемнай любові Яна Вісліцкага да рускага народа, у ягонай глыбокай павазе да маскоўскага князя

---

[1] Я. Парэцкі звярнуўся з прапановай адрэдагаваць пераклад да Алега Лойкі, той у сваю чаргу намаўляў зрабіць гэта мяне — свайго вучня і аспіранта. Але я не адчуваў у сабе паэтычнага таленту, каб перакладаць эпапею. Асобныя фрагменты перакладу Я. Парэцкага я аддаў пазней для публікацыі ў газету «Наша слова» (1995. № 23–24. С. 12).

[2] Парэцкі Я. «Сармацкі паэт» Ян Вісліцкі // Беларусь. 1990. № 12. С. 16–17.

Васілія III як да вызваліцеля Русі ад мангола-татарскага іга, у спробе кракаўскага паэта перераканаць караля Жыгімонта і ягоных вяльможаў адмовіцца ад «злачынных паходаў на братнюю славянскую краіну», ад «захопніцкай палітыкі на Усходзе»[1]. Я. Парэцкі яўна пераблытаў рэаліі XVI ст., калі Вялікае Княства Літоўскае баранілася ад агрэсіі Маскоўскага княства, з рэаліямі пачатку XVII ст., калі польскія і беларуска-літоўскія атрады бралі ўдзел у авантурных паходах Ілжэдзімітрыяў на Маскву.

Пачатак 1990-х гг. быў у Беларусі спрыяльным часам для адкрыцця, вывучэння і папулярызацыі літаратурнай спадчыны. У 1992 г. Алег Лойка апублікаваў у газеце «Культура» артыкул «Ян Вісліцкі. Пад знакам лаціны»[2], які пазней стаў асновай адпаведнага раздзела ў аўтарскім падручніку «Старабеларуская літаратура»[3]. Вучоны разглядаў «Прускую вайну» як узор нацыянальнага эпасу, у шырокім літаратурна-гістарычным кантэксце ад «Слова пра паход Ігаравы» да «Гусляра» Янкі Купалы і «Новай зямлі» Якуба Коласа. Напэўна, гэта самы патрыятычны і ўзнёсла-паэтычны артыкул пра Яна Вісліцкага і яго паэму: «Як эпік, Ян Вісліцкі сваёй паэмай "Пруская вайна" станавіўся песняром гераічнага чыну ўсіх народаў-пераможцаў пад Грунвальдам, ну, а як лірык, як аўтар-асоба, ён спецыяльна акцэнтаваў увагу менавіта на краі свайго нараджэння, на сваіх земляках»[4]. Як пазначана ў спасылцы, аўтар артыкула цытаваў фрагменты «Прускай вайны» ва ўласным перакладзе, зробленым паводле рускага падрадкоўніка, падрыхтаванага Якавам Парэцкім. Таму,

---

[1] Парэцкі Я.І. Ян Вісліцкі. Мінск, 1991. С. 31–60.

[2] Лойка А. Ян Вісліцкі. Пад знакам лаціны // Культура. 1992. № 7. С. 4–5.

[3] Лойка А.А. Старабеларуская літаратура. С. 225–236.

[4] Лойка А. Ян Вісліцкі. С. 5.

напрыклад, у дачыненні да Соф'і Гальшанскай у паэме Я. Вісліцкага тройчы ўжывалася азначэнне «беларуская»: «беларуская дзева», «дачка беларускай зямлі», «беларуская цудоўная нявеста», якая да таго ж «на неабсяжных палях беларускіх расквітнела».

Як ужо адзначалася, у 1995 г. у газеце «Наша слова» быў апублікаваны ўрывак беларускага перакладу «Прускай вайны», выкананага Я. Парэцкім. Яшчэ адзін урывак гэтага перакладу быў, праўдападобна, апублікаваны ў газеце «Наша ніва»[1]. Такім чынам, з перакладамі паэмы Вісліцкага ў Беларусі склалася парадаксальная сітуацыя. Цікаўны чытач мог пазнаёміцца з фрагментамі твора ў перакладах Я. Парэцкага (рускім і беларускім), В. Дарашкевіча (рускім), А. Лойкі (беларускім), прычым усе гэтыя версіі адрозніваліся паміж сабой: у адным Соф'я была «дзевай беларускай», у другім — «дачкой Беларусі», у адным крыжакі аказваліся акружаныя «войскам палякаў, гікам намадаў», у другім — «войсками поляков, Литвы, белорусов» і г.д. Відавочна бракавала поўнага беларускага перакладу «Прускай вайны», без патрыятычнай мадэрнізацыі і паэтычных адвольнасцяў.

Такі пераклад з'явіўся ў 1997 г., выканала яго маладая мінская даследчыца, знаўца лацінскай мовы і польскамоўнай драматургіі XVIII ст. Жанна Некрашэвіч[2]. Магчыма, гэтаму перакладу крыху не хапала паэтычнай віртуознасці, але затое не бракавала навуковай дакладнасці і вернасці арыгіналу. Вельмі важна, што Ж. Некрашэвіч

---

[1] Звесткі пра гэтую публікацыю падае Ж. Некрашэвіч-Кароткая ў манаграфіі «Беларуская лацінамоўная паэзія: ранні Рэнесанс» (с. 26), але без указання канкрэтнага нумара газеты, і, магчыма, даследчыца проста пераблытала «Наша слова» з «Нашай нівай».

[2] Вісліцкі Я. Пруская вайна = Visliciensis J. Bellum Prutenum. С. 93–130.

не замяняла даўнія назвы народаў і плямёнаў (сарматы, мусагеты, намады, скіфы, літвіны, русіны) на іх сучасныя, не зусім дакладныя адпаведнікі (палякі, літоўцы, татары, рускія, беларусы і г.д.). Гэта не толькі стварыла б сэнсавую блытаніну, але і парушыла б стылістыку паэмы, знішчыла б атмасферу часу. Адукаваны чытач і так зразумее, дачкой якога народа з'яўлялася выбраная Юнонай нявеста для караля Ягайлы:

Ёсць у мяне чароўная німфа ў краіне русінаў,
Боская німфа — яна прыгажэйшая ў свеце дзяўчына.
Імем адметным — Соф'яй — яе суайчыннікі клічуць.
Перавышае яна гераіняў часоў старажытных
Славай сваёй прыгажосці, выключным яшчэ красамоўствам[1].

Публікацыі перакладу «Прускай вайны» спадарожнічала ўступнае слова Уладзіміра Кароткага «Пісаў пра мінуўшчыну, думаў пра будучыню...»[2], у якім выказаны асноўныя тэзісы яго пазнейшых артыкулаў пра паэму Яна Вісліцкага[3]. Вядомага даследчыка рэлігійна-палемічнай літаратуры XVII ст. зацікавіў у першую чаргу ідэйны змест, а не мастацкія асаблівасці эпічнай паэмы XVI ст., грамадска-палітычны, а не эстэтычны кантэкст творчасці Яна Вісліцкага.

---

[1] Вісліцкі Я. Пруская вайна / пер. Ж. Некрашэвіч // Маладосць. 1997. № 12. С. 118.

[2] Кароткі У.Г. Пісаў пра мінуўшчыну, думаў пра будучыню... // Маладосць. 1997. № 12. С. 89–93.

[3] Кароткі У. Я. Вісліцкі: паміж Ягелонамі і Рурыкавічамі // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце : у 2 ч. Мінск, 1999. Ч. 2. С. 79–81.; Кароткі У.Г. Дзяржаўная і дынастычная гісторыя ў «Прускай вайне» Яна Вісліцкага // Взаимодействие литератур в мировом литературном процессе : проблемы теоретической и исторической поэтики : в 2 ч. Гродно, 2001. Ч. 2. С. 200–264.

Некаторыя высновы У. Кароткага цалкам слушныя і пераканаўчыя. Напрыклад, трапна вызначана спецыфіка патрыятызму Яна Вісліцкага: «...Кіруючай дамінантай у канцэпцыі патрыятызму Яна Вісліцкага з'яўляецца федэратыўны патрыятызм паэта, звязаны з землямі, падуладнымі Ягелонам. Як некалі адзінства Русі ўспрымалася як адзінства княжацкага роду Рурыкавічаў, так цяпер адзінства дзяржавы народаў Польскай Кароны і Вялікага Княства Літоўскага ўспрымалася як спадчыннае права Ягелонаў на валоданне і абавязак абароны і захавання гэтых земляў»[1].

Але асобныя выказванні даследчыка выклікаюць пярэчанні. Напрыклад, сцвярджэнне, што «Пруская вайна» прынесла Вісліцкаму «еўрапейскую славу і вядомасць» (зрэшты, падобнае перабольшанне «славутасці» паэта сустракаецца і ў манаграфіі В. Дарашкевіча). Насамрэч паэма Ян Вісліцкага была недаацэнена нават суайчыннікамі. У. Кароткі называе Яна Вісліцкага не толькі «паэтам-гісторыкам», але і «паэтам-філосафам», што таксама выглядае перабольшаннем. Даследчык лічыць, што аўтар «Прускай вайны» свядома, у адпаведнасці са сваёй гістарычнай канцэпцыяй, не згадвае тэорыю паходжання вялікіх князёў літоўскіх ад рымскіх патрыцыяў. Але гэтая тэорыя ў часы Вісліцкага не была яшчэ настолькі папулярная, як у другой палове XVI ст., кракаўскі паэт мог яе папросту не ведаць. Сумнеўна, што Ян Вісліцкі ўлічваў «візантыйскі» радавод Соф'і Гальшанскай і што трэці раздзел «Прускай вайны» ён ствараў як міфалагічна-гістарычнае апраўданне права Ягелонаў не толькі на землі ўсходніх славян, але і на візантыйскае валадарства[2].

---

[1] Кароткі У.Г. Пісаў пра мінуўшчыну, думаў пра будучыню... С. 91.

[2] Тамсама. С. 90–92.

Трэба адзначыць, што з'яўленне такой важнай публікацыі, як пераклад «Прускай вайны», не адразу было заўважана ў навуковых колах. Уладзімір Конан, пішучы ў 2000 г. пра Я. Вісліцкага ў даследаванні «Мастацкая культура Беларусі эпохі Рэнесансу», згадвае толькі рускамоўны пераклад Я. Парэцкага, а «Прускую вайну» аналізуе і цытуе паводле манаграфій Я. Парэцкага і В. Дарашкевіча[1]. Творчасці Яна Вісліцкага і Міколы Гусоўскага ў працы вядомага вучонага прысвечаны асобны падраздзел, прычым першага паэта аўтар смела называе беларусам, а другога — з агаворкай — «верагодна, этнічным» беларусам. У артыкуле выказаны шэраг трапных заўваг пра эстэтычны кантэкст узнікнення «Прускай вайны», пра мастацкія асаблівасці паэмы. Напрыклад, пра кампазіцыю твора: «Сваёй трохчасткавай кампазіцыяй паэма Яна Вісліцкага нагадвае сімфонію, выяўленую сродкамі антычнай паэтыкі, удала спалучанай з хрысціянскай апалогіяй і фальклорнай маляўнічасцю»[2]. Але сустракаюцца таксама асобныя памылкі і недакладнасці. У. Конан называе другую частку «Прускай вайны» «пластычна-вобразнай апрацоўкай разнастайных гістарычных крыніцаў: "Гісторыі Польшчы" Яна Длугаша, "Хронікі" Стрыйкоўскага і "Хронікі Быхаўца", лістоў Ягайлы да жонкі Ганны, народных легендаў і паданняў»[3]. Насамрэч, «Гісторыяй Польшчы» Длугаша і лістамі Ягайлы Ян Вісліцкі якраз не карыстаўся (што ставілі яму ў віну польскія даследчыкі), а «Хроніка Быхаўца» і «Хроніка...» Мацея Стрыйкоўскага ўвогуле былі напісаныя значна пазней за «Прускую вайну» («Хроніка...» Стрыйкоўскага выдадзена ў 1582 г.).

---

[1] Конан У. Мастацкая культура эпохі Рэнесансу // Мастацтва. 2000. № 10. С. 2–7. (Цыкл артыкулаў У. Конана пад згаданай назвай друкаваўся ў № 7–12 часопіса «Мастацтва» за 2000 г.)

[2] Тамсама. С. 5.

[3] Тамсама.

Для ўвядзення спадчыны Яна Вісліцкага ў кантэкст гісторыі беларускай літаратуры невялікі артыкул У. Конана меў асаблівае значэнне, бо менавіта гэты артыкул стаў асновай некалькіх старонак, прысвечаных «Прускай вайне» ў першым томе фундаментальнай акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры XI–XIX стст.» (выдадзены пад рэдакцыяй В. Чамярыцкага ў 2006 г. у Мінску)[1]. Адзначаныя вышэй памылкі артыкула былі ў акадэмічным выданні выпраўленыя, «Пруская вайна» цытавалася ўжо ў перакладзе Ж. Некрашэвіч-Кароткай, побач з версіяй беларускага паходжання згадвалася дзеля аб'ектыўнасці і версія польскага паходжання Яна Вісліцкага. Важнай заслугай паэта называецца першае ў *мастацкай* літаратуры ўжыванне назвы «беларусы» для азначэння нашых продкаў, побач з традыцыйнымі для таго часу назвамі «ліцвіны» і «русіны»[2].

Папулярызацыі творчасці Яна Вісліцкага, увядзенню яе ў вучэбна-дыдактычны працэс спрыяла ўключэнне «Прускай вайны» ў найноўшыя хрэстаматыі: «Анталогія даўняй беларускай літаратуры : XI — першая палова XVIII стагоддзя» (выдадзена пад рэдакцыяй В. Чамярыцкага ў 2003 г. у Мінску) і «Старабеларуская літаратура XI–XVIII стст.» (выдадзена пад рэдакцыяй Г. Твbadановіч у 2004 г. у Беластоку). Прычым калі Вячаслаў Чамярыцкі ўключыў у акадэмічную анталогію толькі асобныя фрагменты «Прускай вайны» ў перакладзе Ж. Некрашэвіч-Кароткай, то Галіна Тварановіч у хрэстаматыю для польскіх студэнтаў-

---

[1] Ж. Некрашэвіч-Кароткая не згадвае гэтае важнае выданне ў аглядзе навуковай літаратуры пра творчасць Яна Вісліцкага — відаць, таму, што ў кнізе няма асобнага раздзела пра Яна Вісліцкага.

[2] Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стст. Т. 1. С. 269–271.

беларусістаў уключыла поўны тэкст паэмы ў тым самым перакладзе і нават вершаваную прадмову «Ода да чытача» («Ode tricolos tetrastrophos lectori»). Адразу за паэмай Вісліцкага ў беластоцкай хрэстаматыі змешчана паэма Гусоўскага «Песня пра зубра» ў перакладзе Уладзіміра Шатона, і ў студэнтаў з'явілася выдатная магчымасць параўнаць два адметныя творы (напрыклад, вобраз вялікага князя літоўскага Вітаўта, створаны двума паэтамі).

На пачатку XXI ст. даследаваннем творчасці Яна Вісліцкага найбольш актыўна займалася Жанна Некрашэвіч-Кароткая, абраўшы лацінамоўную паэзію Беларусі XVI — пачатку XVII ст. тэмай будучай доктарскай дысертацыі. У 2005 г. даследчыца і перакладчыца здзейсніла паралельнае выданне твораў Я. Вісліцкага на лацінскай і беларускай мовах разам з факсімільным узнаўленнем тэксту першадруку (кніга выйшла пад навуковай рэдакцыяй У. Кароткага і А. Цысыка). У зборнік увайшлі творы самога паэта, вершы Паўла Русіна і Валянціна Экія з кракаўскага выдання 1516 г., а таксама творы з адшуканага даследчыцай у бібліятэцы Асалінскіх (Вроцлаў) зборніка-дадатка «Пра сённяшнюю Прускую вайну» («De praesenti bello Prutenico», каля 1521 г.) — праўдападобна, аўтарства Яна Вісліцкага. Такім чынам, у беларускага чытача з'явілася ўрэшце магчымасць пазнаёміцца не толькі з «Прускай вайной», але і з іншымі творамі Вісліцкага, а ведаючы лацінскую мову — магчымасць звярнуцца да арыгінала. Калі ўлічыць, што мастацкім тэкстам у кнізе папярэднічае грунтоўная навуковая прадмова-даследаванне «Творчасць Яна Вісліцкага і лацінамоўная пісьмовая культура эпохі Рэнесансу на Беларусі», а ў канцы змешчаны «Каментарыі да перакладу» і «Кароткі слоўнік антычных і сярэднявечных намінацый», не будзе перабольшаннем назваць гэтае выданне найважнейшым на сёння дасягненнем беларускага «вісліцыязнаўства».

У прадмове Ж. Некрашэвіч-Кароткая ўзнаўляе гісторыю вывучэння біяграфіі і творчасці паэта, разглядае архітэктоніку зборніка «Пруская вайна», падрабязна аналізуе кожны паэтычны твор з гэтай кнігі і са зборніка «Пра сённяшнюю Прускую вайну», а ў невялікім заключным падраздзеле піша пра антычныя традыцыі ў паэзіі Яна Вісліцкага і пра яе наватарства. Побач з цікавымі заўвагамі і аргументаванымі высновамі сустракаюцца ў даследаванні — і гэта натуральна — думкі і выказванні, якія выклікаюць жаданне паспрачацца.

Даследчыца пераканана, што «паэт быў знаёмы з беларуска-літоўскім летапісаннем і пададзенай у ім рымскай канцэпцыяй паходжання вялікіх князёў літоўскіх, хаця ў сваёй паэме ні разу не згадаў легендарнага Палямона»[1]. Узнікае пытанне: калі Я. Вісліцкі ні разу не згадвае легенду пра рымскае паходжанне літоўскіх князёў у сваіх творах, на якой падставе можна сцвярджаць, што ён яе ведаў?

Уважліва прааналізаваўшы ўжыванне Вісліцкім розных назваў народаў Вялікага Княства Літоўскага, Ж. Некрашэвіч-Кароткая прыходзіць да нечаканай высновы: «...Фактычна тэрміны нацыянальна-дзяржаўнай ідэнтыфікацыі выступаюць у “Прускай вайне” не як этнонімы, а як палітонімы»[2]. Насамрэч, толькі назва «ліцвіны» часам выкарыстоўваецца Вісліцкім як палітонім (г. зн. абазначае дзяржаўную прыналежнасць да Вялікага Княства Літоўскага), «мусагеты», «русіны», «намады» палітонімамі не з’яўляюцца.

Услед за навуковым рэдактарам кнігі У. Кароткім Ж. Некрашэвіч-Кароткая захапляецца тым, што Ян Вісліцкі насуперак тагачаснай літаратурнай традыцыі не прыпадаб-

---

[1] Некрашэвіч-Кароткая Ж.В. Творчасць Яна Вісліцкага і лацінамоўная пісьмовая культура эпохі Рэнесансу на Беларусі // Вісліцкі Я. Пруская вайна = Visliciensis J. Bellum Prutenum. С. 58.

[2] Тамсама. С. 64.



няе караля Ягайлу да старажытных герояў, называе гэтае «непрыпадабненне» «творчай знаходкай Яна Вісліцкага», «арыгінальным мастацкім прыёмам»[1]. У якасці доказу прыводзіцца наступная цытата з «Прускай вайны»:

Не прыраўноўвай яго ты, о Рым, да Камілӑў, Марцэла,
Фабіяў слаўных тваіх і да Цэзара велічных дзеяў,
Гектара мужнага, Троя, твайго і Ахіла, Парыса,
Да Ганібала твайго, Карфаген непакорны і храбры!

*[С. 155]*

Але ж паводле падручнікаў рыторыкі, гэта і ёсць *прыпадабненне*, далікатна-какетлівае *параўнанне ад праціўнага!* Калі ж працытаваць фрагмент паэмы цалкам (а гэта фінал другой часткі), стане зразумела, што Вісліцкі проста выбраў найвышэйшую форму параўнання (узвышэнне Ягайлы над усімі героямі старажытнасці):

Тыя цары і вяльможы, якіх праслаўляюць арабы,
Персы, парфяне і грэкі шматмоўныя, не дасягаюць
Славы яго, надзвычайнай адвагі і подзвігаў ратных.

*[С. 155].*

Паэты Вялікага Княства Літоўскага XVI–XVII стст. часта паўтаралі ў сваіх творах, што ані Ганібал, ані Аляксандр Македонскі не дараўняюцца адвагай і мужнасцю Радзівілам, Хадкевічам, Астрожскім... Дарэчы, сустракаецца ў «Прускай вайне» і прыклад чыстага, звычайнага *прыпадабнення* караля Ягайлы да старажытных герояў:

Рушылі разам, кароль — на чале свайго войска, ён першы
Націскам моцным кагорты крушыць пачынае і многіх
Моцнай рукою сцінае, кідае паўсюдна навокал

---

[1] Некрашэвіч-Кароткая Ж.В. Творчасць Яна Вісліцкага і лацінамоўная пісьмовая культура эпохі Рэнесансу на Беларусі. С. 69.

Целы шматлікія вояў, нібыта на сфінксавых скалах
Мужны, суровы Айнід або як ваяўнічы той Гектар,
Што ратаборцаў найлепшых данайскіх забіў апантана
Перад сцяной неабсяжнай высока узнесенай Троі.
Гэтак жа грозны кароль наш вялізнае войска германцаў
Нішчыць і губіць, шчаслівы на Марсавым полі крывавым.

*[С. 145]*

Трэба адзначыць, што менавіта публікацыя арыгіналу і перакладу «Прускай вайны» зрабілі магчымай падобную дыскусію, калі кожны чытач можа пацвердзіць ці абвергнуць думку даследчыцы, зазірнуўшы ў тэкст паэмы, змешчаны ўсяго праз некалькі старонак, — і ў гэтым галоўная заслуга Ж. Некрашэвіч-Кароткай у параўнанні з літаратуразнаўцамі-папярэднікамі.

У 2009 г. Ж. Некрашэвіч-Кароткая выдала манаграфію «Беларуская лацінамоўная паэзія: ранні Рэнесанс», дзе разгледзела творчасць Я. Вісліцкага і М. Гусоўскага. З'яўленню манаграфіі папярэднічала публікацыя шэрагу артыкулаў аўтаркі ў беларускім, літоўскім і польскім друку. Творчасці Яна Вісліцкага прысвечаны першы раздзел кнігі, які атрымаў назву «"Сармат, аянійскімі продкамі слаўны": творчасць Яна з Вісліцы». Фактычна, гэта крыху перапрацаваная — з улікам новага кантэксту і прызначэння — навуковая прадмова «Творчасць Яна Вісліцкага і лацінамоўная пісьмовая культура эпохі Рэнесансу на Беларусі» з выдання «Прускай вайны» 2005 г.

Прысвечана манаграфія Ж. Некрашэвіч-Кароткай памяці Міколы Прашковіча, які першы ўвёў творчасць Я. Вісліцкага ў кантэкст беларускай культуры, і Віктара Дарашкевіча, аўтара першай у Беларусі манаграфіі пра творчасць Я. Вісліцкага і М. Гусоўскага (дзве кнігі аддзяляе 30 гадоў). Паважлівае стаўленне да даробку сваіх папярэднікаў, не толькі беларускіх, але і польскіх, літоўскіх, украінскіх даследчыкаў і перакладчыкаў, з найлепшага

боку характарызуе аўтарку кнігі «Беларуская лацінамоўная паэзія: ранні Рэнесанс». Сапраўды, найноўшая кніга пра творчасць Яна Вісліцкага і Міколы Гусоўскага — не толькі плён індывідуальных даследаванняў Ж. Некрашэвіч-Кароткай, але і падсумаванне доўгага шляху, які прайшло беларускае літаратуразнаўства, беларуская гуманітарная думка ў асэнсаванні і засваенні забытай спадчыны паэтаў-лацiністаў эпохі Рэнесансу.

Даводзіцца, аднак, сцвярджаць, што прысутнасць Яна Вісліцкага ў сучаснай беларускай культурнай прасторы — вельмі спецыфічная і нават парадаксальная. Пісьменніку прысвечана каля дваццаці навуковых артыкулаў і тры манаграфіі, яго паэма ў перакладзе на беларускую мову апублікавана асобным выданнем, у папулярным літаратурным часопісе і ў дзвюх анталогіях. У той жа час імя паэта не згадваецца ў шматтомным біябібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі» (Мінск, 1992, т. 1), няма персанальных раздзелаў пра творчасць Вісліцкага ў папулярным універсітэцкім падручніку «Гісторыя беларускай літаратуры. Старажытны перыяд» (Мінск, 1985 і наступныя выданні) і ў двухтомнай акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў» (Мінск, 2006–2007).

Многія аўтарытэтныя літаратуразнаўцы не спяшаюцца залічваць аўтара «Прускай вайны» ў шэрагі беларускіх пісьменнікаў, і іх асцярожнасць цалкам апраўданая, бо ніводны з аргументаў на карысць беларускага паходжання Яна Вісліцкага нельга прызнаць пераканаўчым (хаця няма пераканаўчых доказаў і на карысць польскага паходжання паэта).

Амаль усе аргументы гіпотэзы пра беларускае паходжанне Яна Вісліцкага грунтуюцца на выказваннях самога паэта, змешчаных у яго творах са зборніка «Пруская вайна». Разгледзім іх падрабязна.

**Аргумент 1.** Я. Парэцкі і Ю. Прэнская першымі ў Беларусі звярнулі ўвагу на радкі з празаічнай прадмовы да Паўла Русіна, у якіх аўтар «Прускай вайны» прызнаецца, што «ён нарадзіўся ледзь не ў глыбіні далёкага краю…»[1]. Мястэчка Вісліца ў Цэнтральнай Польшчы не магло быць названа «далёкім краем», а значыць Вісліцкі, які адасабляе сябе ад польскіх паэтаў, «быў родам з акраін Рэчы Паспалітай»[2], паходзіў, праўдападобна, з мясцовасці «паміж Клецкам і Пінскам, дзе працякае рэчка Вісліца, якая ўпадае ў возера Пагост»[3].

В. Дарашкевіч на падставе гэтых жа радкоў (перакладзеных ім як: «Я родился почти в середине варварства») робіць яшчэ больш катэгарычную выснову : «Такім чынам, «сярэдзіна варварства» ў Яна Вісліцкага — гэта, хутчэй за ўсё, праваслаўная Белая Русь, якая ў геаграфічных адносінах займала сярэдзіннае становішча ў «Еўрапейскай Сарматыі» і называлася часам таксама Літвой па традыцыі ці дзяржаўнай прыналежнасці да Вялікага Княства Літоўскага»[4]. На падставе яшчэ аднаго выказвання Яна Вісліцкага з прадмовы да Паўла Русіна В. Дарашкевіч адназначна «запісвае» аўтара «Прускай вайны» ў беларусы: «Ян Вісліцкі называў сябя русінам, славянінам. Значыць, ён быў выхадцам з Літоўскай Русі, г. зн. Беларусі. Чалавек украінскага ці польскага паходжання наўрад ці з такім захапленнем апяваў бы Літву. Ян Вісліцкі падкрэслівае: "Эту книгу я посвятил как хвалебную песнь Сигизмунду, непобедимому королю Европейской Сарматии, наконец,

---

[1] Парэцкі Я.І., Прэнская Ю.І. Паэма Я. Вісліцкага «Пруская вайна». С. 162.

[2] Тамсама. С. 162.

[3] Тамсама. С. 163.

[4] Дорошкевич В.И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. С. 105–106.

родине Польше, которой я воспитанник, как открыто буду заявлять". Такая заява паэта стане больш зразумелай, калі прызнаць, што ён — прыхадзень і палякам па-паходжанні не быў, а з'яўляецца толькі выхаванкам Польшчы, для якога яна стала другой радзімай»[1].

Я. Парэцкі ў манаграфіі 1991 г. — пад уплывам ці то В. Дарашкевіча, ці то свайго навуковага рэдактара А. Лойкі — таксама робіцца больш катэгарычным у сцвярджэнні беларускага паходжання Яна Вісліцкага і нават вядомыя радкі перакладае крыху інакш, знаходзячы ў іх іранічна-палемічны падтэкст: «ён нарадзіўся ледзь не ў сярэдзіне варварства», лічыць сябе «выхаванцам Польшчы»[2].

Уладзімір Конан, абапіраючыся на публікацыі Я. Парэцкага і В. Дарашкевіча, сцвярджаў, што Ян Вісліцкі называў сябе «паэтам з ускраінаў Сармацкай зямлі», а «Сармацыяй метафарычна называў Вялікае Княства Літоўскае, гістарычную Літву і Беларусь»[3].

Але далей за ўсіх у інтэрпрэтацыі славутых радкоў Вісліцкага пайшоў Алег Лойка, знайшоўшы ў іх комплекс самапрыніжэння, уласцівы таксама сучасным беларусам: «Бо ненароджаным палякам быў Ян Вісліцкі, бо таму ж Паўлу з Кроснаў зазначаў: "Я, народжаны ў самай глыбі няпольскіх зямель..." Няпольскімі, нават варварскімі лічыў Ян Вісліцкі землі свайго нараджэння, і ў гэтым ёсць нават пэўнае шакіраванне, бо нібы ж як на ніцасць — з вышыні Вавелю, з вышыні польскасці — глядзіць на сваё няпольскае паходжанне паэт. Комплекс! Комплекс

---

[1] Дорошкевич В.И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. С. 107.

[2] Парэцкі Я.І. Ян Вісліцкі. С. 7.

[3] Конан У. Мастацкая культура эпохі Рэнесансу. С. 4–5.

непаўнацэннасці так уласцівы беларусам, аказваецца, не толькі пазнейшага часу!»[1].

Адзначым чатыры розныя пераклады-пераказы радка «Ego ipso paene in medio barbariae natus»: «Я нарадзіўся ледзь не ў глыбіні далёкага краю», «Я нарадзіўся амаль у сярэдзіне варварства», «Я паэт з ускраінаў Сармацкай зямлі», «Я, народжаны ў самай глыбі няпольскіх зямель…».

Звернемся да тэксту Вісліцкага і да *кантэксту* яго выказвання. На пачатку прадмовы аўтар «Прускай вайны» згадвае сваю схільнасць да творчасці і захапленне славутымі антычнымі паэтамі: «Я радаваўся ім, пакуль яшчэ быў малады, і, уражаны сугуччам іх славутых нашчадкаў, асляплены найяснейшым ззяннем невыразнай славы, крыху перавёў дух, затрыманы іх вывучэннем, ды захаваў у душы вешчуноў і іх паслядоўнікаў, якія дасягнулі вышэйшых ступеняў майстэрства»[2]. У наступным сказе Вісліцкі адкрывае сваю задуму — уславіць вынік перамогі над германцамі ў Прусіі, а потым адразу выказвае сумненні ў сваіх здольнасцях (традыцыйны топас аўтарскай сціпласці, які, на думку антычных паэтаў, засцерагаў ад крытыкі). Уласна ў складзе гэтага выказвання і гучыць славуты радок: «Ён (вынік перамогі над германцам. — *С. К.*) варты большай славы, магчыма, мог бы быць дасканала апісаны большым пяром, — [але ж] я, народжаны ў самым амаль што цэнтры далёкага краю, не настолькі добра напоены з крыніц Аянід, з усіх маіх пільных намаганняў ясна даў зразумець, што вынік [маёй] бяссоннай працы павінен будзе з'явіцца як першыя спробы першых крокаў маіх Геліканід…»[3]. Магчыма, Ян Вісліцкі і сапраўды падкрэсліваў сваё паходжанне

---

[1] Лойка А. Ян Вісліцкі. С. 4.

[2] Вісліцкі Я. Пруская вайна = Visliciensis J. Bellum Prutenum. С. 106.

[3] Тамсама.

з ускраін дзяржавы Ягелонаў (не абавязкова з Беларусі), але больш падстаў сцвярджаць, што ён мае тут на ўвазе край, далёкі ад Гелікона, ад крыніц Аянід, ад Старажытнай Грэцыі і Рыма, дзе нарадзіліся і былі ўскормлены музамі старадаўнія вешчуны (Гамер, Вергілій, Гарацый), а вось аўтар «Прускай вайны» паходзіць з Еўрапейскай Сарматыі, з Польшчы, і ў прысвячэнні каралю Жыгімонту ён з гонарам прызнае сябе гадаванцам гэтай краіны, экзатычнай для заходнееўрапейскага чытача. Ж. Некрашэвіч-Кароткая, у адрозненне ад іншых беларускіх даследчыкаў, таксама лічыць, што выраз «гадаванец польскай айчыны» чытаецца як прызнанне паэта ў сваёй польскасці, хаця ў сваім даследаванні прытрымліваецца гіпотэзы пра беларускае паходжанне Вісліцкага[1].

Нагадаем, што паэты эпохі Рэнесансу культурным цэнтрам Еўропы ў часе і прасторы лічылі Старажытную Грэцыю і Рым, а ўсе іншыя краіны і эпохі называлі *варварскімі*. Пішучы на лацінскай мове, паэты Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага адрасавалі свае творы не толькі айчыннаму, але і еўрапейскаму чытачу, з мэтай уславіць сваіх герояў (Ягелонаў, Завішаў, Сецыгнёўскіх, Радзівілаў, Астрожскіх) і сваю дзяржаву ў межах усёй хрысціянскай Айкумены. І сістэма каардынат у такіх творах была агульнаеўрапейская, а не краёвая, у гэтай сістэме каардынат і Беларусь, і Польшча былі *далёкімі краямі*.

Нельга згадзіцца з думкай У. Кароткага, што «ў адрозненне ад Міколы Гусоўскага, арыентаванага на заходнееўрапейскага чытача, Ян Вісліцкі адрасата свайго твора бачыў тут, на Радзіме, пісаў для тых, "хто мае ў сэрцы любоў да Айчыны"»[2]. Цяжка зразумець, якім чынам аўтар

---

[1] Некрашэвіч-Кароткая Ж.В. Беларуская лацінамоўная паэзія: ранні Рэнесанс. С. 28–29.

[2] Кароткі У.Г. Пісаў пра мінуўшчыну, думаў пра будучыню... С. 90.

твораў пра Грунвальдскую і Аршанскую бітвы «спадзяваўся звярнуць увагу на сваё мінулае менавіта інтэлектуальнай эліты, магнатаў...»[1], не згадаўшы ніводнага подзвігу, не назваўшы ніводнага імя прадстаўнікоў гэтага саслоўя і ўсяляк узвышаючы караля Ягайлу над князем Вітаўтам. Зрэшты, У. Кароткі сам аспрэчвае сваю думку, адзначаючы далей, што творчасць Яна Вісліцкага аказалася не зразуметай ні ў свой час, ні сёння, што «яго канцэпцыя падачы вобразаў Ягайлы і Вітаўта і яе рэтраспекцыя на будучыню не ўпісвалася ні ў «польскае», ні ў «ліцвінскае» бачанне айчыннай гісторыі»[2].

**Аргумент 2.** Я. Парэцкі звярнуў увагу на тое, што ў вершаваным пасланні біскупу Пятру Таміцкаму Вісліцкі называе сябе «толькі сціплым вучнем польскіх паэтаў»[3], лічыць сябе «не роўным польскім кудзеснікам»[4]. Адсюль выснова: «Паэт лічыць сябе "варварам-сарматам", г. зн. падданым Польскага каралеўства, які паходзіць з далёкіх ускраін»[5]. Вершаванае пасланне Пятру Таміцкаму як «амаль адзіную крыніцу звестак пра аўтара паэмы "Пруская вайна"»[6] Я. Парэцкі цытаваў ва ўсіх сваіх публікацыях, прысвечаных творчасці Яна Вісліцкага. Некалькі радкоў з верша працытаваў і У. Конан, як «лірычнае самавыяўленне паэта, рэдкае для тагачаснай аратарскай або апалагетычнай

---

[1] Кароткі У.Г. Пісаў пра мінуўшчыну, думаў пра будучыню... С. 90.

[2] Тамсама. С. 92.

[3] Парэцкі Я.І., Прэнская Ю.І. Паэма Я. Вісліцкага «Пруская вайна». С. 162.

[4] Парэцкі Я.І. Ян Вісліцкі. С. 21.

[5] Тамсама. С. 21.

[6] Парэцкі Я.І., Прэнская Ю.І. Паэма Я. Вісліцкага «Пруская вайна». С. 162.

паэзіі»[1]. Працытуем урывак з верша і мы ў перакладзе Ж. Некрашэвіч-Кароткай:

О, апякун спагадны, найшаноўнейшы,
З грудзей журботных песню выпускаю я,
Як перад смерцю горліца самотная
Ці лебедзь — так і я ў суровы гэты час.
Бо, сапраўды, не салавей адзін ці дрозд
Спяваць умеюць — крук таксама каркае.
Вось так, праз доўгі час пасля ліхой вайны
Паэты, што да лебедзяў падобныя, —
Іх песціць шчыра Польшча неаглядная, —
Маўчалі пра бліскучы ратны подзвіг той,
Што я апеў, натхнёны Касталійкаю,
Няхай ад польскіх вешчуноў адрозны я,
Недэталёва, недакладна, мо, пяю, —
А так, як варварскі вяшчун і як сармат.

*[С. 179]*

Як бачым, у працытаваным перакладзе апазіцыя «аўтар "Прускай вайны" — польскія паэты» не такая адназначная, як у перакладзе Я. Парэцкага, яна выяўляецца не толькі на этнічна-геаграфічным («польскія вешчуны» — «варварскі, сармацкі вяшчун»), але і на эстэтычным узроўні («яны, лебедзі, прамаўчалі — я, воран, апеў»). «Выраз "Polonis vatibus dispar" ("адрозны ад польскіх паэтаў") азначае, што аўтар класічнага гераічнага эпасу пад назваю "Пруская вайна" адмяжоўвае сябе ад польскіх паэтаў, складальнікаў прынагодных панегірычных вершаў»[2].

Цікава, што другі аргумент на карысць няпольскага паходжання Яна Вісліцкага таксама абапіраецца на радкі, звязаныя з выяўленнем традыцыйнага топасу аўтарскай

---

[1] Конан У. Мастацкая культура эпохі Рэнесансу. С. 4.

[2] Некрашэвіч-Кароткая Ж.В. Беларуская лацінамоўная паэзія: ранні Рэнесанс. С. 90.

сціпласці. Метафарычная насычанасць, адметная паэтычнасць гэтага фрагмента (у сухую кніжную латынь раптам «залятаюць» вобразы рознагалосых птушак) вынікаюць не толькі з пранікнёнага лірычнага самавыяўлення паэта, але і з плённага наследавання антычнай традыцыі. Ж. Некрашэвіч-Кароткая лічыць, што Ян Вісліцкі прыпадабняе вершы польскіх паэтаў да спеву лебедзя, бо лебедзь адрозніваецца непрыемным голасам, і такім чынам сармацкі паэт выказвае пагардлівае стаўленне да тых, хто не здолеў стварыць паэтычны гімн подзвігу пад Грунвальдам[1]. Цяжка пагадзіцца з такой трактоўкай вобразу лебедзя: па-першае, на пачатку верша паэт сябе таксама параўноўвае з параненым лебедзем; па-другое, з антычных часоў лебедзь з'яўляўся сімвалам класічнай дасканаласці, эталонам музычна-паэтычнага спеву.

Цыпрыян Базылік, прыдворны паэт і музыкант Радзівілаў, дасылаючы прускаму герцагу Альбрэхту свой музычны твор, просіць «...by obok najsłodszego śpiewu łabędzia zechciał wysłuchać także wrzasku kruka, bo przecież i gdy łabędź śpiewa, wolno krukowi krakać»[2]. Той самы Цыпрыян Базылік у паэме «Апісанне смерці і пахавання княгіні Альжбеты Радзівіл» (Бярэсце, 1562) тлумачыў чытачу:

Lecz nie dziw choć słowicy nadobnie śpiewają,
Iż też ubogie wronki jak mogą krakają,
Swym głosem przyrodzonym, a snadź u każdego
Snadnie mię w tym wymierzy żałość serca mego[3].

---

[1] Некрашэвіч-Кароткая Ж.В. Беларуская лацінамоўная паэзія: ранні Рэнесанс. С. 90.

[2] Kot S. Nieznany poeta polski XVI wieku // Zeitschrift für Slavische Philologie. 1956. Bd. 25, H 1. S. 118.

[3] Ibid. S. 145.

Падабенства радкоў Цыпрыяна Базыліка да радкоў Яна Вісліцкага тлумачыцца не тым, што Базылік чытаў «Прускую вайну» і запазычваў адтуль трапныя вобразы, а тым, што абодва паэты пілі з тых самых «крыніц Аянід», вывучалі класічную рыторыку і арыентаваліся на агульныя антычныя ўзоры. Прыпадабненне ўласнага твора да голасу сціплай, нешляхетнай птушкі — як разнавіднасць топасу аўтарскай сціпласці — выкарыстоўвалася паэтамі са старажытных часоў. Невыпадкова александрыйскі паэт Дыяскарыдас, змагаючыся з традыцыяй (250 г. да н.э.!), заклікаў: «Idźcie w ogień, czyny herosów. Dla tych, których opuściły Muzy, śpiew skowronków rozbrzmiewa słodziej niż łabędzi śpiew»[1].

Іншай разнавіднасцю топасу паэтычнай сціпласці, адзнакай «добрых манер» было нараканне аўтара на: а) маладосць, б) нявопытнасць, в) невуцтва, д) прастацтва і г. д. (у Вісліцкага знаходзім поўны набор падобных «нараканняў», на падставе якіх многія даследчыкі спрабуюць рэканструяваць яго рэальную біяграфію). Аўтары не баяліся прынізіць сябе, бо «ішлі слядамі» найвялікшых аўтарытэтаў старажытнасці: выдатны аратар і эрудыт Цыцэрон на пачатку славутага трактата «Прамоўца» выказвае занепакоенасць, што задума пераўзыходзіць яго здольнасці і «баіцца» крытыкі адукаваных чытачоў; бліскучы стыліст Тацыт спрабуе пераканаць публіку, што яго «Агрыкола» напісаны брыдкай, пазбаўленай майстэрства мовай, а Энодыус проста ў роспачы ад убоства свайго розуму[2]. Самы вядомы прыклад топасу паэтычнай сціпласці ў беларускай літаратуры — радкі з «Песні пра зубра» Мікалая Гусоўскага:

---

[1] Curtius E.R. Literatura europejska i łacińskie średniowiecze. Kraków, 1997. S. 93.

[2] Ibid. S. 90.

Перш, калі можна, то я, чужынец з далёкага краю,
Слушна прашу аднаго: твор справядліва судзіць. <…>
Зрэшты, чытач, ці бачыў ты пёркі мае для пісання?
Іх я нашу ў калчане, важка ён збоку вісіць.
Стуль і паперу бяру, калі я пісаць пачынаю,
Ты, мусіць, пішаш і лепш, я лепей валодаю лукам,
Кожны ў сваім рамястве можа зраўняцца з другім.
Невукі ж хай не грызуць мае чужынскія вершы,
Востра адточаны мной стрэлы, якімі пішу;
Джалы з ядам такім, што нават любому ваяку
Драпіны досыць — і ён ляжа адразу навек[1].

Характэрна, што Гусоўскі таксама называе сябе «чужынцам з далёкага краю», прэзентуе сябе як простага воіна-лучніка, а не вучонага мужа, і невядома, у якой ступені гэта адлюстраванне рэальнай біяграфіі аўтара «Песні пра зубра», а ў якой — даніна літаратурнай традыцыі.

Яшчэ адзін прыклад, які варта прывесці, — радкі з ананімнай паэмы «Апалагетык, альбо Абарона канфедэрацыі» (Вільня, 1582). Невядомы аўтар выдатна спалучае дзве разнавіднасці топасу аўтарскай сціпласці: параўнанне з птушкамі і нараканне на прастацтва:

Wszak nie dziw, iż słowicy nadobnie śpiewają,
Iż teraz ubogie wronki, jak mogą, krakają.
Bo jako prostaczek mogł, takiemu tu pisał,
Na com sam okiem patrzał, drugie, co też słyszał[2].

Хутчэй за ўсё, падобнае спалучэнне некалькіх топасаў аўтарскай сціпласці мы бачым і ў вершы Яна Вісліцкага, адрасаваным Пятру Таміцкаму. Аўтар прыпадабняе свой твор да голаса крука, а сябе называе «варварскім вешчу-

[1] Гусоўскі М. Песьня пра зубра / пер. У. Шатона. Мінск, 1994. С. 10.

[2] Apologeticus, to jest Obrona konfederacyej / wyd. E. Bursze. Kraków, 1932. S. 7.

ном», простым сарматам, і гэта не абавязкова сведчыць пра яго паходжанне з «далёкіх ускраін» дзяржавы Ягелонаў.

**Аргумент 3.** Важкім доказам беларускага паходжання Яна Вісліцкага лічыцца ягонае добрае веданне геаграфіі і этнаграфіі Усходняй Еўропы. На гэта звярталі ўвагу амаль усе беларускія даследчыкі, а асабліва скрупулёзна прааналізавала геаграфічныя і этнічныя ўяўленні аўтара «Прускай вайны» Ж. Некрашэвіч-Кароткая[1]. Сапраўды, Ян Вісліцкі добра ведаў, якія народы жылі ў Вялікім Княстве Літоўскім і былі прадстаўлены ў войску Вітаўта: масагеты (жамойты), ліцвіны, русіны, намады (татары)[2]. Адпаведна з тагачаснай традыцыяй паэт называе нашых продкаў то «ліцвінамі», то «русінамі», а адзін раз нават «белымі русінамі». Апісваючы склад насельнікаў Сарматыі, падданых караля Жыгімонта I, Я. Вісліцкі згадвае «траістых русінаў», маючы на ўвазе жыхароў Чорнай, Белай і Чырво-

---

[1] Некрашэвіч-Кароткая Ж.В. Творчасць Яна Вісліцкага і лацінамоўная пісьмовая культура эпохі Рэнесансу на Беларусі. С. 49–76.

[2] У розных фрагментах паэмы этнічны склад воінаў Вітаўта вар'іруецца, што дало мне некалі падставу выказаць меркаванне, нібыта «Ян Вісліцкі, як і ягоныя сучаснікі, меў даволі цьмянае ўяўленне пра этнічны склад Вялікага княства Літоўскага» [Кавалёў С. Дзяржаўна-палітычная самасвядомасць паэтаў Беларусі эпохі Рэнесансу // Acta Albaruthenica. 2003. № 3. С. 3]. Пазнаёміўшыся з даследаваннямі Ж. Некрашэвіч-Кароткай і яшчэ раз уважліва перачытаўшы «Прускую вайну», я прызнаю памылковасць свайго сцвярджэння. На фоне сваіх сучаснікаў Ян Вісліцкі арыентаваўся ў этнаніміі Вялікага Княства Літоўскага даволі добра. Думаю, што варыятыўнасць ва ўжыванні этнонімаў у «Прускай вайне» звязана з паэтычнай прыродай гэтага твора: аўтар выбіраў, якая назва лепш клалася ў вершаваны радок («русы», «русіны», «белыя русіны»), якое «племя» лепш «упісвалася» ў аповед пра той ці іншы эпізод бітвы («ваяўнічыя масагеты», «дзікія намады» ці «адважныя русы»).

най Русі. Ж. Некрашэвіч-Кароткая лічыць, што «падобны этнонім наўрад ці мог бы ўжываць этнічны паляк»[1].

Думаю, што з гэтым сцвярджэннем даследчыцы можна паспрачацца. Дастаткова, каб этнічны паляк добра ведаў геаграфію альбо пабываў у Вялікім Княстве Літоўскім. Напрыклад, польскі храніст Ян Чарнкоўскі ў XIV ст. называў «Белай Руссю» Полаччыну[2], зрэдчас ужываў тэрмін «Белая Русь» у сваёй «Хроніцы...» Мацей Стрыйкоўскі[3] — паляк па паходжанні, які перасяліўся ў Вялікае Княства Літоўскае. Як вядома, назва «Белая Русь» з'явілася спачатку ў заходнееўрапейскіх крыніцах XIII–XV стст. (напрыклад, у творах этнічных немцаў Пятра Зухэнвірта і Ульрыха Рыхенталя)[4], ураджэнцы Вялікага Княства Літоўскага сталі ўжываць яе пазней і рабілі гэта даволі рэдка, часцей карыстаючыся традыцыйнымі азначэннямі «Літва» і «Русь».

Тое ж самае можна сказаць пра згадку ў паэме «Пруская вайна» славутай «цвярдыні пад Клецкам» — абарончых умацаванняў татарскіх атрадаў, разбітых у 1506 г. войскам Міхаіла Глінскага. На падставе гэтай сціплай згадкі, Я. Парэцкі робіць наступную выснову: «Значыць, Вісліцкі альбо прыблізна дваццацігадовым хлопцам прымаў непасрэдны ўдзел у бітве пад Клецкам у складзе войск беларускіх князёў Кішкі і Глінскага, альбо як жыхар той

---

[1] Некрашэвіч-Кароткая Ж.В. Творчасць Яна Вісліцкага і лацінамоўная пісьмовая культура эпохі Рэнесансу на Беларусі. С. 20–21.

[2] Сагановіч Г. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя. Мінск, 2001. С. 9.

[3] Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусского летописания. Москва, 1985. С. 85.

[4] Сагановіч Г. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя. С. 9–10.

мясцовасці аглядаў поле бою»[1]. Аднак у «Прускай вайне» згадваюцца і іншыя бітвы пачатку XVI ст. (Смаленская, Аршанская), нават згадваюцца «смаленскія муры», узятыя маскоўскімі войскамі ў 1514 г. Але гэта не значыць, што Ян Вісліцкі ўдзельнічаў у гэтых бітвах альбо асабіста аглядаў Смаленскую крэпасць. Што датычыцца бітвы з татарамі пад Клецкам у 1506 г., то яна вельмі падрабязна і маляўніча апісана, напрыклад, Мацеем Стрыйкоўскім[2], які нарадзіўся праз сорак гадоў пасля бітвы далёка ад Беларусі.

**Аргумент 4.** Доказам няпольскага паходжання Яна Вісліцкага могуць служыць запісы ў рэктарскіх актах Кракаўскага ўніверсітэта, дзе нацыянальная прыналежнасць бакалаўра Яна Вісліцкага (1506) і магістра Яна Вісліцкага (1510) вызначана як «русін» («рутенус»)[3]. Канечне, «русінам» мог быць як беларус, так і ўкраінец, але, ва ўсякім разе, не ўраджэнец Малапольшчы (малаверагодна, каб у польскім гарадку Вісліца пражывала калонія «русінаў»). Праўда, у рэктарскіх актах фігуруюць яшчэ два бакалаўры Яны Вісліцкія (1476, 1505) і адзін магістр (1531)[4], запісаныя як «палякі», і, прынамсі, адзін з іх (той,

---

[1] Парэцкі Я.І. Ян Вісліцкі. С. 7.

[2] Stryjkowski M. O początkach, wywodach, dzielnościach, sprawach rycerskich i domowych sławnego narodu litewskiego, żemojdzkiego i ruskiego, przedtym nigdy od żadnego ani kuszone, ani opisane, z natchnienia Bożego a uprzejmie pilnego doświadczenia / oprac. J. Radziszewska. Warszawa, 1978. S. 591–597.

[3] Дорошкевич В.И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. С. 94. В. Дарашкевіч абапіраецца на публікацыю польскага вучонага У. Вісłоцкага: Wisłocki W. Liber diligentiarum facultatis artisticae Universitatis Cracoviensis. Pars I (1487–1563). Cracoviae, 1886. S. 98, 486, 523.

[4] Дорошкевич В.И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. С. 93. Гэтым разам В. Дарашкевіч спасылаецца на кнігу Ю. Мучкоўскага: Muczkowski J. Statuta nec non liber promotionum

які атрымаў ступень у 1505 г.) мог быць аўтарам «Прускай вайны».

**Аргумент 5.** Доказам беларускага паходжання Яна Вісліцкага часта называюць беларускі патрыятызм[1] і нават беларускую ментальнасць паэта[2], выяўленыя нібыта ў ягоных творах. Падобны доказ — асабліва непераканаўчы і суб'ектыўны[3].

Па-першае, ніякага беларускага, беларуска-літоўскага, «ліцвінскага» патрыятызму ў «Прускай вайне» і вершах Яна Вісліцкага, на нашу думку, не назіраецца. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова параўнаць творы Я. Вісліцкага з творамі паэтаў Беларусі і Літвы другой паловы XVI ст.: Ф. Градоўскага, А. Рымшы, Я. Радвана, Я. Казаковіча, Г. Пельгрымоўскага. Калі б Ян Вісліцкі быў патрыётам-ліцвінам, ён хаця б згадаў у одзе пра Аршанскую бітву гетмана Канстанціна Астрожскага, а не прыпісваў аўтаматычна заслугу перамогі над маскоўскімі войскамі каралю Жыгімонту I, які нават не ўдзельнічаў у гэтай бітве. Наадварот, у некаторых вершах Я. Вісліцкага назіраюцца выразныя праявы польскага патрыятызму (напрыклад, у «Одзе да чытача»), увогуле ж патрыятызм Вісліцкага найбольш слушна ахарактарызаваць як

---

philosophorum ordinis studiosorum in Universitate Jagellonica ab anno 1402 ad. a. 1849. Crakoviae, 1849. S. 80, 141, 144.

[1] Некрашэвіч-Кароткая Ж.В. Творчасць Яна Вісліцкага і лацінамоўная пісьмовая культура эпохі Рэнесансу на Беларусі. С. 57–70.

[2] Лойка А. Ян Вісліцкі. С. 5.

[3] Памятаецца, некалі нашыя мастацтвазнаўцы «знаходзілі» нацыянальны каларыт і адметнасць у гравюрах не толькі з пражскіх, але і з віленскіх старадрукаў Ф. Скарыны. Пазней аказалася, што для віленскіх друкаў беларускі гуманіст проста запазычваў гравюры з тагачасных нямецкіх выданняў.

федэратыўны, дынастычны ці нават імперскі[1], а, як вядома, імперскасць абсалютна не характэрна для ментальнасці беларусаў.

Па-другое, не кожны патрыёт Вялікага Княства Літоўскага нарадзіўся ў гэтай краіне. Згадаем прыклад Мацея Стрыйкоўскага — паляка, які імкнуўся стаць «Гамерам Літвы» і прысвяціў новай Айчыне цэлы шэраг твораў (у тым ліку ўзнёслы верш на герб «Пагоня»), альбо Аўгуста Ратундуса — таксама паляка, які ў «Размове Паляка з Ліцвінам» (Бярэсце, 1564–1565) бараніў дзяржаўную годнасць Княства ад нападак украінца па паходжанні Станіслава Ажахоўскага.

Такім чынам, уважліва разгледзеўшы ўсе аргументы на карысць беларускага паходжання Я. Вісліцкага, даводзіцца канстатаваць, што ўсе яны — даволі хісткія і непераканаўчыя, і няма пакуль важкіх падстаў, каб безапеляцыйна залічваць яго творчасць да шматмоўнай паэзіі Вялікага Княства Літоўскага.

Але як слушна адзначыў некалі В. Дарашкевіч, «колькі б даследчыкі ні спрачаліся пра нацыянальнае паходжанне Яна Вісліцкага, нельга недаацэньваць гісторыка-культурнае значэнне яго твораў у гісторыі ўсходнееўрапейскіх культур»[2]. Героіка-эпічная паэма «Пруская вайна» прысвечана важным падзеям у гісторыі не толькі польскага, але таксама літоўскага, беларускага, украінскага народаў і заслугоўвае да сябе асаблівай увагі з боку даследчыкаў шматмоўнага пісьменства Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу.

---

[1] Кароткі У.Г. Пісаў пра мінуўшчыну, думаў пра будучыню… С. 89–93.

[2] Дорошкевич В.И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. С. 129.



# Мікалай Гусоўскі — феномен творчасці і парадоксы рэцэпцыі

Самым вядомым паэтам Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу з'яўляецца сёння Мікалай Гусоўскі (каля 1480 — пасля 1533). Хаця сярод сучаснікаў вядомасць Гусоўскага наўрад ці была большай, чым вядомасць такіх паэтаў, як Пётр Раізій альбо Мацей Стрыйкоўскі, затое ў нашчадкаў ён заслужыў славу «беларускага Гамера», «Песню пра зубра» параўноўваюць са «Словам пра паход Ігаравы», «Боскай камедыяй» Дантэ і «Панам Тадэвушам» Міцкевіча.

Пра творчасць Гусоўскага ў Беларусі напісана некалькі грунтоўных даследаванняў і мноства артыкулаў. Абапіраючыся на працы вядомых польскіх вучоных (Я. Пельчара, Ю. Каленбаха, Е. Крукоўскага і інш.) альбо выключна на ўласную навуковую інтуіцыю, адметную інтэрпрэтацыю «Песні пра зубра» прапанавалі такія аўтарытэтныя беларускія даследчыкі, як У. Калеснік, В. Дарашкевіч, Я. Парэцкі, А. Лойка, А. Жлутка, Ж. Некрашэвіч-Кароткая.

Паэма «Песня пра зубра» за апошнія дзесяцігоддзі сталася знакавай з'явай беларускай культуры, важным артэфактам нацыянальнай свядомасці. Таму няма сэнсу падрабязна аналізаваць лацінамоўную творчасць Мікалая Гусоўскага, згадаем толькі асноўныя звесткі пра жыццё

і творчасць паэта і акцэнтуем увагу на *феномене творчасці Гусоўскага і парадоксах яе рэцэпцыі ў Беларусі.*

* * *

Пра жыццё аўтара «Песні пра зубра» захавалася не шмат звестак, біяграфія паэта рэканструявалася даследчыкамі ў асноўным на падставе ягоных твораў ды ўскосных фактаў, шчодра дапоўненых здагадкамі, меркаваннямі, гіпотэзамі[1]. Невядома, дзе і калі нарадзіўся Гусоўскі, дзе і якую атрымаў адукацыю, чым займаўся да прыезду ў Рым (зрэшты, калі ён прыехаў у Рым — у 1518 ці ў 1521 г. — таксама невядома, бо афіцыйна ў складзе пасольства Эразма Вітэлія паэт не лічыўся). За год нараджэння Гусоўскага прыняты 1580, як дастаткова праўдападобны, але мог быць і 1585; можна меркаваць толькі, што Гусоўскі належаў да пакалення Францішка Скарыны і Яна Вісліцкага. Паводле адной гіпотэзы, Гусоўскі нарадзіўся ў вёсцы Гусаў Ланьцуцкага павета, недалёка ад Перамышля. Паводле другой гіпотэзы, паэт нарадзіўся ў вёсцы Усы (Усава, Гусава, Гусавіца) на Беларусі, а знаходзілася гэтая вёска ці то на Гродзеншчыне, ці то на Міншчыне, а можа, нават на Гомельшчыне. Прыхільнікі польскай гіпотэзы дапускаюць, што маладосць Гусоўскі правёў у Вялікім Княстве Літоўскім, дзе ўдзельнічаў у паляванні на зубра, чытаў мясцовыя летапісы і захапіўся асобай Вітаўта. Прыхільнікі беларускай гіпотэзы згодныя, што сталыя гады Гусоўскага прайшлі ў Польшчы.

Сам Гусоўскі нямала зрабіў для таго, каб заблытаць будучых біёграфаў: у адным фрагменце «Песні пра зубра» назваў сябе палякам, у другім згадваў пра свой удзел

---

[1] Найбольш падрабязна біяграфія паэта ўзноўлена Алесем Жлуткам: Жлутка А. Мікола Гусоўскі // Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў. Т. 1. С. 309–357.

у літоўскіх паляваннях, у трэцім ганарыўся чытаннем кірылічных русінскіх кніг. І, канечне, усім даследчыкам хацелася б ведаць, якую канкрэтна раку меў на ўвазе паэт, калі згадваў, што ў пагоні за зубрам пераплываў на кані Барысфен: Днепр ці іншую вялікую раку?..

У 1985 г. вядомы польскі гісторык Ежы Ахманьскі апублікаваў артыкул пра сенсацыйную знаходку ў варшаўскім Галоўным архіве старадаўніх актаў тастамента Соф'і Гальшанскай, складзенага 29 ліпеня 1518 г. у двары Воўпа пад Ваўкавыскам клерыкам перамышльскай дыяцэзіі Мікалаем Гусоўскім: «Et me Nicolao Nicolai Hussowsky clerico premisliensis dioecesis publico apostalia auctoritate notario et scriba prefati testamenti»[1]. З дакумента вынікае, што прозвішча паэта сапраўды было Гусоўскі, а не Усоўскі і не Гусавянін. Бацьку паэта звалі Мікалай. Перад ад'ездам у Рым Гусоўскі не гойсаў па пушчах у пагоні за зубрамі, а паспеў ужо атрымаць пачатковую адукацыю і духоўны сан, а паколькі не меў яшчэ ўласнай плябаніі, зарабляў на жыццё, выконваючы абавязкі грамадскага натарыуса (не вельмі надзейны, як на тыя часы, заробак). У ліпені 1518 г. Гусоўскі знаходзіўся яшчэ ў Беларусі, а не ў Італіі, пад апекаю не Эразма Вітэлія, які яшчэ ў 1501 г. пакінуў княства, а хутчэй за ўсё Паўла Гальшанскага, з 1515 г. віленскага архідыякана.

Цікава, што Гусоўскі падпісваецца ў дакуменце як клерык перамышльскай дыяцэзіі (епархіі). На думку Ахманьскага, гэта пераканаўчы аргумент на карысць гіпотэзы пра польскае паходжанне паэта (мястэчка Гусаў пад Ланьцутам належала якраз да перамышльскай дыяцэзіі). Але, на нашу думку, знойдзены дакумент не дае падстаў для такой ка-

---

[1] Ochmański J. Narodowość Mikołaja Hussowskiego w świetle jego autografu // Słowiańszczyzna i dzieje powszechne. Warszawa, 1985. S. 312–318.

тэгарычнай высновы. Па-першае, Мікалай Гусоўскі мог нарадзіцца ў Вялікім Княстве Літоўскім, а пазней выехаць услед за сваім мецэнатам Эразмам Вітэліем у Польшчу (у 1502 г. той атрымаў пасаду плоцкага біскупа) і распачаць там духоўную кар'еру. Магчыма, нейкі час будучы паэт жыў у Пултуску, у рэзідэнцыі Эразма Вітэлія, але не губляў сувязі з радзімай, аказваючы натарыяльныя паслугі Гальшанскім і іншым магнатам. Па-другое, дакладна не вядома, ці быў натарыус Мікалай Гусоўскі, які ў 1518 г. у Воўпе склаў тастамент Соф'і Гальшанскай, тым самым Мікалаем Гусоўскім, які ў 1522 г. у Рыме напісаў геніяльную паэму «Песня пра зубра». Калі прыкладна ў тым самым часе ў Кракаве жыло некалькі Янаў з Вісліцы[1], то на Беларусі і ў Польшчы магло жыць некалькі Мікалаеў з Гусава.

Вядома, што пасля 1518 г. Гусоўскі накіроўваецца ў Рым, дзе ў той час знаходзілася пасольская місія Эразма Вітэлія. Магчыма, ён дапамагаў свайму мецэнату рыхтаваць да друку зборнік ягоных прамоў (Рым, 1519), блізкіх сваім патрыятычным і антытурэцкім пафасам да «Песні пра зубра»[2]. У Рыме Гусоўскаму давялося перажыць эпідэмію чумы, ад якой 22 верасня 1522 г. паміраe Эразм Вітэлій. Пасля смерці апекуна паэт пакідае Рым і, відаць, вяртаецца ў Пултуск альбо жыве нейкі час у Кракаве, дзе рыхтуе да выдання свае паэтычныя творы. У асобе перамышльскага біскупа Яна Карнкоўскага Гусоўскі знаходзіць новага апекуна і мецэната, пра што сведчыць паэтычнае прысвячэнне «Шаноўнаму Пану Яну Карнкоўскаму...» («Ad Referendum Dominum Joannem Karnkowski...», 1523) і ліст паэта, высланы біскупу з Пултуска 11 лютага 1531 г.

---

[1] Дорошкевич В.И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. С. 93–94.

[2] Жлутка А. Мікола Гусоўскі. С. 317.

Праўдападобна, што напрыканцы жыцця, а магчыма яшчэ ў Рыме, Мікалай Гусоўскі прыняў сан ксяндза. Памёр пасля 1533 г.

Славутая сёння «Песня пра постаць, лютасць зубра і паляванне на яго» («Carmen de statura, feritate ac venatione bisontis») пісалася ў Рыме ў 1521–1522 гг., а дапрацоўвалася і рэдагавалася паэтам у Кракаве, дзе і пабачыла свет у друкарні Гіераніма Віетора ў 1523 г. Акрамя аднайменнай паэмы, якая налічвала 1072 радкі элегічнага двуверша, у кнігу ўвайшоў шэраг вершаў: «Вельмі шаноўнаму [Эразму] Плоцкаму суцяшэнне» («Ad Revendissimum Plocensem consolatoria»), «Верш на ахвярапрынашэнне чорнага быка ў Рыме, учыненае нейкім грэкам дзеля супрацьстаяння чуме» («In sacrificum nigri tauri Romae opera cuiusdam Graeculi contra vim pestis publice factum»), «Малітва да святой Ганны» («Ad divam Annam precatio»), «Да святога Себасцьяна» («Ad divum Sebastianum») і інш.[1]. У 1524 г. у Кракаве ў той самай друкарні выйшла невялікая паэма «Новая і надзвычайная перамога над туркамі ў ліпені месяцы» («Nova et miranda de Turcis victoria mense Iulio», 174 радкі элегічнага двуверша), а ў 1525 г. — паэма «Пра жыццё і подзвігі святога Гіяцынта» («De vita et gestis Divi Hyacinthi», 869 радкоў дактылічнага гекзаметра), упрыгожаная эпіграмай на герб князёў Адрованжаў і вершаваным зваротам «Да чытача» («Ad lectorem»). Захаваліся таксама тры пазнейшыя вершы Гусоўскага, змешчаныя ў кнігах іншых аўтараў: «Да чытача» («Ad lectorem», 1533), «Заахвочанне пастараў да апекі над Гасподняй паствай» («Adhortatio pastorum ad curam gregis Dominici», 1533),

---

[1] Структура зборніка «Песня пра зубра» і іншых выданняў М. Гусоўскага падрабязна разгледжана Ж. Некрашэвіч-Кароткай: Некрашэвіч-Кароткая Ж.В. Беларуская лацінамоўная паэзія: ранні Рэнесанс. С. 115–119.




«Пад выяваю ўкрыжаванага Хрыста» («Sub imagine Christi crucifixi», не датаваны).

Агульная колькасць лацінамоўных вершаваных твораў Гусоўскага markdown рознымі даследчыкамі падлічвалася па-рознаму. У. Калеснік пісаў, што ў творчы даробак Гусоўскага ўваходзіць 3 паэмы, 11 вершаў са зборніка «Песня пра зубра» і «яшчэ некалькі іншых»[1], А. Жлутка паведамляе, што «да нашага часу дайшло 14 паэтычных твораў М. Гусоўскага. 11 з іх — гэта параўнальна невялікія (ад 4 да 84 радкоў) вершы...»[2]. Ж. Некрашэвіч-Кароткая называе ўсе творы Гусоўскага, якія да нас дайшлі, але ўслед за польскім бібліяграфічным даведнікам «Nowy Korbut»[3] прапануе не лічыць асобнымі вершамі дзве эпіграмы і прысвячэнне Людовіку Альфію, якія адносяцца да прадмоўнага комплексу паэмы «Песня пра зубра», змяншаючы тым самым лічбу вершаў у выданні 1523 г. да васьмі[4].

Варта, аднак, у гэтым пытанні не пагадзіцца з даследчыцай і назваць максімальную лічбу вядомых сёння паэтычных тэкстаў Мікалая Гусоўскага: 17. Па-першае, некаторыя іншыя вершы Гусоўскага таксама адносяцца да *прадмоўна-пасляслоўнага комплексу* і выконваюць службовую функцыю ў дачыненні да галоўнага твора кнігі: «Шаноўнаму Пану Яну Карнкоўскаму...», «Чатырохрадкоўе ў гонар роду Адрованжаў», «Да чытача» (1525), «Да чытача»

---

[1] Калеснік У. Тварэнне легенды : літаратурныя партрэты і нарысы. Мінск, 1987. С. 127–137.

[2] Жлутка А. Мікола Гусоўскі. С. 319.

[3] Bibliografia literatury polskiej «Nowy Korbut». Piśmiennictwo staropolskie. Warszawa, 1964. T. 2. S. 274.

[4] Некрашэвіч-Кароткая Ж.В. Беларуская лацінамоўная паэзія... С. 116.

(1533)[1]. Па-другое, менавіта эпіграмы на гербы і вершаваныя прысвячэнні сталі самымі папулярнымі жанрамі ў паэзіі Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу (згадаем эпіграмы на гербы і вершаваныя прадмовы Сымона Буднага і Беняша Буднага, шматлікія эпіграмы на гербы, вершаваныя прадмовы і пасляслоўі, звароты «Да Заіла» Мацея Стрыйкоўскага, эпіграмы на гербы Андрэя Рымшы, Яна Казаковіча, Яна Пратасовіча і інш.), таму вельмі важна адзначыць наяўнасць такіх твораў у спадчыне паэтаў-лацiністаў Яна Вісліцкага (прысвячэнні) і Мікалая Гусоўскага (эпіграмы, прысвячэнні, прадмова, пасляслоўе). Па-трэцяе, галоўны твор Гусоўскага — «Песня пра зубра» — генетычна звязаны з жанрам *эпіграмы*, надмагільнага надпісу, бо задумваўся як своеасаблівае літаратурнае аздабленне прэзентацыі чучала зубра для рымскай публікі[2].

Жанрава-тэматычная палітра паэзіі Мікалая Гусоўскага выглядае даволі багатай для свайго часу. Акрамя геральдычных і дэдыкацыйных вершаў знаходзім у яго спадчыне ўзоры рэлігійна-метафізічнай, рэлігійна-палемічнай і фунеральнай паэзіі, дзве ліра-эпічныя і адну агіяграфічную паэмы. Найважнейшымі тэмамі яго творчасці з’яўляюцца вера ў Бога і абарона чысціні гэтай веры, яднанне хрысціянскіх народаў перад турэцкай агрэсіяй, любоў да Айчыны: Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы, шанаванне законаў і прынцыпаў грамадскай справядлівасці, услаўленне хрысціянскай маралі і гуманістычных ведаў.

---

[1] Іншая справа, што наяўнасць у кнізе вершаваных і празаічных элементаў прадмоўна-пасляслоўнага комплексу не дае падстаў называць гэтую кнігу паэтычным зборнікам. Напрыклад, можна назваць зборнікам кракаўскае выданне «Песні пра зубра», але нельга — выданне паэмы «Пра жыццё і подзвігі святога Гіяцынта».

[2] Жлутка А. Мікола Гусоўскі. С. 319–320; Некрашэвіч-Кароткая Ж.В. Беларуская лацінамоўная паэзія… С. 131–132.

Многім творам Гусоўскага ўласцівы жанравы сінкрэтызм. Напрыклад, у «Песні пра зубра» знаходзім элементы панегірычнай паэзіі (пахвала зубру і князю Вітаўту), навукова-дыдактычнай (апісанне лясоў і жывёльнага свету Літвы), палітычнай (заклік да яднання і супрацьстаяння турэцкай агрэсіі), рэлігійна-метафізічнай (малітва да Багародзіцы). Назва паэмы «Новая і надзвычайная перамога над туркамі ў ліпені месяцы» сігналізуе аб прыналежнасці твора да героіка-эпічнай паэзіі (апісанне бітвы і ўслаўленне герояў бітвы), але змест сведчыць пра цесную сувязь гэтай паэмы з рэлігійна-метафізічным жанрам (падзяка Богу за ўратаванне мірных жыхароў і цудоўную перамогу над ворагам). Агіяграфічны, рэлігійна-паранетычны па задуме твор «Пра жыццё і подзвігі святога Гіяцынта» мае таксама выразныя рэлігійна-палемічныя акцэнты: у другой частцы паэмы крытыкуюцца ідэі Рэфармацыі і высмейваецца яе правадыр Марцін Лютэр.

Эвалюцыю творчасці Мікалая Гусоўскага можна акрэсліць наступным чынам: ад гуманістычнай, пераважна свецкай паэмы «Песня пра зубра» да рэлігійных, вытрыманых цалкам у каталіцкім духу вершаў «Заахвочанне пастараў да апекі над Гасподняй паствай» і «Пад выяваю ўкрыжаванага Хрыста». Мікалай Гусоўскі рухаўся ў кірунку ад літаратуры да тэалогіі, хрысціянскі маралiст перамог у ім свецкага паэта-філосафа. Пазней падобны шлях прайшоў Станіслаў Кулакоўскі, які найлепшы свой твор напісаў у маладосці («Чалавечы век», 1584), а потым свядома ператварыў сваю музу ў служку тэалогіі. Напэўна, напрыканцы жыцця Мікалай Гусоўскі лічыў галоўным творам у сваім творчым даробку агіяграфічную паэму пра святога Гіяцынта, і вельмі б здзівіўся, калі б даведаўся, што паэтычную бессмяротнасць і пашану нашчадкаў прынесла яму «напісаная ў паспеху», «з благой нагоды» і «на замову» паэма «Песня пра зубра».




* * *

Цікавасць да творчасці Мікалая Гусоўскага ў Польшчы нарадзілася ў канцы XIX — пачатку XX ст., але даволі хутка згасла[1], цікавасць да спадчыны паэта на Беларусі ўзнікла ў 60-я гг. XX ст.[2] і прывяляла да сенсацыйнага адкрыцця ў даўняй літаратуры твора, які змог актыўна функцыянаваць у сучаснай культурнай прасторы: з цікавасцю чытацца, спараджаць адметныя інтэрпрэтацыі, як навуковыя, так і мастацкія.

Унікальны працэс увядзення «Песні пра зубра», а потым і іншых забытых твораў шматмоўнай літаратуры XVI–XIX стст. у кантэкст беларускай культуры атрымаў метафарычную назву «вяртанне зор» ад назвы аднайменнага артыкула Уладзіміра Калесніка пра творчасць Гусоўскага[3]. Праўда, з лацінамоўных і польскамоўных пісьменнікаў толькі Мікалай Гусоўскі ды, можа, яшчэ Ян Баршчэўскі аказаліся зоркамі першай велічыні, упэўнена заняўшы месца побач з класікамі нацыянальнай літаратуры Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам, Францішкам Багушэвічам, Янкам Купалам і Якубам Коласам. Калі ж прыгледзецца больш уважліва да гісторыі вывучэння, перакладу і папулярызацыі «Песні пра зубра», прыходзіш да высновы, што больш адпаведнай назвай для гэтага працэсу

---

[1] Пра вывучэнне і пераклады твораў М. Гусоўскага ў Польшчы і іншых краінах падрабязна пісалі В. Дарашкевіч і Ж. Некрашэвіч-Кароткая: Дорошкевич В.И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы... С. 82–86; Некрашэвіч-Кароткая Ж.В. Беларуская лацінамоўная паэзія... С. 101–106, 175–184.

[2] Першым з беларускіх вучоных згадаў пра М. Гусоўскага Мікола Прашковіч у дысертацыі пра паэзію Сімяона Полацкага: Прашковіч М.І. Паэзія Сімяона Полацкага (Ранні перыяд — 1648–1664) : дыс. ... канд. філал. навук. Мінск, 1964. С. 30.

[3] Калеснік У. Вяртанне зор // Полымя. 1971. № 7. С. 196–212.




была б назва іншага артыкула Уладзіміра Калесніка, пра феномен беларускага рамантызму: «Тварэнне легенды»[1]. Творцамі легенды пра геніяльнага паэта з сівой даўніны, «беларускага Гамера» XVI ст. былі перакладчыкі Якаў Парэцкі і Язэп Семяжон, а міжвольнымі ці свядомымі папулярызатарамі — літаратуразнаўцы Уладзімір Калеснік і той самы Якаў Парэцкі. Менавіта ім належыць заслуга цудоўнага ператварэння забытага каталіцкага паэта-лацініста Мікалая Гусоўскага ў народнага паэта-рапсода, пушчанскага самародка Міколу Гусаўца.

Цікава, што спачатку Я. Парэцкі і Я. Семяжон пераклалі «Песню пра зубра» на рускую мову і ў 1968 г. апублікавалі пераклад у часопісе «Нёман». А ўсяго праз год у часопісе «Полымя» Я. Семяжон апублікаваў уласны пераклад паэмы на беларускую мову, які адразу стаў кананічным: у 1973 г. выйшаў асобнай кнігай (з ілюстрацыямі А. Кашкурэвіча), пазней шмат разоў перавыдаваўся, уключаўся ў розныя анталогіі і хрэстаматыі. Адразу ўзнікае пытанне: чаму першы пераклад зроблены Я. Семяжонам у сааўтарстве з Я. Парэцкім, а другі самастойна? Нам не ўдалося натрапіць на публікацыю, дзе б сааўтары распавядалі пра механізм сумеснай працы над перакладам, таму можна ўявіць два варыянты.

Першы варыянт: вучоны-лацініст Я. Парэцкі рабіў падрадкоўнік, вядомы перакладчык англійскай паэзіі Я. Семяжон ствараў паэтычную версію. Але ў такім разе чаму Семяжон у 1968 г. узяў сабе аўтара падрадкоўніка ў сааўтары, а ў 1969 г. выдаў беларускі пераклад толькі пад сваім прозвішчам? Дарэчы, у пісьменніцкай практыцы не прынята браць у сааўтары выканаўцу падрадкоўніка

---

[1] Гэты артыкул даў назву цэлай кнізе, куды ўвайшоў таксама літаратуразнаўчы нарыс «Алегорыя зубра Мікалая Гусавяніна»: Калеснік У. Тварэнне легенды. Мінск, 1987. С. 123–198.

(гл., напрыклад, паэтычныя пераклады Я. Семяжона з в’етнамскай мовы альбо паэтычныя пераклады з самых розных моў Р. Барадуліна).

Другі варыянт: вучоны-лацініст Я. Парэцкі быў аўтарам ідэі і зрабіў чарнавы паэтычны пераклад на рускую мову «Песні пра зубра», які пагадзіўся апрацаваць «рукой майстра» аўтарытэтны ў пісьменніцкіх колах перакладчык сусветнай паэзіі Я. Семяжон. Што датычыць беларускага варыянта, перакладаўся ён не з арыгінала і нават не з падрадкоўніка, а… з рускага паэтычнага перакладу 1968 г.

Думаецца, менавіта другі варыянт меў месца: Я. Семяжон не ведаў лацінскай мовы, ніколі не трымаў у руках арыгінал «Песні пра зубра» і нярэдка перакладаў паэтычныя творы не з мовы арыгінала, а з рускіх паэтычных перакладаў (напрыклад, санеты Шэкспіра на падставе перакладаў С. Маршака), на што слушна звярнуў увагу ў сваім крытычным артыкуле мовазнаўца Пётр Садоўскі[1]. Рускі і беларускі пераклады «Песні пра зубра» вельмі блізкія; Ж. Некрашэвіч-Кароткая, аналізуючы недахопы гэтых перакладаў і называючы іх *адаптацыямі*, *перастварэннямі*, слушна адзначае, што рускамоўнае і беларускамоўнае перастварэнні «перабольшваюць» разам[2].

З’яўленне «Песні пра зубра» ў перакладзе Я. Семяжона з энтузіязмам было сустрэта нацыянальна-свядомай інтэлігенцыяй і шырокімі чытацкімі коламі, кульмінацыяй гэтага шчырага энтузіязму было святкаванне ў 1980 г. пад эгідай ЮНЕСКА 500-годдзя з дня нараджэння Мікалая

---

[1] Садоўскі П. Культурна-моўныя пытанні беларускага перакладу : нататкі мовазнаўцы // Полымя. 1981. № 7. С. 178–198.

[2] Некрашэвіч-Кароткая Ж.В. Беларуская лацінамоўная паэзія… С. 179.

Гусоўскага, выхад у свет трохмоўнага выдання «Песні пра зубра» (з ілюстрацыямі Я. Куліка), правядзенне мастацкай выставы «М. Гусоўскі і яго час», паказ Беларускім тэлебачаннем відэафільма «Песня пра зубра» (рэж. Э. Перагуд). Язэп Семяжон неўзабаве атрымаў за пераклад паэмы Гусоўскага Дзяржаўную прэмію Беларусі. Атрымаў цалкам заслужана, бо дзякуючы яго перакладу твор лацінамоўнага паэта эпохі Рэнесансу заняў трывалае месца ў беларускай культуры, паспрыяў, як і гістарычныя творы Уладзіміра Караткевіча, росту нацыянальнай самасвядомасці русіфікаваных і саветызаваных беларусаў. Да класічнага канона беларускай дакастрычніцкай літаратуры была дапушчана паэма, дзе замест традыцыйных нараканняў на гаротнае жыццё селяніна пад панскім прыгнётам прагучаў велічны гімн Вялікаму Княству Літоўскаму як супольнай літоўска-беларускай дзяржаве, дзе ўслаўляўся вялікі князь Вітаўт, які яшчэ зусім нядаўна ў савецкіх ідэолагаў і чыноўнікаў ад культуры асацыіраваўся выключна з беларускімі нацыяналістамі, здраднікамі-паліцаямі і эмігрантамі.

Каб здзейсніць у савецкія часы такі фенаменальны культурны праект, перакладчыку «Песні пра зубра» давялося, аднак, максімальна наблізіць лацінамоўны твор XVI ст. да «нашаніўскага», «купалаўска-коласаўскага» канона беларускай літаратуры і, адначасова, да свядомасці беларускага савецкага чытача 60–80-х гг. XX ст., а дзеля гэтага — адысці ад духу і стылю арыгінала, з мэтай *секулярызаваць*, *дэмакратызаваць* і *беларусізаваць* паэму Мікалая Гусоўскага, што не выклікала пярэчанняў у даверлівага чытача, але было адзначана пазней крытыкамі перакладу як гістарычная і эстэтычная дэфармацыя, аберацыя твора:

«Пры больш уважлівым чытанні, калі супастаўляеш усе факты, пададзеныя ў прадмове да твора і ў ім самім, яго стылістыку з эпохай, што адлюстроўваецца ў паэме, працей кажучы, калі ўлічваеш, хто пісаў, калі пісаў, для

каго пісаў, на якой мове пісаў, то ў пэўных месцах пачынаеш адчуваць нейкі эстэтычны дыскамфорт. Ужо занадта сучасна думае і адчувае Мікола, што з Гусава! <…> Чыста інсургент-народнік ці незаангажаваны нонканфарміст!»[1].

«Увогуле франтальнай, скразной памылкай перакладу Язэпа Семяжона з'яўляецца занядбанне культурна-сацыяльных і гістарычных адметных рыс XVI, XIX і XX стагоддзяў. Імкнучыся "адэмакратызаваць" фігуру Гусоўскага, перакладчык стылістыкай сваёй паэтычнай версіі "перастварыў" яго без уліку тагачаснага еўрапейскага культурна-гістарычнага развіцця»[2].

«З мэтай трансфармавання "Песні пра зубра" ў эпапею Я. Парэцкі і Я. Семяжон прыпадабнілі рытміку перакладу да памеру класічнага гераічнага эпасу: яны пераклалі "Песню пра зубра" "амаль гекзаметрам" — пяцістопным дактылем»[3].

«Няцяжка заўважыць, што Я. Парэцкі і Я. Семяжон не выходзяць за межы пэўнай сацыяльнай устаноўкі. Менавіта такога перакладу (у форме адаптацыі) вымагала сама эпоха, калі грамадзянская і асабліва сацыяльна-палітычная завостранасць, заангажаванасць выступала ці не асноўным крытэрыем мастацкіх вартасцяў літаратурнага твора. <…> Калі б першы пераклад адлюстроўваў рэальную элегічнасць "Песні пра зубра", фарміраваў адэкватнае ўяўленне пра хрысціянскі гуманізм аўтара, наўрад ці быў бы шчаслівым лёс гэтага твора на схіле савецкай эпохі»[4].

---

[1] Садоўскі П. Культурна-моўныя пытанні беларускага перакладу. С. 183–184.

[2] Тамсама. С. 186.

[3] Некрашэвіч-Кароткая Ж.В. Беларуская лацінамоўная паэзія… С. 178.

[4] Тамсама. С. 179–181.

Семяжонаўскі варыянт «Песні пра зубра» можна назваць паспяховым культурным праектам, можна — грамадзянскім подзвігам, не выпадае толькі называць яго *перакладам*. Сапраўды, гэта *перастварэнне*, або *ўзнаўленне*, і не навукоўцы ўпершыню ўжылі гэтыя тэрміны ў дачыненні да варыянта Я. Семяжона, а... сам перакладчык. У артыкуле «Думкі пра вяртанне» Я. Семяжон дакладна апісвае свае мэты і перакладчыцкую стратэгію: «Працуючы над перастварэннем (тут просіцца ў радок больш дакладнае і ёмістае рускае слова — "воспроизведение") паэмы па-беларуску, я імкнуўся, наколькі гэта было ў маіх магчымасцях, быць верным арыгіналу — яго слову і зместу, але літаральна верным толькі там, дзе такая адэкватнасць па духу і даслоўнай адпаведнасці не шкодзілі мастацкаму ўзнаўленню твора ў цэлым і адпавядалі натуральнаму гучанню сучаснага беларускага верша. Улічваючы інтарэсы нашага масавага чытача, а не толькі ягонай "акадэмічнай" праслойкі, я стараўся быць верным аднаму з важнейшых прынцыпаў савецкай школы мастацкага перакладу: перакладаць не толькі словы, але і тое, што стаіць за гэтымі словамі (падчас у кантэксце) — ідэі і пачуцці, манеру іх выказвання, а месцамі нават і тое, што "прачытвалася" па-за радкамі, дзеля чаго гэты твор быў напісаны. Гэта не значыць, аднак, што я адвольна дапісваў твор за аўтара, я ўсяго толькі расстаўляў акцэнты там, дзе аўтар, у меру сваіх абмежаваных магчымасцей, вымушаны быў гаварыць шэптам ці толькі намёкамі»[1].

У семяжонаўскім перастварэнні акцэнты для масавага чытача расстаўлены вельмі настойліва і паслядоўна: яму, гэтаму чытачу, увесь час нагадваюць, што «паэма пра нас», «аўтар паходзіў з нашых земляў» і «прамаўляе ад

---

[1] Семяжон Я. Думкі пра вяртанне // Літаратура і мастацтва. 1980. 19 снеж. С. 5.

імя народа». Займеннік «я» дзе толькі можна замяняецца займеннікам «мы», фарбы згушчаюцца, голас паэта гучыць як набат: «Мы яшчэ дзеці / ў свеце хрышчоных», «Як лес безгалосы, / Мы пад сякерай». Падобныя акцэнты, «падказкі» для чытачоў і будучых даследчыкаў паэмы Я. Семяжон расстаўляў і ў сваіх артыкулах з праграмнымі назвамі: «Першая песня пра нас» (1969) і «Песня пра нас» (1980). Логіка была простая: калі, па вялікім рахунку, каштоўнасць «Песні пра зубра» заключаецца ў тым, што паэма распавядае свету пра нашых продкаў, дык чаму не ўставіць гэтае «пра нас»[1] непасрэдна ў радок Гусоўскага? («Мне загадалі адразу ж узяцца за працу, / Каб успаміны свае, пераліўшы ў памер вершаваны, / Песняй зрабіць і *пра нас* [тут і далей курсіў наш. — *С. К.*], і пра нашы аблавы»[2].

Шмат за Гусоўскага перакладчык не дапісваў, але менавіта «падслуханыя», адчытаныя паміж радкоў «намёкі» і «шэпты» паэта сталі найбольш вядомымі, распазнавальнымі фрагментамі твора і найчасцей цытаваліся даследчыкамі, пачынаючы… з самога Я. Семяжона. і калі выбар У. Калесніка ці А. Лойкі можна растлумачыць даверлівасцю, то як растлумачыць настойлівае цытаванне прыдуманых, неіснуючых у арыгінале радкоў у артыкулах самога Я. Семяжона? Бясспрэчна, такое цытаванне вынікала з разумення перакладчыкам важнасці гэтых радкоў для стварэння «легенды Гусоўскага», з настойлівага імкнення замацаваць гэтыя ключавыя радкі ў масавай свядомасці.

---

[1] У арыгінале паэмы выразу «пра нас» не было, адсутнічае ён і ў перакладзе У. Шатона: «З ходу ж далі мне загад, каб сказ мой пра волата-звера / Песняй зрабіў і яе каб неадкладна пісаў» (Гусоўскі М. Песьня пра зубра / пер. У. Шатона. Мінск, 1994. С. 9).

[2] Гусоўскі М. Песня пра зубра / пер. Я. Семяжона. Мінск, 1980. С. 55.

У артыкуле Я. Семяжона «Песня пра нас» (перапрацоўка ранейшага артыкула «Першая песня пра нас») цытуюцца амаль выключна фрагменты «Песні пра зубра» з «дапісанымі», «дадуманымі» за паэта радкамі.

Першая знакавая цытата — пра «ляснога чалавека» Міколу Гусоўскага, які сумуе па Радзіме, па шчаслівых часах маладосці, што прайшла ў паляваннях і ловах у родных лясах:

Што ж да мяне, то свае паляванні і ловы
Адпаляваў я. Адзіная ўцеха ў самоце —
Жыць успамінамі. *Думкай ляціш быстракрылай*
*Ноччу і днём на радзіму,* у памяці сеці
Вабіш той час незабыўны, што некалі ў нетрах
*Родных лясоў* разгубіўся, і кліч — не даклічаш[1].

На жаль, выдзеленых курсівам прыгожых слоў няма ў арыгінале, і нават думка там гучыць зусім іншая: паэт-кніжнік наракае на дарэмна страчаны на ловах час, які можна было б выкарыстаць для навукі і чытання кніг[2].

Наступная цытата — таксама шырокавядомыя радкі, якія яскрава выяўляюць ідэйны змест паэмы і характарызуюць нацыянальную прыналежнасць Гусоўскага:

Край мой (*цяпер ужо ўласнасць Кароны*) калісьці
Я перамераў удоўжкі і ўпоперак пешшу[3].

Памятаю, у студэнцкія часы, чытаючы гэтыя пранізліва-эмацыянальныя радкі, мы доўга раздумвалі: якія землі Вялікага Княства Літоўскага належалі ў часах Гусоўскага, г. зн. яшчэ да Люблінскай уніі, да Польшчы? Паса-

---

[1] Семяжон Я. Песня пра нас // Маладосць. 1980. № 12. С. 168.

[2] У. Шатон таксама пераклаў гэты фрагмент паэмы недакладна, што адзначае ў сваёй манаграфіі Ж. Некрашэвіч-Кароткая: Некрашэвіч-Кароткая Ж.В. Беларуская лацінамоўная паэзія... С. 140.

[3] Семяжон Я. Песня пра нас. С. 169.

вала толькі Падолле, анексіраванае Каронай пасля смерці Вітаўта. Дык няўжо Гусоўскі паходзіў з Паўднёва-Заходняй Украіны?

Аказваецца, нашыя студэнцкія разважанні былі няправільныя. Я. Семяжон падрабязна тлумачыць чытачу, што меў на ўвазе паэт: «Першы радок прыведзенай цытаты патрабуе тлумачэння. Паэт сцвярджае, што яго родны край “цяпер ужо ўласнасць Кароны”. Як вядома з гісторыі, згодна з палажэннямі дагаворнага саюза (уніі) паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польскай Каронай, заключанага ў 1385 г. у Крэве, на чале абедзвюх дзяржаў станавіўся вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага Ягайла, які ўступаў у шлюб з польскай каралевай Ядвігай і ў 1386 г. быў абвешчаны каралём Кароны. У час напісання Гусоўскім сваёй “Песні…” на чале аб’яднанай саюзнай дзяржавы стаяў ужо не “свой літвін”, як адзначае паэт у другім месцы паэмы, а польскі ўладар, адсюль і гэтая канстатацыя факта: “цяпер ужо ўласнасць Кароны”»[1].

Але ў падрабязным гістарычным каментарыі Я. Семяжон тлумачыць (дарэчы, няправільна) не фрагмент паэмы, а свае ўласныя радкі, якія справядліва крытыкавалі і беларускія[2], і польскія навукоўцы[3].

П. Садоўскі адзначае: «У арыгінале сказана: “In nemus arctoum, quamvis scriptoribus impar / Romanis, certe hac arte, Polonus eo”. Гусоўскі гаворыць: “Я, паляк, не раўня рымскім пісьменнікам у гэтым мастацтве, абхадзіў паўночныя пушчы”. Не будзем гаварыць пра тое, кім ён сябе

---

[1] Семяжон Я. Песня пра нас. С. 169.

[2] Садоўскі П. Культурна-моўныя пытанні беларускага перакладу. С. 185–186.

[3] Czaplejewicz E. Współczesne przekłady poematu Hussowskiego w świetle heterogeniczności // Literatura i różnorodność. Kresy i pogranicza. Warszawa, 1996. S. 43–53.

лічыў. Але як жа ён мог назваць сябе інакш — слуга польскага мецэната ў складзе польскай дыпламатычнай місіі. Ці ўпадабаў бы яго міласнік такі выраз — "край мой — цяпер ужо ўласнасць Кароны"? Неяк ужо занадта спагадліва-сучасна ўспрымаецца гэты прыфантазіраваны выраз»[1].

Яшчэ больш саркастычна каментуе пераклад Я. Семяжона польскі літаратуразнаўца Яўгеніюш Чапляевіч: «Гусоўскі, які паўстае ў беларускім і рускім перакладах, думае і разважае як грамадзянін савецкай Беларусі, выхаваны патрыятычна, г. зн. перадусім антыпольска, але ні ў якім разе не антырасійска. Між іншым, ён пранікліва бачыць замаскіраваны гістарычны сэнс польска-літоўскіх трактатаў, у выніку якіх не дынастыя, пануючая ў Вялікім Княстве Літоўскім, заняла каралеўскі трон і, утварыўшы вялікую дзяржаву, стала ёй кіраваць, але насамрэч Польшча накінула на цэлыя стагоддзі ярмо на грамадзян Вялікага Княства Літоўскага ("Я.... подданый Польши"), якое стала папросту ўласнасцю Кароны ("цяпер ужо ўласнасць Кароны"). <...> у пераклад "Песні пра зубра" ўпісана гісторыя нязвыклая, бо сенсацыйная, хоць у аснове простая і кранальная, але настолькі абсурдная, што аж да гратэску прыгожая. Вось беларус Гусоўскі выкарыстоўвае зручную нагоду (паэтычны заказ), каб, будучы на дыпламатычнай каралеўскай службе, скласці на рукі Папы Рымскага праз пасрэдніцтва начальніка і мецэната, які акурат выконвае ў Рыме абавязкі пасла Рэчы Паспалітай, скаргу на свайго караля і, адначасова, вялікага князя літоўскага, Ягелона, што падуладная яму Карона, Польшча — напэўна, з яго ўдзелам — няволіць Літву»[2].

---

[1] Садоўскі П. Культурна-моўныя пытанні беларускага перакладу. С. 185–186.

[2] Czaplejewicz E. Współczesne przekłady poematu Hussowskiego w świetle heterogeniczności. S. 48-49.

Каментарыі вучоных — вельмі зласлівыя, але занадта ўжо далёка зайшоў перакладчык, «расшыфроўваючы» думкі паэта, схаваныя паміж радкоў «Песні пра зубра». Адзначым, што семяжонаўскае разуменне «Песні пра зубра» вельмі падобнае на інтэрпрэтацыю савецкімі літаратуразнаўцамі паэмы Крысцінаса Данелайціса «Чатыры пары года»: у паэме прускага пратэстанцкага святара літоўскія вучоныя ў 50–60-х гг. XX ст. знаходзілі найперш антынямецкія і антыфеадальныя матывы, старанна хаваючы хрысціянска-дыдактычны пафас паэмы.

Паводле Я. Семяжона, паэт-лацініст XVI ст. Мікола Гусоўскі выступаў у сваёй паэме не толькі супраць нацыянальнага, але і супраць сацыяльнага прыгнёту беларускага народа, супраць прыгонніцкай палітыкі «шляхецкай» Польшчы і «магнацкай» Літвы: «Цяжка было — ды і небяспечна — служку епіскапа і каралеўскага дыпламата гаварыць аб бедах і нягодах сваёй радзімы па-за яе межамі, але ён знайшоў у сабе сілы і грамадзянскую мужнасць сказаць аб гэтым сваё слова ў «Песні...»:

*Стогне і ў цемрадзі ночы злавеснай народ наш*
*Вобмацкам долі шукае*. Жахлівыя здзекі
Церпіць пакутнік пад страшным прыгнётам чужынцаў.
Мы шчэ натоўп, грамада непісьменная, цемра.
*Князь і баяры — усе, каму льга заступіцца,*
*Глухі да нас і не горай, чым жорсткі татарын,*
*Душаць пятлёй галасы абурэння ў народзе*[1].

Сапраўды, вельмі смелыя, амаль рэвалюцыйныя радкі. Па стылістыцы яны нагадваюць «нашаніўскія» часы, вершы-пракламацыі Цёткі, Купалы, Коласа, лозунгі кшталту «Загляне сонца і ў наша аконца! Толькі гэта — не цытата з «Песні пра зубра», а чарговая самацытата Язэпа

---

[1] Семяжон Я. Песня пра нас. С. 172.




Семяжона. У арыгінале паэмы гаворыцца выключна пра супрацьстаянне турэцкай пагрозе, пра непаразуменні паміж свецкай і царкоўнай уладай, а зусім не пра супрацьстаянне народа панам-эксплуататарам. Працытуем для параўнання пераклад У. Шатона:

Ён [турак. — *С.К.*] не баіцца сустрэць каго-небудзь
з нашых са зброяй —
Гэткі сляпы мы натоўп, гэткі зацюканы люд.
Самі ж к таму каралі абы ўгледзелі сілу якую,
Спосабам розным тады прагнуць аслабіць яе.
Кожнаму вельмі карціць, каб нідзе не ўзялі перавагу
Тыя, хто служаць Хрысту, хто яго веру нясуць[1].

Некаторыя «прыдуманыя» Я. Семяжонам радкі сталіся нават назвамі артыкулаў. Напрыклад, артыкул мастацтвазнаўцы Пятра Васілеўскага называўся «Застацца сабою»[2]. Эпіграфам былі ўзятыя знаныя радкі, якія цытуюцца і ў артыкуле Я. Семяжона:

Свет даўніны вывучаў я па кнігах славянскіх —
Граматах рускіх, кірыліцай пісаных вязкай.
Лад алфавіту наш прашчур для ўласнай карысці
Ў грэкаў пазычыў і, гукі мясцовых гаворак
Зладзіўшы з ім, іншаземцам, *застаўся сабою*[3].

Я. Семяжон звяртае ўвагу чытача менавіта на апошнія словы цытаты: «Адзначым: “застаўся сабою”. Гэта вельмі важны штрых у паэме»[4]. На падставе гэтага «важнага штрыха» П. Васілеўскі піша пра Гусоўскага: «Ва ўменні застацца самім сабой у любых абставінах бачыць ён

---

[1] Гусоўскі М. Песьня пра зубра / пер. У. Шатона. С. 46.

[2] Васілеўскі П. Застацца сабою // Літаратура і мастацтва. 1980. 19 снеж. С. 7.

[3] Семяжон Я. Песня пра нас. С. 170.

[4] Тамсама. С. 170.

адно са сведчанняў духоўнай сілы народа»[1]. Даверлівы мастацтвазнаўца не здагадваўся, што ў арыгінале паэмы гэтага выразу не было, няма яго і ў перакладзе У. Шатона:

Шмат я чаго прачытаў аб мінуўшчыне
у кнігах славянскіх,
Мову прачытаных кніг літары грэкаў нясуць.
Знакі чужыя народ запазычыў для ўласнай карысці,
З імі затым стасаваў бацькавай мовы лады[2].

Увогуле да з'яўлення артыкулаў і манаграфіі Віктара Дарашкевіча «Песня пра зубра» вывучалася і інтэрпрэтавалася выключна на падставе перастварэння Я. Семяжона, што прыводзіла да шматлікіх скажэнняў зместу твора.

Найбольш адметную і знаную сёння інтэрпрэтацыю паэмы даў на пачатку 70-х гг. XX ст. літаратуразнаўца і крытык Уладзімір Калеснік у артыкуле «Вяртанне зор»[3]. Менавіта ён упершыню звярнуў увагу на алегарычнасць і сімвалічнасць вобраза зубра ў паэме (зубр — беларускі народ), на адлюстраванне сацыяльна-палітычных поглядаў паэта ў апісаннях зубрынага статка, на ўслаўленне вобраза Вітаўта як ідэальнага ўладара, на глыбокі патрыятызм і рэнесансавы гуманізм Гусоўскага. Асноўныя ідэі гэтага артыкула выкладзены таксама ў адпаведным раздзеле ўніверсітэцкага падручніка «Гісторыя беларускай літаратуры. Старажытны перыяд» (пад рэд. М.А. Лазарука і А.А. Семяновіча, першае выданне — Мінск, 1985 г.) і ў пазнейшым нарысе У. Калесніка «Алегорыя зубра Мікалая Гусавяніна» (1987)[4]. Як таленавіты даследчык паэзіі (між іншым, аўтар выдатнай манаграфіі пра Уладзіміра Жылку)

---

[1] Васілеўскі П. Застацца сабою. С. 7.

[2] Гусоўскі М. Песьня пра зубра / пер. У. Шатона. С. 7.

[3] Калеснік У. Вяртанне зор. С. 196–212.

[4] Калеснік У. Тварэнне легенды. С. 123–198.

і пісьменнік-публіцыст (адзін з сааўтараў славутай кнігі «Мы з вогненнай вёскі»), У. Калеснік інтуітыўна адчуў мастацкую спецыфіку «Песні пра зубра», прапанаваў цікавыя кірункі інтэрпрэтацыі твора і вызначыў месца творчасці Гусоўскага ў гісторыі беларускай літаратуры: «Традыцыя Гусоўскага можа быць прасочана па ўсёй старажытнай беларускай літаратуры — гэта абарона ўстояў патрыярхальнага гераічнага жыцця, якое дало змест народнаму эпасу. На гэтым прынцыпе трымаецца беларуская казка і прагрэсіўная рамантычная плынь беларускай літаратуры»[1].

На жаль, аналіз ідэйна-мастацкага зместу паэмы на падставе перастварэння Я. Семяжона часта прыводзіў даследчыка да з'явы *надінтэрпрэтацыі*, да расшыфроўкі кодаў не арыгінала, а перакладу (напрыклад, разважанні У. Калесніка пра зубрыны гурт, як ідэальную мадэль грамадства, трымаюцца выключна на недакладнасцях перакладу Я. Семяжона, на што слушна звяртаў увагу В. Дарашкевіч[2]). У артыкуле У. Калесніка цытуюцца і аналізуюцца амаль усе фрагменты «Песні пра зубра» з «дадуманымі» перакладчыкам радкамі, з расстаўленымі акцэнтамі і «падслуханымі шэптамі» паэта...

Узяўшыся ў другой палове 70-х гг. XX ст. за грунтоўнае навуковае даследаванне лацінамоўнай паэзіі Яна Вісліцкага і Мікалая Гусоўскага, літаратуразнаўца-медыявіст Віктар Дарашкевіч апынуўся ў складанай сітуацыі, бо ў беларускай культуры прыжылася ўжо «легенда Гусоўскага», створаная Я. Парэцкім і Я. Семяжонам і папулярызаваная У. Калеснікам. Параўноўваючы лацінскі арыгінал «Песні пра зубра» з рускім і беларускім перакладамі,

---

[1] Калеснік У. Тварэнне легенды. С. 194.

[2] Дорошкевич В.И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. С. 166–167.

В. Дарашкевіч мусіў бачыць адвольнасць і свядомую тэндэнцыйнасць гэтых перакладаў, але абмежаваўся дыпламатычнымі заўвагамі пра недакладнасць асобных фрагментаў. У сваёй рускамоўнай манаграфіі «Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы : первая половина XVI в.» (1979) ён цытаваў рускі пераклад «Песні пра зубра», крыху больш дакладны, але часам мусіў папраўляць і яго, звяртаючыся да арыгінала.

В. Дарашкевіч падрабязна разгледзеў гісторыка-культурныя ўмовы ўзнікнення лацінамоўнай паэзіі ў літаратуры Вялікага Княства Літоўскага, узнавіў, наколькі гэта было магчыма, жыццёвы шлях паэта і ахарактарызаваў яго творчы набытак, асноўныя намаганні сканцэнтраваўшы на аналізе «Песні пра зубра» як адметнага твора новай літаратуры Беларусі. Асноўным творчым метадам Гусоўскага з'яўляецца, на думку вучонага, рэнесансавы рэалізм, а каштоўнасць творчасці паэта палягае на гарманічным спалучэнні агульнасусветнага і нацыянальнага зместу: «Імкненне ўвесці жыццё Беларусі і Літвы ў летапіс гуманістычнай культуры Еўропы, ідэя еўрапейскага адзінства — вось тая важкая і значная задума, рэалізацыя якой узняла Гусоўскага да ўзроўню мыслення нацыянальнага песняра»[1].

Праўда, аддаючы даніну свайму часу, В. Дарашкевіч знаходзіў у каталіцкага паэта XVI ст. «усведамленне класавай структуры Вялікага Княства Літоўскага», «крытыку братазабойчай і прыгонніцкай палітыкі кіруючых класаў» і нават «стыхійна-матэрыялістычную эстэтыку, блізкую да народна-дэмакратычнай»[2].

---

[1] Дорошкевич В.И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. С. 156.

[2] Тамсама. С. 164, 188.

Рыхтуючы да друку юбілейнае трохмоўнае выданне «Песні пра зубра» (1980), В. Дарашкевіч напісаў да яго артыкул-пасляслоўе «Паэма жыцця» і зрабіў каментарыі. У прызначаным для шырокага чытача артыкуле акадэмічны вучоны ці то пад уплывам Я. Семяжона, ці то выходзячы насустрач грамадскім пажаданням, прыкметна дэмакратызуе і «абеларушвае» Гусоўскага, а ў каментарыях тлумачыць гістарычныя рэаліі неіснуючых у арыгінале фрагментаў (напрыклад, сэнс радка «Край мой (*цяпер ужо ўласнасць Кароны*) каліcьці…»). А прадмова «Эпоха. Паэт. Паэма» да мініяцюрнага выдання «Песні пра зубра» (1981) у перакладзе на беларускую і рускую мовы напісана В. Дарашкевічам у сааўтарстве з Я. Семяжонам.

У 1984 г. пабачыла свет невялікая манаграфія Якава Парэцкага «Николай Гусовский», якая саступала навуковым узроўнем манаграфіі Віктара Дарашкевіча, але ўнесла пэўны ўклад у вывучэнне творчасці Мікалая Гусоўскага ў Беларусі. Па-першае, Я. Парэцкі даволі падрабязна прааналізаваў іншыя творы аўтара «Песні пра зубра», асабліва паэму «Пра жыццё і подзвігі святога Гіяцынта». Па-другое, разгледзеў рэальныя і ўяўныя тыпалагічныя падабенствы такіх твораў, як «Боская камедыя» Дантэ, «Песня пра зубра» Гусоўскага і «Пан Тадэвуш» Міцкевіча. Па-трэцяе, як філолаг-лацініст зрабіў спробу прааналізаваць мову Гусоўскага і асаблівасці вершаскладання. Творы паэта Я. Парэцкі цытаваў ва ўласных паэтычных перакладах на рускую мову, а асобныя словы і выразы — у арыгінале, па-лацінску. Мікалай Гусоўскі, які паўстае з манаграфіі Я. Парэцкага, гэта ўжо не «прастак», не «лясны чалавек», а адукаваны інтэлектуаліст, пісьменнік еўрапейскага ўзроўню, хаця па сваіх поглядах — па-ранейшаму народны-дэмакрат і стыхійны рэвалюцыянер: «Ён глыбей зразумеў сутнасць лютэраўскага выступлення і ў правадыру новай царквы пазнаў ваўка ў авечай шкуры.

Гусоўскі разглядзеў у Лютэру ворага народных мас, які сакралізаваў прыгоннае права, і заклікаў патапіць у крыві паўстаўшых супраць феадалаў сялян»[1].

Цікавай, але не заўважанай навукоўцамі публікацыяй пра «Песню пра зубра» быў артыкул Міколы Захаранкі, апублікаваны ў 1986 г. у штогодніку «Беларуская літаратура»[2]. Маладому аўтару ўдалося пазбегнуць гістарычнай мадэрнізацыі і патрыятычнага папулізму, а замест гэтага ўдумліва прааналізаваць філасофскія і эстэтычныя погляды Мікалая Гусоўскага ў кантэксце эпохі Рэнесансу. Некаторыя думкі і назіранні М. Захаранкі перагукаюцца з пазнейшымі высновамі А. Жлуткі і Ж. Некрашэвіч-Кароткай і не страцілі сваёй актуальнасці ў XXI ст.:

«Гусоўскі прыўносіць у наскрозь гарадскі дух заходнееўрапейскага Адраджэння імкненне да зліцця прыроднага і культурнага пачаткаў. Зубр як "герой" паэмы, з аднаго боку, тытан свету мінулага, велічны і гераічны вобраз сілы натуральна-спрадвечнай (спрадвечнай прыроднай, спрадвечнай чалавечай). Гусоўскі стварае гэты вобраз з любоўю, захапляючыся ўрачыстай веліччу і гарманічнай цэласнасцю гэтай сілы, яе ўнутранай стыхійнай годнасцю і патрыярхальнай жывучасцю, з элегічным смуткам адчуваючы непазбежную гібель гэтага асуджанага на знікненне свету»[3].

«Усёдазволенасці і свавольству ён супрацьпастаўляе хрысціянска-гуманістычную этыку і свядомую самадысцыпліну, а з боку дзяржавы (грамадства) — утаймаванне антыграмадскіх сіл і страсцей "жалезнай аброццю"

---

[1] Порецкий Я.И. Николай Гусовский. Минск, 1984. С. 87.

[2] Захаранка М.А. Песня пра зубра // Беларуская літаратура. Мінск, 1986. Вып. 14. С. 119–130.

[3] Тамсама. С. 124.

закона і "мячом караючым" справядлівасці, утаймаванне сілы сілай. <...> Уся паэма — дзіўны сплаў лірычнага выказвання і філасофскага асэнсавання свету, павучэння і палітычнай пракламацыі, і ўвесь гэты сплаў ажыўлены адным пачуццём і адной ідэяй: выратавання роднай Міколу Гусоўскаму цывілізацыі шляхам аб'яднання ўсіх яе жывых сіл»[1].

Характэрна, што М. Захаранка ў сваім артыкуле амаль не цытуе «Песні пра зубра», а калі ўжо робіць гэта — карыстаецца рускамоўным перакладам Парэцкага–Семяжона, як больш дакладным, чым беларускі пераклад Семяжона.

У 80-х гг. XX ст. «Песня пра зубра» ў перакладзе Я. Семяжона была ўключана ў школьную і ўніверсітэцкую праграмы, стала вядомай шырокаму чытачу. Толькі знаўцы лацінскай мовы наракалі ў кулуарах на заганы семяжонаўскага перастварэння і казалі пра неабходнасць з'яўлення новага, дакладнага перакладу. Адным з такіх незадаволеных быў выкладчык лацінскай мовы Мінскага інстытута замежных моў Уладзімір Шатон, які неўзабаве такі дакладны, эквілінеарны паэтычны пераклад «Песні пра зубра» зрабіў. Але лёс у гэтага перакладу аказаўся вельмі цяжкі. Ніводны беларускі часопіс не хацеў яго публікаваць, адмовіліся друкаваць новы варыянт паэмы Гусоўскага выдавецтвы «Мастацкая літаратура» і «Юнацтва».

Прычын негатыўнага стаўлення да новага перакладу «Песні пра зубра» было некалькі. Па-першае, дзейнічаў аўтарытэт Я. Семяжона і рэдактары не бачылі патрэбы ў публікацыі канкурэнцыйнага перакладу У. Шатона. «Перакладзіце іншыя творы Гусоўскага», — прапаноўвалі перакладчыку. Па-другое, навукова-дакладны пераклад Шатона ў значнай ступені развенчваў «легенду Гусоўскага»,

---

[1] Захаранка М.А. Песня пра зубра. С. 130.

рэдактары са здзіўленнем адзначалі адсутнасць у новым варыянце многіх знакавых фрагментаў твора і знікненне беларускага каларыту: шматлікіх прыказак, прымавак, фразеалагізмаў, якімі шчодра надзяліў паэму Я. Семяжон. Па-трэцяе, у перакладзе У. Шатона адчувалася недастатковае валоданне перакладчыкам беларускай мовай і недахоп паэтычнага майстэрства.

Слушна адзначае Ж. Некрашэвіч-Кароткая: «Калі ў адаптацыі Я. Семяжона паэма Мікалая Гусоўскага, хаця і пераапранутая ў другое адзенне, дыхала жыватворнай сілай мастацкага слова, то паслоўны, часам нават педантычны пераклад У. Шатона, які павінен быў вярнуць паэму ў яе першапачатковае вобразна-тэматычнае ўлонне, нечакана зрабіўся цесным для паэтычнага хараства і слоўнай выяўленчасці. “Песня пра зубра” ў перакладзе У. Шатона быццам бы “застыла”. У чытача ўзнікае ўражанне заціснутасці роднай мовы рамкамі элегічнага двуверша, калі перакладчык “metri causa” ўжывае ненатуральны парадак слоў або сінкапіраваныя словаформы»[1].

Упершыню пераклад У. Шатона быў апублікаваны толькі ў 1991 г. у часопісе «Спадчына» (№ 2) з пасляслоўем П. Садоўскага, а ў 1994 г. выдадзены асобнай кніжачкай выдавецтвам Беларускага гуманітарнага ліцэя з прадмовай А. Жлуткі. Менавіта ў перакладзе У. Шатона апублікавана «Песня пра зубра» ў хрэстаматыі «Старабеларуская літаратура. XI–XVIII стст». (пад рэд. Г. Тварановіч, Беласток, 2004). Нягледзячы на мастацкія недахопы, пераклад У. Шатона заслугоўваў публікацыі: магчыма, чытаць «Песню пра зубра» прыемней у перакладзе Я. Семяжона, але цытаваць у навуковых і навукова-папулярных артыку-

[1] Некрашэвіч-Кароткая Ж.В. Беларуская лацінамоўная паэзія… С. 182–183.

лах — лепей у перакладзе У. Шатона, тады не давядзецца аналізаваць фрагменты, якія адсутнічаюць у арыгінале і пярэчаць светапогляду паэта.

Аднак менавіта перастварэнне Я. Семяжона аналізуецца ў працы Уладзіміра Конана «Мастацкая культура Беларусі эпохі Рэнесансу»[1] і ў падручніку Алега Лойкі «Старабеларуская літаратура» (Мінск, 2001), прычым у падручніку цытуюцца амаль усе фрагменты паэмы з дапісанымі Я. Семяжонам радкамі[2]. Інтэрпрэтацыя некаторых фрагментаў вымагала ад аўтара падручніка вялікай вынаходлівасці. Напрыклад, як растлумачыць з'яўленне ў паэме, якая ўслаўляе паляванні і князя Вітаўта, гнеўных радкоў з асуджэннем княскіх ловаў?

...Забойная гэта забава —
Проста шалёная прыхамаць князя-вар'ята,
І не адмые нявіннай крыві венцаносец
З лаўраў сваіх паляўнічых і ратнае славы[3].

А. Лойка выказвае думку, што ў гэтых радках М. Гусоўскі асуджае свайго сучасніка, караля Сігізмунда[4]. Але насамрэч гэты фрагмент проста недакладна і тэндэнцыйна перакладзены Я. Семяжонам, у арыгінале паэмы з гэтых радкоў пачынаецца пахвала Вітаўту, і гучаць яны ў перакладзе У. Шатона наступным чынам:

Скажа той-сёй, што зуброў паляваць —
неразумны занятак,

[1] Конан У. Мастацкая культура эпохі Рэнесансу. С. 2–7.

[2] Цяжка сказаць, чаму вопытны літаратуразнаўца Алег Лойка так даверыўся перакладу Я. Семяжона. Напэўна, паўплывала рамантычнае захапленне «легендай Гусоўскага». Пераклад У. Шатона яму не падабаўся, хаця чытаў ён яго яшчэ ў рукапісе, і менавіта А. Лойка пазнаёміў мяне з У. Шатонам і яго перакладамі.

[3] Гусоўскі М. Песня пра зубра / пер. Я. Семяжона, С. 94.

[4] Лойка А.А. Старабеларуская літаратура. С. 247.

Ловы такія нясуць згубу для многіх людзей.
Ды пахвалу ці віну апраўдае зачынца суровы,
Храбрага мужа імя славяць і ў нашыя дні[1].

Трэба адзначыць, што ў прапанаванай А. Лойкам інтэрпрэтацыі паэмы М. Гусоўскага нямала цікавых назіранняў і думак, як і ў інтэрпрэтацыі У. Калесніка, які таксама абапіраўся ў сваіх высновах на перастварэне Я. Семяжона. Напрыклад, пра сінтэз у «Песні пра зубра» язычніцкіх і хрысціянскіх элементаў, сярэднявечных і адраджэнскіх, сімвалічных і рэалістычных[2]. У той жа час аналіз паэтыкі твора (метафар, эпітэтаў, параўнанняў) на падставе адвольнага перакладу выглядае як філалагічны кур'ёз.

* * *

Кананізаванасць у беларускай культурнай прасторы перастварэння Я. Семяжона і вялікая заслуга гэтага перакладчыка ў папулярызацыі імя і творчасці Мікалая Гусоўскага ў грамадскай свядомасці, а таксама мастацкая недасканаласць перакладу У. Шатона прывялі да парадаксальнай сітуацыі: нягледзячы на недакладнасць і тэндэнцыйнасць перакладу Я. Семяжона яго ўсё роўна ўключаюць у навуковыя анталогіі і хрэстаматыі[3], перавыдаюць у складзе розных зборнікаў і асобнымі выданнямі, на яго падставе аналізуецца «Песня пра зубра» ва ўніверсітэцкіх і школьных падручніках. Не змяніла гэтую сітуацыю і публікацыя ў Беларусі перакладу «Песні пра зубра» паэткі-эмігранткі Наталлі Арсенневай (ч-с «Крыніца». 1997. № 7), бо, як слушна адзначае Ж. Некрашэвіч-Кароткая, «беларуская

---

[1] Гусоўскі М. Песьня пра зубра / пер. У. Шатона. С. 34.

[2] Лойка А.А. Старабеларуская літаратура. С. 243.

[3] Гл. напр. акадэмічную «Анталогію даўняй беларускай літаратуры : XI — першая палова XVIII стагоддзя».

паэтка ўдасканаліла ў моўных адносінах тэкст Я. Семяжона, стварыўшы чарговы пераспеў паэмы»[1].

Здавалася б, варта з'явіцца новаму, дакладнаму і адначасова дасканаламу ў мастацкіх адносінах перакладу «Песні пра зубра» — такому, як пераклад Яна Каспровіча на польскую мову альбо Андрэя Садаморы на ўкраінскую, — і ён адразу замяніць заслужаны, але «маральна састарэлы» пераклад Я. Семяжона. Але ці гатовая беларуская нацыя ў XXI ст. пераасэнсаваць «легенду Гусоўскага» і ўбачыць, дзякуючы новаму перакладу, іншага паэта: хрысціянскага кніжніка, а не народнага самародка, еўрапейскага гуманіста, а не беларускага патрыёта-сепаратыста?

Спадзявацца на станоўчы адказ на гэтае пытанне дазваляе з'яўленне ў XXI ст. новых даследаванняў і інтэрпрэтацый творчасці паэта, сярод якіх асабліва вылучаюцца працы літаратуразнаўцаў-лацінiстаў А. Жлуткі і Ж. Некрашэвіч-Кароткай.

Алесь Жлутка падрыхтаваў у свой час невялікую прадмову да выдання шатонаўскага перакладу «Песні пра зубра», ён жа цяпер напісаў грунтоўны раздзел «Мікола Гусоўскі» для першага тома акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў» (пад рэд. В. Чамярыцкага. Мінск, 2006). Даследчык выкарыстоўвае ўсе вядомыя біяграфічныя крыніцы пра Гусоўскага і ягонага мецэната Эразма Вітэлія, выказвае свае адносіны да шматлікіх гіпотэз польскіх і беларускіх вучоных пра жыццё і творчасць паэта, а самае галоўнае — арыгінальна і смела інтэрпрэтуе творы Гусоўскага, звяртаючыся непасрэдна да лацінскіх арыгіналаў і цытуючы свае ўласныя падрадковыя пераклады.

---

[1] Некрашэвіч-Кароткая Ж.В. Беларуская лацінамоўная паэзія... С. 182.

А. Жлутка слушна адзначае, што для пранікнення ў семантыку «Песні пра зубра» неабходна зразумець сэнс і семантыку галоўнага вобраза твора — зубра. Усе беларускія даследчыкі XX ст. згодна бачылі ў вобразе зубра сімвал Беларусі і беларускага народа. Польскі літаратуразнаўца Я. Чапляевіч не згаджаўся з гэтым і задаваў іранічнае пытанне: калі зубр сімвалізуе Беларусь, што ж у такім разе сімвалізуе паляванне на зубра і яго забойства, якую сілу ўвасабляюць паляўнічыя на чале з князем Вітаўтам?[1]. Нібыта ў працяг гэтай дыскусіі, А. Жлутка піша пра рытуальны, сакралізаваны характар палявання на зубра ў паэме Гусоўскага, у вобразе зубра бачыць адлюстраванне архаічных уяўленняў продкаў, касмаганічных міфаў і матываў антычнай трагедыі: «Звяртае на сябе ўвагу рытуалізаванасць палявання: на зубра нельга выходзіць з агняпальнаю зброяю, з ім нельга змагацца падступнымі спосабамі, забіваць яго можна толькі ў адкрытым баі і толькі мячом, прычым коннік павінен спешыцца. У час ловаў зубр называецца табуізаваным іменем “звер”, але надзяляецца чалавечымі якасцямі. <...> Шмат якія прадстаўленыя ў паэме асаблівасці вобраза зубра дазваляюць бачыць у ім колішняга татэма. У ім зліваюцца ў адно цэлае сам канкрэтны звер, ягоны антаганіст — паляўнічы калектыў, увесь народ і яго зверхнік — князь, лес і вада, увесь сусвет»[2].

Можа не падабацца катэгарычнасць, з якой А. Жлутка залічвае Гусоўскага да беларускага пісьменства, адмаўляючы ў праве на паэта літоўскай, украінскай або польскай літаратурам, але выснова пра блізкасць мастацкага свету «Песні пра зубра» беларускаму вобразу свету

---

[1] Czaplejewicz E. Współczesne przekłady poematu Hussowskiego w świetle heterogeniczności. S. 51.

[2] Жлутка А. Мікола Гусоўскі. С. 341.

і асаблівасцям нацыянальнага характару беларусаў не выклікае пярэчання: «Свет Гусоўскага — гэта беларускі свет з дамінаваннем галоўных яго складовых частак — лесу і вады, з арганізуючым яго ў прасторы і часе "сусветным дрэвам", з рухаючым фактарам — касмічным змаганнем двух антаганістычных пачаткаў: інстынктыўнага, звярынага і разумнага, чалавечага, увасобленым у драме паміраючага і ўваскрасаючага боства-звера. У "Песні пра зубра" адкрываецца глыбінная сутнасць нацыянальнага характару беларуса — ляснога народа, народа-паляўнічага»[1].

У адрозненне ад У. Калесніка і В. Дарашкевіча, якія лічылі Гусоўскага аўтарам аднаго твора — «Песні пра зубра», а ўсе іншыя творы паэта ацэньвалі даволі крытычна, А. Жлутка разглядае творчасць Гусоўскага як эстэтычна-цэласную сістэму, знаходзіць у рымскіх вершах паэта і асабліва ў паэме «Пра жыццё і подзвігі святога Гіяцынта» шмат універсальных філасофскіх разважанняў, прарочых думак і прадчуванняў: «Як чалавек вялікай інтуіцыі і сапраўдны творца, М. Гусоўскі адчуў, што расхістванне хрысціянскай традыцыі непазбежна прывядзе да злому ў людской душы, дзе страцяць святасць і вартасць свет, грамадства і сам чалавек, а дэсакралізацыя жыцця, вынясення sacrum за яго рамкі стануць найвялікшай шкодаю для ўсяго чалавецтва. І сапраўды, трагічны "надлом" свету, які толькі пазначыўся ў часы Рэнесансу, дасягнуў кульмінацыі ў XX ст., калі руйнаванне традыцыі, прэтэнзіі на перараробку чалавека, прыроды, грамадства і свету, іх звядзенне да катэгорыі абстрактных "адзінак", філасофскае "шаленства рацыяналізму" (паводле вызначэння М. Бярдзяева) і багаборства дасягнулі крытычнай кропкі, праравўшыся вонкі ў бальшавізме і нямецкім фашызме»[2].

---

[1] Жлутка А. Мікола Гусоўскі. С. 342.

[2] Тамсама. С. 355.

Некаторыя сцвярджэнні А. Жлуткі ўяўляюцца дыскусійнымі перабольшаннямі (наконт параляляў вобраза зубра з Перуном і Воласа-Вялесам, наконт прароцтваў Гусоўскага ажно да прадбачання рэвалюцыі, бальшавізму і фашызму), але не выклікае сумненняў канцэптуальнасць і навізна ягонай інтэрпрэтацыі творчасці паэта.

Новым этапам у вывучэнні творчасці Мікалая Гусоўскага сталі таксама даследаванні Жанны Некрашэвіч-Кароткай, яе шматлікія артыкулы і манаграфія «Беларуская лацінамоўная паэзія: ранні Рэнесанс» (Мінск, 2009), якая ўжо неаднаразова цытавалася ў нашай працы. Другі раздзел манаграфіі — «Паэзія Мікалая Гусоўскага» — з'яўляецца на сённяшні дзень найбольш поўнай і сістэматычнай «энцыклапедыяй» ведаў пра творчасць Гусоўскага: тут прасочваецца жыццёвы шлях паэта, скрупулёзна апісваецца яго творчая спадчына (з указаннем месцазнаходжання таго ці іншага выдання і бібліятэчнага шыфра), падрабязна аналізуюцца творы і ацэньваецца мастацкая вартасць іх перакладаў на розныя мовы.

Беларуская даследчыца абапіраецца не толькі на працы айчынных і польскіх літаратуразнаўцаў, але цытуе таксама літоўскіх, украінскіх, нямецкіх і амерыканскіх вучоных. Такім чынам, Ж. Некрашэвіч-Кароткая выконвае важную задачу — падсумаваць і сістэматызаваць вялікі даробак папярэднікаў і выказаць свае адносіны да прапанаваных імі думак і высноў: пацвердзіць, удакладніць, аспрэчыць. Дзеля гэтага даследчыца звяртаецца, па-першае, да лацінскага арыгінала твораў Гусоўскага, а па-другое, параўноўвае паміж сабой фрагменты беларускага, рускага, польскага і ўкраінскага перакладаў, ствараючы сапраўды кампаратывістычнае даследаванне.

Ж. Некрашэвіч-Кароткая не адмаўляе літоўскім, украінскім і польскім калегам у праве прэтэндаваць на спадчыну Гусоўскага, бо «той уклад, які зрабілі вучоныя розных

нацыянальных школ у справу вывучэння і папулярызацыі творчасці Мікалая Гусоўскага, дазваляе ідэнтыфікаваць яго паэмы і вершы як прыналежныя да гісторыі розных еўрапейскіх літаратур»[1]. Разам з тым даследчыца перакананая ў беларускім паходжанні паэта і нават прапануе сваю ўласную гіпотэзу лакалізацыі месца нараджэння Гусоўскага: вёскі Уза ці Старая Гусевіца ў Буда-Кашалёўскім раёне Гомельскай вобласці (блізка да Дняпра і да Украіны). Гіпотэза Ж. Некрашэвіч-Кароткай выглядае не менш праўдападобнай, чым гіпотэзы В. Дарашкевіча ці Г. Каржанеўскага[2], і грунтуецца на праўдзівасці слоў Гусоўскага, нібыта ў пагоні за зубрам ён пераплываў на кані Барысфен. Даследчыца перакананая, што паэт меў на ўвазе канкрэтна Днепр, а не іншую раку ў Вялікім Княстве Літоўскім. Заўважым, аднак, што нарадзіцца паэт мог у адным месцы, а ўдзельнічаць у паляваннях — зусім у іншых. У якіх? Улюбёным і найбольш вядомым месцам паляванняў вялікіх князёў літоўскіх была Белавежская пушча, найбліжэйшым ад Вільні — Налібоцкая пушча (менавіта там, відаць, адбываліся паляванні з удзелам прыдворных дам), акрамя таго кожны магнат наладжваў паляванні ў сваіх уладаннях, а напярэдадні ваенных паходаў нарыхтоўка дзічыны вялася па ўсіх беларускіх лясах...

Каштоўнасць манаграфіі Ж. Некрашэвіч-Кароткай палягае не толькі на выпраўленні шматлікіх памылак папярэднікаў, але і на сцвярджэнні ўласных думак і гіпотэз, адны з якіх выглядаюць слушнымі і аргументаванымі, іншыя — паспешлівымі і дыскусійнымі.

---

[1] Некрашэвіч-Кароткая Ж.В. Беларуская лацінамоўная паэзія... С. 104.

[2] Корженевский Г. Песня о зубре // Советская Белоруссия. 2007. 23 окт.

Як бы ні прызвычаіліся мы называць Гусоўскага Міколам, але, відаць, мае рацыю Ж. Некрашэвіч-Кароткая, настойваючы на форме «Мікалай» як больш карэктнай у дачыненні да паэта-ксяндза Гусоўскага. Даследчыца слушна лічыць, што факт выдання кніг Гусоўскага ў Кракаве не азначае, што менавіта там пасяліўся паэт, вярнуўшыся з Рыма. Яна пераканаўча даказвае, што на 56-й старонцы кракаўскага выдання «Песні пра зубра» змешчаны партрэт Мікалая Гусоўскага, а не друкара (дарэчы, Ж. Некрашэвіч-Кароткая першая «дадумалася» да гэтага, таму што першая з беларускіх даследчыкаў узяла ў рукі не пазнейшыя перадрукі і не фотакопію паэмы, а ўнікальны кракаўскі экзэмпляр 1523 г.). Сапраўды, відаць, Гусоўскі заканчваў працу над «Песняй пра зубра», ужо вярнуўшыся з Рыма, пра што сведчыць зварот да караля Жыгімонта Першага ў тэксце паэмы, а рашэнне паэта прысвяціць «Песню пра зубра» каралеве Боне тлумачылася, відаць, не толькі яе страсцю да паляванняў, але і яе прагматычнымі сувязямі з радзімай паэта: многія землі Вялікага Княства Літоўскага належалі менавіта каралеве.

Цікавай з'яўляецца гіпотэза Ж. Некрашэвіч-Кароткай пра ўдзел М. Гусоўскага ў падрыхтоўцы Статута Вялікага Княства Літоўскага 1529 г., хаця аргументы даследчыцы ў падтрымку гэтай гіпотэзы не вельмі пераканаўчыя[1]. Нязгоду выклікае інтэрпрэтацыя вобраза зубра як увасаблення турэцкай агрэсіі: «...Жорсткі, ашалелы ў сваёй лютасці звер — алегорыя бязлітасных нападнікаў-мусульман»[2]. Рэальны выпадак са шляхціцам Лаўрынам, які памёр на ловах ад страху, даследчыца прапануе разумець алегарычна: «Няма сумнення, што гэта алегарычнае ўвасабленне

[1] Некрашэвіч-Кароткая Ж.В. Беларуская лацінамоўная паэзія... С. 147–148.

[2] Тамсама. С. 169.

напалоханай Еўропы, якая гатова скласці зброю перад грозным Асманам»[1]. Як часта здараецца з аналізам загадкавага паэтычнага свету «Песні зубра», літаратуразнаўчая інтэрпрэтацыя ператвараецца ў *надынтэрпрэтацыю*.

У дадатку да названай манаграфіі змешчаны пераклады на беларускую мову пяці вершаў Мікалая Гусоўскага, выкананыя Ж. Некрашэвіч-Кароткай у сааўтарстве з І. Шкірдзюк, і пераклад урыўкаў з паэмы «Пра жыццё і подзвігі святога Гіяцынта», здзейснены Ж. Некрашэвіч-Кароткай самастойна (раней гэтыя пераклады друкаваліся ў навуковых і літаратурна-мастацкіх часопісах). Шкада, што ў «Дадатак» не ўвайшлі пераклады эпіграм, прадмоў і прысвячэнняў з прадмоўна-пасляслоўнага комплексу кракаўскага выдання «Песні пра зубра» (таксама перакладзеныя Ж. Некрашэвіч-Кароткай і апублікаваныя ў часопісах).

Новыя пераклады твораў Мікалая Гусоўскага дазваляюць спадзявацца, што неўзабаве беларускі чытач атрымае не чарговае перавыданне «Песні пра зубра» ў «пераказе» Я. Семяжона, а зборнік усіх вядомых нам твораў паэта ў арыгінале і ў перакладзе на беларускую мову. На жаль, не ўсе вершы Гусоўскага яшчэ перакладзены, няма поўнага перакладу паэмы «Пра жыццё і подзвігі святога Гіяцынта», шмат недахопаў у перакладу паэмы «Пра перамогу над туркам» Я. Парэцкага і Ю. Свіркі (апублікаваны ў 1990 г. ў № 6 часопіса «Полымя»). І канечне, выданне такога зборніка не мае сэнсу без новага перакладу «Песні пра зубра» — годнага таленту вялікага паэта і адпаведнага развіцця беларускай культуры ў XXI ст.

Падсумоўваючы, трэба адзначыць, што феномен Гусоўскага — гэта ў першую чаргу феномен «Песні пра

---

[1] Некрашэвіч-Кароткая Ж.В. Беларуская лацінамоўная паэзія... С. 157.

зубра», унікальнага твора, які ў адрозненне ад большасці твораў шматмоўнай паэзіі Вялікага Княства Літоўскага не толькі прамаўляў да розуму сучаснікаў, але і адгукнуўся ў сэрцах нашчадкаў.

Значэнне «Песні пра зубра» для беларускай літаратуры выходзіць за межы нейкіх вузкажанравых, фармальных традыцыяў: услед за Скарынам, які першы ў гісторыі грамадскай думкі Беларусі ўзняў паняцце патрыятызму да вышыні найкаштоўнейшых чалавечых дабрачыннасцяў[1], Гусоўскі першы ў літаратуры Беларусі стварыў паэтычны твор *сусветнага* ўзроўню, прасякнуты патрыятычнымі ідэямі і настроямі, выказаў сваё грамадзянскае пачуццё любові да Айчыны непасрэдна мовай яркіх мастацкіх вобразаў. Велічны гімн прыродзе і гістарычнаму мінуламу Вялікага Княства Літоўскага, «Песня пра зубра» аказалася надзвычай блізкая ментальнасці беларусаў і заслужана заняла ў гісторыі нацыянальнай літаратуры месца побач з такімі паэтычнымі шэдэўрамі, як «Адвечная песня» Янкі Купалы і «Новая зямля» Якуба Коласа.

Наступная важная заслуга Мікалая Гусоўскага — узвелічэнне асобы князя Вітаўта як вобраза ідэальнага ўладара, як увасабленне народнага гераічнага ідэалу. Менавіта князь Вітаўт стаў у шматмоўнай літаратуры Вялікага Княства Літоўскага той постаццю, якая інтэгравала ў адно цэлае, збірала ў агульнае рэчышча патрыятызм розных народаў гэтай шматнацыянальнай дзяржавы. Слушна адзначае гэтую асаблівасць «Песні пра зубра» Я. Чапляевіч: «Вітаўт з’яўляецца тут міфам. Упершыню ў літаратуры выступае ён так выразна як міф асабовы, *культурны знак* таго, што можна ўмоўна назваць *крэсавай*

---

[1] Падокшын С. Роля антычных традыцый у развіцці культуры і грамадскай думкі на Беларусі ў XVI–XVII ст. // Беларуская літаратура. Мінск, 1977. С. 12. Вып. 5.

*культурай.* <...> Уласна адсюль, з лацінскай і рымскай паэмы пра зубра, князь Вітаўт распачаў свой вялікі паход — больш вялікі, чым усе ягоныя ваенныя выправы пры жыцці — праз літаратуры на розных мовах: польскай, старарускай, літоўскай, лацінскай, беларускай, расійскай, украінскай і яшчэ іншых»[1].

Што тычыцца феномена самога Мікалая Гусоўскага, ён бачыцца менавіта ў яго «поліэтнічнасці» і «шматкультурнасці», у плённым функцыянаванні як пісьменніка на памежжы двух культурных арэолаў (усходне-візантыйскага і заходне-лацінскага) і ў прыналежнасці адразу да некалькіх нацыянальных літаратур, якія ўзыходзяць да багатай шматмоўнай спадчыны Вялікага Княства Літоўскага.



[1] Czaplejewicz E. Współczesne przekłady poematu Hussowskiego w świetle heterogeniczności. S. 52.



# Эпістальярная спадчына Барбары Радзівіл

У беларускай культурнай прасторы Барбара Радзівіл (каля 1520 — 1551) вядома сёння ў першую чаргу як гераіня п'ес «Барбара Радзівіл» Раісы Баравіковай і «Чорная панна Нясвіжа» Аляксея Дударава, а таксама шматлікіх белетрызаваных нарысаў Э. Рудскага, В. Чаропкі, І. Масляніцынай, К. Шышагінай-Патоцкай ды іншых аўтараў, захопленых незвычайным лёсам «ліцвінскай прыгажуні», каханкі, а потым жонкі вялікага князя літоўскага і караля польскага Жыгімонта Аўгуста.

Але Барбара Радзівіл мае непасрэднае дачыненне таксама да *даўняй* беларускай літаратуры: і як *гераіня*, і як *аўтарка* шэрагу помнікаў пісьменства эпохі Рэнесансу. Калі асэнсоўваць ролю, якую адыграла Барбара Радзівіл не ў інтымным жыцці Жыгімонта Аўгуста, а ў развіцці шматмоўнага пісьменства Вялікага Княства Літоўскага, неаднаразова давядзецца ўжываць словы *ўпершыню, першая*.

Упершыню адлюстраванне любоўных адносінаў мужчыны і жанчыны з'яўляецца ў даўняй беларускай літаратуры толькі ў сярэдзіне XVI ст. (згаданы ў «Аповесці мінулых гадоў» і ў пазнейшых старажытнаўсходнеславянскіх летапісах гвалт наўгародскага князя Уладзіміра над полацкай князёўнай Рагнедай любоўнымі ўзаемаадносінамі назваць не выпадае). У трэцяй рэдакцыі «Хронікі Вялікага

Княства Літоўскага і Жамойцкага» (канец 40-х гг. XVI ст.) змешчаны аповед пра каханне Жыгімонта Аўгуста і Барбары Радзівіл.

Летапісны аповед пачынаецца паведамленнем пра смерць у 1545 г. жонкі Жыгімонта Аўгуста — аўстрыйскай прынцэсы Альжбеты. Увага аўтара не цалкам сканцэнтравана на асноўным сюжэце, бо, распавёўшы пра пахаванне Альжбеты, летапісец згадвае пра атрыманне ў гэтым жа годзе староства Жамойцкага Геранімам Хадкевічам, які не мае ніякага дачынення да гісторыі кахання Жыгімонта і Барбары. Ды і сама гэта гісторыя трапіла на старонкі летапіса толькі таму, што датычыла караля і лёсаў дзяржавы, аўтар яўна не ўхваляе паводзіны Жыгімонта Аўгуста: «Потым кароль Аўгуст, пахаваўшы цела жонкі сваёй і будучы чалавекам маладым, не мог стрымаць прыроджанае хцівасці да белых галоваў і пачаў мілаваць паню Барбару Радзівіл, якая стала ўдавою пасля смерці пана Станіслава Ольбрахтавіча Гаштольта»[1].

У адпаведнасці з традыцыйна-патрыярхальным поглядам на свет пра пачуцці і паводзіны Барбары Радзівіл нічога не гаворыцца, яна — толькі аб'ект жарсці Жыгімонта, чарговая выбранка па-італьянску тэмпераментнага каралевіча. З іншага боку, у беларуска-літоўскім летапісе нічога не гаворыцца «пра прыроджаную хцівасць» Барбары Радзівіл да мужчын, якую свядома падкрэслівалі і гіпербалізавалі тагачасныя польскія аўтары (Мікалай Рэй, Станіслаў Ажахоўскі, Анджэй Гурка). Этапы ўзаемаадносінаў Жыгімонта і Барбары адлюстраваны ў летапісе досыць паслядоўна: закаханасць, жарсць, каханне, ажэнства. Найбольш падрабязна і маляўніча апісаны вырашальны момант узаемаадносін: «І кароль пачаў хадзіць да Барбары

---

[1] Беларускія летапісы і хронікі / укл. У. Арлова. Мінск, 1997. С. 174.

па начах з палаца аж да яе дома і там, у яе, бываў часта. Пачулі пра тое на ўсёй зямлі Польскай і Літоўскай, і браты Барбары прасілі караля, каб так рабіць перастаў, і да сястры іхняе не хадзіў, і няславы дому іхняму не чыніў. Кароль абяцаў да яе не хадзіць і не хадзіў доўгі час, але потым моцы прыроджанае далей трываць не мог і зноў пайшоў да яе ўночы»[1].

Як бачым, спачатку Жыгімонт адмаўляецца ад Барбары, бо іх адносіны зайшлі занадта далёка як для лёгкага флірту, але потым каханне (юрлівасць, на думку летапісца) перамагае ў ім разважлівасць і асцярожнасць, што і прыводзіць яго ў пастку, загадзя падрыхтаваную братамі Барбары, Мікалаем Радзівілам Чорным і Мікалаем Радзівілам Рудым: «А паны Радзівілы таго і пільнавалі, і калі кароль да сястры іхняе ўвайшоў, тут жа яны з'явіліся і мовілі яму: «Міласцівы каролю, абяцаў ты да сястры нашае не хадзіць, дык чаго ж ты цяпер прыйшоў?» І кароль ім адказаў: «А ці ведаеце, што, можа, цяперашні прыход мой да вашае сястры ўчыніць вам вялікую славу, гонар і пажытак?». А яны сказалі: «Дай то Божа», і ў той жа час плябана прывялі, якога дзеля тае нагоды напагатове мелі, і аддалі патаемна сястру сваю за караля»[2].

Працытаваны фрагмент — найбольш драматычны і экспрэсіўны ў летапісным аповедзе, напісаны да таго ж у дыялагічнай форме, невыпадкова гэтую сцэнку амаль даслоўна «перанеслі» ў свае п'есы Алойзы Феліньскі, Юозас Грушас, Раіса Баравікова і Аляксей Дудараў, услед за летапісцам апісваюць патаемны шлюб Жыгімонта і Барбары ў 1547 г. аўтары шматлікіх навукова-папулярных кніг, артыкулаў і нарысаў пра жыццё Барбары Радзівіл (З. Куховіч, В. Чаропка, І. Масляніцына і інш.) Заўважым,

[1] Беларускія летапісы і хронікі. С. 174.

[2] Тамсама. С. 174.

што ў гэтай хрэстаматыйнай сцэне сама гераіня знаходзіцца як бы на другім плане, у спрэчку братоў з каханкам яна не ўмешваецца, ніхто не пытае яе меркавання, як і згоды на патаемны шлюб. Для беларускага летапісца XVI ст. Барбара Радзівіл — аб'ект увагі, выбранніца вялікага князя літоўскага і будучага караля польскага Жыгімонта Аўгуста, прычым выбранніца не найлепшая, не адпаведная рангам і невыгодная з палітычнага пункту гледжання.

На наступных старонках летапісу апісваецца барацьба каралевіча Жыгімонта за прызнанне сапраўднасці заключанага з Барбарай Радзівіл шлюбу: барацьба з бацькамі, каралём Жыгімонтам і каралевай Бонай, з польскімі, а таксама з беларускімі ды літоўскімі магнатамі і шляхтай. Нечаканая смерць у 1548 г. Жыгімонта Старога зрабіла пазіцыю ягонага сына і наступцы Жыгімонта Аўгуста больш устойлівай, але і задача ўскладнілася: цяпер ужо Жыгімонт змагаўся за прызнанне Барбары не толькі сваёй законнай жонкай, але і каралевай Польшчы, што выклікала абурэнне амаль усяго грамадства. Праўда, у беларуска-літоўскім летапісе шматпакутная падрыхтоўка да каранацыі, урачыстая каранацыя і трагічная смерць Барбары ў 1551 г. не апісваюцца, аповед заканчваецца паведамленнем пра афіцыйнае абвяшчэнне Жыгімонтам Аўгустам свайго шлюбу з Барбарай, якое адбылося ў красавіку 1548 г. у Вільні: «Кароль Аўгуст спаткаў Барбару ў сенях каля дзвярэй і тут, прывітаўшыся з ёю, распавёў усім панам, што ўжо даўно пабраўся з ёю ды шлюб узяў. Паны і дваране каралеўскія правялі яе ў палац, дзе яшчэ першыя каралевы жылі, а кароль пайшоў да свайго пакоя. Гэтаму ажэнству каралёваму паны і ўся шляхта і рыцарства, апрача дому Радзівілавага, не былі радыя і вельмі засмуціліся, але таго ўжо змяніць не маглі»[1].

[1] Беларускія летапісы і хронікі. С. 176.

Адзначым яшчэ раз, што, не ўхваляючы паводзіны Жыгімонта Аўгуста і разумеючы негатыўныя палітычныя наступствы ягонага шлюбу з Барбарай Радзівіл, летапісец не асуджае саму Барбару: не пераказвае шматлікія плёткі пра яе свавольствы і разбэшчанасць, не згадвае версіі пра насланне на Жыгімонта любоўных чараў варажбіткай Барбары, не вытлумачвае яе паводзіны пыхай і славалюбствам. У адпаведнасці з летапіснай традыцыяй беларускі аўтар прысвячае вобразу Барбары занадта мала ўвагі ў параўнанні з вобразам Жыгімонта, але і не імкнецца перакласці на яе віну за «няўхвальныя» падзеі, не разбаўляе свой аповед крытычнымі выказваннямі ў яе адрас.

Як вядома, шлюб Жыгімонта Аўгуста і Барбары Радзівіл выклікаў гучны рэзананс у тагачаснай літаратуры Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага. З'явіліся шматлікія сатырычныя вершы і публіцыстычныя памфлеты супраць Барбары (напрыклад, аўтарства Мікалая Рэя і Станіслава Ажахоўскага) і асобныя панегірычныя вершы ў яе гонар (напрыклад, аўтарства Станіслава Кашуцкага і Пятра Раізія). Як процівагу галасам нядобразычліўцаў у зацятай дыскусіі можна разглядаць сёння лісты самой Барбары да Жыгімонта Аўгуста, хаця яны мелі прыватны характар і, канечне, не прызначаліся для друку. Але дзякуючы гэтым лістам сучасны чытач можа скласці самастойнае ўяўленне пра асобу Барбары Радзівіл і яе духоўны свет, атрымаць інфармацыю пра яе пачуцці да Жыгімонта Аўгуста, так бы мовіць, «з першых рук».

Эпісталаграфія ў эпоху Рэнесансу дасягнула высокага ўзроўню развіцця, папулярнасцю ў грамадстве карысталіся падручнікі ars epistolandi, дзе вызначаліся правілы напісання лістоў, формы звароту да адрасатаў, кампазіцыя і стыль пасланняў у залежнасці ад узаемаадносінаў аўтара і адрасата (службовыя, камерцыйныя, сяброўскія, любоўныя, сямейныя і інш.), даваліся гатовыя ўзоры, за-

пазычаныя з антычнай спадчыны. Прыватная перапіска з'яўлялася адной з разнавіднасцяў эпісталярнага жанру, існавалі яшчэ лісты дзелавыя, рэлігійна-палемічныя, грамадска-публіцыстычныя і г.д., але менавіта ў прыватных лістах найбольш яскрава адлюстраваўся суб'ектыўны сусвет пачуццяў чалавека XVI ст., інтымныя бакі жыцця нашых продкаў, сарамліва «замоўчаныя» афіцыйнай літаратурай.

Невыпадкова прыватная перапіска слаўных людзей, а тым больш любоўныя лісты з даўніх эпох прыцягвалі пільную ўвагу польскіх гісторыкаў[1] і цешыліся нязменнай папулярнасцю ў чытачоў, пра што сведчыць выданне зборнікаў «Польскія любоўныя лісты»[2], «Любоўныя лісты славутых людзей», «Польскія любоўныя лісты ад XV да XIX стагоддзя»[3], «Польскія любоўныя лісты даўніх часоў»[4], «Любоўныя лісты даўніх палякаў»[5], «Старапольскія лісты з эпохі Вазаў»[6]. У большасці з гэтых зборнікаў прадстаўлена і перапіска Барбары Радзівіл з Жыгімонтам Аўгустам, хаця іх лісты цяжка назваць любоўнымі ў сучасным разуменні гэтага слова.

Беларускага чытача з эпісталярнай спадчынай Барбары Радзівіл упершыню пазнаёміла маладая даследчыца На-

---

[1] Sajkowski A. Staropolska miłość : z dawnych listów i pamiętników. Poznań, 1981; Kuchowicz Z. Miłość staropolska : wzory — uczuciowość — obyczaje erotyczne XVI–XVIII wieku. Łódź, 1982.

[2] Bruchnalski W. Polskie listy miłosne. Lwów, 1907.

[3] Merwin B. Listy miłosne sławnych ludzi. Lwów ; Poznań, 1922; Merwin B. Polskie listy miłosne od XV do XIX wieku. Lwów ; Poznań, 1922.

[4] Ganszyniec R. Polskie listy miłosne dawnych czasów. Lwów, 1925.

[5] Misiorny M. Listy miłosne dawnych Polaków. Kraków, 1971.

[6] Malewska H. Listy staropolskie z epoki Wazów. Warszawa, 1977.

талля Русецкая, апублікаваўшы ў часопісе «Спадчына» тры лісты Барбары і адзін адказ Жыгімонта Аўгуста ў перакладзе на беларускую мову[1]. Публікацыі лістоў папярэднічае невялікі ўступны артыкул перакладчыцы, які на сённяшні дзень з'яўляецца адзіным сціплым даследаваннем эпісталярнай спадчыны Барбары Радзівіл у беларускім літаратуразнаўстве. Значна большую зацікаўленасць гэтай тэмай праяўляюць літоўскія медыявісты, пра што сведчыць грунтоўная манаграфія Р. Рагаўшкене і А. Рагаўскаса «Лісты Барбары Радзівіл да Жыгімонта Аўгуста і іншыя: даследаванне жаночай карэспандэнцыі Вялікага Княства Літоўскага XVI ст.»[2].

Як ужо адзначалася, перапіску Барбары Радзівіл з Жыгімонтам Аўгустам з сённяшняга пункту гледжання цяжка назваць любоўнай: у гэтых лістах шмат месца займаюць афіцыйныя звароты («Яго каралеўскай мосці, майму міласціваму пану...»; «Найяснейшы міласцівы кароль, пане, а пане мой міласцівы...»), распаўсюджаныя ў тую эпоху выразы ветлівасці, пажаданні здароўя і ўдачы ў падарожжах ды дзяржаўных справах («Вашай каралеўскай мосці, свайму міласціваму пану ад пана Бога жадаю доўгага фартуннага здароўя...»; «мой міласцівы пан меў ласку даць знаць у сваім лісце пра здароўе Вашай каралеўскай мосці, на той час фартуннае, што я слуга Вашай каралеўскай мосці чуць рада, і тое ўважаю сабе вышэй за ўсе пацехі на свеце і за ўласнае сваё здароўе, такога ж фартуннага Вашай каралеўскай мосці ад пана Бога жадаю»), выразы павагі і пакорлівасці падданай да свайго ўладара («на па-

[1] Русецкая Н. Лісты Барбары Радзівілянкі да караля Жыгімонта Аўгуста // Спадчына. 1997. № 6. С. 186–194.

[2] Ragauskienė R., Ragauskas A. Barboros Radivilaitės laiškai Žygimantui Augustui ir kitiems: studija apie XVI a. Lietuvos Didžiosios kunigaikštės moterų korespondenciją. Vilnius, 2001.

цеху вечную мне, найменшай служцы Вашай каралеўскай мосці...»; «пасылаю Вашай каралеўскай мосці пярсцёнак ад вечнай нявольніцы Вашай, нягодны пярсцёнак нашэння на руцэ каралеўскай...»). Але зрэдчас прабіваюцца скрозь абстрактныя рытарычныя формы, ветлівыя пажаданні ды выразы бясконцай паслухмянасці яркія эмацыянальныя выказванні, што адлюстроўваюць жывы тэмперамент аўтаркі і яе глыбокія, моцныя пачуцці да адрасата («Калі Ваша каралеўская мосць, пан мой са мной, хто супраць мяне?»; «бо калі я буду ўмець заслугоўваць у асобе сваёй ласкі Вашай каралеўскай мосці, разумею, што ўсё шчасце, слава, дабро на мяне сыдзе, само мне спадаць будзе...»)[1].

Слушна адзначае аўтар шэрагу папулярных кніг пра Барбару Радзівіл і іншых славутых «белагаловых» XVI–XVIII стст. Збігнеў Куховіч: «Лісты гэтыя пісаліся паводле пэўных канонаў, яны вельмі ўрачыстыя і, як бы мы сказалі сёння, "кніжныя", падкрэслена цнатлівыя, замоўчваюць справы інтымныя. Пра многія рэчы ў іх можна толькі здагадвацца. Напэўна, аўтары размаўлялі ў штодзённым жыцці зусім іншаю моваю і толькі існуючыя нормы не дазволілі ім у поўнай меры выказаць свае пачуцці і перажыванні»[2]. Але мае таксама рацыю Н. Русецкая, сцвярджаючы, што: «Лістам Барбары характэрная мяккасць і далікатнасць стылю, унутраная зграбнасць і хараство. <...> Гэта лісты-вызнанні, эмацыянальна-экспрэсіўныя выказванні, лірычныя маналогі, падобныя паміж сабой зместам, але розныя па настраёвасці. Яны мелі на мэце найперш заспакоіць і пацешыць караля словамі нязменнага пачуц-

[1] Цыт. па выд.: Русецкая Н. Лісты Барбары Радзівілянкі да караля Жыгімонта Аўгуста. С. 190–193.

[2] Kuchowicz Z. Miłość staropolska : wzory — uczuciowość — obyczaje erotyczne XVI–XVIII wieku. S. 296.

ця, вернасці і ўдзячнасці, выказаць неспакой, абуджаны напружаным чаканнем хутчэйшай сустрэчы»[1].

З публікацыі ў «Спадчыне» адзін з лістоў Барбары Радзівіл да Жыгімонта Аўгуста трапіў пазней у акадэмічную «Анталогію даўняй беларускай літаратуры. XI — першая палова XVIII стагоддзя»[2], стаўшы, такім чынам, творам хрэстаматыйным і ўзвёўшы аўтарку на беларускі літаратурны Парнас як першую пісьменніцу-жанчыну.

Безумоўна, лісты — гэта помнікі дзелавога пісьменства, тэксты *паралітаратурныя*, іх нельга параўноўваць з мастацкімі творамі кшталту «Песні пра зубра» Мікалая Гусоўскага альбо «Радзівіліяды» Яна Радвана. Але аўтар цыкла службовых допісаў да вяльможаў і сенатараў Вялікага Княства Літоўскага Філон Кміта-Чарнабыльскі (каля 1530 — 1587) здаўна прысутнічае ў гісторыі беларускай літаратуры на роўных правах з аўтарамі шматлікіх дыярыушаў і ўспамінаў: Ф. Еўлашоўскім, С. Маскевічам, Я. Цадроўскім, А. Каменскім-Длужыкам і інш. Бо ў жанравых адносінах лісты вельмі блізкія да дыярыушаў і ўспамінаў; невыпадкова адзін з першых помнікаў мемуарнай літаратуры Беларусі «Перагрынацыя, або Паломніцтва... у Святую Зямлю» Мікалая Крыштафа Радзівіла быў выдадзены ў 1601 г. у форме лістоў аўтара да ўяўнага сябра.

Калі допісы Ф. Кміты-Чарнабыльскага (захавалася 33 лісты) выдатна рэпрэзентуюць жанр дзелавой перапіскі у беларускім пісьменстве XVI ст., то прыватная перапіска найбольш адэкватна прадстаўлена менавіта лістамі Барбары Радзівіл, якія захаваліся да нашага часу ў значнай

---

[1] Русецкая Н. Лісты Барбары Радзівілянкі да караля Жыгімонта Аўгуста. С. 188.

[2] Анталогія даўняй беларускай літаратуры : XI — першая палова XVIII стагоддзя. С. 379–380.

колькасці, прычым — адрасаваныя не толькі Жыгімонту Аўгусту. Лёс пісьмовай спадчыны Барбары аказаўся больш шчаслівым, чым яе асабісты лёс: да нашага часу дайшлі яе лісты (у тым ліку аўтографы) да бацькі — Юрыя, маці — Барбары, брата — Мікалая Рудога і шэраг лістоў да Жыгімонта Аўгуста разам з некаторымі ягонымі адказамі. Па звестках Раймонды Рагаўшкене, каралева Барбара перапісвалася таксама са сваёй сястрой Ганнай і з іншымі сваячніцамі[1].

Найбольшая колькасць лістоў Барбары Радзівіл апублікавана ў фундаментальным шматтомным зборы «Польскія лісты XVI ст.», які выдаецца зараз у Кракаве пад рэдакцыяй Казімежа Рымута[2]. У трох першых тамах змешчана 8 лістоў Барбары да Жыгімонта Аўгуста, 36 лістоў да Мікалая Радзівіла Рудога, 1 ліст да бацькі і 1 ліст да маці. Дзякуючы руплівасці ўкладальнікаў, мы можам пазнаёміцца з вялікай часткай эпісталярнай спадчыны Б. Радзівіл: параўнаць яе ветліва-лаканічны ліст да бацькі, напісаны ў 1536 г., са шматслоўным і эмацыянальным лістом да маці з 1549 г., пераканацца, як у лістах да брата шчыра-сяброўскі тон змяняецца на дыпламатычна-асцярожны, і, канечне, з дапамогаю лістоў караля Жыгімонта Аўгуста і пасланняў самой Барбары прасачыць эвалюцыю ўзаемаадносінаў самай славутай пары каханкаў у Вялікім Княстве Літоўскім і Польшчы.

---

[1] Ragauskienė R. Kobieca korespondencja w Wielkim Księstwie Litewskim w pierwszej połowie XVI wieku. Problemy. Forma. Treść // Biuletyn historii pogranicza. Białystok, 2002. № 3. S. 11. Больш падрабязна гл.: Ragauskienė R., Ragauskas A. Barboros Radivilaitės laiškai Žygimantui Augustui ir kitiems : studija apie XVI a. Lietuvos Didžiosios kunigaikštės moterų korespondenciją.

[2] Listy polskie XVI wieku / pod red. K. Rymuta. Kraków, 1998–2004. T. 1–3.

У невялікім раздзеле мы не можам падрабязна прааналізаваць усе вядомыя лісты Барбары Радзівіл, але, каб пераканацца, наколькі цікавую інфармацыю пра аўтарку і яе акружэнне змяшчаюць нават самыя сціплыя з іх, разгледзім два лісты Барбары да бацькоў.

Першы ліст адрасаваны бацьку аўтаркі, ваяводу віленскаму Юрыю Радзівілу, які сваімі воінскімі подзвігамі заслужыў у сучаснікаў славу «ліцвінскага Геркулеса»: «Miłościwy Panie Ojcze! Ja, namieńsza służebnica W<aszej> M<iłości>, listem tym zdrowie W<aszej> M<iłości> nawiedzam a W<aszę> M<iłość> proszę pokornie, aby mię W<aszej> M<iłość> nie raczył z łaski swej opuszczać jako namieńszej służebnice swej. Barbara Radziwiłłowna, miłośnica i sługa namieńsza W<aszej> M<iłości>. Wielmożnemu Panu a Panu Ojcu Miłościwemu ten list ma być dan <w> własne ręce»[1]. Як бачым, змест гэтага кароценькага ліста, перапоўненага афіцыйнымі зваротамі і выразамі ветлівасці, не вылучаецца арыгінальнасцю: дачка цікавіцца здароўем бацькі і запэўнівае яго ў сваёй пакорлівасці, паслухмянасці. Важна іншае: ліст напісаны *па-польску*. Напісаны ўласнаручна Барбарай, недзе ў 1536 г., задоўга да знаёмства з Жыгімонтам Аўгустам і яшчэ да замужжа са Станіславам Гаштольдам.

Маці Барбары пісала лісты на «руськой» (старабеларускай) мове, захаваўся, напрыклад, яе ліст да сына Мікалая з пачатку 40-х гг. XVI ст.)[2]. А вось пакаленне Барбары пачало паступова пераходзіць на польскую мову ў публічным жыцці і ў прыватнай карэспандэнцыі, пра што сведчыць і працытаваны ліст. Магчыма, ягонай мэтай было не толькі выказаць клопат дачкі пра здароўе бацькі, але і прадэманстраваць яе поспехі ў авалодванні мовай

[1] Listy polskie XVI wieku. T. 1. S. 96.

[2] Ragauskienė R. Kobieca korespondencja w Wielkim Księstwie Litewskim w pierwszej połowie XVI wieku. S. 11.

каралеўскага і велікакняскага двара. З іншага боку, у лісце юнай Барбары яшчэ адчуваецца ўплыў старабеларускай мовы: напрыклад у форме слова «namieńszy» (ураджэнка Польшчы напісала б «namniejszy» альбо «najmniejszy»).

У адрозненне ад ліста-аўтографа Барбары Радзівіл да бацькі, ліст да маці з Кракава ад 4 ліпеня 1549 г. напісаны ўжо рукой сакратара, і толькі напрыканцы змешчана кароценькая, але вельмі экспрэсіўная і эмацыянальная прыпіска рукой каралевы. Гэты досыць вялікі ліст вылучаецца сваёй змястоўнасцю і канкрэтнасцю на фоне ветліва-трафарэтных пасланняў той эпохі.

Вядома, на пачатку паслання Барбара пытаецца пра здароўе маці, неахвотна паведамляе і пра стан уласнага здароўя, які на той час быў не найлепшы. Але потым нечакана просіць у маці прабачэння за далейшы тон ліста, прызнаецца, што піша яго па загадзе мужа, караля Жыгімонта Аўгуста, і пераходзіць да сутнасці справы: «M<iłościwa> Pani Matko, to też W<aszej> M<iłości> daje znać, eż jego k<rolewska> m<iłość> owdzie sprawiono, eżby Chreor Cho<d>kiewicz miał tam często w domu W<aszej> M<iłości> bywać, co jego bywanie jego k<rolewskiej> m<iłości> bardzo niemiło»[1]. Жыгімонт праз сваю жонку выказвае незадаволенасць тым, што ў доме Радзівілаў пачаў бываць Рыгор Хадкевіч. Відаць, гэты заможны магнат на той момант знаходзіўся ў няласцы ў караля. Магчыма, ён напачатку выступаў супраць шлюбу Жыгімонта з Барбарай, што кароль не мог яму даравацы нават пасля таго, як Хадкевіч змяніў сваю пазіцыю. Барбара раіць маці, а праз яе і свайму брату, падчашаму літоўскаму Мікалаю Радзівілу Рудому, не давяраць праваслаўнаму магнату, бо «... jako ono mowią, “wilk chowany a Rusin krczony dyjabłu się godzi”»[2]. Гэтую прыказку Барбара магла чуць некалі ад свайго цесця Аль-

[1] Listy polskie XVI wieku. T. 2. S. 307–308.

[2] Ibid.

брэхта Гаштольда, які таксама любіў наракаць на вераломную натуру русінаў, хаця і ягоныя маці і жонка паходзілі з праваслаўных русінскіх радоў[1]. Радзівілы і Хадкевічы на працягу стагоддзяў варагавалі і канкуравалі паміж сабой, таму прычыны візітаў Рыгора ў радзівілаўскі палац летам 1549 г. цяжка растлумачыць. Магчыма, у справу былі замешаны жанчыны: і сястра Барбары, і маці славіліся сваімі разняволенымі сэксуальнымі паводзінамі. Невыпадкова яны засталіся ў Вільні, а не паехалі ў Кракаў разам з Барбарай. А можа, насуперак традыцыям роду, Мікалая Радзівіла Рудога і Рыгора Хадкевіча звязвала сяброўства, што дапамагло ім у 1564 г. разам разбіць маскоўскага ваяводу Пятра Шуйскага над ракой Ула.

Як бачым, некалькі радкоў з прыватнага ліста даюць каштоўную інфармацыю пра нацыянальныя і рэлігійныя стасункі ў Вялікім Княстве Літоўскім у сярэдзіне XVI ст. Але не толькі гэтым цікавы ліст Барбары да маці. Ён дае таксама каштоўную інфармацыю пра тэмперамент і характар самой аўтаркі. Выканаўшы даручэнне мужа, Барбара пераходзіць да сваіх, дамскіх спраў і заканчвае ліст просьбай: «O bielidło W<aszej> M<iłości> proszę, racz mi go W<asza> M<iłość> przysłać, boć go już dawno nic nie mam. Data z Krakowa we czwartek w tydzień po oktawie Bożego Ciała. W<aszej> M<iłości> dziewka i sługa Barbara R<adziwiłłowna> ręką swą»[2]. Няма нічога дзіўнага ў тым, што Барбара Радзівіл, якая заўсёды дбала пра свой знешні выгляд (нават у апошнія дні, перад смерцю, чым здзіўляла і раздражняла польскіх прыдворных), турбуецца пра

---

[1] Гудмантас К. Летописи Великого княжества Литовского как памятник культурной полиглоссии // Дыяспара. Культуралогія. Гісторыя : матэрыялы IV Міжнар. кангрэса беларусістаў. Мінск, 2006. С. 253.

[2] Listy polskie XVI wieku. T. 2. S. 308.

бялілы для твару. Дзіўна, што, знаходзячыся ў каралеўскім Кракаве, бялілы яна замаўляе з далёкай Вільні. Няўжо ў сталіцы Вялікага Княства Літоўскага касметыка была лепшая, чым у сталіцы Польшчы? А можа, у Барбары быў свой улюбёны гатунак?

Прадыктаваўшы ліст сакратару, Барбара, відаць, узяла яго потым у рукі, каб прагледзець і, не вытрымаўшы, уласнаручна дапісала яшчэ некалькі слоў. Пра што? Вядома, пра самае важнае: «Mileńka Pani Mateńko, W<aszej> M<iłości> barzo proszę o bielidło, bo go ni troszenki nie mam. A zatym proszę, aby mie W<asza> M<iłość> zapominać nie raczyła jako sługi i dziewki»[1]. І ў гэтых адчайных, імпульсіўных радках адлюстраваўся ўвесь характар «каралевы кахання» Барбары Радзівіл…

Як аўтарка цікавых па змесце і разнастайных па форме эпісталярных твораў Барбара Радзівіл стала першай жанчынай-літаратарам у гісторыі шматмоўнай беларускай літаратуры, адзінай «белагаловай» на Парнасе айчыннага пісьменства ажно да з'яўлення ў XVIII ст. Францішкі Уршулі Радзівіл і Саламеі Пільштыновай-Русецкай. Пры гэтым яна застаецца адной з самых улюбёных гераінь беларускай літаратуры, пачынаючы ад ананімнага летапіснага аповеду ў трэцяй рэдакцыі «Хронікі Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага» да паэтычных, празаічных і драматургічных твораў сучасных беларускіх пісьменнікаў. Думаецца, што ўважлівае вывучэнне, пераклад на беларускую мову і публікацыя багатай эпісталярнай спадчыны Барбары Радзівіл паспрыяе з'яўленню новых, больш глыбокіх і праўдзівых мастацкіх твораў пра гэтую незвычайную асобу: не толькі легендарную каханку караля Жыгімонта Аўгуста, але таксама — аўтарку, гераіню, музу старадаўняга пісьменства Беларусі і Літвы.

---

[1] Listy polskie XVI wieku. T. 2. S. 308.



# Рыцарскія раманы «Трышчан» і «Бава»

Ніводзін жанр старадаўняй беларускай літаратуры на працягу апошніх дзесяцігоддзяў не прыцягваў да сябе такой пільнай увагі беларускіх даследчыкаў, перакладчыкаў, драматургаў і тэатральных рэжысёраў як рыцарскі раман. І гэта радуе, бо пасля напісаных у канцы XIX ст. грунтоўных прац А. Брукнера[1] і А. Весялоўскага[2] рыцарскія раманы «Бава» і «Трышчан» з Пазнанскага рукапісу XVI ст. толькі згадваліся ў розных акадэмічных выданнях ды ўніверсітэцкіх падручніках у раздзеле «Перакладная літаратура», дзе ў лепшым выпадку ім прысвячалася некалькі старонак[3].

---

[1] Brückner A. Ein weißrussische Codex miscellaneus der Gräftlich-Raczyński'schen Bibliothek in Posen // Archiv für slavische Philologie. Berlin, 1886. № 9. Bd. 345–391.

[2] Веселовский А.Н. Из истории романа и повести : материалы и исследования. СПб., 1888. (СОРЯС. Славяно-романский отдел. Т. 44, № 3. С. 1–350).

[3] Карский Е. Белорусы : в 3 т. Т. 3, вып. 2; Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Мінск, 1992; Ахрыменка П.П., Ларчанка М.Р. Старажытная беларуская літаратура : вучэб. дапам. для філал. фак. ВНУ. Мінск, 1968; История белорусской дооктябрьской литературы / ред. В.В. Борисенко и др.; Гісторыя беларускай літаратуры : старажытны перыяд / пад рэд. М.А. Лазарука і А.А. Семяновіча.

Адраджэнне цікавасці да рыцарскага рамана супала з агульнай хваляй нацыянальнага адраджэння на пачатку 90-х гг. XX ст.: у айчынным друку з'явіліся артыкулы эміграцыйных даследчыкаў А. Надсана[1] і З. Кіпель[2]; на сучасную беларускую мову пераклалі «Трышчана» спачатку С. Шупа, потым М. Рама396скі і, крыху пазней, Н. Старавойтава; свае першыя крокі ў вывучэнні перакладной свецкай літаратуры зрабілі маладыя даследчыкі А. Бразгуноў, Н. Старавойтава, Л. Шчэрба (апошняя, на жаль, абмежавалася напісаннем аднаго адзінага артыкула[3]).

Нарэшце, на пачатку XXI ст. папярэднія даследаванні рыцарскага рамана «выліліся» адразу ў дзве дысертацыі, напісаныя Аляксандрам Бразгуновым і Надзеяй Старавойтавай — вучнямі вядомага даследчыка беларуска-літоўскіх летапісаў і перакладной літаратуры Вячаслава Чамярыцкага.

У дысертацыі А. Бразгунова «Перакладны рыцарскі і гістарычны раман Беларусі XV–XVI стст.: еўрапейскі кантэкст, эвалюцыя і трансфармацыя жанру»[4] (2002) «Бава» і «Трышчан» разглядаліся найперш у кантэксце жанру, як пэўны этап эвалюцыі і трансфармацыі еўрапейскага рама-

---

[1] Надсан А. Заходняя літаратура на Беларусі ў XV–XVII стст. // Спадчына. 1997. № 6. С. 73–90.

[2] Кіпель З. Беларуская перакладная літаратура XV–XVII стст. як мост паміж Усходам і Захадам // Беларусіка–Albaruthenica. Мінск, 1997. Кн. 6, ч. 2. С. 175–181; Кіпель З. Беларуская літаратура XVI стагоддзя: самабытнасць і літаратурныя сувязі // Спадчына. 1999. № 3. С. 171–176..

[3] Шчэрба Л. Чарадзейная казка і рыцарскі раман: агульнасць сюжэтных структур // Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта. Мінск, 2003. Вып. 4. С. 108–113.

[4] На аснове дысертацыі А. Бразгуноў выдаў пазней манаграфію «Перакладная белетрыстыка Беларусі XV–XVII стагоддзяў» (Мінск, 2007).

на, звярталася ўвага на спосаб адлюстравання рэчаіснасці ў раманах і звязаныя з гэтым адрозненні двух твораў паміж сабой, а таксама ад гістарычных раманаў «Александрыя», «Троя» і інш.

У дысертацыі Н. Старавойтавай «Беларуская перакладная аповесць эпохі Адраджэння (тэксталогія і стыль перакладу)» (2004) беларускія рыцарскія раманы аналізаваліся ў іх першасным кантэксце — у кантэксце арыгінальных і перакладных твораў Пазнанскага зборніка, выдатнага помніка пісьменства канца XVI ст., як своеасаблівае люстэрка літаратурнага працэсу ў Вялікім Княстве Літоўскім і станаўлення жанравай сістэмы беларускай прозы ў эпоху Рэнесансу. Асобна трэба сказаць пра цікавыя дадаткі (ажно пяць) да гэтай дысертацыі, якія ўяўляюць сабой заяўкі на правядзенне новых даследаванняў: напрыклад, высвятленне ступені драматургічнасці недраматургічных жанраў літаратуры альбо спосабаў і формаў функцыянавання старадаўніх рыцарскіх раманаў у прасторы сучаснай беларускай культуры.

З'яўленне прац А. Бразгунова і Н. Старавойтавай сведчыць пра тое, што беларускае літаратуразнаўства дасягнула такой ступені развіцця, калі прадметам даследавання маладых навукоўцаў робіцца ўжо не цэлая эпоха (як правіла, нявывучаная), не ўся творчасць таго ці іншага пісьменніка (як правіла, нікім сур'ёзна не разгледжаная), а канкрэтная літаратуразнаўчая праблема: напрыклад, жанравыя асаблівасці альбо тэксталогія і стыль перакладу асобных празаічных твораў XVI ст.

Адзначаючы поспехі беларускага літаратуразнаўства ў вывучэнні рыцарскіх раманаў на працягу апошніх гадоў, варта згадаць таксама артыкул маладой італьяністкі Н. Мазуравай «Беларускі рыцарскі раман "Трышчан" у даследаваннях Э. Згамбаці», які паклаў канец своеасабліваму міфу пра існаванне грунтоўнай італьянскай манаграфіі,

прысвечанай беларускаму «Трышчану»[1]. Памятаю, напрыклад, з якім шчырым захапленнем апавядаў нам пра знаёмства з італьянскай даследчыцай і пабачанае ім манументальнае даследаванне беларускага рыцарскага рамана А. Лойка, вярнуўшыся з Італіі. Насамрэч выдадзеная ў 1983 г. у Фларэнцыі груваcткая кніга (509 с.) змяшчае старабеларускі тэкст «Трышчана» і яго пераклад на сучасную італьянскую мову, зроблены Э. Згамбаці, а ва ўступнай частцы сцвярджаецца неарыгінальны, другасны, фрагментарны характар беларускай версіі ў параўнанні з венецыянскім тэкстам 1486 г., да якога беларускі «Трышчан» узыходзіць. Такая негатыўная ацэнка пярэчыць меркаванню ўсіх беларускіх даследчыкаў «Трышчана», якія, тым не менш, па-ранейшаму называюць выданне, падрыхтаванае Э. Згамбаці, «грунтоўнай манаграфіяй»[2].

Наяўнасць цэлага шэрагу даследчыкаў і перакладчыкаў беларускіх рыцарскіх раманаў стварае цудоўную магчымасць арганізацыі тэматычнай міжнароднай канферэнцыі (на жаль, не дачакалася такой важнай падзеі Зора Кіпель — даследчыца і папулярызатар беларускай перакладной літаратуры XV–XVII стст.), на якой варта было б абмеркаваць тыя пытанні і праблемы, якія не вырашаны ў існуючых сёння даследаваннях, а толькі ўзнятыя ў іх, а часам — створаныя ў выніку рознагалосся навукоўцаў, у выніку карыстання рознымі метадалогіямі даследавання.

Напрыклад, простая, але дагэтуль не вырашаная і, наадварот, заблытаная праблема назваў твораў і вызначэння

[1] Мазурава Н. Беларускі рыцарскі раман «Трышчан» у даследаваннях Э. Згамбаці // Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта. Мінск, 2003. Вып. 4. С. 136–140.

[2] Старавойтава Н.П. Беларуская перакладная аповесць эпохі Адраджэння (тэксталогія і стыль перакладу) : дыс. ... канд. філал. навук. Мінск, 2004. С. 34.

іх жанру. В. Чамярыцкі карыстаўся традыцыйнымі назвамі «Аповесць пра Трышчана» і «Аповесць пра Баву», а жанр гэтых твораў вызначаў як *рыцарскі раман*, у адрозненне ад *гістарычных аповесцяў* «Троя», «Александрыя», «Гісторыя пра Атылу» і інш.[1]. А Бразгуноў у дачыненні да беларускай версіі гісторыі Трыстана ды Ізольды карыстаецца традыцыйнай назвай «Аповесць пра Трышчана» (скарочана «Трышчан»), для твора пра Баву ўслед за А. Весялоўскім прапануе назву «Гісторыя пра князя Гвідона» (нібыта ў адпаведнасці з загалоўкам у рукапісе, хаця ў якасці скарочанай ужывае назву «Бава»), а жанр абодвух твораў вызначае як *рыцарскі раман*, у адрозненне ад *гістарычных раманаў* «Троя», «Траянская гісторыя», «Александрыя», «Гісторыя пра Атылу» і «Аповесць пра Скандэрбега»[2]. Н. Старавойтава папераменна ўжывае паняцці *раман* і *аповесць* як раўназначныя, спасылаючыся пры гэтым на А. Бразгунова (!), а назвы твораў падае ў поўнай форме: «Аповесць пра Трышчана», «Аповесць пра Баву» — і ў скарочанай: «Бава», «Трышчан»[3].

Той, хто калі-небудзь чытаў лекцыі па гісторыі беларускай літаратуры ва ўніверсітэце, ведае, як «любяць» тэрміналагічную блытаніну студэнты, якія слова «аповесць» у загалоўку ўспрымаюць адназначна па-сучаснаму як вызначэнне жанру (для нашых продкаў «аповесць» была папросту «гісторыяй», «аповедам пра некага ці пра нешта»)

---

[1] Гісторыя беларускай літаратуры: старажытны перыяд. С. 294–297.

[2] Бразгуноў А.У. Перакладны рыцарскі і гістарычны раман Беларусі XV–XVI стст.: Еўрапейскі кантэкст, эвалюцыя і трансфармацыя жанру : дыс. … канд. філал. навук. Мінск, 2002; Бразгуноў А.У. Перакладная белетрыстыка Беларусі XV–XVII стагоддзяў. Мінск, 2007.

[3] Старавойтава Н.П. Беларуская перакладная аповесць эпохі Адраджэння.

і не разумеюць, чаму гэтую *аповесць* выкладчык раптам называе *раманам*. Думаецца, замест таго, каб у кожным артыкуле тлумачыць чытачам розніцу паміж старадаўнім і сучасным разуменнем слова «аповесць», усім даследчыкам варта ўжываць назвы беларускіх рыцарскіх раманаў выключна ў скарочанай форме («Бава», «Трышчан») і адрозніваць рыцарскі раман ад гістарычнай аповесці («Троя») ці гістарычнага рамана («Траянская гісторыя»).

Што датычыцца прапановы А. Бразгунова называць раман пра Баву, арыентуючыся не на агульны загаловак перакладных твораў Пазнанскага рукапісу («Починается повесть о витезях с книг сэрбских, а звлаща о славном рыцэры Трысчан[е], о Анцалоте и о Бове и о иншых многих витезех добры[х]»), а на загаловак, змешчаны напачатку твора пра Баву («Историја о княжати Кгвидоне»), то гэтая прапанова бачыцца няслушнай, бо «Гісторыя пра князя Гвідона» — хутчэй за ўсё, не загаловак цэлага твора, а толькі загаловак першага раздзела, у якім апавядаецца пра гібель бацькі Бавы (асобныя загалоўкі маюць і некаторыя іншыя фрагменты рамана: «Бітва караля Армяніла з Лукаперам», «Бітва Бавы з Пулканам», «Нараджэнне каралеўнай Дружненай двух сыноў» і г. д.). Калі б раман быў пра Гвідона, герой не загінуў бы на самым пачатку твора: гэтае суровае правіла галівудскіх сцэнарыстаў ведалі і аўтары старадаўніх рыцарскіх раманаў.

Яшчэ адна праблема: да якой эпохі адносяцца беларускія рыцарскія раманы, які светапогляд адлюстроўваюць: сярэднявечны, рэнесансавы ці, можа, барочны? Н. Старавойтава ў сваёй дысертацыйнай працы шукае ў перакладных беларускіх раманах праявы стылю і светаадчування барока. На нашу думку, для такіх пошукаў няма падстаў, маладая даследчыца проста блытае традыцыйныя прыкметы барока з рудыментамі сярэднявечнай эстэтыкі. Адсюль нараджа-

юцца недарэчныя сцвярджэнні кшталту: «Пра “барокавасць” твора нам гаворыць і падрабязнасць сюжэта, што было запазычана з сярэднявечных жыцій»[1]. Калі бачыць у авантурнасці, эратызме альбо ў камізме праявы барока, то да барочных твораў выпадае залічыць сярэднявечныя фабліа, «Дэкамерон» Бакача, «Гарганцюа і Пантагруэля» Рабле і абавязкова венецыянскую паэму XIII–XIV стст. пра Баву, якая паслужыла пратографам для беларускай версіі. Сярэднявечныя рыцарскія раманы пра Трышчана і Баву трапілі, дзякуючы перакладу, у кантэкст беларускай культуры ў эпоху Рэнесансу і, несумненна, мелі гуманістычнае гучанне (напрыклад, паказвалі яскравыя жаночыя характары, звярталіся да сферы чалавечых пачуццяў, сцвярджалі права чалавека на каханне і г. д.)

Мая першая сустрэча з «Трышчанам» і «Бавой» адбылася не на навуковым полі, а на тэатральным. У 1993 г. я напісаў па матывах беларускіх рыцарскіх раманаў п’есу «Трышчан ды Іжота», а ў 1995 г. — «Баладу пра Бландоюя»[2]. Гэта была не першая спроба мастацкай інтэрпрэтацыі старадаўніх раманаў у беларускай літаратуры XX ст.: яшчэ ў 1916 г. Максім Багдановіч напісаў геніяльны верш «Калі паласу агнявую...», які — я ўпэўнены — узыходзіць да матываў «Трышчана» і «Бавы». Пра знаёмства М. Багдановіча з беларускім «Трышчанам» сведчыць ягоная заўвага ў рэцэнзіі на рускае выданне рамана пра Трыстана і Ізольду ў пераказе французскага медыявіста Жазефа Бэдзье: «Еще триста лет тому назад существовал перевод этого романа на русский (белорусский) язык»[3]). Сітуацыя, у якой існуюць

---

[1] Старавойтава Н.П. Беларуская перакладная аповесць эпохі Адраджэння. С. 68.

[2] Кавалёў С. Навука кахання : п’есы. Мінск, 2005. С. 3–30, 31–88.

[3] Багдановіч М. Поўны збор твораў : у 3 т. Мінск, 1993. Т. 2. С. 338.

лірычны герой і гераіня верша М. Багдановіча, нагадвае напружаныя ўзаемаадносіны герояў беларускіх рыцарскіх раманаў (стары кароль Марка — юная Іжота, стары князь Гвідон — юная Бландоя):

Калі паласу агнявую
На захадзе сонца праводзе, —
Пакінуўшы вежу старую,
У сад каралеўна выходзе.
Вось чмель прагудзеў аксамітны,
Вось ярка-зялёная мушка...
І ўрэшце з краіны блакітнай
Ўлятае маленькая птушка.
Як чутна яна запявае,
Што ёсць і вясна, і каханне,
І шчасце без меры, без краю,
І першая горыч расстання.
Маркотна глядзіць каралеўна, —
Так сэрца жадае любові,
І хмурыць сурова і гнеўна
Кароль пасівеўшыя брові[1].

Натуральна, што напісанню п'есаў па матывах беларускіх рыцарскіх раманаў папярэднічала шматразовае іх прачытанне і спроба асэнсаваць спецыфіку мастацкага свету твораў, супярэчлівыя характары герояў, сутнасць адносінаў паміж імі і прычыны канфліктаў.

Адпраўным пунктам у працы над п'есай «Трышчан ды Іжота» стаўся для мяне загадкавы, «абарваны» фінал беларускага «Трышчана», які адрознівае беларускую версію ад усіх іншых твораў пра Трыстана і Ізольду ў сусветнай літаратуры. Традыцыйна гісторыя кахання рыцара Трыстана і Ізольды Золатавалосай заканчваецца трагічнай смерцю галоўных герояў у выніку інтрыг караля Маркі альбо жонкі

[1] Багдановіч М. Поўны збор твораў : у 3 т. Мінск, 1991. Т. 1. С. 305.

Трышчана — Ізольды Беларукай (у тым ліку, у папулярнай кампіляцыі-пераказе Ж. Бэдзье). у беларускім «Трышчане» вобраз Ізольды Беларукай увогуле адсутнічае, кароль Марка высакародна адпускае сваю жонку лячыць цяжка параненага Трышчана, каханкі сустракаюцца і… на гэтым аповед раптоўна абрываецца: «Корол Марко отпустил Ижоту вдячне, и она пошла велми з веселым серцэм, а прышодшы почала его лечыти, што могучы. И не вем, если с тых ран выздоровел або так вмер. Потуль о нем писано»[1]. Цяжка сказаць, ці беларускі перакладчык сапраўды карыстаўся незавершаным сербскім (італьянскім) тэкстам, ці трагічны фінал яму проста не спадабаўся і ён свядома абарваў гісторыю, дазволіўшы чытачам самім «дадумаць» фінал на ўласны густ. Але такі геніяльны, «адкрыты» фінал даваў поўную свабоду сучаснаму драматургу ў адвольнай інтэрпрэтацыі старадаўняга твора, у канструяванні новага мастацкага свету.

Другой асаблівасцю беларускага рамана пра Трышчана і Іжоту, што паўплывала на мастацкі кшталт п'есы, была дзіўная карнавальная атмасфера ў рамане, цеснае перапляценне трагічнага з камічным у творы пра няшчаснае каханне. Камічныя элементы прысутнічаюць і ў многіх іншых еўрапейскіх апрацоўках славутага сюжэта — асабліва ў познесярэднявечных і рэнесансавых, — але ў беларускай версіі камізм выяўляецца не толькі ў некаторых сітуацыях (напрыклад, пры замене Іжоты Брагіняй на шлюбным ложку караля Марка) і ў характарах асобных персанажаў (Марка, Лібруна), але і на моўным узроўні, калі ўсмешку, жартаўлівы настрой выклікаюць ужо самі імёны многіх персанажаў (Іжота, Брагіня, Ланцалот, Пэрла, Блярыж, Бэндэмагул і інш.), перайначаныя геаграфічныя назвы

[1] Повесть о Трыщане // Легенда о Тристане и Изольде / изд. подг. А.Д. Михайлов. Москва, 1976. С. 474.

(каралеўства Карнаваль, а не Карнуэлс, рака Брыкіня, а не Брод Небяспекі, і г. д.).

У выніку ў п'есе «Трышчан ды Іжота» я выкарыстаў папулярны прыём «тэатр у тэатры», але ў змадыфікаваным выглядзе: адразу два тэатры — эпохі Барока і сучасны — ладзяць прадстаўленне паводле беларускага рыцарскага рамана «Трышчан», прычым першы — у жанры трагедыі, а другі — у жанры камедыі. Толькі першы акт п'есы трымаецца класічнага сюжэта, далей дзеянне развіваецца ў нечаканым кірунку; тыя самыя сітуацыя для адных герояў выглядаюць трагічнымі, а для іншых камічнымі: усё, як у рэальным жыцці...

Адпраўным пунктам у працы над п'есай «Балада пра Бландою» быў, наадварот, не фінал, а пачатак рамана: «...Хочу вам поведати добрую повесть о Кгвидоне Антонском княжати и о его сыне, о великом и славном рыцэру Бове. Тот Кгвидон хрыбрыи конник был, але одну реч зле вчынил, иж в час жоны не понял, але коли вже стар был, тогды понял жону з великого племени, и она его не мела ни за один пенез. <...> Поведаимо опят, яко жона Кгвидонова згубила пана своего доброго Кгвидона, а еи было имя меретрыс»[1]. Менавіта нядобрыя ўчынкі жонкі Гвідона рухаюць сюжэт рамана: спачатку яна намаўляе свайго каханка Дадона забіць Гвідона, потым, каб дагадзіць каханку, спрабуе атруціць свайго маленькага сына Баву, які вымушаны ўцякаць на чужыну. Насамрэч яе імя было не «меретрыс» (ад італьянскага meltris, meretrix — распусніца, некалькі разоў у тэксце ўжываецца таксама больш моцны выраз: «курва»), а Бландоя (у беларускай версіі гэтае імя з'яўляецца на трэцяй старонцы рамана, у многіх рускіх версіях фігуруе «Мератрыса»), менавіта яна з'яўляецца ўвасабленнем сусветнага зла ў рамане, тым «ахвярным

---

[1] Веселовский А.Н. Из истории романа и повести. С. 129.

казлом», якога патрабавала сярэднявечнае мужчынскае грамадства, каб апраўдаць уласныя заганы, недасканаласць грамадскіх адносінаў і слабасці чалавечай натуры.

Адважныя рыцары і нястомныя воіны, удзельнікі шматлікіх паходаў і пераможцы ў крывавых бітвах панічна баяліся сваіх жонак: «Мужчыны ўспрымалі сямейны саюз як небяспечны двубой, які вымагаў цярплівасці і асцярожнасці. У закутках мужчынскай псіхікі хавалася перакананне, што жанчына з'яўляецца істотай больш прагнай, больш ненасытнай <...>. Муж жыў у страху, што не здолее сам наталіць яе жывёльную жарсць. Муж ведаў, што партнёрка, з якой ён сустракаўся ў замкнёным полі шлюбнага ложка, не гуляе сумленна, што яна толькі робіць выгляд і нешта хавае. Адсюль страх перад нечаканым ударам, перад здрадай»[1].

Менавіта гэты страх сярэднявечнага мужчыны перад сваёй жонкай, які не знік да нашага часу, адлюстраваўся ў вобразе Бландоі, а ў нейкай ступені — і ў вобразе Дружнены: яна ж таксама кінула свайго мужа Маркабруна і ўцякла з Бавою. Стары Гвідон ажаніўся з юнай Бландояй, якая ў дадатак была закаханая ў князя Дадона: «Бо ми ест велми мил не пущеи отца и матеры; и хотела есми за него поити, але не хотел мои отец и род»[2]. Хаця аўтар рамана згодны, што «храбрый коннік», «пан добрый» Гвідон зрабіў памылку, пабраўшыся з Бландояй, але ўсю віну за наступствы гэтай памылкі ён, героі рамана і, трэба думаць, большасць чытачоў ускладалі на жанчыну, якая не магла стрымаць сваёй прыроднай юрлівасці.

Характэрна, што, вярнуўшыся на радзіму і перамогшы ў бітве Дадона, слаўны рыцар Бава адпускае забойцу

[1] Duby G. Rycerz, kobieta i ksiądz : małżeństwo w Feudalnej Francji. Warszawa, 1986. S. 49–50.

[2] Веселовский А.Н. Из истории романа и повести. С. 130.

свайго бацькі на свабоду: «Додон, злый зрадца, я есми Бово твои непрыятель смертныи, ты-сь забил отца моего, а я тобе дал тую рану, а теперь не хочу вдарыти, занюж мати моя тебе навела забити отца моего; и встань и поиди з моего города»[1]. Не Дадон, а Бландоя з'яўляецца для Бавы сапраўднай віноўніцай смерці ягонага бацькі, і яе чакае жорсткае пакаранне: «А Бово посел свои город и велел перед себе прывести свою матер; а коли она прышла, велел Бово огонь скласти и ее жечы, або коньми волочыти. И рече ему Симбалдо: Не чыни того великого греха, вели ее межы двух стен замуровати, нехай ся своих грехов кает, нехаи на нее всяка мокрота и студен падает, а нехаи ся ее похоть гасит. И Бово так вчынил, як Симбалдо велел, и велел еи давати на ден по тры ейцы и хлеба и по малу воды в уста пускати; и тут она висечы умерла. Так Бово помстил отца своего <…>»[2]. Цікава, што выразу «нехай ся своих грехов кает» няма ў італьянскім арыгінале, іх дадаў беларускі перакладчык[3].

У п'есе «Балада пра Бландою» выкарыстаны прыём «люстэрка», зроблена спроба паглядзець на галоўныя падзеі рамана вачыма гераіні, зразумець ідэалістычныя вытокі і трагічныя наступствы яе ўчынкаў, асэнсаваць злачынствы, якія яна не зрабіла, але якія ёй прыпісалі. Бландоя — адзіны жаночы персанаж у п'есе, вакол яе — адны мужчыны, якія яе падазраюць, прагнуць, ненавідзяць, абвінавачваюць і ўрэшце даводзяць да згубы. У фінальнай сцэне мужчыны схіляюцца над сваёй ахвярай, гучыць урачыстая рэпліка біскупа Сімбалда: «Памерла вялікая грэшніца!..»

---

[1] Веселовский А.Н. Из истории романа и повести. С. 166.

[2] Тамсама. С. 166–167.

[3] Тамсама. С. 279.

Другая асаблівасць рамана «Бава», якая выклікала цікавасць і спрыяла «перакладу» твора на мову драматургіі, — наяўнасць у ім так званай «гамлетаўскай схемы»[1], выяўленай выразна і паслядоўна. У беларускай версіі прысутнічаюць усе асноўныя элементы гэтай схемы, такія матывы, як: забойства бацькі героя, узурпацыя ўлады ў краіне і шлюб забойцы з маці героя, выгнанне героя, вяртанне і доўгачаканая помста. Бава адпавядае шэкспіраўскаму Гамлету, Дружнена — Афеліі, Бландоя — Гертрудзе, Дадон — Клаўдзію, але беларускі Бава — гэта Гамлет, які перамог сваіх ворагаў і шчасліва кіруе Даніяй (Антонам) разам з беларускай Афеліяй (Дружненай), якая нарадзіла каханаму двух слаўных сыноў (у большасці англійскіх, французскіх і нямецкіх версій Бава з Дружненай у фінале гінуць[2]).

Сімптаматычна, што сюжэты абодвух твораў — «Гамлета» і «Бавы» — узніклі прыкладна ў адзін час: у канцы XII ст. у французскай літаратуры з'явілася паэма «Песня пра Бавэ дэ Ганстона», а ў дацкай літаратуры — лацінамоўная «Дацкая хроніка» Сакса Граматыка, дзе была змешчана гісторыя Амлета, уладара Ютландыі. Яшчэ больш цікавае супадзенне ў часе: недзе ў 1594–1599 гг. наваградскі шляхціц Рыгор Уніхоўскі набыў у Вільні рукапіс з беларускімі рыцарскімі раманамі «Бава» і «Трышчан», а ў 1600–1601 гг. у Англіі драматург Уільям Шэкспір напісаў славутую трагедыю «Гамлет». Беларуская шляхта чытала «Баву», а англійскія гараджане наведвалі прэм'еру «Гамлета»!

П'есы «Трышчан ды Іжота» і «Балада пра Бландою» былі пастаўлены ў шэрагу тэатраў Беларусі (Нацыянальны

[1] Sadowski P. Hamlet mityczny. Kraków, 1991. S. 31–50.

[2] Boje C. Über den altfranzösischen Roman von Bueve de Hamtone. Hale, 1909. S. 13–42; Creve R. Studien über den Roman Buavo d'Antona in Rusland. Berlin, 1956. S. 14–17.

акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі «Вольная сцэна», Магілёўскі абласны драматычны тэатр, Брэсцкі тэатр драмы і музыкі і інш.), паказваліся на міжнародных фестывалях, а жывая рэакцыя гледачоў засведчыла, што ўзнятыя ў старадаўніх творах праблемы — выбару паміж каханнем і сяброўствам, свабодай і абавязкам, вернасцю і здрадай, помстай і міласэрнасцю — не страцілі сваёй актуальнасці і ў нашыя дні[1].

Што датычыцца навукова-аналітычнай падрыхтоўкі да напісання п'ес, яна палягала на ўважлівым прачытанні твораў, апублікаваных А. Весялоўскім і Т. Суднік, на вывучэнні прац А. Весялоўскага, Х. Бае, Р. Грыва, А. Міхайлава, В. Кузьміной, ды на доўгіх вечаровых размовах з М. Раманоўскім, які атрымліваў існую асалоду ад перакладу на сучасную беларускую мову старадаўняга дворскага слэнгу «Трышчана», але перыядычна выказваў сумнеў у сэнсе сваёй працы. З тых часоў засталіся яшчэ асобныя літаратуразнаўчыя нататкі і няспраўджаная задума напісаць кнігу «Гуслі Дружнены, арфа Трышчана: сусвет беларускага рыцарскага рамана»…

На сённяшні дзень найбольш цікавым пытаннем ў дачыненні да перакладных рыцарскіх раманаў «Бава» і «Трышчан» з'яўляецца вызначэнне месца гэтых твораў у агульным кантэксце беларускай літаратуры позняга Рэнесансу, праблема сутыкнення рыцарскіх і куртуазных ідэалаў сярэднявечных па паходжанню твораў з грамадска-

---

[1] Падрабязней гл.: Гаробчанка Т. На мяжы стагоддзяў: сучасны беларускі драматычны тэатр. Мінск, 2002. С. 102–110; Бразгуноў А. Вандроўныя сюжэты старой беларускай літаратуры ў сучаснай драматургіі // Сучасная беларуская літаратура і працэсы славянскага культурна-цывілізацыйнага ўзаемадзеяння : матэрыялы Міжнар. навук.-практ. канф. да 80-годдзя НАН Беларусі, 28 мая 2008 г. Мінск, 2008. С. 116–121.

палітычнымі, рэлігійнымі і культурнымі ўяўленнямі тагачасных беларускіх чытачоў, г. зн. праблема гіпатэтычнай рэцэпцыі гэтых твораў, іх запатрабаванасці альбо незапатрабаванасці культурай Вялікага Княства Літоўскага канца XVI — пачатку XVII ст. З адказам на гэтае пытанне звязана і вызначэнне перакладчыцкай стратэгіі беларускага літаратара (альбо некалькіх літаратараў), які палічыў цікавым і патрэбным у сярэдзіне XVI ст. перакласці на родную мову забаўныя гісторыі пра адважных віцязяў і іх пекных сяброўак: менавіта перакладчык раманаў быў іхнім першым чытачом і... цэнзарам.

Безумоўна, гэтая праблема цікавіла многіх даследчыкаў рыцарскіх раманаў Пазнанскага зборніка, пачынаючы ад акадэміка А. Весялоўскага, які катэгарычна сцвярджаў, што ў дадзеным выпадку трэба весці гаворку «...не пра ўплыў адной культуры на другую, а пра кантраст, у якім павінны былі апынуцца ідэалы, выхаваныя вядомымі адносінамі грамадства, у літаратуры, якая адпавядала зусім іншым жыццёвым запатрабаванням»[1]. Расійскі вучоны лічыў, што рыцарскія раманы былі малазразумелыя ўсходнеславянскаму чытачу з-за адсутнасці ў даўняй славянскай культуры рыцарскай этыкі і культу кахання, што смелыя, ініцыятыўныя ў адносінах да партнёра гераіні (Ізольда, Дружнена, Мальгарыя) павінны былі выклікаць у нашых цнатлівых і набожных продкаў абурэнне ды пагарду. У пацвярджэнне сваіх думак А. Весялоўскі прыводзіў шэраг антыфеміністычных цытат з твораў старажытнаўсходнеславянскай літаратуры, накшталт выказвання Данііла Затворніка: «Аще который муж смотрит на красоту женскую, дай Бог ему трясавицею болети»[2].

З меркаваннем А. Весялоўскага можна пагадзіцца толькі часткова. Па-першае, антыфеміністычныя настроі

[1] Веселовский А.Н. Из истории романа и повести. С. 3.

[2] Тамсама. С. 15.

былі характэрныя і для заходнееўрапейскай сярэднявечнай літаратуры. Напрыклад, вядомы французскі прапаведнік X ст. абат Адон пераконваў сваіх слухачоў: «Цялесная прыгажосць — гэта толькі скура. Калі б мужчыны ўбачылі, што схавана пад скурай, — выгляд жанчыны выклікаў бы ў іх ірвоту. Мы ж не хочам дакрануцца пальцам да пляўка ці лайна, чаму ж прагнем цалаваць мех з гноем?»[1] І не толькі ў эпоху Сярэднявечча, не толькі ва ўсходнеславянскіх і французскіх манахаў жанчына выклікала падазрэнне ды страх. Яскравы прадстаўнік эпохі Рэнесансу Франчэска Петрарка засцерагаў чытачоў: «Жанчына з'яўляецца сапраўдным д'яблам, ворагам міру, крыніцаю нецярплівасці, прычынай спрэчак, і мужчына павінен трымацца ад яе здалёк, калі хоча зведаць спакой»[2]. Але наяўнасць такіх поглядаў і выказванняў не перашкодзіла французскай літаратуры стаць калыскай жанру рыцарскага рамана, а вышэйзгаданаму італьянскаму паэту праславіцца сваімі ўзнёслымі санетамі да Лауры.

Па-другое, рыцарскія раманы «Бава» і «Трышчан» былі перакладзены не ў манастырскай келлі ў часы Кіеўскай Русі, а ў эпоху Рэнесансу ў сталіцы Вялікага Княства Літоўскага, і параўноўваць, супастаўляць гэтыя творы трэба з тагачаснай літаратурай Княства, прычым браць пад увагу не толькі беларускамоўныя творы, але таксама лацінамоўныя і польскамоўныя. Тады мы ўбачым, што рыцарскія, гераічныя ідэалы прысутнічаюць у той ці іншай форме не толькі ў перакладных раманах і аповесцях, але і ў героіка-эпічных паэмах «Пруская вайна» Я. Вісліцкага, «Новая слаўная перамога над туркамі...» М. Гусоўскага, «Пра бітву з татарамі пад Клецкам» М. Стрыйкоўскага,

---

[1] Delumeau J. Strach w kulturze Zachodu. Warszawa, 1986. S. 294.

[2] Ibid. S. 295.

«Апісанне маскоўскага паходу князя Крыштафа Радзівіла» Ф. Градоўскага, «Дзесяцігадовая аповесць ваенных спраў князя Крыштафа Радзівіла» А. Рымшы, «Радзівіліяда» Я. Радвана. Дарэчы, апошнія даследаванні польскіх гісторыкаў сведчаць, што рыцарскія паводзіны і звычаі былі распаўсюджаны на славянскіх землях у значна большай ступені, чым мы прызвычаіліся лічыць[1].

Значна менш былі распаўсюджаны куртуазныя ідэалы і любоўныя матывы: і ў беларуска-літоўскіх летапісах, і ў героіка-эпічнай паэзіі жаночыя вобразы, фактычна, адсутнічаюць. Адзіны летапісны ўрывак, які можна было б назваць любоўна-авантурным, паходзіць з таго самага Пазнанскага рукапісу: гэта няскончаная гісторыя пра каханне Жыгімонта Аўгуста і Барбары Радзівіл, датаваная 1545–1548 гг. Жаночая тэма калі і ўзнімалася, то ў сур'ёзных рэлігійна-дыдактычных творах («Апісанне смерці і пахавання княгіні Альжбеты Радзівіл» Ц. Базыліка), альбо, наадварот, набывала падкрэслена-сатырычнае гучанне, як, напрыклад, у асобных фрагментах вершаванай энцыклапедыі Я. Пратасовіча «Inventores rerum...» («Пацалункі», «Люстэрка»).

Зразумела, што чытачы з традыцыйна-патрыярхальнымі поглядамі вельмі спецыфічна ўспрымалі б душэўныя перажыванні свабодалюбівых гераінь рыцарскіх раманаў і сурова асудзілі б іхнія пошукі сапраўднага кахання насуперак сямейным абавязкам. Такія чытачы проста прагортвалі б галантныя апісанні ўзаемаадносін Трышчана з Іжотаю, а вось кароткія, лаканічныя сцэнкі мужчынска-

[1] Etos rycerski w Europie Środkowej i Wschodniej: od X do XV wieku / red. W. Peltz, J. Dudek. Zielona Góra, 1997; Piwowarczyk D. Obyczaj rycerski w Polsce późnośredniowiecznej (XIV–XV wiek). Warszawa, 1998; Bieniak J. Polskie rycerstwo średniowieczne. Kraków, 2002.

жаночых стасункаў у «Баве» ім, магчыма, спадабаліся б: «И Бово ее зсадил, она умыла руки, а Бово коня прывезал и напоил его, умыл руки, и прышод к Дружненъне и ухватил ее за груди и спал с нею треичы. И на том месте почала Дружненна два сыны, яко писмо говорыт: один хочет быти кроль, а другии княже»[1].

Мае рацыю А. Бразгуноў, сцвярджаючы, што ўвагу беларускай шляхты ў перакладных раманах прыцягвала перш за ўсё тэма воінскага подзвігу[2]. Перакладчык не мог не ўлічваць густаў патэнцыяльных чытачоў, таму ў беларускіх рыцарскіх раманах увага акцэнтуецца на воінскіх прыгодах герояў, а не іх на душэўных перажываннях і мілосных інтрыгах.

Але як тады быць з агульнавядомай ісцінай, што ў Еўропе рыцарскія раманы, як і іншая забаўляльная свецкая літаратура, траплялі пераважна ў рукі *чытачак,* а не чытачоў? Няўжо ў Вялікім Княстве Літоўскім у эпоху Рэнесансу «Баву» і «Трышчана» чыталі выключна мужчыны, прычым дарослыя мужчыны-воіны, а не наіўныя правінцыйныя юнакі ці распусныя маладыя арыстакраты і фрэйліны пры велікакняскім двары? Няўжо не было каму на Беларусі ўсхвалявацца няшчасным лёсам Іжоты, ацаніць кемлівасць Брагіні ці захапіцца смеласцю ды вынаходлівасцю Дружнены: «И коли была Дружнена с тыми панями за столом, не могла ничого ести гледечы на Бово, и не могла з него очю знести и взяла у руки хлеб и нож, и режучы хлеб упустила нароком под стол нож, и Бово нагнул ся под стол подняти нож, племенида Дружненна прыгнула ся, ухватила Бова и поцаловала его под столом. И в тот час оба усклонили ся. Бово ся закраснел

---

[1] Веселовский А.Н. Из истории романа и повести. С. 154.

[2] Бразгуноў А.У. Перакладны рыцарскі і гістарычны раман Беларусі XV–XVI стст. С. 11.

болшеи ниж рожа, а племенида панна не могла очю насытити гледечы на Бова»[1].

Няўжо рыцарскія раманы чыталіся на Беларусі з такой самай сур'ёзнасцю і павагай, як рэлігійна-дыдактычныя трактаты ці гістарычныя хронікі, няўжо ніхто не ўсміхаўся, натрапіўшы на макабарычнае апісанне бойкі Бавы з кухарамі («И встал один кухар и взял головню горачую и вдарыл Бово по голове и всю гуню ему опалил; и Бово был велми жалостен, а взял головню и вдарыл кухара по голове, он пал мертв, а мозок и очы ему выскочыли; и другого вдарыл, один остал, и вси вон побегли, а тому бок выбил»[2]) альбо чытаючы адкрыта-парадыйнае апісанне бітвы Лібруна з Трышчанам і Анцалотам («А Либрун схватил их с конем одного одною рукою, а иного иною рукою и положыл их митус перед собою на кони и потрепал их кождого рукою по челюсти и рек: "Едьте з богом, вы есте оба добрые витези". И они поехали з одное стороны велми смутны, а з другое смеялися»[3]).

Няўжо не было каму ацаніць вытанчаны эратызм «Трышчана», які выдатна выявіўся, напрыклад, у алегарычным аповедзе Брагіні пра свае і Іжоціны прыгоды: «Пошла есми з своею госпожею з одного кролевства у другое, она понесла свой один цвет, а я мой другий цвет, и ходили есмо морем и сухом; идучы по мору, пани моя утопила свой цвет, а я свой не втопила, и она поставила мой цвет, где бы мело быти цвету ее место, и за то ми ся тое зло стало»[4].

Калі ўявіць сабе, што падобныя сэнсавыя нюансы, філігранныя апісанні аказаліся неацэненымі і незразу-

---

[1] Веселовский А.Н. Из истории романа и повести. С. 137.

[2] Тамсама. С. 151.

[3] Повесть о Трыщане. С. 472.

[4] Тамсама. С. 446–447.

метымі тагачаснымі чытачамі, якіх цікавілі толькі воінскія подзвігі герояў, можна канстатаваць, што нашыя продкі «прайшлі побач» з рыцарскімі раманамі, не атрымалі ніякага эстэтычнага задавальнення ад чытання гэтых твораў, але ў такое цяжка паверыць.

Як мы ўжо адзначалі, у творах арыгінальнай беларускай літаратуры XVI ст., што захаваліся да нашага часу, цяжка знайсці любоўныя сюжэты і нават проста яскравыя жаночыя вобразы. Але гэта не значыць, што такіх сюжэтаў, вобразаў, твораў увогуле не было ў шматмоўнай літаратуры Беларусі, і тым больш — што нічога падобнага не здаралася ў рэальным жыцці: варта згадаць хаця б гучны скандал з удзелам беларускага магната Крыштафа Монвіда Дарагастайскага, ягонай жонкі — Соф'і Дарагастайскай і польскага шляхціца Станіслава Тымінскага, якія ўтварылі любоўны трохкутнік тыпу «кароль Марка — каралева Іжота — рыцар Трышчан»[1]. Як вядома, чалавечыя паводзіны фарміруюцца не толькі пад дыктоўку інстынктаў і практычнага розуму, але і пад уздзеяннем культурнай традыцыі, у выніку наследавання літаратурным узорам (нехта слушна заўважыў, што, калі б не было любоўных раманаў і фільмаў пра каханне, многія людзі не ведалі б пра гэтае пачуццё ці выяўлялі б яго ў больш простых формах).

У вершаванай прадмове да выдадзенага ў 1558 г. у Берасці кальвінскага канцыянала «Песні ў славу Бога» ўкладальнік Ян Зарэмба наракае на засілле любоўных песень пры дварах беларуска-літоўскіх магнатаў і папракае фрэйлін з акружэння княгіні Альжбеты Радзівіл у тым, што яны ахвотна спяваюць песні пра сардэчныя пакуты закаханых і пагарджаюць духоўнымі спевамі ў славу Бо-

---

[1] Seredyka J. Księżniczka i chudopachołek. Zofia z Radziwiłłów Dorohostajska — Stanisław Tymiński. Opole, 1995.

га[1]. Я. Зарэмба спадзяецца, што з'яўленне берасцейскага канцыянала — першага паэтычна-музычнага зборніка, выдадзенага на тэрыторыі Беларусі — выправіць сітуацыю, і прызначае сабраныя ў канцыянале песні як для простых людзей, так і для рафінаваных аматараў паэзіі і музыкі:

Dla tych którzy w figurnym się śpiewaniu kochają,
A radszej się takowymi piosnkami zabawiają,
Niż owemi o Wenusie a zdradnej miłości,
Kórych się już byli jęli i ludzie też prości[2].

Сваю заклапочанасць панаваннем свецкай культуры Я. Зарэмба выказвае і ў празаічнай прадмове, адрасаванай Станіславу Пякарскаму — маршалку двара Мікалая Радзівіла Чорнага, але мяркуе, што з дапамогаю Станіслава Пякарскага канцыянал трапіць у рукі да набожнай жонкі князя Альжбеты і яе прыдворных паненак, каб тыя замест «świeckich firlejów, radszej sobie takiemi Duchownemi piosnkami krotofile czyniły»[3]. Да нас не дайшлі любоўныя песенькі, што спявалі фрэйліны Альжбеты Радзівіл, але мы можам уявіць іх змест, згадаўшы тагачасную французскую і нямецкую паэзію, а таксама беларускую песенна-інтымную лірыку пазнейшых стагоддзяў.

У другой палове XVI — пачатку XVII ст. у магнацкім і шляхецкім асяроддзі Вялікага Княства Літоўскага набываюць папулярнасць вершы-віншаванні з нагоды шлюбаў і нараджэння дзяцей, такія творы зачытвалі ўслых падчас урачыстасцяў, а потым выдавалі асобнымі брашурамі і невялічкімі зборнікамі. Спачатку падобныя творы замаўлялі выключна прадстаўнікі заможнай арыстакратыі (Радзівілы, Хадкевічы, Сапегі, Кміты), а аўтарамі з'яў-

[1] Kot S. Kancjonał brzeski Jana Zaręby z 1558 r. // Reformacja w Polsce. 1937–1939. R. IX–X, № 33–40. S. 451.

[2] Ibid. S. 450.

[3] Ibid. S. 451.

ляліся іншаземныя паэты (гішпанец П. Раізій, немец Я. Мылій, палякі Я. Каханоўскі і Ц. Базылік). Першыя ўзоры сямейна-рытуальнай паэзіі ў пісьменстве Вялікага Княства Літоўскага стварыў яшчэ ў 40-х гг. XVI ст. Пётр Раізій (дзве лацінамоўныя эпіталамы з нагоды шлюбу каралевіча Жыгімонта Аўгуста з прынцэсай Альжбетай і лацінамоўная эпіталама на вяселле Мікалая Радзівіла). З канца XVI ст. на магнатаў пачала раўняцца і сярэдняя шляхта, аздабляючы вершамі сямейныя ўрачыстасці, прычым ужо не было патрэбы звяртацца да іншаземцаў. За напісанне святочных вершаў ахвотна браліся навучэнцы і выпускнікі калегіумаў і Віленскай езуіцкай акадэміі (М. Вітаслаўскі, К. Кернавіскі, В. Скаравец, Г. Белазор, С. Шляскі і інш.) Не адставаў ад малодшых калег і Я. Пратасовіч («Паранімфус» з нагоды шлюбу Януша Скуміна з Барбарай Нарушэвіч у 1595 г.).

Зразумела, што адрасаваліся сямейна-рытуальныя вершы і паэмы не толькі жаніхам, але і нявестам, у выпадку нараджэння нашчадка — абодвум шчаслівым бацькам, г. зн. як чытачам (слухачам), так і чытачкам (слухачам). З'яўляюцца ў шматмоўнай літаратуры Беларусі і творы, спецыяльна адрасаваныя жанчынам, напрыклад вершаваны маральна-дыдактычны трактат Я. Пратасовіча «Узор сумленнай белагаловай» (1597), у якім пералічваюцца асноўныя дабрачыннасці жанчыны, альбо напісаная на ўзор авідзіеўскай «Касметыкі...» паэма Радагляда Гладкатварскага «Румяны для аздобы дзявочага твару» (1605) — першы ў Рэчы Паспалітай вершаваны касметычны даведнік (проста немагчыма ўявіць сабе мужчыну пачатку XVII ст., які чытаў бы «Румяны для аздобы дзявочага твару»).

Факт выдання такіх твораў, як «Узор сумленнай белагаловай», «Румяны...», сведчыць пра існаванне на мяжы XVI–XVII стст. у Вялікім Княстве Літоўскім кола жанчын-чытачак, здольных заўважыць і ацаніць у рыцарскіх

раманах «Бава» і «Трышчан» тое, на што не звярталі ўвагу чытачы-мужчыны. Прывезены Рыгорам Уніхоўскім з Вільні зборнік мог быць цікавы не толькі ягоным сынам, якія звярталі ўвагу найперш на «Летапіс Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага» і на «Гісторыю пра Атылу», але і дочкам, якія альбо самі чыталі, альбо слухалі чытаныя ўголас кімсьці з пісьменных людзей больш легкадумныя і забаўляльныя гісторыі пра Баву і Дружнену, пра Трышчана і Іжоту, пра караля Артыуша і каралеву Жанібру…

Пераклады рыцарскіх раманаў на беларускую мову ўзніклі значна раней, чым была зроблена копія для Р. Уніхоўскага (руская даследчыца В. Кузьміна лічыць, што нават на Русі «Бава» з'явіўся не пазней сярэдзіны XVI ст.[1]). Найбольш верагодна, што створаны яны былі ў Вільні недзе ў 40-я гг. XVI ст. пры вялікакняскай канцылярыі, а адрасатаў і адрасатак гэтых перакладаў трэба шукаць пры дварах беларускіх магнатаў, у першую чаргу — у акружэнні Барбары Радзівіл (каля 1520–1551). Калі фрэйліны набожнай пратэстанткі Альжбеты Радзівіл захапляліся песенькамі пра забавы Венеры і Амура, то для фрэйлін «вясёлай удавы», па Станіславу Гаштольду, раскаванай у паводзінах Барбары, гэта, мусіць, было яшчэ больш уласціва. Пры двары Барбары, як і пры двары закаханага ў яе каралевіча Жыгімонта Аўгуста, існаваў сапраўдны культ мілосці, пачуццёвасці, любоўных прыгод. А яшчэ ў акружэнні Жыгімонта Аўгуста, а асабліва пры двары ягонай маці, каралевы Боны Сфорцы, часта з'яўляліся суродзічы-італьянцы, менавіта праз іх італьянскія пратографы «Бавы» і «Трышчана» маглі трапіць спачатку ў Кракаў, а потым у Вільню (існаванне сербскіх пратографаў не даказана, цалкам верагодна, што беларускія рыцарскія раманы перакладзены непасрэдна з італьянскай мовы).

---

[1] Кузьмина В.Д. Рыцарский роман на Руси: Бова, Петр Златых Ключей. Москва, 1964. С. 23–24.

У апошнім абзацы «Трышчана» паведамляецца, што Трышчан атрымаў ад пекнай Іжоты ліст з наступнымі словамі: «Пане, як рыба без воды не може быти жыва, так я без тебе не могу жыва быти»[1]. Барбара Радзівіл таксама пісала лісты да Жыгімонта Аўгуста, іх змест і стыль паказваюць, што выхоўвалася аўтарка не толькі на рэлігійнай і маральна-дыдактычнай літаратуры, а мела і іншыя ўзоры для наследавання.

Безумоўна, гэта толькі гіпотэза, не пацверджаная канкрэтнымі фактамі, але інтуіцыя (ці то навуковая, ці то пісьменніцкая) падказвае нам, што рыцарскія раманы «Бава» і «Трышчан» чыталіся ў Вялікім Княстве Літоўскім не толькі мужчынамі, але і жанчынамі і што гэтыя гісторыі былі вядомыя ў акружэнні Барбары Радзівіл, запатрабаваныя густамі і ўпадабаннямі гэтага акружэння. Нагадаем, што ў Пазнанскім рукапісе рыцарскія раманы змешчаны адразу пасля летапіснага ўрыўка пра каханне і патаемны шлюб Жыгімонта і Барбары, і гэта, відаць, не проста выпадковы капрыз перапісчыка канца XVI стагоддзя.

На заканчэнне адзначым, што актуальнасць далейшага вывучэння беларускіх рыцарскіх раманаў звязана з важнымі задачамі, якія стаяць перад айчынным літаратуразнаўствам: разглядаць гісторыю беларускага пісьменства не ізалявана, а ў агульнаславянскім і сусветным культурным кантэксце, выяўляць тыпалагічнае падабенства і канкрэтныя факты ўзаемаўплыву і ўзаемадзеяння беларускай і іншых еўрапейскіх літаратур. У гэтым сэнсе цяжка знайсці больш удзячны прадмет даследаванняў, чым перакладныя раманы і аповесці XV–XVII стст., якія лучаць Беларусь з такімі краінамі, як Брытанія, Францыя, Італія, Сербія, Харватыя, Польшча, Чэхія, Балгарыя, Венгрыя, Расія. Сам факт наяўнасці ў беларускай літаратуры

[1] Повесть о Трыщане. С. 474.

рыцарскага рамана пра каханне Трышчана і Іжоты (дарэчы, адзінай празаічнай версіі гэтай славутай легенды ў славянскіх літаратурах) выклікае ў нашых суседзяў павагу, сведчыць пра далучанасць старадаўняга беларускага пісьменства да агульнаеўрапейскай культурнай прасторы: з агульнымі міфамі, архетыпамі, вандроўнымі сюжэтамі і топікай.

Сімптаматычна, што адным з першых выданняў «Беларускай бібліятэкі», распачатай Калегіумам Усходняй Еўропы імя Яна Новака-Язэраньскага ў Вроцлаве стаў беларускі рыцарскі раман «Трышчан»[1]. У кнізе змешчана факсімільнае выданне рамана паводле рукапісу з Бібліятэкі Рачыньскіх у Познані, публікацыя рамана на старабеларускай мове, падрыхтаваная А. Бразгуновым, а таксама два пераклады рамана на сучасную беларускую мову, здзейсненыя А. Бразгуновым і Н. Старавойтавай. Прадмовы да кнігі напісалі вядомы беларускі палітык Аляксандр Мілінкевіч ды польскі дыпламат Марыюш Машкевіч (ён жа — ініцыятар і рэдактар выдання). Несумненна паспрыяе папулярызацыі старадаўніх рыцарскіх раманаў у асяроддзі чытачоў і выхад анталогіі «Беларускія *Александрыя, Троя, Трышчан*… : перакладная белетрыстыка Беларусі XV–XVII стст.» (Мінск, 2009), падрыхтаванай А. Бразгуновым. Гэтыя два выданні падагульняюць доўгі этап вывучэння гістарычных аповесцяў і рыцарскіх раманаў у айчынным літаратуразнаўстве і ў той жа час дазваляюць спадзявацца на з'яўленне новых навуковых даследаванняў і мастацкіх інтэрпрэтацыяў выдатных помнікаў пісьменства Вялікага Княства Літоўскага.

---

[1] Беларускі Трышчан = Białoruski Tristan / падрыхт. тэксту і пераклад А. Бразгунова і Н. Старавойтавай ; пад рэд. М. Машкевіча. Вроцлаў, 2006.



# Лацінамоўная паэзія 50–70-х гг. XVI ст.

Лацінамоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага першай паловы XVI ст. — вершы і паэмы Яна Вісліцкага і Мікалая Гусоўскага — за апошнія дзесяцігоддзі трывала замацавалася ў кантэксце беларускай культуры, дзякуючы шматлікім даследаванням і перакладам. І хаця да сённяшняга дня невядома, дзе нарадзіліся вышэйзгаданыя паэты, а дакладна вядома, што свае творы яны пісалі і выдавалі далёка ад Беларусі, але без паэм «Пруская вайна» і «Песня пра зубра» ўявіць гісторыю нашай нацыянальнай літаратуры ўжо немагчыма.

Значна менш даследавана шматмоўная (у тым ліку лацінамоўная) паэзія Беларусі і Літвы другой паловы XVI ст., хоць яшчэ ў 1979 г. В. Дарашкевіч справядліва адзначаў: «Багаты літаратурны вопыт Вісліцкага і Гусоўскага быў вядомы і развіты лацінiстамі Беларусі і Літвы другой паловы XVI — XVII ст. М. Ліцвінам, С. Будным, А. Воланам, А. Ратундам, В. Агрыпам, Г. Пельгрымоўскім, Б. Гіяцынтам, С. Рысінскім, С. Полацкім і інш.»[1].

Асабліва абдзелены ўвагай літаратуразнаўцаў аказаўся перыяд 50–70-х гг. XVI ст. Калі пра эпічную лацінамоўную паэзію канца XVI ст. (паэмы Ф. Градоўскага і Я. Радвана)

---

[1] Дорошкевич В.И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. С. 201.

можна прачытаць у нашай манаграфіі «Героіка-эпічная паэзія Беларусі і Літвы канца XVI ст.» (1993), там жа і ў кнізе «Станаўленне польскамоўнай паэзіі ў полілінгвістычнай літаратуры Беларусі эпохі Рэнесансу» (2002) ёсць звесткі пра лацінамоўныя творы А. Рымшы, Я. Казаковіча, Г. Пельгрымоўскага, то адшукаць хоць нейкую інфармацыю пра творы П. Раізія, Я. Мылія, Б. Гіяцынта ў беларускай навуковай літаратуры да нядаўняга часу было проста немагчыма. Адзінай публікацыяй пра эпіграмы С. Буднага з'яўляецца даўні артыкул Я. Парэцкага[1].

Няўвага беларускіх даследчыкаў да лацінамоўнай паэзіі 50–70-х гг. XVI ст. тлумачыцца, відаць, тым, што стваралі яе пераважна прыезджыя аўтары, не беларусы па паходжанні. Але падобная карціна назіралася ў той час і ў развіцці польскамоўнай паэзіі Беларусі і Літвы, якая пачыналася з твораў француза П. Статорыя, палякаў Ц. Базыліка, М. Чаховіча, А. Волана, М. Стрыйкоўскага. Вандроўныя вучоныя-гуманісты з Іспаніі і Германіі, пратэстанцкія тэолагі-прапаведнікі з Францыі і Польшчы ў 50–70-я гг. XVI ст. унеслі важкі ўклад у развіццё культуры Беларусі і Літвы, таксама як крыху раней гуманісты з Італіі і Германіі ўзбагацілі сваёй творчасцю рэнесансавую культуру Польшчы. Большая частка напісаных прыезджымі аўтарамі ў Вялікім Княстве Літоўскім паэтычных твораў тэматычна звязана з Літвой і Беларуссю, без вывучэння гэтых твораў нельга рэканструяваць агульную панараму развіцця полілінгвістычнай беларускай літаратуры эпохі Рэнесансу.

У 50–60-я гг. XVI ст. развіццё лацінамоўнай паэзіі ў Вялікім Княстве Літоўскім звязана найперш з творчасцю Пятра Раізія (нар. каля 1505 г. у Алканізе — памёр у 1571 г.

---

[1] Парэцкі Я.І. Вершаваныя творы Сымона Буднага // Беларуская літаратура. Мінск, 1977. Вып. 5. С. 133–144.

у Вільні). Іспанец па паходжанні (сапр. імя: Педра Руіс дэ Морас), выхаванец італьянскіх універсітэтаў, Раізій прыехаў у Вільню у 1551 г. з Кракава, дзе ён на працягу дзесяці гадоў выкладаў у акадэміі, аказваў юрыдычныя паслугі каралеўскай сям'і і займаўся паэтычнай творчасцю, складаючы рафінаваныя панегірычныя вершы з нагоды важнейшых урачыстасцяў на каралеўскім двары, як радасных, так і жалобных (напрыклад, пісаў эпіталамы на вяселлі Жыгімонта Аўгуста, а потым эпітафіі на смерць ягоных жонак). Яшчэ ў Кракаве П. Раізій напісаў некалькі паэтычных твораў, прысвечаных беларуска-літоўскім магнатам, у тым ліку выдатную эпіталаму на шлюб Мікалая Радзівіла Чорнага з Альжбетай Шыдлоўскай у 1548 г.: «Эпіталама да яснавяльможнага мужа Мікалая Радзівіла» («Ad Nicolaum Radivilonem, virum Illustrem; epithalamium»).

Заняўшы з ласкі караля даходнае месца ў гаспадарчым судзе Вялікага Княства Літоўскага, а пазней атрымаўшы шэраг іншых пасадаў і званняў[1], Раізій і ў Вільні актыўна займаецца літаратурнай творчасцю. Ён працягвае весці хроніку сямейнага жыцця караля і ў 1553 г. друкуе ў Кракаве асобнымі выданнямі тры вершаваныя творы: паэму «Суцяшальная песня да праслаўленага... караля Сарматыі Жыгімонта Аўгуста» («Ad inclitum... Sigismundum Augustum Sarmatiae regem carmen consolatorium»), у якой суцяшае караля з прычыны смерці ў 1551 г. каралевы Барбары з Радзівілаў, паэму «Да зацных палякаў: песня пра каралеўскі шлюб» («Ad proceres Polonos: de matrimonio regio carmen»), у якой заклікае польскіх і беларуска-літоўскіх вяльмож пераканаць караля ажаніцца зноў, і, нарэшце, эпіталаму «Прыгатаванні да шлюбу... Жыгімонта

---

[1] Tazbir J. Roizjusz // Polski słownik biograficzny. Wrocław i in., 1998. T. XXXI. S. 499–503.

Аўгуста і Кацярыны» («De apparatu nuptiarum... Sigismundi Augusti et Catherinae»), у якой з радасцю ўслаўляе шлюб Жыгімонта Аўгуста з Кацярынай Габсбургскай. Ягоная ліра адгукаецца, аднак, і на ўрачыстасці менш высокага рангу: ён піша эпіталаму на вяселле кашталяна гнезненскага Мікалая Тшэбухоўскага з Тэадорай з Богушаў, якое адбылося ў Бярэсці ў 1559 г., і нават пагаджаецца з прапановай сціплага шляхціца Марціна Кшчановіча напісаць вясельны гімн узамен за... каня, а калі шчаслівы малады муж забываецца на сваё абяцанне — піша яшчэ адзін верш, з напамінам пра ўзнагароду: «Да Марціна Кшчановіча» («Ad Martinum Krczonovicium»).

Дзякуючы прыезду П. Раізія, у Вялікім Княстве Літоўскім ужо ў сярэдзіне XVI ст. узнікла мода на панегірычную паэзію, верш робіцца пажаданым элементам сямейнага рытуалу, спадарожнічае святам і жалобам. Б. Кручкевіч паведамляе, што некаторыя магнаты яшчэ пры жыцці замаўлялі сабе ў Раізія эпітафіі[1]. Трэба думаць, прыклад знакамітага іспанца натхняў на стварэнне сямейна-рытуальных твораў і іншых паэтаў, актыўна стымуляваў развіццё жанру. Так, на смерць Альжбеты з Шыдлоўскіх Радзівіл у 1562 г. услед за лацінамоўнай эпітафіяй Раізія з'яўляецца польскамоўная паэма Цыпрыяна Базыліка «Апісанне смерці і пахавання... княгіні Альжбеты Радзівіл...», выдадзеная ў Бярэсці.

Пераканаdebug каталік, прыхільнік моцнай каралеўскай улады, П. Раізій тым не менш хутка знаходзіць паразуменне з незалежніцкі настроенымі магнатамі Вялікага Княства, кальвіністамі ды праваслаўнымі па веравызнанні, і дапамагаюць яму ў гэтым не толькі юрыдычныя веды і дыпламатычныя здольнасці, але і паэтычны талент. Спрытны іспанец не саромеецца выкарыстоўваць codeшаваную

[1] Kruczkiewicz B. Royzyusz. Jego żywot i pisma. Kraków, 1897. S. 81.

форму дзеля дасягнення прагматычных мэтаў, пра што сведчаць шматлікія просьбы і падзякі ў вершах, адрасаваных Радзівілам, Хадкевічам, Астрожскім, Кішкам, Пацам, Сангушкам. Менавіта сваімі панегірычнымі творамі Раізій заваяваў прызнанне ў сучаснікаў і... выклікаў да сябе зняважлівае стаўленне гісторыкаў літаратуры: А. Брукнера, Ю. Новак-Длужэўскага і інш.

З ацэнкай мастацкай вартасці творчасці П. Раізія не трэба, аднак, спяшацца. Паводле падлікаў Б. Кручкевіча, які сабраў і выдаў паэтычную спадчыну Раізія, яна налічвае каля 1200 твораў агульным аб'ёмам да 15 300 радкоў: ад кароценькіх эпіграм да вялікіх гістарычных паэм і вершаваных трактатаў[1]. Шмат тут павярхоўных, выключна этыкетных вершаў, але сустракаюцца і цікавыя, змястоўныя творы, якія выходзяць за вузкафункцыянальныя рамкі панегірычнага вершаскладання. Напрыклад, у вершы, адрасаваным Яну Хадкевічу, Раізій з веданнем справы аналізуе ход няўдалай ваеннай кампаніі 1568 г., да граічнай эпікі набліжаюцца вершы паэта, прысвечаныя подзвігам у Інфлянцкай вайне Мікалая Радзівіла Рудога, Рыгора Хадкевіча, Рамана Сангушкі. Да палітычнай паэзіі адносяцца вершы Раізія 1568–1569 гг.: «У абарону з'яднання» («Pro unione»), «Пра палякаў і ліцвінаў, злучаных у адзін народ» («De Polonis et Lituanis uno populo factis»), «Пра Літву і Польшчу, агульны згодай і паходжаннем народ, напярэдадні праведных апосталаў Пятра і Паўла люблінскіх...» («De Lituania et Polonia consensione utriusque gentis mutia pridie beatorum Petri et Pauli Apostolorum Lublini...»), у якіх ён спрабуе пераканаць беларуска-літоўскіх магнатаў калі не ў неабходнасці, то хаця б у непазбежнасці заключэння уніі Вялікага Княства

[1] Kruczkiewicz B. Royzyusz. Jego żywot i pisma. S. 110.

Літоўскага з Польшчай, спасылаючыся на пагрозу з боку Масковіі.

Няцяжка заўважыць, што паэтычная спадчына П. Раізія выразна падзяляецца на творы афіцыйныя (для друку, для перасылкі лістом, для распаўсюджання сярод знаёмых і прыяцеляў) і неафіцыйныя (напісаныя для сябе, на хвалі пачуцця); прыжыццёвая публікацыя «неафіцыйных вершаў», відавочна, магла б зашкодзіць службовай кар'еры шаноўнага доктара права. Ідэйная накіраванасць афіцыйных твораў часта разыходзіцца з аўтарскай пазіцыяй у творах «не для друку». Так, у 1557 г. у Кракаве паэт выдае вялікі вершаваны трактат «Хіліястыхон»[1] («Chiliastichon»), у якім услаўляе каля двухсот прадстаўнікоў каталіцкага духавенства і палітычнай эліты, а ў няскончанай сатырычнай паэме «Епіскап-Сармат» («Pontifex Sarmat») крытыкуе каталіцкіх біскупаў за амаральнасць і эгаізм. Вядомы сваімі ўзнёслымі панегірыкамі ў гонар Ягелонаў, паэт употайкі піша некалькі жартаўлівых фрашак пра каралеву Бону; маючы непахісную рэпутацыю шчырага каталіка і змагара з «лютэранскай ерассю», пакідае ў рукапіснай спадчыне з'едлівыя эпіграмы супраць Папы Рымскага Паўла IV, якія прыводзяць у здзіўленне гісторыкаў літаратуры[2]. Менавіта «неафіцыйная» частка спадчына П. Раізія ўяўляе найбольшую цікавасць, сюды адносяцца, напрыклад, яго сатырычныя творы: «Вакхава песня» («Bachheis»), «Пра хмель» («De ebrietate»), «Да Сармата пра паводку на Вісле» («Ad Sarmatum de Istulae inundatione»), «Да пражэраў і п'яніц» («In gulusos bibonesque») і інш.

П. Раізій з'яўляецца пачынальнікам макаранічнай паэзіі ў Польшчы і Вялікім Княстве Літоўскім, ягоныя вершы

---

[1] Chiliarchus — высокапастаўлены княжацкі саноўнік (*лац.*).

[2] Macjon J. O twórczości satyrycznej Piotra Rojzjusza // Sprawozdania z czynności i posiedzeń Łódzkiego Towarzystwa Naukowego. 1971. R. XXV, zesz. 5. S. 2.

«Падарожнікам у Літву» («In Lithuanicam peregrinationem») і «Сапфічны верш да п'яніц» («In bibulos Saphicum») напісаны раней за славуты верш Я. Каханоўскага «Макаранічная песня пра выбар жыццёвага шляху» («Carmen macaronicum de eligendo vitae genere»). Ацэньваючы макаранічныя вершы П. Раізія ў агульным кантэксце развіцця гэтага віду паэзіі ў Польшчы, М. Пэлчыньскі эмацыянальна ўсклівае: «Колькі сарказму хаваецца ў гэтым нібыта жартаўлівым апісанні падарожжа па Літве, колькі абурэння старапольскім звычаем ці, хутчэй, «незвычаем» п'янства...»[1]. Сапраўды, як і іншыя сатырычныя творы Раізія, гэтыя вершы ўзнімаюць улюбёную тэму паэта — тэму п'янства, а яшчэ — тэму падарожжаў, адкрыцця экзатычнага, часам дзікунскага свету літоўцаў і славян чалавекам заходняй культуры. П. Раізію даводзілася часта падарожнічаць, змяняць жытло, гарады, краіны.

Назіральнае вока іспанца заўважала шмат цікавых дэталяў, а іранічны розум і зласлівы характар спрыялі напісанню з'едлівых, але падчас проста бліскучых і трапных сатырычных эпіграм, такіх, як верш «Падарожнікам у Літву»:

Калі хто Літвою *jażdżaje* праз *miasty gościnne*
Ці ў Вільню далей, ці выпадкам з'язджае адтуль,
*Niech* возьме з сабою *rżanego* і *białego chleba*,
І возік паўнюткі, і *błąd jest* без брычкі цягнуцца паўсюль.
Нясе пуцявіна, ў якой быццам у солі *potrzeba*
І з суму лухты навярзеш, або еш ўсё *potrawy* і еш.
Няхай хоць цэрвіса ў пукаты твой бубен зальецца
Ці тая, што *Piątek* нацэдзіць, альбо што з *Sobotaj* дашлеш.
*Niech* мёд, маладога й старога *żołądka* рупліўца
Не скончыцца болей, *pijaku* прыемны й ягонай хмяльной
галаве.

[1] Pełczyński M. Studia Makaronika. Stanisław Orzelski na tle poezji makaronicznej w Polsce. Poznań, 1960. S. 11.

Заўсёды віно *niech* у возіку недзе прыткнецца,
Бо ў *ladcy* з таварам блукаць выпадае да веку табе.
Што б там ні было, гаспадар той, скнаруга без сэрца
Ўсе кроплі ў *szelągach* падлічыць, пасля вам віна ён нальс.
Нальс то нальс, але піці ты мусіш з *gniusnego*
Збанковага *kuflu* ці з *konewki* гідкай, бо *szklanek* на ўсіх
не стае.
(Сакрэтам скажу: з іх паілі мужы́ка дурнога).
І *czapka* падсвечнікам стане ў карчомцы старэнькай,
Ды нешта сумніўнае ножык заменіць табе,
Пакуль ты пачціва ўглядаешся ў блін у прыцемках,
Што з дзюркай у сярэдзіне горда вісіць на сцяне.
Бялізны бракуе? Здаецца ж, васпаны не панны —
З саломай сяброюць, іх лава гасцінна да сну прызаве.
Вось ты і спачыў у хаціне курной неспадзеўкі,
Дзе ў дымным смуродзе свет з ноччу ў змаганні жыве.
*Cielęta* малыя ля добрае маткі паснулі,
Таўкуцца ў загоне *prosięta*, і вось — час застыў.
Ды толькі спада́ра нягоды тваё не кранулі,
Хоць добра, што *pluskwau* жахлівых смурод загубіў,
Што жэрлі б усю ноч… усяго… толькі беды паўсюль[1].

Да найлепшых твораў П. Раізія і еўрапейскай рэнесансавай паэзіі ўвогуле адносяцца эпіграмы-прысвячэнні гарадам: Кракаву, Гародні, Вільні, напісаныя недзе ў 1551–1552 гг., калі паэт перабіраўся з Польшчы ў Літву. Пакідаючы Кракаў, іспанскі паэт згадвае бурлівае таварыскае жыццё, якое ён — хацеў ці не хацеў — вёў у польскай сталіцы:

---

[1] Раізій П. Падарожнікам у Літву // Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта. Мінск, 2003. Вып. 4. С. 157. Верш цытуецца ў паэтычным перакладзе Ганны Карповіч. Гэта першая спроба перакладу паэзіі П. Раізія на беларускую мову.

I

Пакідаю Кракаў і келіхі, поўныя віна,
Якія ледзь трымала мая дрыготкая рука.
Але ці лёс мне развітацца з келіхамі?
Куды ні паеду, паўсюль мяне чакаюць сарматы!

II

Ад'язджаю, з дакучлівым развітваюся Кракавам,
Дзе жыццё ёсць нічым як піццём.

III

Мушу я перад світаннем пакінуць гасподу,
Бо з наступным келіхам аддам душу Госпаду[1].

Эпіграма П. Раізія на Гародню — відаць, першы ў гісторыі літаратуры верш, прысвечаны гэтаму беларускаму гораду, але наўрад ці яе змест спадабаўся б гарадзенцам:

Бывай, Гародня, і няхай цябе паглынуць твае рэкі,
Калі святым вешчунам не даеш ты прытулку, ані апекі[2].

Прыгажуня-Вільня асацыіруецца ў паэта з голадам, хваробамі і рабаўніцтвам на вуліцах, а ўсе гэтыя беды вынікаюць з беззаконня, якое пануе ў краіне. Зрэшты, менавіта ўсталёўваць уладу закона прыехаў у Вільню доктар рымскага права П. Раізій, сведчаннем чаго з'яўляецца яго судовая практыка, удзел у падрыхтоўцы Статута Вялікага Княства Літоўскага 1566 г. і грунтоўны юрыдычны трактат «Пастановы... адносна спраў у свяшчэннай залі

---

[1] Royzii P. Carmina. Pars I–II. Cracoviae, 1900. T. II. S. 264. Верш цытуецца ў падрадковым празаічным перакладзе.

[2] Ibid. S. 271. Верш цытуецца ў падрадковым празаічным перакладзе.

судовых пасяджэнняў Літвы...» («Decisiones... de rebus in sacro auditorio Lithuanico...»), выдадзены ў 1563 г. у Кракаве, а перавыдадзены пазней у Франкфурце-на-Майне і ў Венецыі...

П. Раізій знаходзіўся ў цэнтры тагачаснага культурнага жыцця Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага, быў у прыяцельскіх адносінах з многімі вядомымі вучонымі і пісьменнікамі. Ягоныя вершаваныя прадмовы і прысвячэнні змешчаны ў кнігах М. Рэя, А. Фрыча-Маджэўскага, А. Тшэцескага, Я. Гурскага, Я. Мянчыньскага, у сваю чаргу, пра П. Раізія пісалі М. Рэй, А. Тшэцескі, А. Ратунд, С. Ажахоўскі, два добразычлівыя анекдоты пра паэта-вучонага змясціў у кнізе «Польскі дваранін» Л. Гурніцкі, некалькі фрашак прысвяціў ягонай асобе Я. Каханоўскі, у тым ліку самую вядомую — «Пра доктара іспанца», якая ўвайшла ва ўсе зборнікі выбраных вершаў паэта, анталогіі і хрэстаматыі[1]. Пра аўтарытэт П. Раізія сярод беларуска-літоўскіх паэтаў маладзейшага пакалення сведчыць той факт, што напрыканцы выдадзенай у 1592 г. у Вільні паэмы Я. Радвана «Радзівіліяда...» змешчаны верш Раізія «Яснавяльможнаму князю і пану Мікалаю Радзівілу... ваяводзе вялікага князя літоўскага, з нагоды перамогі на Уле над маскавітамі» («Illustrissimo principi ac domino Nicolao Radivilo... exercitus Lituanici imperatori de victoria ad Ulam ex Moschis...»), напісаны ў 1564 г.

Яшчэ адным вандроўным паэтам-гуманістам, праўда, менш вядомым, які ў 60-х гг. XVI ст. апынуўся ў Вялікім Княстве Літоўскім, быў ураджэнец Цюрынгіі Ян (Іяган) Мылій (дата нарадж. невядома — памёр у 1575 г. у Ене). Ягоны шлях у Вільню таксама ляжаў праз Кракаў, дзе

---

[1] Fijałkowski T. Piotr Rojzjusz w opiniach współczesnych i potomnych // Sprawozdania z czynności i posiedzeń Łódzkiego Towarzystwa Naukowego. 1972. R. XXVI, zesz. 5. S. 1–11.

ў 1560–1561 гг. паэт слухаў лекцыі ва ўніверсітэце, адначасова дэманструючы свае бліскучыя веды ў галіне класічных моў і літаратур і паэтычныя здольнасці. У 1562 г. па запрашэнні Рыгора Хадкевіча, старасты віленскага і гетмана польнага літоўскага, Мылій прыязджае ў Вільню, каб займацца навучаннем дзяцей магната, Андрэя і Аляксандра. Педагагічную дзейнасць нямецкі гуманіст спалучае з паэтычнай творчасцю: «Ён піша эпініцыі, эпіталамы і эпітафіі, складае нават цэлую кніжачку на гербы літоўскай і польскай шляхты. Сярод яго адрасатаў прысутнічае і сам кароль Жыгімонт Аўгуст, якога Мылій учыніў правадыром святой вайны хрысціян супраць туркаў і татараў. Нібы спецыяльна на замову Габсбургаў, ён піша антытурэцкі памфлет «Да праслаўленага Хрысціяніна супраць турэцкіх воінаў...» («Ad inclitos Christianorum contra Turcam milites...»)[1]. Не забывае прыезджы паэт ваяводу віленскага Мікалая Радзівіла Чорнага, якому прысвячае вялікую оду. Але самым значным творчым дасягненнем Мылія віленскага перыяду з'яўляецца ахвяраваная Рыгору Хадкевічу нізка вершаў пра Інфлянцкую вайну «Перамога над маскавітамі, здабытая вяльможным панам Рыгорам Хадкевічам» («Viktoria de Moschis reportata per magnificum dominum Gregorium Chodkievitium»), выдадзеная ў 1564 г. у Вене. У вершах услаўляюцца вайсковыя подзвігі самога гетмана польнага літоўскага, ягоных братоў — Юрыя і Яна, зяця — Філона Кміты-Чарнабыльскага, а таксама некаторых іхніх паплечнікаў (напрыклад, Рамана Сангушкі, якім захапляўся і П. Раізій). Вершаваную нізку Я. Мылія ў цэлым можна разглядаць як своеасаблівую хроніку аднаго з этапаў Інфлянцкай вайны: барацьбы войскаў Вялікага Княства Літоўскага супраць маскоўскай агрэсіі ў 1562–1564 гг., як важкі крок да стварэння гераічнай эпікі. Разам з тым,

[1] Nowak-Dłużewski J. Okolicznościowa poezja polityczna w Polsce. Czasy Zygmuntowskie. Warszawa, 1966. S. 205.

асобныя вершы нізкі вылучаюцца ідэйна-тэматычнай самастойнасцю і мастацкай арыгінальнасцю.

У адным з вершаў апісваецца небяспечнае пасольства Юрыя Хадкевіча і Астафія Валовіча ў Маскву летам 1563 г. Засмучаныя і, што хаваць праўду, напалоханыя стратай Полацка, паслы Вялікага Княства прапануюць Івану Грознаму заключыць мір, але трыумфуючы агрэсар не хоча іх слухаць і думае пра новыя заваяванні. Усведамляючы складанасць ваенна-палітычнай сітуацыі, у якой пасольства проста не магло скончыцца паспяхова, паэт суцяшае свайго героя, Юрыя Хадкевіча:

Прыхільнік міру, ты прамаўляў красамоўна і пераканаўча,
Але твае словы не маглі крануць сэрца князя…[1]

Пасольства Ю. Хадкевіча і А. Валовіча да Івана Грознага ў 1563 г. з прапановай міру сталася своеасаблівай рэпетыцыяй пасольства Льва Сапегі да Барыса Гадунова ў 1600—1601 г., таксама як верш Я. Мылія з'явіўся ў пэўным сэнсе правобразам вялікай паэмы Г. Пельгрымоўскага «Пасольства да вялікага князя маскоўскага»: у абодвух творах услаўляюцца подзвігі, здзейсненыя беларускімі магнатамі не на полі бітвы, а на полі дыпламатычных перамоў.

Але Я. Мылій прадэманстраваў у сваёй нізцы, што і забавы Марса апяваць ён умее, прысвяціўшы эпініцыю перамозе беларуска-літоўскіх харугваў на чале з Рыгорам Хадкевічам над войскамі князя Сярэбранага ў лютым 1564 г. Побач з вобразам галоўнага героя і ягоных бліжэйшых паплечнікаў Рамана Сангушкі і Юрыя Тышкевіча, у вершы паўстае калектыўны вобраз безыменнага жаўнера-ліцвіна, які сваёй адвагай і воінскім умельствам забяспечыў пераможны вынік бітвы:

---

[1] Nowak-Dłużewski J. Okolicznościowa poezja polityczna w Polsce. Czasy Zygmuntowskie. S. 381. Верш цытуецца ў падрадковым празаічным перакладзе.

Ліцвін гоніць і б’е адступаючых ворагаў,
Прабівае спіны ўцекачоў снарадамі,
Сячэ шыі мячом альбо праломвае скроні
Жалезнай булавой, косіць пераможна па палях вершнікаў
Альбо спіхвае зляканых у бурлівыя воды[1].

Да сапраўднай героіка-эпічнай паэмы набліжаецца ода Я. Мылія, прысвечаная Філону Кміту-Чарнабыльскаму. На пачатку твора аўтар змясціў кароткі жыццяпіс героя, а далей даволі падрабязна і маляўніча апісаў ягоныя воінскія подзвігі, здзейсненыя ў 1562–1564 гг. Я. Мылій быў, здаецца, першым з паэтаў, хто ўславіў заслугі перад Айчынай гэтага выдатнага военачальніка, дзяржаўнага дзеяча, аўтара беларускамоўных «Допісаў». Дарэчы, паэт склаў таксама эпіталаму на вяселле Філона з Соф’яй Хадкевіч, а пасля раптоўнай смерці нядаўняй нявесты суцяшаў яе блізкіх эпіцэдыумам. Пазней вобраз Ф. Кміты-Чарнабыльскага з’явіцца ў героіка-эпічных паэмах Ф. Градоўскага і Я. Радвана.

У 1564 г. Ян Мылій пакідае Вільню: атрымлівае заданне апекавацца маладымі Хадкевічамі падчас іхняга выезду на вучобу ў Еўропу. Падчас знаходжання ў Вене ў 1565 г. паэт быў уганараваны за свае вершы лаўровым вянком з рук імператара Максіміляна II. У 1567 г. ягоныя з Хадкевічамі шляхі разыходзяцца, але сувязі з Вялікім Княствам Літоўскім не абрываюцца: гэтым разам ён дапамагае атрымліваць адукацыю ў Вітэнбергу Язэпу Валовічу і Рыгору Сапегу. Нарэшце, напрыканцы 60-х гг. Я. Мылій апынаецца на кафедры гебраістыкі ў Ене, дзе і працуе да апошніх дзён жыцця[2].

---

[1] Nowak-Dłużewski J. Okolicznościowa poezja polityczna w Polsce. Czasy Zygmuntowskie. S. 381. Верш цытуецца ў падрадковым празаічным перакладзе.

[2] Banach A.K. Mylius Jan // Polski słownik biograficzny. Wrocław i in., 1979. T. XXII. S. 353–354. Больш падрабязныя звесткі пра

70-я гг. XVI ст., на першы погляд, не былі плённымі для развіцця лацінамоўнай паэзіі ў Вялікім Княстве Літоўскім. Пасля ад'езду Я. Мылія і смерці П. Раізія на мясцовым Парнасе дамінуюць польскамоўныя паэты Ц. Базылік і М. Стрыйкоўскі. Але менавіта ў гэты час адбываюцца падзеі, вызначальныя для станаўлення беларускай лацінамоўнай паэзіі ў другой палове XVI — XVII ст.

Па-першае, з'яўляюцца першыя вершы па-лацінску ў кнігах, выдадзеных на тэрыторыі Беларусі. Былі гэта творы вядомага пратэстанцкага тэолага і філосафа, аўтара беларускага «Катэхізіса» 1562 г., Сымона Буднага. У лоскіх выданнях 1574–1580 гг. ён змясціў тры эпіграмы на герб Яна Кішкі, эпіграму на герб Мікалая Монвіда Дарагастайскага і эпіграму на герб Крыштафа Ласоты. У сваіх эпіграмах беларускі гуманіст расшыфроўваў геральдычныя знакі на гербах, услаўляў заслугі магнатаў перад Айчынай і ў пашырэнні «праўдзівай» веры. С. Будны даў класічныя ўзоры папулярнага ў еўрапейскай літаратуры эпохі Рэнесансу жанру — кніжна-эпіграматычнай паэзіі, да якой акрамя эпіграмаў на гербы адносяцца таксама вершаваныя прадмовы, прысвячэнні, пасляслоўі і вершы да Заіла (да нядобразычлівага крытыка). Дзве вершаваныя прадмовы С. Буднага былі пазней змешчаны ў падручніку замежных моў Яна Ліцынія Намыслоўскага, выдадзеным у Лоску ў 1589 г. Характэрна, што аўтарам першых выдадзеных у Беларусі лацінамоўных вершаў быў пратэстант па веравызнанні (спачатку Будны вызнаваў кальвінізм, потым стаў арыянінам). Менавіта пратэстанцкія аўтары —

---

жыццё і творчасць Я. Мылія можна будзе знайсці ў артыкуле Ж. Некрашэвіч-Кароткай «Паэтычныя абразкі з жыцця Вялікага Княства Літоўскага напярэдадні Люблінскай уніі ў паэзіі Іягана Мылія», які рыхтуецца да публікацыі ў зборніку «Dziedzictwo kulturowe Wielkiego Księstwa Litewskiego» / red. S. Kawalou, M. Kojder, Lublin, 2011.

Ф. Градоўскі, А. Рымша, Г. Пельгрымоўскі, Я. Радван, А. Волан, Я. Казаковіч — будуць дамінаваць у паэзіі Вялікага Княства Літоўскага апошняй чвэрці XVI ст.

Па-другое, напрыканцы 70-х гг. XVI ст. у паэзіі Беларусі і Літвы ўпершыню заяўляюць пра сябе езуіцкія аўтары. У 1579 г. у знак удзячнасці каралю Стэфану Баторыю за наданне Віленскай калегіі статуса акадэміі выкладчыкі і навучэнцы выдаюць у друкарні М.К. Радзівіла панегірычны зборнік «Gratulationes... Stephano I... Regi Poloniae» — першы са шматлікіх езуіцкіх панегірычных зборнікаў у гонар каралёў і магнатаў, якія будуць рэгулярна з'яўляцца ў XVI–XVIII стст.: «Gratulationes... Georgio Radivilo... Episkopo Vilnen...» (1581), «Gratulationes... Sigismundo III... Regi Poloniae...» (тры зборнікі, выдадзеныя ў 1589), «Threnodiae in obitum... Alberti Radivili...» (1593), «Parathenicae sodalitatis <...>. Threni... Philonis Kmitae Czarnobylski...» (1594), «Parentalia in obitum... Georgii Chodkievicii...» (1595), «Threni in obitum... Nikolai Szymanowski Studiosi Philosophiae...» (1596), «Theatrum S. Casimiri...» (1604), «Funebris laudatio, et threnodia... Joannis Barcii...» (1605) і г. д. Пераважная большасць вершаў у езуіцкіх панегірычных зборніках была на лацінскай мове, толькі зрэдку сустракаліся польскамоўныя творы. Такім чынам, можна гаварыць пра відавочную «лацінізацыю» паэзіі Беларусі на мяжы XVI–XVII стст. Шырокае распаўсюджанне лацінскай мовы з'явілася вынікам дзейнасці езуітаў у Вялікім Княстве Літоўскім. Да гэтага часу веданне лаціны як мовы антычнай і агульнаеўрапейскай культуры было прывілеем вузкага кола асветнікаў-гуманістаў кшталту П. Раізія, Я. Мылія, С. Буднага, а як мовы каталіцкага богаслужэння — прафесійным абавязкам святароў у касцёлах.

У 1580 г. у далёкай Падуі пабачыла свет паэма, якая, з нашага пункту гледжання, падагульняе развіццё лаціна-

моўнай паэзіі Беларусі і Літвы ў 50–70-я гг. XVI ст. і разам з тым з'яўляецца своеасаблівым пралогам яе росквіту ў 80–90-я гг. гэтага ж стагоддзя. Называлася паэма «Панегірык на ўзяцце Полацка...» («Panegyricus in excidium Polocense...»), а напісаў яе былы навучэнец Віленскай езуіцкай акадэміі Базылі Гіяцынт, які завяршаў сваю адукацыю ў італьянскіх універсітэтах. Створана паэма, як сведчыць ужо сама яе назва, з нагоды вызвалення Полацка войскамі Стэфана Баторыя ў 1579 г., ініцыятарам выдання былі, відаць, колішнія выкладчыкі аўтара ў Віленскай езуіцкай акадэміі, у прыватнасці рэктар Пётр Скарга. Акрамя «Панегірыка на ўзяцце Полацка...» у кнізе змешчаны шэраг эпіграм у гонар Стэфана Баторыя, напісаных Б. Гіяцынтам і ягонымі прыяцелямі з Вільні.

Польскі даследчык Ю. Новак-Длужэўскі лічыць недахопамі паэмы Б. Гіяцынта тое, што постаць караля Стэфана губляецца за вобразамі беларуска-літоўскіх магнатаў (у першую чаргу — за вобразам Мікалая Радзівіла Рудога), і тое, што замест паслядоўнага «міметычнага» прадстаўлення штурму Полацка аўтар збіваецца на шматслоўнае рытарычнае ўслаўленне ўдзельнікаў бітвы[1]. На нашую думку, гэтыя заўвагі несправядлівыя. Па-першае, хоць у поўнай назве паэмы заяўлена імя караля польскага і вялікага князя літоўскага Стэфана Баторыя, але прысвечана паэма гетману вялікаму літоўскаму Мікалаю Радзівілу Рудому (дарэчы, кальвіністу па веравызнанні). Па-другое, як зноў жа сведчыць назва твора, Б. Гіяцынт з самага пачатку намерваўся пісаць *панегірык*, а не героіка-эпічную паэму ў чыстым выглядзе, таму наяўнасць баталістычных сцэн у творы — прыемная нечаканасць, творчае адступленне ад канона, а ўзнёслае рытарычнае ўслаўленне за-

---

[1] Nowak-Dłużewski J. Okolicznościowa poezja polityczna w Polsce. Pierwsi królowie elekcyjni. Warszawa, 1969. S. 121–122.

слуг Радзівіла, Хадкевіча, Глебавіча, Кішкі, Астрожскага, Сапегі, Палубінскага і іншых беларуска-літоўскіх магнатаў цалкам адпавядае паэтыцы жанру.

Паэма «Panegyricus in excidium Polocense...» прысвечана тэме, якая станецца магістральнай у шматмоўнай паэзіі Беларусі і Літвы 80-х гг.: барацьбе народаў Вялікага Княства Літоўскага з маскоўскай агрэсіяй падчас Інфлянцкай вайны 1558–1581 гг. Як мы ўжо адзначалі, гэтай важнай тэме прысвечаны некаторыя вершы П. Раізія і Я. Мылія. Але менавіта паэма Б. Гіяцынта — найбольш важкі крок на шляху да гераічнай эпікі, якая зробіцца дамінуючым жанрам у паэзіі позняга Рэнесансу, крок да ўзнікнення паэм «Hodoeporicon Moschicum... Christophori Radivilonis» (1582) Ф. Градоўскага, «Panegyrica Apostrophe ad... Christophorum Radivilum» (1583) Г. Пельгрымоўскага, «Deketeros akroama, to jest Dziesięćroczna powieść wojennych spraw... Krysztofa Radziwiła...» (1585) А. Рымшы, «Radivilias... sive de vita et rebus... Nikolai Radivili» (1592) Я. Радвана, «De bello Ostrogiano...» (1600) С. Пекаліда.





# Ян Каханоўскі і Андрэй Рымша: спаборніцтва на эпічным полі

З дзвюх школаў у польскай паэзіі эпохі Рэнесансу — школы Мікалая Рэя і школы Яна Каханоўскага — тагачасным паэтам Вялікага Княства Літоўскага больш блізкай была школа М. Рэя, якая не парвала яшчэ сувязяў з сярэднявечнай літаратурай, адчувала моцны ўплыў культуры «крэсаў» і рэпрэзентавала погляды сярэдніх слаёў шляхецкага грамадства.

Рэнесансавыя, гуманістычныя рысы ў творчасці ліцвінскіх паэтаў XVI — пачатку XVII ст. праяўляліся не так выразна, як у творчасці выхаванца Падуі Я. Каханоўскага і ягоных паслядоўнікаў, хаця індывідуальны ўплыў вялікага польскага паэта адчуваецца ў польскамоўных творах многіх аўтараў: Пятра Стаенскага, Цыпрыяна Базыліка, Яна Пратасовіча.

У шматмоўнай паэзіі Беларусі і Літвы позняга Рэнесансу можна знайсці, аднак, не толькі творы, напісаныя пад непасрэдным уплывам Я. Каханоўскага («Пратэй, або Пярэварацень» П. Стаенскага і Ц. Базыліка), але і творы, якія нарадзіліся ў выніку творчага спаборніцтва з ім. Такім унікальным творам з'яўляецца польскамоўная паэма Андрэя Рымшы «Дзесяцігадовая аповесць ваенных спраў князя Крыштафа Радзівіла...».

Неўзабаве пасля заканчэння Інфлянцкай вайны (1558–1582) у шматмоўнай паэзіі Вялікага Княства Літоўскага з'яўляецца цэлы шэраг эпічных твораў. Мясцовыя паэты, непасрэдныя відавочцы і ўдзельнікі ваенных дзеянняў, бяруцца за пяро, каб захаваць у памяці нашчадкаў подзвігі «ліцвінскіх Гектараў і Улісаў», здзейсненыя ў бітвах з Масквой. Характэрнай асаблівасцю эпічнай паэзіі Беларусі і Літвы другой паловы XVI ст. з'яўляецца тое, што прысвечана яна ваенным заслугам прадстаўнікоў аднаго роду, адной сям'і: Радзівілаў біржайскай лініі.

Перамога гетмана Мікалая Радзівіла Рудога над ракой Улай услаўляецца ў польскамоўнай паэме Мацея Стрыйкоўскага «O porażeniu 30 000 Moskwy z kniaziem Piotrem Szujskim... nad rzeką Ułą... r. 1564» і ў лацінамоўнай паэме Я. Радвана «Radivilias... sive de vita et rebus... Nikolai Radivili» (Вільня, 1592).

Найбольш прыцягальным з усіх эпізодаў шматгадовай вайны аказаўся для паэтаў паход польнага гетмана літоўскага Крыштафа Радзівіла Перуна па тылах маскоўскіх войск восенню 1581 г. Першым даў падрабязнае апісанне радзівілаўскага паходу Францішак Градоўскі ў паэме «Hodoeporikon Moschicum... Christophori Radivilonis» (Вільня, 1582). Усяго праз год подзвігі Крыштафа Радзівіла ўславіў Гальяш Пельгрымоўскі ў паэме «Panegyrika Apostrophe... ad Christophorum Radivilum» (Кракаў, 1583). Абодва яны былі непасрэднымі ўдзельнікамі ваеннай кампаніі, абодва прызначалі свае лацінамоўныя творы не толькі для айчыннага, але і для еўрапейскага чытача. у 1583 г. у Кракаве пабачыла свет першая польскамоўная паэма пра радзівілаўскі паход — «Jezda do Moskwy» Я. Каханоўскага.

Але найбольш падрабязнае паэтычнае апісанне паходу К. Радзівіла выйшла з-пад пяра беларускага паэта Андрэя Рымшы: «Deketeros akroama, to jest Dziesięćroczna

powieść wojennych spraw oświęconego książęcia... Krysztofa Radziwiła...» (Вільня, 1585). Паэма Ф. Градоўскага налічвае 790 радкоў, паэма Я. Каханоўскага — 410, паэма А. Рымшы — 2184 радкі (без уступнай часткі). На нашу думку, «Дзесяцігадовая аповесць...» з'яўляецца найбольш значным творам з радзівілаўскага цыклу таксама і з мастацкага пункту гледжання.

Пасля М. Стрыйкоўскага А. Рымша — самы вядомы сёння з паэтаў Вялікага Княства Літоўскага другой паловы XVI ст., прычым вядомы як паэт *беларускі*. Імя паэта згадваецца ва ўніверсітэцкіх падручніках[1], артыкул пра А. Рымшу ёсць у біябібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі»[2].

Нарадзіўся А. Рымша (каля 1550 — пасля 1599) у вёсцы Пянчын пад Навагрудкам, у шляхецкай сям'і герба Паўкозіч. З 1572 г. жыццё А. Рымшы было цесна звязана з дваром князя К. Радзівіла Перуна. У 1581 г. ён удзельнічаў у паходзе Крыштафа ў глыб маскоўскіх земляў, пазней суправаджаў князя ў падарожжы па Інфлянтах. З 1589 па 1599 г. выконваў абавязкі падстарасты (прэтора) Біржаў — радавога ўладання Радзівілаў. Па веравызнанні паэт быў кальвіністам, але паходзіў, відаць, з праваслаўнай сям'і.

Невядома, якую А. Рымша меў адукацыю. У 1581 г. у астрожскай друкарні І. Фёдарава выйшла ў свет вершаванае сачыненне А. Рымшы «Которого ся месяца што за старых веков дело короткое описание», якое атрымала ў навукоўцаў назву «Храналогіі» (у самім творы такога слова няма). На падставе гэтага факта К. Харламповіч выказаў меркаванне, што, магчыма, А. Рымша вучыўся

---

[1] Гісторыя беларускай літаратуры : старажытны перыяд. С. 272–273.

[2] Коршунаў А.Ф. Рымша Андрэй // Беларускія пісьменнікі : біябібліяграф. слоўнік. Мінск, 1995. Т. 5. С. 188–190.

альбо выкладаў у Астрожскай брацкай школе[1]. Праўда, ужо У.М. Ператц слушна адзначыў, што «ўзровень адукацыі Рымшы быў вышэйшы, чым у вучня брацкай школы канца XVI ст.»[2]. Прынамсі, у 1581 г. аўтар «Храналогіі» дакладна не вучыўся ў астрожскай школе: А. Рымшу было на той час каля 30 гадоў, і ён браў удзел у ваенных дзеяннях пад даводствам Крыштафа Радзівіла.

Вершы А. Рымшы на старабеларускай мове прыцягвалі ўвагу даследчыкаў яшчэ з часоў У. Ператца, М. Грушэўскага, Я. Карскага, але галоўны твор паэта — «Дзесяцігадовая аповесць ваенных спраў князя Крыштафа Радзівіла» — параўнальна нядаўна стаў аб'ектам даследавання беларускіх навукоўцаў.

Першы звярнуў увагу на паэму А. Рымшы ў 1965 г. польскі вучоны А. Сайкоўскі, даследуючы феномен мецэнацтва Радзівілаў XVI–XVIII стст.[3] Пералічыўшы імёны паэтаў, звязаных з дваром Мікалая Радзівіла Рудога і яго сына Крыштафа Радзівіла Перуна, А. Сайкоўскі вылучыў «Дзесяцігадовую аповесць...» як адзін з найбольш значных твораў, што ўзніклі ў радзівілаўскім асяродку. Пазней А. Сайкоўскі разам з В. Жэпкам апублікавалі паэму А. Рымшы паводле экзэмпляра з Гданьскай бібліятэкі Польскай акадэміі навук[4].

---

[1] Харлампович К. Западнорусские православные школы XVI и начала XVII века, отношение их к инославным, религиозное обучение в них и заслуги их в деле защиты православной веры и церкви. Казань, 1898. С. 252.

[2] Перетц В.Н. Малорусския вирши и песни в записях XVI–XVII вв. // Известия ОРЯС Импер. Акад. Наук. 1899. Т. IV. С. 882.

[3] Sajkowski A. Od Sierotki do Rybeńki : w kręgu radziwiłłowskiego mecenatu. Poznań, 1965. S. 5–24.

[4] Rymsza A. Deketeros akroama, to jest Dziesięćroczna powieść wojennych spraw... // Archiwum Literackie. T. XVI. S. 133–223.

У кантэксце польскай палітычнай паэзіі эпохі Рэнесансу разглядаў «Дзесяцігадовую аповесць...» Ю. Новак-Длужэўскі[1]. У адрозненне ад А. Сайкоўскага, Ю. Новак-Длужэўскі надзвычай крытычна ацаніў талент А. Рымшы, абвінавацііўшы паэта ў дрэнным валоданні польскай мовай, у парушэнні асноўных правіл версіфікацыі, у адсутнасці апавядальніцкіх здольнасцей і нават... у садызме, з якім апісаны карныя акцыі Крыштафа Радзівіла.

З беларускіх літаратуразнаўцаў першы прааналізаваў паэму А. Рымшы І.В. Саверчанка, вылучыўшы такія рысы твора, як гістарызм, патрыятызм, наяўнасць баталістычных сцэнак і замалёвак прыроды, адсутнасць псіхалагізму ў апісаннях паводзін героя, перавага агульнага над індывідуальным[2]. Насуперак сцвярджэнню Ю. Новак-Длужэўскага пра садызм А. Рымшы, беларускі даследчык слушна падкрэсліў гуманістычнае гучанне «Дзесяцігадовай аповесці...»: «Апісваючы трыумфальныя перамогі свайго апекуна, А. Рымша разам з тым сцвярджаў, што вайна — антыгуманная з'ява, яна нясе разбурэнні і смерць, знішчэнне неацэнных помнікаў матэрыяльнай і духоўнай культуры»[3].

Як героіка-эпічная паэма «Дзесяцігадовая аповесць...» аналізавалася ў нашай манаграфіі разам з паэмамі Ф. Градоўскага і Я. Радвана; тры гэтыя творы былі аб'яднаны намі ва ўмоўны «радзівілаўскі цыкл» на падставе іх генетычнага і тыпалагічнага падабенства[4]. Разам з тым

---

[1] Nowak-Dłużewski J. Okolicznościowa poezja polityczna w Polsce: Pierwsi królowie elekcyjni. S. 134–147.

[2] Саверчанка І.В. Старажытная паэзія Беларусі: XVI — першая палова XVII ст. С. 94–103.

[3] Тамсама. С. 97.

[4] Кавалёў С.В. Героіка-эпічная паэзія Беларусі і Літвы канца XVI ст. Мінск, 1993. С. 40–71.

даследаванне паказала, што «Дзесяцігадовая аповесць ваенных спраў князя Крыштафа Радзівіла» вылучаецца сярод іншых эпічных твораў найперш рэалістычнасцю, а падчас і натуралістычнасцю апісанняў ваенных дзеянняў, увагай да суровага, будзённага жыцця жаўнераў[1].

Даследуючы «Дзесяцігадовую аповесць...» у кантэксце шматмоўнай паэзіі Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу, неабходна параўнаць паэму А. Рымшы яшчэ з двума творамі, прысвечанымі подзвігам Крыштафа Радзівіла Перуна: «Паходам на Маскву» Я. Каханоўскага і «Панегірыкам... Крыштафу Радзівілу» Г. Пельгрымоўскага. Асабліва важным з'яўляецца параўнанне паэм А. Рымшы і Я. Каханоўскага, бо дадзены выпадак дазваляе гаварыць не толькі пра наяўнасць уплыву вялікага польскага пісьменніка на паэтаў Вялікага Княства Літоўскага, але і пра факты паэтычнага спаборніцтва.

Адразу ўзнікае пытанне пра агульную залежнасць паэм Я. Каханоўскага, Г. Пельгрымоўскага і А. Рымшы ад «Апісання маскоўскага паходу князя Крыштафа Радзівіла» Ф. Градоўскага — першага па часе ўзнікнення твора пра радзівілаўскую выправу 1581 г. Польскі вучоны С. Лэмпіцкі яшчэ ў 1947 г. выказаў меркаванне, што паэма Ф. Градоўскага паслужыла ўзорам для напісання і адной з крыніц інфармацыі для Я. Каханоўскага[2]. А. Сайкоўскі падтрымаў думку С. Лэмпіцкага і дадаў, што яшчэ адной крыніцай інфармацыі для Я. Каханоўскага мусіў служыць падрабязны дыярыуш радзівілаўскага паходу, напісаны, магчыма, А. Рымшам: сляды існавання такога дыярыуша

---

[1] Кавалёў С.В. Героіка-эпічная паэзія Беларусі і Літвы канца XVI ст. С. 53.

[2] Łempicki S. Dwie «Jezdy do Moskwy» // Sprawozdania z czynności i posiedzeń PAU. 1947. № 3. S. 71–72.

захаваліся ў тэксце «Дзесяцігадовай аповесці...» і на яе палях[1].

Катэгарычна аспрэчыў меркаванне пра залежнасць «Паходу на Маскву» ад «Апісання маскоўскага паходу...» Ю. Новак-Длужэўскі, які звярнуў увагу на наяўнасць у паэме Я. Каханоўскага фактаў, не адлюстраваных у паэме Ф. Градоўскага. На думку гэтага даследчыка, падабенства двух твораў вынікала выключна з карыстання двума паэтамі тым самым дыярыушам радзівілаўскага паходу, прычым польскі паэт выкарыстоўваў чужы дыярыуш больш сумленна, бо нічога не скарачаў і не змяняў. Ю. Новак-Длужэўскі лічыў, што «Апісанне маскоўскага паходу...» аказала ўплыў не на «Паход на Маскву», а на «Дзесяцігадовую аповесць...», бо сам А. Рымша нібыта прызнаваўся ў гэтым[2].

Сапраўды, у празаічнай прадмове да «Дзесяцігадовай аповесці...», адрасаванай князю Крыштафу Радзівілу, А. Рымша з павагай выказваўся пра кнігу Ф. Градоўскага: «Przeto tymi czasy napierwej pan Fronc Gradowski Jego Krol<ewskiej> Miłości sekretarz historyją zacnych a przeważnych spraw wojennych W. K. M. w osobliwych książkach, ktorem i ja widział, nadobnym wierszem łacińskim prawie heroico, statecznie i porządnie napisał a wydrukowawszy miedzy zacne ludzie podał, do ktorych czytania wszyscy ludzie mądrzy a uczeni z pilnością się udali wychwalając zacne a mężne sprawy W. K. M.»[3]. Па прыкладу Ф. Градоўскага вырашыў напісаць паэму пра подзвігі Крыштафа Радзівіла і А. Рымша, але не па-лацінску, а па-польску, адрасуючы

---

[1] Sajkowski A. Od Sierotki do Rybeńki : w kręgu radziwiłłowskiego mecenatu. S. 20–21.

[2] Nowak-Dłużewski J. Okolicznościowa poezja polityczna w Polsce: Pierwsi królowie elekcyjni. S. 139–141.

[3] Rymsza A. Deketeros akroama... S. 140–141.

свой твор не мудрым і вучоным людзям, а «...według prostoty mojej, wszystkim prostakom — ile takim, ktorzy sie lepiej szablą sylogismować, kopiją argumentować, czymburem konfirmować, niżli łaciną dysputować, nauczyli...»[1].

З прадмовы вынікае, што А. Рымша ставіўся да паэмы Ф. Градоўскага як да натхняючага прыкладу, а не як да ўзору для наследавання, і свядома намерваўся напісаць твор іншага кшталту, чым «Апісанне маскоўскага паходу...». Паэмы Я. Каханоўскага і Г. Пельгрымоўскага ў датаванай 10 красавіка 1583 г. прадмове не згадваюцца, бо на той час яны яшчэ не існавалі альбо не былі выдадзены. «Дзесяцігадовая аповесць...» пісалася недзе паміж 17 кастрычніка 1582 г. (у гэты дзень адбыўся шлюб Крыштафа Радзівіла з Кацярынай Тэнчынскай, апісаны ў заключным раздзеле паэмы) і 31 сакавіка 1583 г. (гэтай датай пазначана заканчэнне працы над творам). Паэмы А. Рымшы, Я. Каханоўскага, Г. Пельгрымоўскага ствараліся амаль адначасова і адначасова мусілі пабачыць свет — у 1583 г. Але ў адрозненне ад твораў Я. Каханоўскага і Г. Пельгрымоўскага «Дзесяцігадовая аповесць...» была выдадзена толькі праз два гады — з вялікім спазненнем, як на тыя часы — і на ўласныя сродкі аўтара.

Відаць, Крыштаф Радзівіл не выказаў цікавасці да паэмы свайго «сціплага служкі» Андрэя Рымшы, зрабіўшы стаўку на гучнае імя Яна Каханоўскага. Можна ўявіць сабе рэакцыю А. Рымшы — непасрэднага відавочцы і ўдзельніка радзівілаўскага паходу — на выхад у свет яшчэ двух твораў пра подзвігі Крыштафа Радзівіла, асабліва ў выпадку, калі Ф. Градоўскі і Я. Каханоўскі насамрэч карысталіся яго празаічным дыярыушам для стварэння сваіх паэм. На нашу думку, выданне аўтарскім коштам «Дзесяцігадовай аповесці...» — гэта плён творчых амбіцый А. Рымшы,

---

[1] Rymsza A. Deketeros akroama... S. 141.

а не вынік незадаволенасці мецэната-заказчыка паэмай Я. Каханоўскага, як лічыў А. Сайкоўскі[1].

Заўважым, што ў дыскусіі польскіх вучоных не згадваецца «Панегірык... Крыштафу Радзівілу» Г. Пельгрымоўскага, і гэта невыпадкова. Па-першае, Г. Пельгрымоўскі, як і А. Рымша, непасрэдна ўдзельнічаў у выправе Крыштафа Радзівіла, і чужы дыярыуш для напісання ўласнага твора яму не быў патрэбны. Па-другое, «Панегірык...» тыпалагічна адрозніваецца ад паэм Ф. Градоўскага, Я. Каханоўскага і А. Рымшы, ён створаны зусім па іншай мадэлі.

Паэма Ф. Градоўскага належала да папулярнага ў тагачаснай еўрапейскай паэзіі жанру *hodoeporikon*, які аб'ядноўваў рознага роду апісанні падарожжаў, у тым ліку і ваенных выпраў. Безумоўна, выбар жанру падказала Ф. Градоўскаму сама тэма твора: паход гетмана К. Радзівіла ў глыб маскоўскіх земляў восенню 1581 г. Вершаванымі апісаннямі радзівілаўскай выправы з'яўляюцца таксама паэмы Я. Каханоўскага і А. Рымшы, што пацвярджае выснову Л. Шчарбіцкай-Сленк: на пераломе Рэнесансу і Барока развіццё гістарычнай эпікі ў Рэчы Паспалітай адбывалася пад знакам hodoeporikon[2].

Паэма Г. Пельгрымоўскага да жанру hodoeporikon не адносіцца, яна ўяўляе сабой апісанне і ўслаўленне дзяржаўных і ваенных заслуг не толькі Крыштафа Радзівіла, а ўсяго радзівілаўскага роду (у тым ліку і заслуг у пашырэнні «праўдзівай веры» — кальвінізму), выправа Крыштафа Радзівіла ў глыб маскоўскіх земляў у 1581 г. паказана як важны, але толькі эпізод у слаўнай гісторыі

---

[1] Sajkowski A. Od Sierotki do Rybeńki : w kręgu radziwiłowskiego mecenatu. S. 20.

[2] Szczerbicka-Ślęk L. W kręgu Klio i Kalliope : staropolska epika historyczna. Wrocław i inn., 1973. S. 6.

роду Радзівілаў[1]. Усім вышэйзгаданым творам у той ці іншай ступені быў уласцівы *панегірызм*, але толькі ў паэме Г. Пельгрымоўскага непасрэднае рытарычнае ўслаўленне героя і яго продкаў з'яўляецца асноўнай формай выкладу матэрыялу: ваенныя подзвігі Крыштафа Радзівіла не апісваюцца, а пералічваюцца, прыводзяцца як прыклады для падмацавання лагічных аргументаў і квяцістых фігур урачыстага красамоўства. «Панегірык... Крыштафу Радзівілу» Г. Пельгрымоўскага нагадвае не «Апісанне маскоўскага паходу...» Ф. Градоўскага, а паэму Базыля Гіяцынта «Panegyricus in excidium Polocense...» (Падуя, 1580), дзе не столькі апісваецца ўзяцце Полацка, колькі ўслаўляюцца заслугі і дабрачыннасці караля Стэфана Баторыя, князя Мікалая Радзівіла Рудога і іншых беларуска-літоўскіх магнатаў.

Панегірычная зададзенасць адлюстравана ў саміх назвах паэм Б. Гіяцынта і Г. Пельгрымоўскага, таксама як у назвах паэм Ф. Градоўскага і Я. Каханоўскага заяўлена іх жанравая спецыфіка.

Назва паэмы А. Рымшы сведчыць, што аўтар «Дзесяцігадовай аповесці...» ставіў перад сабой больш амбіцыйную задачу, чым апісанне радзівілаўскай выправы 1581 г.: стварыць вершаваную *хроніку* подзвігаў Крыштафа Радзівіла на працягу дзесяці гадоў, прасачыць удзел свайго патрона ў ваенных аперацыях з 1572 па 1581 г.

Паэма Я. Каханоўскага дакладна наследуе кампазіцыю паэмы Ф. Градоўскага: у экспазіцыі ўслаўляецца перамога Мікалая Радзівіла Рудога над арміяй Пятра Шуйскага ў 1564 г. (у гэтай бітве атрымаў баявы хрост і юны Крыштаф Радзівіл), сцісла пералічваюцца іншыя воінскія подзвігі маладога Радзівіла, а асноўная ўвага факусіруецца

[1] Pilgrimovius H. Panegyrica Apostrophe... ad Christophorum Radivilum. Cracoviae, 1583. S. 1–12.

на радзівілаўскім рэйдзе па тылах маскоўскіх войск 5 жніўня — 24 кастрычніка 1581 г. А. Рымша адмаўляецца ад такога — выйгрышнага ў мастацкіх адносінах — пачатку, які дазваляў паказаць пераемнасць спраў бацькі і сына, і пачынае першы раздзел паэмы са сціплага «летапіснага» запісу пра смерць караля Жыгімонта Аўгуста:

Roku od Chrysta Pana nam narodzonego
Tysiąc pięćset pisano siedmdziesiąt wtorego,
Kiedy Parce niezbędne nam Króla swiętego
Augusta prze śmierć wzięły, a Bog jako swego
Do nieba doprowadził. <…> [1]

Звернем увагу на характэрнае спалучэнне ў першых жа радках паэмы вобразаў грэчаскай міфалогіі і рэлігійных перакананняў аўтара: караля Аўгуста пазбавілі жыцця няўмольныя Паркі, а на неба яго ўзяў хрысціянскі Бог. Перад намі тыповы вынік наследавання рэнесансавым паэтам антычных узораў; гэтаксама ў «Прускай вайне» Я. Вісліцкага перамагчы крыжакоў дапамагае Ягайлу хрысціянскі Бог, а жонку старому каралю выбіраюць багі алімпійскія.

У адрозненне ад Я. Каханоўскага, які проста пераказаў змест «Апісання маскоўскага паходу…» і нейкага дыярыуша, А. Рымша істотна дапоўніў звесткі Ф. Градоўскага апісаннем падзей 1572–1581 гг. (раздзелы I–VIII) і больш падрабязна распавёў пра сам радзівілаўскі рэйд (раздзелы IX–XXII), дбаючы пра каштоўнасць свайго твора як гістарыяграфічнай крыніцы. За пачатак аповеду 1572 г. выбраны таму, што ў гэтым годзе Крыштаф Радзівіл стаў польным гетманам літоўскім, і таму, што з гэтага часу ў акружэнні князя з'яўляецца аўтар паэмы, які ў вершаванай прадмове ўрачыста абяцае чытачу:

---

[1] Rymsza A. Deketeros akroama … S. 144–145.

O tym rzecz swą prowadzę, na co oczy nasze
Patrzyły i chcą patrzac bez przestanki zawsze[1].

Непасрэдны ўдзельнік паходу Крыштафа Радзівіла, А. Рымша неаднаразова падкрэслівае сваю ролю відавочцы многіх апісаных у паэме падзей, даты якіх падаюцца ў тэксце альбо на палях. Прынцып гістарычнай дакладнасці лічаць мастацкай асновай «Дзесяцігадовай аповесці...» яе даследчыкі, называючы твор А. Рымшы паэмай-хронікай[2], мемуарнай паэмай[3].

Сімптаматычна, што Ф. Градоўскі ва ўступнай эпіграме просіць кіраваць ягонай лірай Каліёпу — музу эпічнай паэзіі[4], а А. Рымша ў паэтычнай прадмове называе сваімі апякункамі дзвюх муз: Каліёпу і музу гісторыі Кліа[5]. Як і М. Стрыйкоўскі, А. Рымша ўсведамляе сябе паэтам-гісторыкам, піша *вершаваную хроніку* дзесяцігадовага служэння Крыштафа Радзівіла Айчыне. Услед за М. Стрыйкоўскім, А. Рымша арыентуецца не на вергіліеўскую, а на луканаўскую мадэль эпасу, а як вядома, «...уся рымская эпіка перад Вергіліем была вершаванай хронікай»[6].

Несумненнай творчай удачай А. Рымшы з'яўляецца вобраз Крыштафа Радзівіла. Толькі ў асобных фрагментах (напрыклад, у прамове Славы да свайго мілага «кахан-

---

[1] Rymsza A. Deketeros akroama ... S. 144.

[2] Саверчанка І.В. Старажытная паэзія Беларусі: XVI — першая палова XVII ст. С. 96–97.

[3] Sajkowski A. Od Sierotki do Rybeńki : w kręgu radziwiłłowskiego mecenatu. S. 33.

[4] Gradovio F. Hodoeporicon Moschicum... Christophori Radivilonis. Vilnae, 1582. S. 4.

[5] Rymsza A. Deketeros akroama... S. 143.

[6] Lewis C.S. Historycyzm // Lewis C.S. Ziarna paproci i słońce. Warszawa, 1986. S. 46.

ка») гучыць панегірычнае ўслаўленне польнага гетмана літоўскага, куды часцей А. Рымша паказвае свайго героя ў дзеянні, распавядае пра яго сапраўдныя рыцарскія подзвігі і жаўнерскія заслугі:

Sam ustawicznie jezdził srtaży doglądając,
Jednych zwodzi, a drugich na to miejsce dając.
Nic to wstać o pułnocy, jeździć po obozie,
By lud prześpiesznie leżał, sam strzeże na mrozie.
Gdy z Łuk Moskwa uchodzić chciała ręką mocną,
Swą osobą w okrutną plutę strzegł straż nocną.
Wkoło zamek objachał i szańce nawiedził,
Sam nam był przewodnikiem i wbrod nas uprzedził[1].

Побач з вобразам галоўнага героя ў «Дзесяцігадовай аповесці...» паказаны калектыўны вобраз беларускалітоўскіх жаўнераў, якія бралі ўдзел у радзівілаўскай выправе. Баталістычных сцэнак у паэме няшмат, але напісаны яны маляўніча і экспрэсіўна:

Wnet wsze zacne rycerstwo hetmanowi swemu
Dzięki dawszy, pośpieszno szli ku zamku temu
Mężnym sercem, aż kryk ich niebo usłyszało;
Echo milczeć musiała, głosu jej nie stało.
Już drzewca tkwią pod dachy z smolanemi snopy,
Drudzy już w zamku biją tam te harde chłopy.
Zewsząd wielka kurzawa, aż groza i pojrzeć,
Dali wsystko ogniewi i trwiącemu pożrzec[2].

Падобных разгорнутых апісанняў мы не знойдзем у паэме Я. Каханоўскага, які ў чатырох радках змяшчаў звычайна інфармацыю пра ўзяцце горада і знішчэнне некалькіх вёсак (адзінае выключэнне — падрабязнае апісанне бітвы пад Сокалам). Параўнаем, напрыклад, як Я. Каханоўскі

[1] Rymsza A. Deketeros akroama... S. 167.
[2] Ibid. S. 151.

і А. Рымша апісвалі пераправу радзівілаўскіх харугваў праз Мядзведжае балота.

У «Паходзе на Маскву», напісаным у форме звароту паэта да асобы Крыштафа Радзівіла, знаходзім лаканічнае чатырохрадкоўе:

Idąc daley Turosno twoie konie piły,
Ale zaś na Starynie drogi złey użyły,
Topiąc sye na niedźwiedzym na niebespiecznym błocie
Rzadko tam w ktorey było bez chromego w rocie[1].

Працытаваны ўрывак адэкватна адлюстроўвае стыль паэмы Я. КахаНоўскага, слушна названай гісторыкамі літаратуры «падрабязным вершаваным дзённікам»[2], «рыфмаванай справаздачай»[3], «каталогам занятых і знішчаных мясцовасцей»[4]. Вершаванае паведамленне Я. Каханоўскага сваёй сціслацю і сухасцю нагадвае дзённікавы запіс А. Рымшы на палях «Дзесяцігадовай аповесці...»: «17 aug<usta> od Żarkow nad jezioro Turosno mil 5 uszli. 18 august<a> wojsko szło przez starynę barzo topką i zarąbaną na mil pułtory, przećsię uszli w ziemię moskiewską mil 4. Tę starynę Moskwa zowie Niedźwieżoje Błoto»[5].

У асноўным, вершаваным тэксце «Дзесяцігадовай аповесці...» гэтаму эпізоду радзівілаўскай выправы прысвечана ажно трыццаць два радкі. Параўнаўшы ўслед за Ф. Градоўскім пераход Радзівіла праз Мядзведжае балота

---

[1] Kochanowski J. Jezda do Moskwy // Kochanowski J. Dzieła wszystkie. Warszawa, 1924. T. 2. S. 318.

[2] Кондратович Л. (Сырокомля). История польской литературы. Москва, 1861. Т. 1. С. 451.

[3] Brückner A. Wstęp // Kochanowski J. Dzieła wszystkie. T. 2. S. 62.

[4] Krzyżanowski J. Historia literatury polskiej: alegoryzm — preromantyzm. Warszawa, 1964. S. 179.

[5] Rymsza A. Deketeros akroama ... S. 175.

з пераходам Ганібала праз Альпы і Ксеркса праз гару Атос, А. Рымша малюе затым каларытную сцэнку пераправы радзівілаўскіх жаўнераў праз небяспечнае месца:

Jedni drzewo rąbają na trzy sążnie wkoło,
Drudzy gacą chrost kładąc topkie błoto ono.
Inszy drzewo, co jedno na drugim leżało,
Zwalają, aby prześciu nic nie zawadzało.
Nie znać było, gdzie Hetman, abo gdzie paniątko,
Pokalali sie błotem jak lecie prosiątko.
Fauni, Panes, Sylwani takież Satyrowie
Radują sie, że w lesie polgnęli panowie.
Wołają: «Bracie rata, ulgnąłem do szyje»,
Inszy z błota wylazszy, błotem błoto myje.
Mniema, że sie już umył, a on po staremu
Błota pełen, a patrząc śmieje sie drugiemu[1].

Працытаваны фрагмент зусім не падобны да дакументальнага запісу ў хроніцы ці ў дыярыушы, перад намі яскравы ўзор мастацкага тэксту, створанага пры дапамозе аўтарскай фантазіі.

Як і Ф. Градоўскі, А. Рымша ўмела ўводзіць у прысвечаную гістарычным падзеям канца XVI ст. эпічную паэму неад'емныя атрыбуты класічнага гераічнага эпасу: апісанні войскаў, прамовы палкаводцаў, звароты герояў да багоў па дапамогу, апісанні бітваў, умяшанні бостваў у ваенныя справы, урачыстыя пахаванні загінулых воінаў. Ад гэтай традыцыйнай эпічнай атрыбутыкі амаль цалкам адмовіўся чамусьці выдатны знаўца антычнай літаратуры Я. Каханоўскі: у «Паходзе на Маскву» ён абмежаваўся панегірычным услаўленнем Крыштафа Радзівіла на пачатку паэмы і сухім пералікам фактаў у асноўнай частцы твора.

---

[1] Rymsza A. Deketeros akroama … S. 176.

Распавядаючы пра ваенныя аперацыі Крыштафа Радзівіла, А. Рымша робіць экскурсы ў старажытную гісторыю, згадвае тактыку Ганібала, Ксеркса, Кая Сульпіцыя. Паэт ахвотна параўноўвае Крыштафа Радзівіла з легендарнымі героямі Грэцыі і Рыма, прычым ставіць польнага гетмана літоўскага вышэй за старажытных герояў. Цікава, што ў гэтых параўнаннях заўсёды прысутнічае доля гумару: Курцый не можа зраўняцца з Крыштафам, бо ён толькі аднойчы скочыў дзеля Айчыны ў яміну і ўжо адтуль не вылезе[1], Адысею далёка да стрыманасці і аскетызму Радзівіла, бо хітры грэк шэсць гадоў забаўляўся з Каліёпай, забыўшыся пра сваю жонку Пенелопу[2].

Аўтар «Дзесяцігадовай аповесці...» быў добрым знаўцам грэчаскай і рымскай міфалогіі: лугі, палі, лясы, азёры і рэкі таямнічай Масковіі па волі паэта густа населены шматлікімі боствамі і міфалагічнымі істотамі, якія разам з мірнымі жыхарамі пакутуюць ад нягодаў вайны. У паэме шмат апісанняў прыроды, і ў большасці выпадкаў гэтыя апісанні *міфалагізаваныя*:

Pola piękne, wesołe, mało nie jak w raju,
Wsi wszędy wkoło pełno, ani widać gaju.
Alić Ceres w kłosianym wieńcu buczno chodzi,
Chłop sierzpem ostrzębnym zboże rzezać godzi.
Bog Sylwanus Cererze pola ukazuje,
A Pan swoje pastyrze z owcami szykuje[3].

Найчасцей ідылічны малюнак прыроды выступае ў паэме прэлюдыяй да з'яўлення харугваў Радзівіла і пачатку баявых дзеянняў. Другі тып замалёвак прыроды ў «Дзесяцігадовай аповесці...» таксама звязаны з мілітарнымі матывамі, але створаны яны ўжо без аглядкі

---

[1] Rymsza A. Deketeros akroama ... S. 155.

[2] Ibid. S. 219.

[3] Ibid. S. 180.

на класічны эпас. Замалёўкі гэтага тыпу можна назваць замалёўкамі з натуры, важную ролю ў іх адыгрывае мастацкая дэталь:

Rano gdy już namioty słońce ogrzewało,
Mroz już ginie, a wdzięczne ciepło nastawało.
Zbroje z potu mroźnego już poocirali,
A gęstą mgłę trąbami w szelinę zagnali[1].

Падобных трапных замалёвак з натуры мы не знойдзем у Я. Каханоўскага, у «Паходзе на Маскву» пра існаванне прыроды нагадвае ўсяго некалькі радкоў кшталту: «Nazaiutrz kiedy słońce z morza wychadzało...»[2].

Ацэньваючы вынікі творчага спаборніцтва Я. Каханоўскага і А. Рымшы ў стварэнні эпічнай паэмы пра подзвігі князя Крыштафа Радзівіла Перуна, даводзіцца канстатаваць, што перамог не польскі класік, а малавядомы паэт з-пад Навагрудка. Галоўнай прычынай «паражэння» Я. Каханоўскага была, вядома, не адсутнасць таленту, а адсутнасць асабістай зацікаўленасці тэмай твора і недастатковае веданне гістарычнага матэрыялу.

Апісваючы паход Крыштафа Радзівіла, Я. Каханоўскі проста выконваў заказ мецэната, а А. Рымша ўзнаўляў старонкі свайго ўласнага жыцця, сваіх жаўнерскіх прыгод пад даводствам польнага гетмана літоўскага. У «Дзесяцігадовай аповесці...» А. Рымша прадэманстраваў веданне антычных першаўзораў і ўменне творча наследаваць ім, але найбольш каштоўнымі рысамі паэмы з'яўляюцца праўдзівасць, дакладнасць, маляўнічасць апісання ваенных дзеянняў і жаўнерскага побыту.

На мову «Дзесяцігадовай аповесці...», відавочна, аказала ўплыў беларуская мова, на што слушна звярталі

---

[1] Rymsza A. Deketeros akroama ... S. 205.

[2] Kochanowski J. Jezda do Moskwy. — S. 325.




ўвагу польскія даследчыкі[1]. Мовазнаўца А. Піган выказала меркаванне, што ў рукапісе паэмы было значна больш фанетычных і граматычных «дыялектызмаў», але іх выправіў перад публікацыяй твора друкар Д. Лэнчыцкі (лексіку выправіць было цяжэй, бо парушаўся рытм верша)[2]. Прамовы цара Івана IV і мірных рускіх жыхароў дадзены ў паэме ў «арыгінале», а фактычна — на мешанай руска-беларускай мове, у чым выявілася эксперыментатарства А. Рымшы (пазней такі прыём выкарыстае ў сваіх творах Г. Пельгрымоўскі).

Уплыў беларускай мовы адчуваецца ў польскамоўных творах многіх тагачасных паэтаў Вялікага Княства Літоўскага: М. Стрыйкоўскага, Я. Казаковіча, Г. Пельгрымоўскага, Я. Пратасовіча. Але з іх толькі А. Рымша зрабіў рашучы крок да беларускамоўнай творчасці, стаўшы ў гісторыі беларускай літаратуры «заснавальнікам жанру панегірычнай паэзіі»[3]. Пасля выхаду ў свет «Дзесяцігадовай аповесці...» паэт змяшчае ў віленскіх выданнях Мамонічаў тры эпіграмы на старабеларускай мове: «На герб ясневельможного пана Остафея Воловіча...» (1585), «На гербы... Льва Сапегі» (1588), «На гербы ясневельможного пана... Теодора Скуміна» (1591). Ёсць падставы меркаваць, што ў паэта было значна больш вершаў на старабеларускай мове: у лістах Саламона Рысінскага Я. Парэцкі адшукаў згадку пра эпіграму на «народнай мове» А. Рымшы ў гонар Радзівілаў, два варыянты перакладу гэтай эпіграмы на



---

[1] Rzepka W., Sajkowski A. Andrzeja Rymszy «Dziesięćroczna powieść wojennych spraw...»// Archiwum Literackie. T. XVI. S. 129; Pihan A. Leksykalne wpływy wschodniosławiańskie w języku «Dziesięćrocznej powieśći» Andrzeja Rymszy (1585) // Studia Polonistyczne. 1979. T. 6. S. 99–100.

[2] Pihan A. Leksykalne wpływy wschodniosławiańskie w języku «Dziesięćrocznej powieśći» Andrzeja Rymszy (1585). S. 100.

[3] Коршунаў А.Ф. Рымша Андрэй. С. 188.

лацінскую мову, а таксама згадку пра існаванне дзённіка беларускага паэта[1].

Апошняя вядомая нам літаратурная праца А. Рымшы — выдадзены Я. Карцанам пераклад на польскую мову сачынення Ансельма Паляка «Chorographia albo topographia, to iest osobliwe a okolne opisanie Ziemie Swiętey…» (Вільня, 1595). Тытульны ліст «Харагpaфii…» упрыгожаны вершаваным двухрадкоўем паэта, у якім высмейваецца псеўдаадукаванасць і невуцтва выпускнікоў замежных універсітэтаў: «Napatrzyłem się tego, gdy kto iezdził do Włoch: / Jak ztąd duren wyiachał, tak się zwrocił płoch»[2]. На адвароце тытульнага ліста змешчана эпіграма на герб Астрожскіх, завяршае кнігу вершаванае чатырохрадкоўе прэфацыйнага зместу. Але значна большую цікавасць, чым гэтыя сціплыя вершы, выклікае загадкавы фрагмент празаічнай прадмовы А. Рымшы да Альжбеты з Астрожскіх, жонкі Крыштафа Радзівіла: «To się też dotycze tego, abych miał tu przypominać wielka Zacność y podniebiosną Sławę domu y przodkow W. X. M., tego w tey małey książeccе teraz mi wypisować nie zdało się, wolę z tym Czytelnika do Kroniki odesłać, tam się każdy doczytać będzie mogł męstwa, dzielności y mądrey rady do wszelakich spraw Książęcia Ostroskiego, Getmana Wielk. Księst. Litewskiego…»[3].

У «Дзесяцігадовай аповесці…» не ўслаўляюцца подзвігі прадстаўнікоў роду Астрожскіх. Узнікае пытанне: якую хроніку пісьменнік меў на ўвазе: «Хроніку польскую, літоўскую, жамойцкую і ўсяе Русі» М. Стрыйкоўскага ці ўласную, невядомую нам «Хроніку…»? Характэрна,

[1] Порецкий Я. Неизвестные стихи Андрея Рымши // Неман. 1969. № 2. С. 186–187.

[2] Polak A. Chorographia albo topographia, to iest osobliwe a okolne opisanie Ziemie Świętey. Wilno, 1595. S. 1.

[3] Ibid. S. 6.

што менавіта ў сярэдзіне 90-х гг. XVI ст. з'яўляецца шэраг героіка-эпічных твораў пра воінскія подзвігі князя Канстанціна (Канстанцінавіча) Астрожскага: «De bello Ostrogiano» і «Rozprawa przygody sławnego żołnierza»[1]. Аўтарам першага твора быў грэк Сімяон Пекалідас, аўтарам другога, выдадзенага ананімна, гіпатэтычна мог быць А. Рымша. Друкаванне «Храналогіі» ў Астрогу сведчыць пра існаванне сувязей А. Рымшы з астрожскім культурным асяродкам, якім спрыялі шлюбы яго хлебадаўцы Крыштафа Радзівіла з Кацярынай Астрожскай у 1578 г. і Альжбетай Астрожскай у 1593 г.

Нагадаем, што Я. Казаковіч яшчэ ў 1585 г. называў свайго сябра знакамітым паэтам, які «jużeś niebo osławił nieraz swoim zdaniem / I ziemiś pięknie służył książek swych wydaniem»[2]. Сёння вядомы толькі адзін твор, які А. Рымша апублікаваў перад «Дзесяцігадовай аповесцю...»: «Храналогія» (1581). Такім чынам, Я. Казаковіч альбо перабольшваў заслугі сябра, альбо лепш за сучасных бібліёграфаў ведаў ягоную творчасць.

Верш Я. Казаковіча, лісты С. Рысінскага, працытаваны фрагмент з прадмовы А. Рымшы да Альжбеты Радзівіл прыводзяць да наступнай высновы: Андрэй Рымша быў адным з самых вядомых паэтаў Беларусі эпохі Рэнесансу і пакінуў пасля сябе вялікую спадчыну, толькі частка якой захавалася да нашага часу. Пра гэта ж сведчыць і мастацкі ўзровень «Дзесяцігадовай аповесці ваенных спраў князя Крыштафа Радзівіла» — аднаго з лепшых героіка-эпічных твораў у гісторыі беларускай літаратуры.

---

[1] Nadolski B. Poezja polsko-łacińska w dobie Odrodzenia // Odrodzenie w Polsce. Warszawa, 1956. T. 4. S. 210.

[2] Rymsza A. Deketeros akroama... S. 136.



# Мемуарны жанр

У другой палове XVI ст. у асяроддзі адукаванай беларуска-літоўскай шляхты ўзрастае цікавасць да мінуўшчыны, прычым не толькі да гісторыі роднага краю, але і да гісторыі ўласнай сям'і. Невыпадкова менавіта на гэты час прыпадае зараджэнне мемуарнага жанру ў беларускай літаратуры, які зойме ў ёй вядучае месца ў XVII–XVIII стст. Эпоха Рэнесансу ўзмацніла цікавасць чалавецтва да свайго мінулага, а Рэфармацыя адсунула заслону недатыкальнасці і непагрэшымасці з рэлігійнага прынцыпу вытлумачэння гістарычных падзей. Пашыраюцца гуманістычныя погляды на мінуўшчыну як на сукупнасць чалавечых спраў і ўчынкаў, няхай сабе і прадвызначаную Божай воляй.

Першым помнікам мемуарнага жанру ў беларускай літаратуры традыцыйна лічацца ўспаміны наваградскага шляхціца Фёдара Еўлашоўскага (1546–1616), створаныя на пачатку XVII ст. Такое меркаванне сустракаем і ў грунтоўнай акадэмічнай гісторыі літаратуры[1], і ў папулярным універсітэцкім падручніку[2]. Гэтае аўтарытэтнае меркаванне можна, аднак, аспрэчыць, калі ўважліва зірнуць на пісьменства Вялікага Княства Літоўскага

---

[1] История белорусской дооктябрьской литературы. С. 206.

[2] Гісторыя беларускай літаратуры : старажытны перыяд. С. 242.

XVI ст., улічыць не толькі беларускамоўныя, але таксама лацінамоўныя і польскамоўныя тэксты.

Як своеасаблівы вершаваны дзённік ваеннай выправы можна разглядаць лацінамоўную паэму Францішка Градоўскага «Апісанне маскоўскага паходу князя Крыштафа Радзівіла» (1582), прысвечаную аднаму з яскравых эпізодаў Інфлянцкай вайны. Магчыма, для напісання паэмы Ф. Градоўскі, непасрэдны ўдзельнік радзівілаўскага паходу, выкарыстоўваў свае ранейшыя празаічныя нататкі, сляды існавання якіх захаваліся на палях паэмы. Яшчэ больш падрабязныя дзённікавыя запісы знаходзім мы на палях польскамоўнай паэмы Андрэя Рымшы «Дзесяцігадовая аповесць ваенных спраў князя Крыштафа Радзівіла» (1585), прысвечанай удзелу гетмана Крыштафа Радзівіла Перуна ў Інфлянцкай вайне, і ў першую чаргу — легендарнаму паходу радзівілаўскіх харугваў у глыб маскоўскіх земляў восенню 1581 г. На нашу думку, кароткі празаічны дыярыуш А. Рымшы выкарыстаў славуты польскі паэт Ян Каханоўскі пры стварэнні сваёй паэмы «Паход на Маскву» (Кракаў, 1583).

З храналагічнага пункту гледжання першым мемуарыстам Вялікага Княства Літоўскага выпадае назваць Юрыя Радзівіла (1556–1600), сына правадыра кальвінізму ў Беларусі і Літве Мікалая Радзівіла Чорнага. Выхаванец пратэстанцкага ўніверсітэта ў Лейпцыгу, Юры пад уздзеяннем віленскіх езуітаў і па прыкладу старэйшага брата Мікалая Крыштафа Сіроткі перайшоў у 1574 г. у каталіцызм, адкрыўшы сабе шлях да высокіх пасадаў віленскага, а пазней кракаўскага біскупа і кардынала.

У 1575 г. Юры здзейсніў падарожжа ў Італію і апісаў свае юнацкія ўражанні ў невялікім лацінамоўным дыярыушы, апублікаваным у 1935 г. на мове арыгінала вядомым

польскім даследчыкам Генрыкам Барычам[1]. Нягледзячы на апублікаванасць помніка, ён не звярнуў на сябе ўвагу беларускіх навукоўцаў і імя Юрыя Радзівіла ў гісторыі беларускай літаратуры да гэтага часу не фігуруе. Праўда, нам даводзілася пісаць пра яго як пра літаратурнага героя: вобраз Юрыя Радзівіла займае важнае месца ў ананімнай рэлігійна-палемічнай паэме «Апалагетык, альбо Абарона канфедэрацыі» (Вільня, 1582)[2]. Менавіта Ю. Радзівіл, заняўшы 3 жніўня 1581 г. пасаду віленскага біскупа, нёс галоўную адказнасць за сутычкі паміж каталікамі і пратэстантамі на вуліцах Вільні, якія пачаліся 4 жніўня, гэта па ягоным загадзе праз некалькі дзён было раскладзена першае ў княстве вогнішча з пратэстанцкіх кніг. Аднак аўтар паэмы, каб не ўгнявіць магутны род Радзівілаў, многія прадстаўнікі якога былі пратэстантамі, ускладае галоўную віну за беспарадкі на папскага легата Альберта Баланэці і на віленскіх езуітаў з Пятром Скаргам на чале, а біскупа Юрыя Радзівіла паказвае як даверлівую ахвяру іхняй змовы[3].

Ю. Радзівіл з'яўляецца аўтарам яшчэ аднаго лацінамоўнага сачынення, беспадстаўна названага «мемуарамі» польскім даследчыкам Тэадорам Вяжбоўскім[4]: насамрэч гэта гісторыка-палітычны трактат пра далучэнне Інфлянт да Вялікага Княства Літоўскага ў 50–70-х гг. XVI ст. Трактат пісаўся ў 1583 г., калі Ю. Радзівіл выконваў абавязкі

[1] Dziennik podróży do Włoch biskupa Jerzego Radziwiłła w 1575 r. / opóbl. H. Barycz // Kwartalnik Historyczny. R. XLIX. Lwów, 1935. S. 340–356.

[2] Кавалёў С.В. Станаўленне польскамоўнай паэзіі ў полілінгвістычнай літаратуры Беларусі эпохі Рэнесансу. Мінск, 2002. С. 100–110.

[3] Apologeticus, to jest Obrona konfederacyej. S. 81–82.

[4] Pamiętnik kardynała Jerzego księcia Radziwiłła z lat 1556–1575 / wyd. T. Wierzbowski. Warszawa, 1899. S. 1–40.

намесніка Інфлянт, у большасці апісаных падзеяў сам аўтар удзелу не браў, а калі і згадваў пра сваю прысутнасць, то, як справядліва заўважыў Т. Вяжбоўскі, «сцісла і неахвотна»[1].

Не вылучаецца шматслоўнасцю, разгорнутасцю апісанняў, трапнасцю назіранняў, наяўнасцю грамадскапалітычных і філасофскіх рэфлексіяў і «Дзённік падарожжа ў Італію» Ю. Радзівіла. У сваім дзённіку малады падарожнік змясціў кароткія, але амаль штодзённыя запісы з 11 кастрычніка да 7 снежня 1575 г. (у асноўным, зафіксаваны назвы населеных пунктаў, адлегласці паміж імі, уражанні ад убачаных хрысціянскіх рэліквіяў і цудаў прыроды).

Шлях у Рым аказаўся доўгі, бо Юры і ягоны малодшы брат Альбрыхт, як вынікае з дзённіка, асабліва не спяшаліся. Найперш яны затрымаліся ў Варшаве, дзе склалі 25 кастрычніка візіт каралеве Ганне. У сярэдзіне лістапада браты гасцявалі ў Вене ў імператара Максіміляна II: аглядалі аздабленне імператарскіх палацаў, бралі ўдзел у пышных прыдворных цырымоніях і ў паляванні на дзікоў.

Толькі 1 снежня, здзейсніўшы нялёгкі пераход праз Альпы, падарожнікі апынуліся на раўніннай частцы Італіі. З гэтага часу запісы ў дзённіку робяцца больш падрабязнымі. Юры і Альбрыхт наведваюць Венецыю, дзе захапляюцца касцёлам св. Марка і плаваюць на гандоле па Вялікім канале. Потым яны адпраўляюцца ў Падую, дзе знаёмяцца з землякамі — студэнтамі мясцовага ўніверсітэта і прыемна бавяць час. У Падуі браты Радзівілы двойчы прысутнічаюць на тэатральных прадстаўленнях. Праўда, падчас другога з прадстаўленняў спрытныя мясцовыя

[1] Pamiętnik kardynała Jerzego księcia Radziwiłła z lat 1556–1575. S. 3.

зладзеі крадуць у Юрыя 37 венгерскіх дукатаў і срэбраную пячатку, што прыкметна азмрочыла ўражанне падарожнікаў ад Італіі. На апісанні гэтага прыкрага здарэння абрываецца рукапіс дзённіка, і невядома, ці меў ён працяг.

Прыехаўшы ў Італію ў 1575 г., Юрый Радзівіл затрымаўся тут ажно на два гады: вывучаў тэалогію ў славутай Рымскай калегіі (пазнейшы Грыгарыянскі ўніверсітэт). У 1577 г. Юрый вярнуўся на радзіму, дзе распачаў сваю бліскучую духоўную кар'еру, якая ўвянчалася атрыманнем пасады кракаўскага біскупа і годнасцю кардынала. Так сталася, аднак, што ягоны жыццёвы шлях завяршыўся менавіта ў Італіі: кардынал Юрый Радзівіл памёр ноччу з 21 на 22 студзеня ў Рыме, дзе і пахаваны ў касцёле езуітаў Al. Gesu. Праз чвэрць стагоддзя пасля таго, як малады Юрый Радзівіл упершыню ступіў на італьянскую зямлю, ягонае заўчасна стомленае цела знайшло тут сабе вечны прытулак.

Хаця першая паездка Юрыя Радзівіла ў Рым мела практычную мэту — атрымаць ад папы Грыгорыя XIII пацвярджэнне годнасці намесніка пры біскупе Валерыяне Пратасевічу, падарожжа ў горад святога Пятра для неафіта-каталіка насіла таксама сакральны змест, з'яўлялася рэлігійным паломніцтвам, хаджэннем у святыя мясціны. Нясконччаны дыярыуш Ю. Радзівіла, таксама як і пазнейшая па часе напісання «Перагрынацыя... у Святую Зямлю» М.К. Радзівіла, сведчаць пра тое, што першыя мемуарныя творы ў шматмоўнай беларускай літаратуры ўзніклі ў рэчышчы жанру хаджэнняў, узыходзяць да сярэднявечнай традыцыі, распачатай творамі Аграфенія, Ігнація Смаляніна, Варсанафія ды іншых усходнеславянскіх паломнікаў. У параўнанні з сярэднявечнымі хаджэннямі ў апісаннях падарожжаў у Рым і Ерусалім з XVI ст. узмацняецца свецкі, «турыстычны» пачатак, у большай ступені праяўляецца асоба аўтара.

Што датычыцца канкрэтна асобы Юрыя Радзівіла, ён відавочна саступаў свайму брату Мікалаю Крыштафу ў эрудыцыі, назіральнасці і літаратурных здольнасцях, але, як слушна заўважыў г. Барыч, не трэба забываць, што аўтару «Падарожжа ў Італію» было ўсяго 19 гадоў, і таму ўбачаны слон ці скаштаваныя жабы ўражвалі яго куды больш, чым прыгажосць Альпаў ці веліч італьянскіх гарадоў[1]. Акрамя таго, цяжка параўноўваць кароткія дзённікавыя запісы Юрыя, якія не прызначаліся для друку, з падрабязнымі, літаратурна апрацаванымі (выдадзены ў форме лістоў да сябра) падарожнымі нататкамі Мікалая Крыштафа, якія набылі славу найлепшага падарожнага дзённіка XVI ст. у Рэчы Паспалітай.

«Перагрынацыя... у Святую Зямлю» М.К. Радзівіла ўпершыню пабачыла свет у 1601 г. на лацінскай мове, а потым неаднаразова перавыдавалася на розных мовах на працягу пяці стагоддзяў (у тым ліку — на рускай і беларускай). Мікалай Крыштаф Радзівіл (1549–1601), празваны пасля смерці бацькі — Мікалая Радзівіла Чорнага — «Сіроткам», сваё падарожжа ў Італію, Сірыю, Палесціну і Егіпет здзейсніў у 1582–1584 г. (адразу пасля заканчэння Інфлянцкай вайны, у якой цудам ацалеў), а ў 1595 г. апісаў па-польску свой шлях і ўражанні ад яго, выкарыстоўваючы ранейшыя дзённікавыя запісы з часоў падарожжа. Гэты выдатны помнік мемуарнай літаратуры ў перакладзе Сяргея Шупы на беларускую мову змешчаны ў зборніку «Кніга жыцій і хаджэнняў»[2], таму мы не будзем падрабязна спыняцца на яго разглядзе, а пяройдзем да аналізу іншых, менш вядомых твораў, якія маюць дачыненне да

[1] Dziennik podróży do Włoch biskupa Jerzego Radziwiłła w 1575 r. S. 345–346.

[2] Кніга жыцій і хаджэнняў / уклад. А. Мельнікава. Мінск, 1994. С. 165–447.

станаўлення мемуарнага жанру ў шматмоўнай літаратуры Беларусі і Літвы позняга Рэнесансу.

Да падарожных нататак узыходзіць таксама, як сведчыць ужо сам загаловак, вершаваны твор М. Стрыйкоўскага «Мацей Стрыйкоўскі Осаставіч сам пра сябе і прыгоды свае ў наведванні размаітых краін свету» (1582).

Паляк па паходжанні Мацей Стрыйкоўскі (1547 — каля 1590) унёс важкі ўклад у развіццё шматмоўнай літаратуры і гістарыяграфіі Беларусі і Літвы эпохі Рэнесансу, невыпадкова артыкул пра яго змешчаны ў біябібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі»[1]. На землях княства Стрыйкоўскі ўпершыню апынуўся ў 1563 г. і знаходзіўся тут з невялікімі перапынкамі да 1574 г.: служыў у войску, маляваў планы мясцовасцяў і схемы замкаў, вывучаў беларускую і рускую мовы, пісаў свае першыя паэтычна-гістарычныя творы, браў удзел у сутычках з маскоўскімі атрадамі на тэрыторыі Беларусі і ў вылазках у глыб Масковіі. У верасні 1574 г. — красавіку 1575 г. М. Стрыйкоўскі ў складзе пасольства Анджэя Тараноўскага адпраўляецца ў Турцыю, а па дарозе наведвае легендарныя мясціны Грэцыі і Блізкага Усходу. У 1576 г., пасля непрацяглага побыту ў Польшчы, Стрыйкоўскі вяртаецца на Беларусь, дзе жыве пры двары князёў Алелькавічаў у Капылі і Слуцку, а ў 1578 г. пераязджае ў Жамойцію пад апеку біскупа Мельхіёра Гедройца. Тут па пратэкцыі біскупа ён атрымлівае пасаду жамойцкага каноніка, а ў 1582 г., прыняўшы духоўны сан, займае плябанію ў Юрбарку. Бурлівы жыццёвы шлях жаўнера, падарожніка, картографа, паэта скончыўся ціхім і мірным служэннем Богу і людзям у якасці ксяндза…

Вялікай марай Мацея Стрыйкоўскага было стварэнне першай у свеце вершаванай хронікі Вялікага Княства

---

[1] Мельнікаў А. Стрыйкоўскі Мацей // Беларускія пісьменнікі : біябібліяграф. сл. : у 6 т. Мінск, 1995. Т. 5. С. 434–436.

Літоўскага, смелымі крокамі на шляху да здзяйснення гэтай задумы былі творы: «Goniec Cnoty do prawych ślachciców...» (1574), «O wolności Korony Polskiej i Wielkiego Księstwa Litewskiego...» (1575), «Na herb W. Księstwa Litewskiego Pogonia i... książąt Słuckich... z krótkim wypisaniem ich narodu sławnego» (каля 1576 г.), «Zwierciadło Kroniki litewskiej...» (1577), «O początkach, wywodach, dzielnościach, sprawach rycerskich i domowych sławnego narodu litewskiego, żemojdzkiego i ruskiego...» (каля 1578 г.), а ў 1582 г. у Крулеўцы пабачыў свет канчатковы варыянт *opus vitae* М. Стрыйкоўскага пад амбіцыйнай назвай: «Która przedtym nigdy światła nie widziała, Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi».

На пачатку «Хронікі...» (гэтым разам — празаічнай, але з вялікімі паэтычнымі ўстаўкамі) М. Стрыйкоўскі і змясціў codeшаваны твор «Maciej Stryjkowski Osostevicus, sam o sobie i przygodach swoich w zwiedzeniu rozmaitych krain świata»[1]. Як мы ўжо адзначалі, гэты тэкст узыходзіць да падарожных нататак, але твору ўласцівы жанравы сінкрэтызм: ён адначасова з'яўляецца аўтабіяграфіяй Стрыйкоўскага, апісаннем падарожжа аўтара ў Грэцыю і Турцыю і выконвае ў кнізе функцыю прадмовы (напісаны ў форме звароту да чытача на падставе прадмовы «Да ласкавага чытача» з рукапіснай хронікі М. Стрыйкоўскага «Пра пачатак, паходжанне, адвагу, рыцарскія і грамадзянскія справы слаўнага народа літоўскага, жамойцкага і рускага...»).

Большасць звестак пра жыццё М. Стрыйкоўскага вядома з ягонай аўтабіяграфіі, што сведчыць пра фактаграфічную каштоўнасць і інфармацыйную насычанасць паэтычнага (!) тэксту. Напачатку аўтар «Хронікі...» паведамляе пра

---

[1] Stryjkowski M. Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi : w 2 t. / wyd. M. Malinowski. Warszawa, 1846. T. 1. S. XIII–XXII.

сваё нараджэнне ў Стрыкове (каля Лэнчыцы), пра вучобу ў школе ў Бжэзінах, якія сталіся для яго Падуяй і Балонняй (першы гісторык Літвы і Беларусі не меў універсітэцкай адукацыі), пра няшчасныя выпадкі ў дзяцінстве і маладосці, калі Стрыйкоўскі цудам пазбег смерці (напрыклад, у пяцігадовым узросце ледзь не патануў у ставе). Маладая даследчыца Вольга Савянок слушна адзначае, што М. Стрыйкоўскі, таксама як пазней Ф. Еўлашоўскі (і большасць мемуарыстаў XVII ст. — *С. К.*), ствараў уласнае «жыціе»: апісанне прыгодаў і нягодаў сціплага «нэнзніка», «рабачка Божага», якога міласэрны Пан Бог не аднойчы ратаваў ад немінучай смерці[1]. На вайне і ў падарожжах героя аўтабіяграфіі шмат разоў падсцерагала небяспека, і Стрыйкоўскі прапануе чытачу дакладны рэестр небяспечных выпадкаў і здарэнняў свайго жыцця:

Raz się od rozboju strasznego wybawion,
Dwa krociem z utonienia do brzegu przypławion,
Dwa krociem mało nie był od Moskwy pojmany,
Raz mało na galery nie był zaprzedany.
Dwa krociem wytrwał chłopski gwałt, tak bardzo srogi,
Trzej towarzyszów pierchło, jam sam dostał trwogi <...>
Sedm kroć strraszniejsze nad miecz powietrze morowe,
Trzy kroć trwożyło w różnych miescach naszę głowę <...>
Sto kroć drzący przez zimne strach kości przenikał,
Ażem w trwodze kędym mógł zdrowych nóg umykał,
Bych w nieznajomych ziemiach nie położył głowy,
Lecz w opatrzności Bożej zawżdym uszedł zdrowy[2].

---

[1] Савянок В. Прадмова да «Хронікі...» Мацея Стрыйкоўскага як літаратурная аўтабіяграфія // Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта. Мінск, 2004. Вып. 5. С. 102.

[2] Stryjkowski M. Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi. T. 1. S. XX–XXI.

Варта, аднак, памятаць, што перад намі — не проста вершаваная біяграфія, а *біяграфія паэта*, апісанне ягонага слаўнага ўзыходжання на Парнас, адсюль даволі пампезны стыль твора і міфалагізацыя лёсу галоўнага — і адзінага — героя гэтага твора. Калі па пакручастым жыццёвым шляху герой ішоў пад клапатлівай апекай хрысціянскага Бога, то ўзнімацца на творчыя вяршыні маладому паэту дапамагалі — адпаведна з літаратурнай традыцыяй — антычныя багі і музы

Apollo zaś w opiekę wziąwszy młodość moję,
Omył mię w Helikonie i dał lutnią swoję.
Calliopea mię też za sługę przyznała,
A mozgorodna dar swój Minerwa przydała...[1]

Падобныя алегарычна-міфалагічныя сцэнкі з'явіліся ў аўтабіяграфіі Стрыйкоўскага ў выніку наследавання Вергілію ды Авідзію, але літаратурная топіка і міфалагічныя вобразы спалучаюцца ў творы з фактаграфічнасцю і інфармацыйнай насычанасцю: на палях аўтабіяграфіі пададзены даты некаторых падзеяў, назвы вершаў і паэмаў Стрыйкоўскага, многія з якіх не захаваліся да нашага часу і невядомы даследчыкам.

У апісанні падарожжа Стрыйкоўскага па Грэцыі і ўзбярэжжы Малой Азіі таксама назіраецца «спалучэнне неспалучальнага». З аднаго боку, гэта падарожжа чыста літаратурнае, з тэкстамі Гамера і Вергілія ў руках, выяўленне радасці кніжнага эрудыта, аматара старажытнай культуры, якому ўдалося пабываць у Афінах, Спарце, Мікенах, Троі і ў іншых легендарных месцах:

Gdzie Medea zdradliwa ojca oszukała,
I gdzie Circes z sową siostrą wymyślała. <...>

---

[1] Stryjkowski M. Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi. T. 1. S. XIV.

I gdzie Hekube synów pobitych płakała,
I Kasandra swe włosy po bratach targała...[1]

З іншага боку, Стрыйкоўскі праўдзіва апісвае заняпад некалі славутых і багатых гарадоў, ператварэнне іх у бедныя рыбацкія вёскі, са смуткам адзначае, што на месцы багатых палацаў і непрыступных крэпасцяў засталіся адно руіны, паміж якіх пасуцца козы. Вялікае ўражанне на гісторыка Стрыйкоўскага зрабілі горы (Балканы, Альпы, Татры), іх прыродная веліч, непадуладная часу і развіццю чалавечай цывілізацыі.

На думку аўтара, здзейсненыя падарожжы і небяспечныя прыгоды робяць ягоную біяграфію цікавай для чытачоў. Але галоўная прычына гіпатэтычнай чытацкай увагі да асобы Стрыйкоўскага — гэта ўсё ж такі ягоная навуковая і пісьменніцкая дзейнасць, выхад у свет «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі». Менавіта як *аўтар*, а не як герой, як *паэт* і *гісторык*, а не як адважны жаўнер і нястомны падарожнік хацеў застацца Стрыйкоўскі ў памяці нашчадкаў, пра што сведчыць эпітафія, прыдуманая для самога сябе аўтарам «Хронікі...»:

Zkrążyłem świat, tu leżę w nadziei bespieczny,
Cnocie, sławie piórem swym sprawiwszy dank wieczny...[2]

Як некалі Ф. Скарына ў пражскім выданні перакладу Бібліі, М. Стрыйкоўскі змясціў на пачатку «Хронікі...» свой партрэт і адкрыта ганарыўся місіяй першаадкрывальніка гісторыі Усходняй Еўропы. Хаця ўсе свае творы ён напісаў яшчэ не дасягнуўшы ўзросту Хрыста, па аб'ёме і жанравым багацці спадчына М. Стрыйкоўскага — выключная з'ява ў шматмоўнай літаратуры Вялікага Княства

---

[1] Stryjkowski M. Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi. T. 1. S. XVII–XVIII.

[2] Ibid. S. XXII.

Літоўскага XVI ст., а вершаваная аўтабіяграфія пісьменніка «Мацей Стрыйкоўскі Осаставіч сам пра сябе і прыгоды свае ў наведванні размаітых краін свету» непасрэдна прычынілася да развіцця мемуарнага жанру.

Адметнае месца ў мемуарнай літаратуры Беларусі і Літвы XVI–XVII стст. займаюць невялікія па аб’ёму (каля 8 старонак) запісы сямейства Уніхоўскіх з Наваградчыны, якія дайшлі да нас у складзе славутага Пазнанскага зборніка разам з рыцарскімі раманамі «Трышчан», «Бава» і аповесцю «Гісторыя пра Атылу». Першым апублікаваў урыўкі з запісаў Уніхоўскіх яшчэ ў 1886 г. А. Брукнер[1], у наш час апісанне гэтага ўнікальнага помніка і вялікі ўрывак з яго падала ў сваім артыкуле Зора Кіпель[2].

Змест нататак Уніхоўскіх дазваляе меркаваць, што падобныя запісы вяліся тады ў многіх шляхецкіх сем’ях, толькі не захаваліся да нашага часу. Па сутнасці, мы маем справу са звычайнай метрыкай, у якой зафіксаваны нараджэнні, шлюбы, смерці і пахаванні прадстаўнікоў сямейства Уніхоўскіх з 1548 г. (шлюб Паўла Уніхоўскага з Кацярынай Трызнай) да 1672 г. (шлюб дачкі Герасіма Уніхоўскага).

Ініцыятарам стварэння гэтай метрыкі, яе першым і асноўным аўтарам быў Рыгор Уніхоўскі, збіральнік падаткаў у Наваградскім ваяводстве, які напісаў блізу паловы тэксту, прычым — па-беларуску. З. Кіпель мяркуе, што першы ўпіс Рыгор зрабіў у 1594 г., а штуршком да стварэння метрыкі стала смерць ягонага бацькі, Паўла, у снежні 1593 г.[3]



[1] Brükner A. Ein weißrussische Codex miscellaneus… S. 345–391.

[2] Кіпель З. Беларуская мова як культурна-сацыялагічны фактар. На прыкладзе аднэй сямейнай хронікі XVI ст. // Беларусіка. Albaruthenica. Мінск, 1994. Т. 3. С. 177–184.

[3] Тамсама. С. 177–184.

Сапраўды, весці запісы Рыгор Уніхоўскі пачаў не раней за 1594 г., першы ўпіс паведамляе пра шлюб ягоных бацькоў у 1548 г., далей падаюцца дакладныя даты нараджэння іхніх сямнаццаці дзяцей (Рыгор быў першынцам), менш дакладныя даты смерці дзевяці з іх, а таксама даты чатырох шлюбаў. Нарадзіўшы 1 лютага 1571 г. блізнят, адно з якіх аказалася мёртвым, Кацярына Уніхоўская 10 лютага таксама памерла, пра што паведамляецца ў метрыцы, якая пачынае нагадваць мартыралог. Далей ідзе запіс пра смерць бацькі Рыгора Уніхоўскага: «Пан отецъ мой пан Павэл Яковovичъ Унеховский заплатил долгъ смерти (1593) мсца декабра двадъцать шостого дня в неделю передонемъ. Мелъ веку своего от урожэнья летъ семьдесят девять без килку недель, босе спэлнит мело (79) лет генвара (15) дня в року (1594). Погрэб тела генвара (18) дня»[1]. Потым паведамляецца пра смерць Анікія Уніхоўскага (мусіць, стрыечнага брата Рыгора), забітага казакамі Налівайкі ў снежні 1595 г., пахаванага ва Уніхове 23 студзеня 1596 г. І нарэшце, заканчваюцца нататкі Рыгора Уніхоўскага запісам пра ягонае ўласнае нараджэнне на свет 8 студзеня 1549 г. (пра што ўжо вядома з папярэдніх запісаў) і пра шлюб у 1571 г. з Соф'яй Улатоўскай, удавой па Карпу Цішковічу.

Тыпалагічна запісы Рыгора Уніхоўскага з'яўляюцца мемуарамі, а не дыярыушам, ён піша пра тое, што ўжо адбылося шмат гадоў назад, і, відавочна, піша не па памяці, а выкарыстоўваючы нейкія ранейшыя запісы і дакументы. Невядома колькі часу патраціў Рыгор Уніхоўскі на напісанне чатырох старонак тэксту: дзень, месяц, альбо рабіў кароткія ўпісы на працягу некалькіх гадоў. Нам здаецца, што гэта адбылося ў адзін-два прыёмы і не ў 1594 г, а ў 1596 г., пасля пахавання Анікія Уніхоўскага.

---

[1] Кіпель З. Беларуская мова як культурна-сацыялагічны фактар. С. 181.

Магчыма, Рыгор меў намер распачаць сямейную хроніку, упарадкаваўшы звесткі пра сваіх бацькоў, братоў і сясцёр, але ягоныя запісы не ператварыліся ў рэгулярны дыярыуш, дзе б фіксаваліся важнейшыя падзеі сямейнага жыцця аўтара (напрыклад, даты нараджэння ягоных чатырох сыноў: Яна, Паўла, Пятра, Рыгора). Запісы Рыгора Уніхоўскага 90-х гг. XVI ст. заканчваюцца паведамленнем пра ягоны шлюб у 1571 г., а наступны ўпіс у хроніку быў зроблены ўжо ў 1606 г. сынам Рыгора Янам: «З воли и прэзрэня пана Бога Всемогущого пан отец добродей мой пан Грэгорый Павлович Унеховский заплатилъ долгъ смерти року (1606) мца апрэля (1) дня. Жыл на том свете мизэрномъ от урожэня своего летъ (57) и недель осемъ»[1].

Дарэчы, гэта быў адзіны ўпіс, зроблены Янам Уніхоўскім (загінуў у 1615 г.), і апошні ўпіс па-беларуску; далей сямейную хроніку працягвалі кароткія запісы на польскай мове другога сына Рыгора — Паўла і ўнука — Герасіма, які давёў сямейную хроніку-метрыку Уніхоўскіх да 1672 г.

Нягледзячы на невялікі аб'ём, цалкам інфармацыйны характар паведамленняў без якіх-небудзь эмацыянальных ацэнак і мастацкіх упрыгожанняў, запісы Рыгора Уніхоўскага заслугоўваюць увагі даследчыкаў мемуарнага жанру, бо менавіта сямейная метрыка станецца асновай шляхецкага дыярыуша сямейна-гаспадарчага тыпу, дзе да кароткіх нататак пра смерць бацькоў, шлюб і нараджэнне дзяцей дадасца апісанне прыродных з'яў, гаспадарчых клопатаў і важнейшых падзеяў у жыцці аўтара і ўсёй дзяржавы (творы Ф. Еўлашоўскага, Я. Цадроўскага, Я.-А. Храпавіцкага і інш.)

Прыкметны ўклад у развіццё мемуарыстыкі зрабіў паэт Гальяш Пельгрымоўскі, аўтар зборнікаў «Dialog ślachcica

---

[1] Кіпель З. Беларуская мова як культурна-сацыялагічны фактар. С. 182.

litewskiego prawdziwy woyny Iflantskiey...» («Дыялог літоўскага шляхціца праўдзівы пра Інфлянцкую вайну...», 1594), «Philopatris ad senatum populumque Lituanum» («Патрыёт Айчыны да сенату і дзяржавы літоўскай», 1597) і інш. Цэнтральнае месца ў творчасці Пельгрымоўскага займалі ўзаемаадносіны Вялікага Княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай, чаму спрыялі жыццёвыя абставіны — удзел Пельгрымоўскага ў Інфлянцкай вайне і выкананне абавязкаў пісара княства. Г. Пельгрымоўскі неаднаразова бываў у Маскве: у 1583 г. ездзіў па загадзе караля Стэфана Баторыя да Івана IV з лістом і падарункамі, а ў 1600–1601 гг. — у складзе пасольства Льва Сапегі заключаць «вечны мір» з Барысам Гадуновым.

Падчас апошняй паездкі Пельгрымоўскі вёў празаічны дыярыуш пасольства, а вярнуўшыся на радзіму, стварыў на яго аснове вялікі вершаваны дыярыуш (па сутнасці, гістарычную паэму) «Poselstwo do Wielkiego Księcia Moskiewskiego» (каля 7000 радкоў). Паколькі заканчваецца вершаваны дзённік апісаннем пасольства Міхаіла Салтыкова-Марозава да караля Жыгімонта III у 1602 г., можна меркаваць, што «Пасольства...» створана незадоўга да смерці аўтара, недзе ў 1602–1603 гг. У адрозненне ад паэтычных твораў Г. Пельгрымоўскага ягоныя дзённікі не былі апублікаваныя пры жыцці аўтара, хаця вершаваны дыярыуш відавочна прызначаўся для друку і толькі смерць у 1604 г. перашкодзіла Пельгрымоўскаму здзейсніць сваю задуму.

У 1846 г. польскі бібліяфіл У. Трэмбіцкі[1] зрабіў падрабязнае апісанне празаічнага дыярыуша Г. Пельгрымоўскага з асобнымі цытатамі з яго, амаль адразу ж сачынен-

---

[1] Trębicki W. Poselstwo Lwa Sapiehy w roku 1600 do Moskwy, podług Dyaryusza Eljasza Pelgrzymowskiego, sekretarza poselstwa. Grodno, 1846.

не Трэмбіцкага было перакладзена на рускую мову П. Шпілеўскім[1], а ў наш час — на беларускую У. Казберуком[2]. У. Трэмбіцкі сумленна адзначаў, што рукапіс дыярыуша, які трапіў яму ў рукі, няпоўны: «Пачынаецца ён са старонкі, на якой падрабязна пералічваюцца прадукты, прызначаныя для членаў пасольства на час дарогі ад Смаленска да Масквы, а канчаецца чацвёртай сесіяй, на якой зачытвалася рэпліка на адмову баяраў прыняць умовы вечнага міру і згоды: няма, такім чынам, у гэтым дыярыушы пачатку, які паказваў, мабыць, мэту і заданні пасольства, інструкцыю, звесткі пра падарожжа паслоў да Смаленска і, як вынікае з таго, што засталося, аб прабыванні там і спрэчках са смаленскім ваяводам; у канцы ж не хапае непараўнальна больш важнай часткі, у якой паведамляецца пра заключэнне мірнага пагаднення на 20 гадоў, тайнае ануліраванне царом дагавораў, заключаных з Міхаем, ваяводам валашскім, са шкодай для інтарэсаў Польшчы, абмалёўваецца шматмесячны побыт паслоў у Маскве, іх ад'езд і вяртанне на радзіму»[3].

Доўгі час празаічны дыярыуш Г. Пельгрымоўскага лічыўся згубленым. Але ў 2002 г. літоўская даследчыца Юратэ Кяўпенэ апублікавала помнік паводле рукапісу з бібліятэкі Кракаўскай акадэміі майстэрства[4]. У гэтым выданні польскі арыгінал дыярыуша (а фактычна, беларускі) займае 34 старонкі, змешчаны таксама фотакопіі

---

[1] Шпилевский П.М. Описание посольства Льва Сапеги в Москву // Журнал Министерства народного просвещения. 1850. № 12. С. 91–122.

[2] Пасольства Льва Сапегі ў годзе 1600 у Маскву... / пер. і публ. У. Казберука // Полымя. 1999. № 4. С. 262–284.

[3] Пасольства Льва Сапегі ў годзе 1600 у Маскву... С. 266.

[4] Pilgrimovijus E. Didžioji Leono Sapiegos pasiuntinybė į Maskvą 1600–1601 m. / parengė J. Kiaupienė. Vilnius, 2002.

асобных старонак арыгінала, літоўскі пераклад і прадмова Ю. Кяўпенэ. Дыярыуш ахоплівае перыяд ад выезду паслоў з Вялікага Княства Літоўскага ў кастрычніку 1600 г. да вяртання на радзіму ў красавіку 1601 г. Празаічны дыярыуш мае чыста дзелавы, афіцыйны характар. Пельгрымоўскі, як актыўны ўдзельнік дыпламатычнай місіі, старанна рэгіструе ход перамоў, прадстаўленыя дакументы, спіс падарункаў і г.д. Суб'ектыўныя заўвагі аўтара, маляўнічыя дэталі побыту ў Маскве, у празаічным дыярыушы, фактычна, адсутнічаюць. Амаль палова тэксту (спісы падарункаў, прамовы паслоў і адказы баяраў) напісаны лацінкай на беларускай і рускай мовах.

Значна цікавейшае для чытачоў вершаванае апісанне пасольства да Барыса Гадунова, якое ўпершыню падрабязна даследаваў і часткова апублікаваў у 1896 г. А. Брукнер[1]. Пазнейшыя даследчыкі маглі карыстацца публікацыяй Брукнера, акрамя таго ў Львоўскай бібліятэцы Акадэміі навук Украіны намі была знойдзена поўная копія помніка і зроблены мікрафільм для Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі (Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў). На беларускую мову фрагменты вершаванага дыярыуша Г. Пельгрымоўскага пераклаў і апублікаваў Аляксандр Бразгуноў[2]. Паколькі гэты твор Пельгрымоўскага ўжо разглядаўся намі як эпічная паэма ў кантэксце шматмоўнай паэзіі Беларусі і Літвы[3], спынімся толькі на найбольш важных момантах

---

[1] Brükner A. Źródła do dziejów literatury i oświaty polskiej. IX. Wiersze historyczne // Biblioteka Warszawska. 1896. T. 1. S. 78–96, 254–275, 412–442.

[2] Анталогія даўняй беларускай літаратуры. С. 507–514.

[3] Кавалёў С.В. Героіка-эпічная паэзія Беларусі і Літвы канца XVI ст. С. 85–101; Кавалёў С.В. Станаўленне польскамоўнай паэзіі ў полілінгвістычнай літаратуры Беларусі эпохі Рэнесансу. С. 166–172.

і звернем увагу на прыкметы мемурнага жанру ў «Пасольстве да вялікага князя маскоўскага».

Адразу ўзнікае пытанне, навошта спатрэбілася Г. Пельгрымоўскаму апісваць пасольства ў Маскву вершам, калі ён ужо зрабіў гэта прозай. У прадмове, адрасаванай Льву Сапегу, аўтар «Пасольства...» так тлумачыць сваю задуму: «...Вырашыў я пра ўсё распавесці, каб не даць загінуць тым справам, каб да вушэй Рэчы Паспалітай яны дайшлі, пра славу і бяспеку якой тады гаворка вялася, узяў я першую працу сваю і Вашай Міласці, майму міласціваму Пану ахвяраваўшы, пераказаў простым і без майстэрства польскім вершам, дзеля сцісласці і прыемнасці чытання, з захаваннем у некаторых мясцінах адмысловых сказаў і слоў ці, хутчэй, шматслоўнасці маскоўскай»[1].

Калі браць пад увагу толькі словы «дзеля сціпласці і прыемнасці чытання», можна прыйсці да высновы, што вершаваны твор Г. Пельгрымоўскага адрозніваецца ад празаічнага дыярыуша толькі наяўнасцю традыцыйнага памеру, даволі аднастайнага рытму ды немудрагелістых рыфмаў, што сакратар пасольства не ставіў перад сабой ніякай іншай задачы, акрамя простага пераказу дзённікавых запісаў вершаванай мовай. Але агульны сэнс выказвання сведчыць пра тое, што вопытны літаратар добра разумеў адрозненне мастацкага твора, прызначанага для шырокага чытача, ад неапрацаваных фактаграфічных запісаў, ведаў, што толькі мастацкі твор можа «не даць загінуць тым справам» і дайсці «да вушэй Рэчы Паспалітай».

Параўнанне тэксту «Пасольства...» са зместам празаічнага дыярыуша дазваляе зрабіць наступную выснову: вершаваная форма прывяла не толькі да рытмічнага ўпарадкавання празаічнага тэксту і механічнага аздаблення

---

[1] Brükner A. Źródła do dziejów literatury i oświaty polskiej. S. 85.

яго рыфмамі, але і да ўзмацнення вобразнасці, мастацкай выразнасці, да з'яўлення паэтычных штампаў-клішэ, характэрных для эпічнага стылю. А. Брукнер адзначаў, што менавіта патрабаванні эпічнага стылю вымагалі ад Г. Пельгрымоўскага пашырэння і ажыўлення сціслых дзённікавых апісанняў, а таксама ўвядзення ў вершаваны твор новых вобразаў і апісання падзеяў, нідзе ў празаічным дыярыушы не занатаваных[1]. Такім чынам, «Пасольства да вялікага князя маскоўскага» можна разглядаць і як дыярыуш у вершаванай форме, і як эпічную паэму ў форме дыярыуша. Менавіта з дыярыушавай асновы паэмы Г. Пельгрымоўскага вынікалі высокая канцэнтрацыя фактаграфічнага матэрыялу, дакладнасць і дэталізаванасць апісанняў, строгая адпаведнасць кампазіцыі твора храналогіі рэальных падзеяў. Сустракаюцца ў рукапісе «Пасольства...» і ўрыўкі празаічнага тэксту, якія маюць характар дакументальнага дадатку: «лісты прымерныя», пералікі напояў і прысмакаў на ўрачыстых банкетах, спісы падарункаў цару і ад цара і г. д.

Мэтаю пасольства Льва Сапегі ў Маскву, якое доўжылася з верасня 1600 г. да сакавіка 1601 г., было заключэнне чарговага перамір'я паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскай дзяржавай, а ў спрыяльных умовах — вечнага міру. Несумненна, Г. Пельгрымоўскі ўсведамляў важнасць ускладзенай на пасольства місіі і спадзяваўся на паспяховае вырашэнне справы, бо на самым пачатку паэмы выказваў надзею:

Że nie długo z obu stron w jedno narodowie
Pójdą z chęcią, radością, ojczyzny synowie;
Będą, mówiąc, w pokoju Rzeczypospolite
I ty państwa z obu stron wielkie, znamienite,

---

[1] Brükner A. Źródła do dziejów literatury i oświaty polskiej. S. 90.

Na żałość, smętek, wieczny upadek poganom,
A na radość, pociechę wszytkim krześcjanom[1].

Але Барыс Гадуноў і яго баяры не спяшаліся падпісваць ані «вечны мір», ані чарговае перамір'е, выкарыстоўваючы складанае ваенна-палітычнае становішча Рэчы Паспалітай, абумоўленае няўдачамі Жыгімонта Вазы ў вайне з Карлам Судэрманскім і Міхалам Мультанскім, яны імкнуліся дабіцца палітычных і тэрытарыяльных выгодаў для Маскоўскай дзяржавы.

Дыпламатычныя перамовы паслоў з баярамі, шматлікія спрэчкі і маналогі знаходзяцца ў цэнтры ўвагі аўтара «Пасольства...». Ён падрабязна апісвае ўсе аргументы *pro et contra*, палітычныя абвінавачанні і гістарычныя спасылкі, перадае квяцістыя выразы ўрачыстых прыёмаў і цырымоніяў, эмацыянальную, часам блізкую да лаянкі мову дзелавых сустрэчаў. Г. Пельгрымоўскі свядома канцэнтруе ўвагу на дыпламатычных заслугах канцлера літоўскага Льва Сапегі, пакідаючы ў цяні іншых удзельнікаў пасольства: кашталяна варшаўскага Станіслава Варшыцкага, ваяводу віцебскага Яна Сапегу, аршанскага земскага суддзю Андрэя Варапея і інш. Нават пра свой уласны, даволі прыкметны ўдзел у перамовах аўтар піша няшмат і ў трэцяй асобе: згадвае пра хваробу пана пісара, прамову «пана пісара» перад вялікім князем маскоўскім і г.д. Г. Пельгрымоўскі не хваліцца, што менавіта ён складаў «ліст прымерны» з умовамі дваццацігадовага перамір'я, а на ўрачыстым прыёме ў цара выступаў з традыцыйнай прывітальнай прамовай ад імя пасольства.

Характэрнаю рысаю «пасольскай эпапеі» Г. Пельгрымоўскага з'яўляецца яе тэматычная шматпланавасць. Апісанні бясконцых спрэчак і дыскусіяў канцлера

[1] Brükner A. Źródła do dziejów literatury i oświaty polskiej. S. 92.

Л. Сапегі з баярамі і прыказнымі дзякамі аўтар разбаўляе паказам штодзённых цяжкасцяў жыцця паслоў у Маскве, замалёўкамі побыту і звычаяў велікакняскага двара і рускага народа на мяжы XVI–XVII стст. З гневам і агідаю піша Г. Пельгрымоўскі пра крывавыя публічныя пакаранні па загадзе Барыса Гадунова — спадчыну тыраніі Івана Грознага. Гуманіста Пельгрымоўскага абурае пагардлівае стаўленне маскоўскіх уладаў да навукі і асветы, адсутнасць школ і друкаваных кніг:

A wy co, mili Moskwa? Gdzie swój rozum macie,
Żeście to zarzucili i oto niedbacie?
Tatarskie obyczaje, ich pogańskie sprawy:
To wasz rozum i mądrość i wasze zabawy.
Gdy o szkołach mawiają i o nich słychacie,
Ledwo nie za truciznę, za powietrze macie[1].

Шмат увагі прысвечана ў вершаваным дыярыушы апісанню ўрачыстых цырымоніяў і абедаў пры двары маскоўскага ўладара. Цікаўнае вока пана пісара заўважае шмат каларытных дэталяў і асаблівасцяў, а скептычны розум дае ім паблажліва-іранічную альбо здзекліва-саркастычную ацэнку. Г. Пельгрымоўскі са здзіўленнем адзначае адсутнасць на сталах талерак, нажоў, лыжак і заморскіх вінаў. Не падабаецца яму мясцовы звычай падаваць стравы на стол халоднымі, нібы іх толькі што дасталі са склепа.

Безумоўна, цяжкія ўмовы жыцця паслоў, занадта доўгае знаходжанне ў Маскве, агрэсіўныя паводзіны баяр у працэсе перамоў паўплывалі на стаўленне Г. Пельгрымоўскага да маскоўскіх парадкаў. Але тэндэнцыйнасць у стаўленні пана пісара да маскоўскага побыту і звычаяў вынікала найперш з распаўсюджанага ў XVI–XVII стст. уяўлення

---

[1] Brükner A. Źródła do dziejów literatury i oświaty polskiej. S. 440–441.

пра падзел Еўропы на краіны цывілізаваныя і краіны варварскія, пры гэтым кожны аўтар адносіў сваю радзіму да ліку першых, а суседзяў — да ліку другіх. Ліцвіна Гальяша Пельгрымоўскага здзіўляюць і абураюць парадкі ў Маскве, паляк Ян Пасак здзекуецца і кпіць з варварскіх звычаяў у Літве, французу Генрыху Валуа Польшча бачыцца краінай адсталай і дзікай.

Масква не прыняла ні прапанаванай ёй дзяржаўнай уніі, ні вечнага міру, але пагадзілася на дваццацігадовае перамір'е, і пасля падпісання ўсіх дакументаў і шэрагу ўрачыстых прыёмаў у сакавіку 1601 г. стомленыя, але шчаслівыя ўдзельнікі пасольства адправіліся на радзіму. Не шмат гадоў заставалася да пачатку Вялікай смуты ў Маскоўскай дзяржаве, да эпохі цароў-самазванцаў і інтэрвенцыі войскаў Рэчы Паспалітай, якая спарадзіла цэлы шэраг мемуарных твораў, напісаных удзельнікамі і відавочцамі крывавых падзеяў («Дзённік падзеяў Смутнага часу» Язэпа Будзілы, «Дыярыуш» Самуіла Маскевіча, ананімныя «Забавы Марса крывавыя...» і інш). Але пачынальнікам «маскоўскай тэмы» ў мемуарнай літаратуры Беларусі з'яўляецца Гальяш Пельгрымоўскі, які трапіў у Маскву не як заваёўнік, а як дыпламат з мэтай заключыць патрэбны народам дзвюх дзяржаў мір.

Падарожныя нататкі Юрыя і Мікалая Радзівілаў, аўтабіяграфія М. Стрыйкоўскага, сямейныя запісы Уніхоўскіх, дыярыуш і пасольская паэма Г. Пельгрымоўскага — помнікі пісьменства XVI–XVII стст., якія маюць непасрэднае дачыненне да станаўлення мемуарнага жанру ў беларускай літаратуры. Але найбольш узорным і яскравым мемуарным творам шматмоўнай літаратуры Беларусі і Літвы позняга Рэнесансу з'яўляюцца «Успаміны...» наваградскага шляхціца Ф. Еўлашоўскага, напісаныя па-беларуску.

Хаця створаны «Успаміны» Ф. Еўлашоўскага на пачатку XVII ст., але ахопліваюць перыяд з 1546 г. па 1604 г.,

а менавіта ад нараджэння аўтара 7 лютага 1546 г. да смерці ягонага прыяцеля Беньяна Чаркоўскага 2 студзеня 1604 г. У арыгінале, які захоўваецца ў Варшаве, адсутнічаюць старонкі з апісаннем падзеяў 1596–1601 гг. і, напэўна, самы пачатак мемуараў, пра што сведчаць словы «уродилэмсе от вышэйпомененых родичов моих» у першым сказе на першай старонцы рукапісу[1]. У 1983 г. беларускі даследчык А. Коршунаў паводле фотакопіі арыгінала здзейсніў навуковае выданне помніка[2]. З архіўных матэрыялаў, апублікаваных А. Коршунавым[3], і з дакументаў, знойдзеных польскім вучоным М. Сякерскім[4], вынікае, што Ф. Еўлашоўскі жыў яшчэ ў 1616 г. Такім чынам, мемуары, якія заканчваюцца на сярэдзіне 55-й старонкі рукапісу, маглі мець гіпатэтычны працяг (але ўжо ў іншым, асобным рукапісе).

Тыя ўспаміны, што захаваліся да нашага часу, пісаліся ў 1603–1604 гг., бо на с. 9 Ф. Еўлашоўскі паведамляе: «в року панском 1603, пишу», а на с. 19: «по нинешний рок 1604, яко се то пишэ…» Змест успамінаў, эмацыянальна-экспрэсіўны стыль запісаў таксама сведчаць пра тое, што пісаліся яны не на працягу жыцця аўтара, а два-тры гады і што непасрэдным псіхалагічным штуршком да стварэння мемуараў стала для Ф. Еўлашоўскага трагічная смерць сына Яна, забітага ў Наваградку 16 лютага 1602 г. Альбрыхтам Брyханскім і кімсьці з Корсакаў.

---

[1] AGAD. Archiwum Potockich z Radzynia. № 143a.

[2] Еўлашоўскі Ф. Успаміны // Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст. / уклад. А.Ф. Коршунаў. Мінск, 1983. С. 31–64.

[3] Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст. С. 116–117.

[4] Siekierski M. Pamiętnikarz Teodor Jawlaszewski (1540 — po 1614) w świetle nowych źródeł // Studia Źródłoznawcze. 1979. T. XXIV. S. 177–180.

Перанесенае гора падарвала і без таго слабое здароўе Ф. Еўлашоўскага, ён цяжка захварэў і вымушаны быў на нейкі час адмовіцца ад выканання абавязкаў падсудка навагрудскага: «З тэй так велкей жалости мэй — смерти, а тым барзей же забитя сына моего, немней тэж з оказаня облудников, кторы, мнон, час немалый за приятелей се и велки и верни вдаваенц, лудили, пофрасованый впадлэм у велкон а до мянованя не ведеть, якон хоробэн»[1].

Седзячы дома і адчуваючы сябе зусім старым чалавекам, Ф. Еўлашоўскі і ўзяўся, відаць, за стварэнне мемуараў, каб разабрацца ў гісторыі свайго жыцця і ў сэнсе чалавечага жыцця ўвогуле, пераканаць самога сябе і іншых у тым, што добрыя ўчынкі і паводзіны ўзнагароджваюцца Богам, а дрэнныя — справядліва караюцца.

Далейшыя няшчасці (смерць сямімесячнага ўнука Станіслава, маравая пошасць у Вялікім Княстве Літоўскім і канчына многіх заможных магнатаў і проста суседзяў і прыяцеляў) спрыялі ўзмацненню дыдактычна-маралізатарскіх настрояў і з’яўленню рэлігійна-містычных матываў ва ўспамінах, як і трывога Ф. Еўлашоўскага за лёс сына Яахіма, што быў на той час у Італіі. Магчыма, менавіта ў чаканні ягонага вяртання, а таксама дзеля навучання і настаўлення іншых дзяцей і ўзяўся Ф. Еўлашоўскі за стварэнне мемуараў, выкарыстоўваючы свае ранейшыя запісы ў календары-дзённіку («в минуцыях», як называе гэты дзённік сам аўтар).

Такім чынам, успаміны Ф. Еўлашоўскага ўзніклі тыповым для тагачасных мемуараў шляхам — на падставе ранейшага дыярыуша — і маюць традыцыйную мэту: на прыкладзе нялёгкага, але сумленнага ўласнага жыцця даць узор для наследавання нашчадкам.

---

[1] Еўлашоўскі Ф. Успаміны. С. 60.

Мемуары Ф. Еўлашоўскага не ўяўляюць вялікай каштоўнасці для вучонага-гісторыка ў якасці фактаграфічнай крыніцы. Нельга, аднак, пагадзіцца з катэгарычным сцвярджэннем А. Коршунава, нібыта Ф. Еўлашоўскі не праяўляў асаблівай цікавасці да палітычных падзеяў свайго часу і таму, напрыклад, нічога не ўспамінае пра такія значныя падзеі, як Брэсцкая царкоўная унія 1596 г. або першае публічнае праследаванне езуітамі пратэстантаў у Вільні напрыканцы XVI ст.[1]. Напэўна, пра гэтыя падзеі Ф. Еўлашоўскі ўспамінаў, але акурат на тых старонках, якія ў рукапісе адсутнічаюць (запісы пра 1596–1601 гг.). Як успамінаў ён пераможную бітву з маскоўскім войскам над ракою Улаю ў 1564 г., Люблінскую унію 1569 г., элекцыйны сейм 1575 г. у Стэнжыцах, паход Стэфана Баторыя пад Пскоў у 1581 г., наезд казакаў Налівайкі на беларускія гарады і мястэчкі ў 1595 г. і іншыя найважнейшыя падзеі другой паловы XVI ст.

Але Ф. Еўлашоўскі вельмі сцісла і абыякава згадвае пра тыя падзеі, сведкам якіх ён не быў, у якіх асабіста не ўдзельнічаў, і пра тыя, што прыцягвалі ўсеагульную ўвагу і падрабязна апісваліся іншымі аўтарамі. Вось чаму пра хваробу, смерць і пахаванне караля Жыгімонта Аўгуста Ф. Еўлашоўскі як відавочца піша падрабязна, а пра смерць караля Стэфана Баторыя, пра якую даведаўся ад іншых людзей, згадвае некалькімі сказамі. Вось чаму пра паход Стэфана Баторыя пад Пскоў сцісла паведамляе: «Того ж лета и в есени, в року 81, король Стэфан был под Псковэм, гдем иж през хоробы мое не был. Слухам рад инших, кторы, вядоми будучи, о том выписали»[2], а наезд казацкіх

---

[1] Коршунаў А.Ф. Лепшыя здабыткі старажытнай беларускай мемуарыстыкі // Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст. С. 12.

[2] Еўлашоўскі Ф. Успаміны. С. 49

атрадаў Налівайкі на Беларусь і змаганне з рабаўнікамі шляхецкага апалчэння апісвае на некалькіх старонках, бо сам браў удзел у ваенных дзеяннях: «...Аж мне мило было, давно юж войска не видявши»[1].

Што праўда, глыбокага разумення ваенна-палітычных падзеяў і асаблівага дзяржаўнага патрыятызму Ф. Еўлашоўскі не выказвае. Напрыклад, пра свой удзел у Інфлянцкай вайне 1558–1581 гг., у ходзе якой вырашаўся гістарычны лёс Вялікага Княства Літоўскага, а ўсходнія землі Беларусі былі дашчэнту спустошаны войскамі маскоўскага цара Івана IV, наваградскі шляхціц у 1603 г. піша: «А потом аж до уприкреня были ми частые язды на тые войны, а яко юж тераз упатруе, мало потребные, бовем же и Речи Посполитой пожитку не веле тэ войны приносили»[2].

Большую цікавасць мемуары Ф. Еўлашоўскага ўяўляюць для даследчыка рэлігійнага жыцця і канфесійных узаемаадносінаў у Вялікім Княстве Літоўскім, як сведчанне неверагоднай для Еўропы талеранцыі, што панавала на радзіме аўтара ў эпоху Адраджэння. Мемуарыст згадвае, як аднойчы ў доме каноніка віленскага, князя Балтрамея Нядвіцкага, давялося яму сядзець за сталом побач з італьянцамі (напэўна, з акружэння папскага нунцыя, кардынала Клеменса), і тыя страшэнна здзівіліся, даведаўшыся, што князь-каталік запрасіў да сябе на абед шляхціца-пратэстанта: «Тые же се, кгды доведели, жем евангелик, дивовалисе барзо, яко ме смял князь каноник на обяд свой взывать. А кеды им он преложил, жем в нас з того жадна ненависть не быва и милуемысе яко з добрыми приятелы, хвалили то влоши, мовечи, же ту Бог живе, а кганили свое домове права, а радней неснаки»[3].

---

[1] Еўлашоўскі Ф. Успаміны. С. 58.

[2] Тамсама. С. 32.

[3] Тамсама. С. 33.

Аўтар мемуараў нарадзіўся ў праваслаўнай сям'і, потым перайшоў у кальвінізм, але гэта не сапсавала ягоных добрых узаемаадносінаў з прыяцелямі-каталікамі і блізкімі-праваслаўнымі. Пратэстант Фёдар Еўлашоўскі дапамог свайму бацьку Мікалаю стаць епіскапам пінскім і тураўскім Макарыем (праваслаўны ўладыка меў сына кальвініста!), узяў за жонку праваслаўную Ганну Балатоўну, якая і пасля шлюбу засталася пры сваёй «рускай» веры, «але так бачне и не упорне, же то намнейшей незгоды не указовало». І нарэшце, шмат гадоў Ф. Еўлашоўскі аднолькава верна і з карысцю для сябе служыў Яну Ераніму Хадкевічу і Мікалаю Крыштафу Радзівілу — спачатку кальвіністам, а потым ваяўнічым каталікам, прадстаўнікам двух заможных варагуючых радоў Вялікага Княства Літоўскага. Відаць, падсудак наваградскі вызначаўся талерантнасцю і памяркоўнасцю не толькі ў канфесійных пытаннях, але і ў чалавечых узаемаадносінах, у вырашэнні практычных, жыццёвых праблемаў.

На жаль, на пачатку XVII ст., калі пісаліся мемуары, стасункі паміж людзьмі розных веравызнанняў пагоршыліся, і Ф. Еўлашоўскі са смуткам гэта адзначае, параўноўваючы мінулае стагоддзе з цяперашнім: «...На он час розность вяры не чинила наймнейшей розности в милости прыыатолской, для чого тамтот век злотым ми се види от нинейшого веку, кгде юж и межи еднэй вяры людьми облуда все заступила, а покготовю межи розными вяры ани се пытай о милость, щирость и правдиве захование»[1].

Як і стваральнікі агульнадзяржаўных беларуска-літоўскіх летапісаў XV–XVI стст., як аўтары мясцовых хронік XVII–XVIII стст. і пераважная большасць мемуарыстаў XVI–XVIII стст., Ф. Еўлашоўскі ў сваіх успамінах не абыходзіў увагаю частыя ў краіне эпідэміі (напрыклад,

[1] Еўлашоўскі Ф. Успаміны. С. 33.

у Вільні ў 1566 г., у Варшаве ў 1572 г.), пажары (у Варшаве ў 1580 г.), астранамічныя з'явы (камета на небе ў лютым 1577 г.), капрызы клімату (напрыклад, снегапад напрыканцы мая 1594 г.), шлюбы і пахаванні вядомых у краіне людзей ці проста суседзяў і прыяцеляў.

Нельга сказаць, што Ф. Еўлашоўскі быў неназіральным, няўважлівым да акаляючага жыцця чалавекам і што ягоныя ўспаміны не маюць традыцыйных для тагачаснай гісторыка-мемуарнай літаратуры рысаў і ўласцівасцяў. Але галоўная каштоўнасць гэтых успамінаў — не ў занатаваных фактах і дакладна апісаных падзеях і здарэннях, а ў суб'ектыўным успрыманні і вытлумачэнні іх аўтарам, у занатаваных думках і дакладна перададзеных пачуццях.

Чытаючы мемуары, пераконваешся, што Ф. Еўлашоўскі ставіў перад сабой не столькі гістарыяграфічныя, колькі маральна-дыдактычныя задачы: не падзеі ваенна-палітычнага жыцця і грамадска-культурныя рэаліі Рэчы Паспалітай цікавілі яго найперш, а розныя выпадкі і здарэнні з уласнага жыцця, з жыцця суседзяў і прыяцеляў, разгледжаныя і інтэрпрэтаваныя з пазіцыяў хрысціянскага дэтэрмінізму.

Даследчыкамі слушна адзначалася, што ва ўспамінах Ф. Еўлашоўскага дамінуючае ў тыя часы гістарычнае паведамленне выцясняецца ўспамінамі з жыцця аўтара, ягоная асоба перамяшчаецца на першы план, а грамадскія падзеі ператвараюцца ў фон для ўласнага лёсу мемуарыста, што «адна з характэрных рысаў вобраза аўтара ў «Мемуарах» — інтэнсіўнае назіранне за ўласнымі пачуццямі і перажываннямі, пранікненне ў нязвыклыя для польскай мемуарыстыкі глыбіні псіхікі»[1].

---

[1] Kaczmarek M, Drewniak S. Wstęp // Antologia pamiętników polskich XVI wieku. Wrocław, 1966. S. LXXXII–LXXXIII.

Сапраўды, хаця ва ўспамінах Ф. Еўлашоўскага фігуруюць імёны каралёў, князёў і найзаможнейшых магнатаў Рэчы Паспалітай, але менавіта ён, сціплы і няпрыкметны ў палітычным жыцці дзяржавы падсудак наваградскі, з'яўляецца галоўным героем твора, а не толькі ягоным аўтарам. Увогуле ж, успаміны Ф. Еўлашоўскага (як, зрэшты, і многія іншыя мемуарныя творы) можна разглядаць як умоўны дыялог аўтара з героем, дыялог чалавека, які ўспамінае, з чалавекам, які дзейнічае. Абодва яны, і аўтар, і герой — адна і тая ж асоба, але ў розных часавых каардынатах і з рознымі станамі свядомасці. Бо стан свядомасці аўтара, зразумела, вышэйшы за стан свядомасці героя, узбагачаны досведам пражытых гадоў, набытымі ведамі і выпрацаванай філасофіяй жыцця[1]. Мемуары Ф. Еўлашоўскага ўяўляюць сабой дыялог мудрага маралізатара-назіральніка з актыўным, дзейсным героем. Аўтар задае пытанні сабе былому, узіраецца ў пражытыя гады, з тым, каб атрыманы адказ, знойдзены сэнс перадаць як маральны імператыў, запавет для дзяцей і нашчадкаў. Адзначыўшы, што ўспаміны Ф. Еўлашоўскага з'яўляюцца ў аснове сваёй аўтабіяграфіяй, варта падкрэсліць, што гэтая аўтабіяграфія паслужыла падсудку наваградскаму для стварэння своеасаблівага маральна-дыдактычнага трактата.

Успаміны Ф. Еўлашоўскага напісаны ад першай асобы, што натуральна для мемуараў і заканамерна для аўтабіяграфіі. Натуральна і заканамерна, але не адзінамагчыма і не абавязкова, калі згадаць пра наяўнасць у сусветнай літаратуры XVIII–XX стст. мемуараў і аўтабіяграфій, напісаных ад трэцяй і нават ад другой асобы, альбо ўспомніць пра некаторыя гісторыка-мемуарныя тво-

---

[1] Lubas-Bartoszyńska R. Style wypowiedzi pamiętnikarskiej. Kraków, 1983. S. 82–83.

ры XVI–XVII стст. Так, напрыклад, сучаснік і суайчыннік Ф. Еўлашоўскага, пісар Вялікага Княства Літоўскага Гальяш Пельгрымоўскі ў сваім польскамоўным вершаваным дыярыушы «Пасольства да вялікага князя маскоўскага» піша пра сябе ў трэцяй асобе (сціпла згадвае пра хваробу «пана пісара», прамову «пана пісара» перад вялікім князем маскоўскім Барысам Гадуновым і г. д.), бо ў першую чаргу як аўтар, а не як герой пажадаў ён застацца ў памяці нашчадкаў.

У сваіх успамінах Ф. Еўлашоўскі апісвае падзеі і звязаныя з імі думкі і перажыванні ў храналагічнай паслядоўнасці, але вельмі часта парушае гэтую паслядоўнасць, змяняе натуральны ход часу, разбурае адчуванне герметычнасці, незваротнасці мінулага і непрадказальнасці, невядомасці будучыні. Аўтар мемуараў часта згадвае пра пазнейшыя падзеі і здарэнні ў запісах пра ранейшыя, так ці інакш з імі звязаныя. Напрыклад, апісваючы часы караля Жыгімонта Аўгуста, Ф. Еўлашоўскі згадвае пазнейшае панаванне караля Стэфана Баторыя; апісваючы смерць маці ў 1572 г., дадае, што неўзабаве памёр і бацька, хоць пра ягоную смерць у 1574 г. піша потым асобна, а пра трагічную смерць сына мемуарыста, Яна, мы даведваемся раней, чым пра ягонае нараджэнне; ды й пра само нараджэнне ў 1579 г. напісана так: «Ганна Болотовна уродила сына Яна, которого потом в року 1602 в февруары 16 Олбрыхт Бруханский забил в Новокгродку под роками земскими»[1].

Забягаючы наперад, Ф. Еўлашоўскі яшчэ часцей урываецца ў час дзеяння, згадвае пра час напісання («яко юж тераз упатруе», «аж до тэй старости моей, в которой то, а меновите в року панском 603, пишу», «и по тэн час там мешка», «по нинешний рок 1604, яко се то пишэ» і г. д.), сцвярджае сваю прысутнасць у творы не толькі ў якасці

---

[1] Еўлашоўскі Ф. Успаміны. С. 45.

героя, але і ў якасці аўтара. Сустракаюцца ў мемуарах выразы, якія набліжаюць да чытача сам працэс напісання твора, як бы агаляюць механіку стварэння тэксту. Напрыклад, апісваючы свой шлюб з Ганнай Балатоўнай у 1577 г., аўтар адразу ж паведамляе пра нараджэнне дзевяці сыноў і пяці дачок і тут жа згадвае пра жаніцьбу сына Яраша і замужжа дачкі Раіны. Але, зразумеўшы, што забягае наперад, «закрывае» тэму: («…о чом будеть нижей на потым, на местцу своим ширей») і вяртаецца да апісання падзеяў 1577 г.[1]

Заўсёдная прысутнасць аўтара ў мемуарах рэалізуецца таксама ў шматлікіх каментарыях да апісання падзеяў і здарэнняў, у кароткіх заўвагах і разгорнутых рэфлексіях, і менавіта ў каментарыях непасрэдна выказваецца ідэя таго маральна-дыдактычнага трактата, якім з'яўляюцца мемуары Ф. Еўлашоўскага. Найбольш лаканічна гэтая ідэя выказана адным кароткім сказам на першай старонцы рукапісу: «А Пан Бог был завше со мною». Менавіта пад такім «лозунгам», з усведамленнем гэтай простай, але важнай ісціны распавядае Ф. Еўлашоўскі гісторыю свайго жыцця, напоўненага небяспечнымі прыгодамі і частымі хваробамі, перашкодамі з боку нядобразычліўцаў і зайздроснікаў. Змест маральна-дыдактычнага «лозунга» пашыраны і дапоўнены на наступнай старонцы рукапісу маральна-дыдактычным маніфестам, які варта працытаваць поўнасцю: «Самому ж Пану Богу хвала, же ме зо всих их (прыгодаў, цяжкасцяў, перашкодаў. — *С. К.*) выбавять, а, праве, на некоторых местцах цудовне охранять рачил, давши ми, праве, у вшитких люди вдячность, ласкэ и учынность над надее мое, а неприятелей, которые некеды з зазрости повставали и кгловы свои подносить хотели, значными плякгами отврацаючи, а упорных и дивными припадками з света згладжаючи, жем юж, праве, такою

---

[1] Еўлашоўскі Ф. Успаміны. С. 42.

ласкою Божою не толко убезспечоный, але и роспещоный будучи, никгдым се ку обороне от неприятель моих не готовал, аним се за слова их брал, очекиваючи власнэй нашей помсты Божей, ктора тэж никгды не омешкала, а друкгды и вэ мне самым аж плач и вэлке порушене в духу чинила. Уважаючи так вшехмоцнэго, велкекго Бога незапаметане мне межи незличоным лыудом, яко робачка малого, и непожаловане трат моцнейших на мене ку обороне моей»[1].

З такой рэлігійна-этычнай перспектывы і разглядае аўтар мемуараў сваё жыццё, складаючы з асобных фактаў біяграфіі, значных падзеяў і выпадковых здарэнняў агульную мазаіку лёсу «робачка малого», непрыкметнага наваградскага шляхціца, асабіста знаёмага з каралямі Рэчы Паспалітай і найзаможнейшымі магнатамі Вялікага Княства Літоўскага. Калі «вылушчыць» з мемуараў Ф. Еўлашоўскага аўтабіяграфічную частку, аддзяліць ад яе сямейную хроніку ды апісанне прафесійна-службовай дзейнасці падсудка наваградскага, атрымаецца займальная і павучальная гісторыя цудоўнага выратавання героя са шматлікіх бедаў і небяспечных сітуацыяў.

Ф. Еўлашоўскі апісвае сваю дзіўную хваробу і выздараўленне падчас маравой пошасці ў 1566 г. («за ласкою Божою зэ вшиткими здровым был»), цяжкую хваробу ў 1570 г., якая не кранула яго ў дарозе, а дачакалася вяртання дадому («И то была дивна справа божа, зе ми в дорозе уфолкговать рачил»), беспарадкі ў Менску ў 1576 г., сведкам якіх падсудку наваградскаму давялося быць («И также Пан Бог обронил»), небяспечную пераправу праз Нёман вясной 1582 г., калі ледзь не патануў сам герой, ягоныя слугі і коні («Ово только, здумявшисе дивным судом Божим, хвалилэм насветше име его»), напад разбойнікаў каля вёскі Рынконты ў сакавіку 1586 г. і выратаванне з дапамо-

[1] Еўлашоўскі Ф. Успаміны. С. 32–33.

гаю падаспеўшага абозу віленскіх купцоў («Самому Пану Богу хвала за его оборону!») і г. д. І хаця шмат гадоў мінула пасля апісаных выпадкаў, аўтар не перастае здзіўляцца і радавацца выратаванню героя з небяспекі, не перастае ўслаўляць Божую ласку і міласэрнасць. А Божая ласка праяўлялася не толькі ў дапамозе герою ў небяспечных сітуацыях, але і ў справядлівым пакаранні, помсце ягоным ворагам і нядобразычліўцам. Раптоўна, без дай прычыны памірае бацька Альбрыхта Бруханскага, забойцы сына Еўлашоўскага («Были дивне кглосы и мниманя людцке о тэй смерти его»). Нечакана памірае ад няправільнага лячэння венерычнай хваробы Мікалай Тлухоўскі, які жорстка ашукаў героя ў маёмасных справах, і аўтар не забываецца даць адпаведны маралістычны каментарый: «Сполниласе на ним та приповесть: "здрадливе сэрцэ само се порази". Не иж бым се с помъсты Божий, над неприятельми моими выконанэй, радовать мел, але тым ствержамсе у вере моей, же мам Бокга правдивого, вшехмоцного, бронячого мне от всих неприятелей моих»[1].

Божая апека і ласка, якія распасціраліся над героем ў часы бедаў і няшчасцяў, праяўляліся таксама і ў добрыя часы: у спрыянні яго службовай кар'еры, у павелічэнні маёмасці, у зладжанасці сямейнага жыцця.

1 верасня 1592 г. на сойміку ў Цырыне на пасаду падсудка навагрудскага было вылучана чатыры кандыдатуры, а прывілей 28 верасня атрымаў менавіта Фёдар Еўлашоўскі. Зразумела, не без умяшання Божае волі: «И з ласки Пана Бога вшехмоцного, кторый, яко хцэ, керуе сэрцами кролев и вшех люди вэдля воли свэй станови, отдано то подсудковство мне».

Успамінаючы свой шлюб з Ганнай Балатоўнай і адзначаючы дабрыню і цнатлівасць жонкі, Ф. Еўлашоўскі

---

[1] Еўлашоўскі Ф. Успаміны. С. 56.

радуецца, што «Пан Бог, который ме пасл одного самого, не опустил ме и с тою малжонкою моею, и не подавал нас на волю неприятелей наших. Але их самых, розными плякгами дотыкаючи, яко от скалы, от нас отпалые и завстыжоные зоставовал»[1]. Зноў, аднак, радасць аўтара азмрочана згадкамі пра ворагаў і нядобразычліўцаў, якія зайздросцілі любові і шчасцю ў кальвінісцка-праваслаўнай сям'і Еўлашоўскіх, павелічэнню дабрабыту і нараджэнню дзяцей: «Тым же болшей, смотречи на наше спокойное, тихое и весялое помешкане, в зайзрость впадаючи, мовами своими фалшивыми нас щипали, и розными способы иншими, а наконец и чарами перешкодить то усиловали». Зноў, як і ў маральна-дыдактычным маніфесце на пачатку мемуараў, паўстаюць вобразы ворагаў і непрыяцеляў, гучыць тэма чалавечай зайздрасці — магістральная тэма твора.

Аўтар мемуараў успрымае Божую ласку і міласэрнасць як узнагароду за сваё сумленнае і цнатлівае жыццё і за адсутнасць у сваім характары зайздрасці, за добразычлівасць у адносінах да іншых людзей. Менавіта асуджэннем зайздрасці чалавечай і заканчваюцца мемуары, аўтар лічыць зайздрасць праяваю чалавечага глупства, надакучлівай хваробай і дзякуе Богу за тое, што не надзяліў яго такім недахопам: «Дзякую я тобе, Боже мой, Ойче Пана нашого Езуса Христуса, же межи иншими дары твоими далэсь ми на то был, жем се од заздрости устрець мокгл так, же никгды сэрдцэм моим не пановала и непотребного, яком знал по инших, жалю, хоробе якейсь подобного не чинила»[2].

Як сапраўдны маральна-дыдактычны трактат, успаміны Ф. Еўлашоўскага заканчваюцца рэлігійна-этычнымі развагамі і рэфлексіямі...

---

[1] Еўлашоўскі Ф. Успаміны. С. 42.

[2] Тамсама. С. 64.

Разгледжаныя намі творы адрозніваюцца аб'ёмам (ад некалькіх да сотняў старонак), мовай, на якой створаны (лацінская, польская, беларуская), сацыяльным статусам аўтараў (магнаты Юры і Крыштаф Радзівілы, сярэднезаможныя Гальяш Пельгрымоўскі і Фёдар Еўлашоўскі, прадстаўнікі дробнай шляхты Мацей Стрыйкоўскі і Рыгор Уніхоўскі), адлюстроўваюць розныя шляхі ўзнікнення мемуарнай літаратуры. Большасць з іх звязаны з перамяшчэннем героя ў прасторы, з'яўляюцца апісаннямі падарожжаў, паломніцтваў, ваенных паходаў, пасольстваў («Дзённік падарожжа ў Італію» Ю. Радзівіла, «Перагрынацыя... у Святую Зямлю» М.К. Радзівіла, «Апісанне маскоўскага паходу князя Крыштафа Радзівіла» Ф. Градоўскага, «Дзесяцігадовая аповесць ваенных спраў князя Крыштафа Радзівіла» А. Рымшы, празаічны і вершаваны дыярыушы Г. Пельгрымоўскага, у пэўнай ступені — аўтабіяграфічны твор М. Стрыйкоўскага). Але ёсць сярод іх і прыклад сямейнай «метрыкі» (запісы Уніхоўскіх), і ўзор мемуараў маральна-дыдактычнага зместу (успаміны Еўлашоўскага), і першая спроба літаратурнай аўтабіяграфіі: «Мацей Стрыйкоўскі Осаставіч сам пра сябе і прыгоды свае ў наведванні размаітых краін свету».

Адны з разгледжаных намі твораў мелі цалкам фактаграфічны характар, прызначаліся для нашчадкаў аўтара, не прэтэндавалі называцца літаратурнымі творамі (нататкі Ю. Радзівіла, запісы Уніхоўскіх, «Успаміны» Ф. Еўлашоўскага), іншыя напісаны з разлікам на шырокага чытача, уключалі белетрыстычныя элементы, альбо ўвогуле былі створаныя ў вершаванай форме (зварот да вершаванай формы — характэрная рыса мемуарыстыкі эпохі Рэнесансу). Некаторыя засталіся ў рукапісе і былі наноў адкрытыя ў наш час, іншыя неаднаразова перавыдаваліся («Перагрынацыя...» М.К. Радзівіла, аўтабіяграфія М. Стрыйкоўскага ў складзе «Хронікі...»).

Агульнавядома, што ў Еўропе мода на мемуары ўзнікла ў XVI ст. — у эпоху Рэнесансу, і Вялікае Княства Літоўскае не было тут выключэннем.

У тагачасным пісьменстве Беларусі і Літвы назіраецца заняпад агульнадзяржаўнага летапісання, функцыю фіксатара гістарычных падзеяў пачынаюць выконваць іншыя жанры: героіка-эпічная паэзія (творы Ф. Градоўскага, А. Рымшы, Я. Радвана), аўтарскія гістарычныя хронікі (творы А. Ратундаса, М. Стрыйкоўскага), а таксама — мемуарная літаратура і эпісталаграфія.

Ёсць усе падставы сцвярджаць, што мемуарны жанр у шматмоўнай літаратуры Вялікага Княства Літоўскага ўзнік у эпоху позняга Рэнесансу і прадстаўлены цэлым шэрагам адметных помнікаў, якія ўяўляюць цікавасць як сваім гістарычным зместам, так і мастацкай формай.





# Школьны тэатр і драматургія

Узнікненне школьнага тэатра ў Вялікім Княстве Літоўскім і першых драматургічных твораў у шматмоўнай беларускай літаратуры прыпадае на перыяд позняга Рэнесансу (канец XVI ст.), хаця дагэтуль у шырокай свядомасці асацыіруецца пераважна з эпохай Барока (XVII — першая палова XVIII ст.). У даследаванні А.І. Мальдзіса «На скрыжаванні славянскіх традыцый : літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII — XVIII ст.)» (1980) раздзел пра драматургію мае красамоўную назву: «Першыя крокі драматургіі». У папулярным універсітэцкім падручніку «Гісторыя беларускай літаратуры : старажытны перыяд» (1985 і наступн. выд.) пра драматургію ўпершыню гаворыцца толькі ў заключным раздзеле «Літаратура другой паловы XVII — XVIII ст.». Праўда, і ў манаграфіі, і ў напісаным на яе падставе раздзеле згаданага падручніка А.І. Мальдзіс слушна адзначае, што «школьны тэатр быў тыповым параджэннем позняга Рэнесансу і ранняга Барока»[1], але з драматургічных твораў XVI ст. называе толькі п'есы К. Пянткоўскага, згадвае дзве полацкія пастаноўкі і далей без агаворак разглядае школьны тэатр як праяву эстэтыкі Барока.

---

[1] Гісторыя беларускай літаратуры : старажытны перыяд. С. 317.

Дзве п'есы К. Пянткоўскага — «Цімон Гардзілюд» і «Дыялог пра мір» — аналізуюцца (хутчэй, пераказваюцца) у вучэбным дапаможніку С.М. Міско «Школьны тэатр Беларусі XVI–XVIII стст.» (2000), і больш ніякай інфармацыі пра рэпертуар школьных тэатраў Вялікага Княства Літоўскага ў XVI ст. мы не знаходзім: у кнізе перадрукоўваюцца і разглядаюцца інтэрмедыі XVII–XVIII стст. У адрозненне ад змястоўнага даследавання А.І. Мальдзіса, які плённа выкарыстаў набыткі польскага тэатразнаўства другой паловы XX ст., дапаможнік С.М. Міско амаль цалкам грунтуецца на працах вядомага рускага даследчыка пачатку XX ст. У. Разанава, а ўласныя высновы і антыкаталіцкія разважанні аўтара не вытрымліваюць ніякай крытыкі (з дапаможніка студэнты могуць даведацца, напрыклад, што езуіты пачалі пранікаць у Беларусь яшчэ ў XV ст.[1], хаця, як вядома, ордэн быў заснаваны Ігнаціем Лаёлам толькі ў 1534 г.).

Па сутнасці, школьны тэатр Беларусі і Літвы позняга Рэнесансу не быў яшчэ прадметам спецыяльнага даследавання беларускіх навукоўцаў, чым і тлумачыцца цьмянае ўяўленне пра першыя крокі беларускай драматургіі, пошукі іх у пісьменстве Барока. Другой прычынай нявывучанасці школьнага тэатра і драматургіі другой паловы XVI ст. з'яўляецца даўняя, толькі нядаўна пераадоленая традыцыя атаясамлівання беларускай літаратуры выключна з беларускамоўнымі тэкстамі, а ў выпадку драматургіі — з невялічкімі ўстаўнымі сцэнкамі на «русінскай» мове, процістаўленне «мёртвай», «касмапалітычнай» школьнай драмы «жывым», «народным па духу» інтэрмедыям. У выніку на лацінамоўныя і польскамоўныя драмы, створаныя мясцовымі і прыезджымі аўтарамі, прос-

---

[1] Міско С.М. Школьны тэатр Беларусі XVI–XVIII стст. Мінск, 2000. С. 105.

та не звярталася ўвагі, а ідэйна-мастацкія асаблівасці інтэрмедыйных сцэнак разглядаліся па-за кантэкстам станаўлення і эвалюцыі школьнай драматургіі, па-за кантэкстам тэатральнага жыцця ўвогуле. Такі падыход збядняў і дэфармаваў агульную карціну развіцця беларускай літаратуры, якая на працягу многіх стагоддзяў была шматмоўнай і полікультурнай.

Школьная драматургія Беларусі і Літвы эпохі Рэнесансу патрабуе грунтоўнага даследавання з боку айчынных тэатразнаўцаў і філолагаў-лацiністаў, але, каб узнавіць у агульных рысах генезіс і станаўленне гэтага жанру ў кантэксце тагачаснага тэатральнага жыцця, варта звярнуцца да прац польскіх навукоўцаў: Я. Паплатэка, Ю. Леваньскага, А. Кручыньскага, Е. Зёмэка, Т. Бянькоўскага, Я. Абрамоўскай, А. Сачэўкі, Л. Віннічук, якія назапасілі багаты фактаграфічны матэрыял пра дзейнасць школьных тэатраў на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ў XVI ст.

На жаль, не захавалася ніякіх звестак пра тэатральнае мастацтва ў Беларусі і Літве ў эпоху Сярэднявечча. Можна толькі меркаваць, што ў кафедральным саборы Вільні ў XV ст., таксама як у касцёлах Гнезна, Кракава, Вроцлава, Познані, маглі паказвацца літургічныя драмы (напрыклад, надзвычай папулярнае ў Еўропе відовішча «Visitatio sepulchri»), з меншай верагоднасцю можна дапусціць зварот да такіх адмысловых жанраў, як містэрыя і маралітэ. Безумоўна, элементы тэатралізацыі прысутнічалі ў многіх хрысціянскіх абрадах і святах, як у каталіцкай, так і ў праваслаўнай традыцыі, у прыдворных цырымоніях і магнацкіх урачыстасцях (заручынах, шлюбах, пахаваннях), у народнай абрадавасці і вусна-паэтычнай творчасці. Вулічны тэатр рэпрэзентавалі вандроўныя скамарохі, якія паказвалі свае слоўна-музычна-танцавальныя прадстаўленні (магчыма, з выкарыстаннем лялек) не толькі ў Беларусі і Украіне,

але і ў суседняй Польшчы[1]. Аднак усе гэтыя раннія і эпізадычныя праявы тэатральнага жыцця не мелі дачынення да з'яўлення арыгінальнай драматургіі: наўрад ці на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ў эпоху позняга Сярэднявечча маглі быць створаны, а потым беззваротна страчаны такія тэксты, як «Lament świętokrzyski» альбо «Skarga umierającego».

Афіцыйная, г. зн. больш-менш дакументаваная, гісторыя тэатральнага жыцця ў Вялікім Княстве Літоўскім пачынаецца з прыбыцця ў Вільню езуітаў, якія ўвесну 1570 г., а не ў 1580–1584 гг., як часам сцвярджаецца[2], наладзілі першае тэатральнае прадстаўленне сіламі вучняў толькі што адкрытай калегіі. Назва першага спектакля не захавалася, вядома затое, што ўжо восенню таго ж года была паказана драма італьянскага езуіта С. Туцыя «Hercules», у якой міфалагічнаму герою процістаялі алегарычныя постаці Зямнога Кахання, Жарсці, Асалоды, П'янства, а дапамагалі знайсці праведны шлях Цнота, Розум, Стрыманасць і Праца.

Першыя ж прадстаўленні езуітаў выклікалі вялікую зацікаўленасць гледачоў не толькі каталіцкага, але і іншых веравызнанняў, для пераважнай большасці прысутных гэта была першая сустрэча з тэатрам. Акрамя таго, удзел у спектаклях заахвочваў да вучобы юных акцёраў, а ў іх равеснікаў выклікаў зайздрасць і жаданне далучыцца да шчаслівчыкаў, якія з годнасцю дэкламавалі доўгія лацінскія маналогі ў прысутнасці здзіўленых бацькоў і першых дзяржаўных асобаў княства. Трапна ахарактарызаваў

---

[1] Braun K. Kieszonkowa historia teatru polskiego. Lublin, 2003. S. 19.

[2] Гісторыя беларускага тэатра : у 3 т. / рэдкал. У.І. Няфёд і інш. Мінск, 1983. Т. 1 : Беларускі тэатр ад вытокаў да Кастрычніка 1917 г. С. 132.

ролю тэатра ў паспяховым распаўсюджанні езуіцкай адукацыі Я. Окань: «Гэта падобна на тое, каб зараз увесці ў ліцэі кінакамеры і камп'ютарную сетку, дазволіць вучням пісаць сцэнарыі, здымаць фільмы і нават рэпартажы пра актуальныя падзеі, і ўсё гэта на англійскай мове, і паказаць гэта бацькам, запрасіць іх, каб пабачылі, якія іх сыны сучасныя, еўрапейскія. Так яно, уласна, і было: выхад з засценка, з правінцыйнасці парафіяльных школ і дарастанне да свету»[1]. Незадаволеныя праціўнікі езуітаў слушна наракалі: «З вялікай пыхай і вынаходлівасцю ладзяць яны прадстаўленні камедый і трагедый, на іх ускладаюць найвялікшыя надзеі, бо адным такім спектаклем прыцягваюць да сябе безліч вучняў»[2].

Вядома, не езуіты прыдумалі выкарыстоўваць тэатр у працэсе навучання, яны запазычылі гэтую традыцыю ў еўрапейскіх гуманістычных універсітэтах, зрабіўшы тэатральныя прадстаўленні рэгулярнымі і надаўшы ім акрамя дыдактычнай і выхаваўчай яшчэ адну важную функцыю: прапагандысцкую. Як і ў сістэме адукацыі, так і ў тэатральнай дзейнасці езуіты абапіраліся на рэнесансавую спадчыну, што прывяло да ўзнікнення такой цікавай з'явы, як езуіцкі гуманізм[3]. Усе даследчыкі школьнага тэатра — ад У. Разанава да Я. Абрамоўскай — аднагалосна адзначалі, што першыя драматургічныя вопыты езуіцкіх аўтараў былі арыентаваныя на рэнесансавую паэтыку, а выдатны знаўца польскай літаратуры эпохі Рэнесансу Е. Зёмэк катэгарычна сцвердзіў: «Не было ў той час асобнай езуіцкай драматургіі як стылю. Не існавала асобна езуіцкая п'еса

---

[1] Jezuici a kultura Polska / pod red. L. Grzebienia, S. Obirka. Kraków, 1993. S. 227.

[2] Literatura antyjezuicka w Polsce 1578–1625 : antologia. Warszawa, 1963. S. 53.

[3] Jezuici a kultura Polska. S. 27–39.

як жанр, але дзейнічаў езуіцкі школьны тэатр з падкрэслена выхаваўчымі мэтамі, арыентаваны на наследаванне драматычным і тэатральным традыцыям Рэнесансу, на прыстасаванне да іх»[1].

Трэба ўлічваць, што спецыяльнага кодэкса правілаў напісання п'ес і падрыхтоўкі тэатральных прадстаўленняў у езуіцкіх вучэльнях на пачатку 70-х гг. яшчэ не існавала. Толькі ў 1594 г. была апублікавана найбольш папулярная езуіцкая паэтыка аўтарства Якуба Пантана, а ў 1599 г. быў зацверджаны і распаўсюджаны па ўсіх вучэльнях вучэбна-выхаваўчы план «Ratio studiorum», які рэгламентаваў таксама дзейнасць школьных тэатраў. Праўда, рассылалася вялікая колькасць асобных прадпісанняў, заўваг і пажаданняў заснавальніка ордэна, генералаў і правінцыялаў, якія часта пярэчылі адно аднаму, акрамя таго, у арганізацыі школьных пастановак першыя віленскія педагогі — палякі Станіслаў Варшавіцкі і Лукаш Красоўскі, шатландзец Ян Гай, ліцвін Балтазар Гастоўскі, славак Тамаш Здэларыц — маглі выкарыстаць вопыт італьянскіх, французскіх, нямецкіх і аўстрыйскіх езуіцкіх вучэльняў (першыя польскія езуіцкія тэатры — у Пултуску і Браневе — з'явіліся ўсяго на некалькі гадоў раней за віленскі).

На працягу 70-х гг. XVI ст. тэатр Віленскай езуіцкай калегіі падрыхтаваў як мінімум дзесяць прадстаўленняў, сярод якіх былі так званыя «судовыя працэсы» (напрыклад, у 1574 г. паміж Навукай і Марнатраўствам), панегірычныя дэкламацыі (напрыклад, у 1579 г. у гонар прыезду караля Стэфана Баторыя), камедыі і трагедыі (1572 г. — «Melchizedech...», 1574 г. — «Tragoedia Jephte» і «Cornelio et Clareano», 1579 г. — «Saul et Davidis comoedia»). У вызначэнні жанру тагачасных п'ес трэба, аднак, быць асцярожнымі: прысутнасць у назве твора слоў

---

[1] Ziomek J. Renesans. Warszawa, 1995. S. 413.

«камедыя» ці «трагедыя» азначала толькі, што гледачоў чакаў шчаслівы або, наадварот, сумны фінал. Паводле назвы да камедый адносіліся, напрыклад, такія драматычныя творы XVI–XVII стст., як «Komedia o niepłodności św. Anny z Joachimem mężem jej», «O ofierze Abrahama», «Komedia męki Jezusowej»[1]. Той самы драматычны твор мог у адным тэатры выдавацца за трагедыю («Tragoedia Jehu» — Вільня, 1581), у другім — за камедыю («Comoedia Jehu» — Яраслаў, 1583).

У адпаведнасці з прадпісаннямі кіраўніцтва ордэна тэатр Віленскай калегіі з самага пачатку свайго існавання быў лацінамоўным (польская мова гучала толькі ў пралогах, эпілогах і выступленнях хору, якія пасля трансфармаваліся ў інтэрмедыі) у адрозненне, напрыклад, ад пазнейшага па часе ўзнікнення тэатра Полацкай калегіі, якому дазвалялася напачатку граць спектаклі па-польску — відаць, з-за недахопу падрыхтаваных акцёраў і гледачоў. Як і ў іншых вучэльнях, важнейшымі нагодамі наладжвання тэатральных прадстаўленняў у Віленскай калегіі з'яўляліся рэлігійныя святы (Раство Хрыстова, Масленіца, Пакутны Тыдзень, Вялікдзень, Божае Цела і інш.), школьныя ўрачыстасці (пачатак восеньскага і веснавога семестраў, заканчэнне вучэбнага года), прыезд знакамітых гасцей (караля, кардынала і інш.). У залежнасці ад канкрэтнай нагоды і жанру, прадстаўленні граліся ў касцёле і перад касцёлам, на пляцы перад калегіяй і ў яе сценах, арганізоўваліся таксама святочныя працэсіі па вуліцах горада і сустрэчы гасцей каля гарадской брамы. Адказваў за арганізацыю прадстаўленняў і іх змест рэктар калегіі, абавязкі першага цэнзара выконваў прэфект вучэльні, а непасрэдна падрыхтоўкай спектакля займаўся з вучнямі выкладчык рыторыкі: у 1570 г. — Ян

---

[1] Bieńkowski T. Gatunki dramatyczne w okresie staropolskim // Ruch Literacki. 1970. R. XI, zesz. 2. S. 95.

Гай, пазней — ягоныя наступнікі (як вядома, выкладчыкі ў езуіцкіх вучэльнях часта змяняліся). У абавязкі выкладчыка рыторыкі і паэтыкі ўваходзіла таксама напісанне «сцэнарыяў» паратэатральных імпрэз (напрыклад, сустрэчы важнага госця), а пры наяўнасці таленту — і напісанне арыгінальных п'ес адпаведнага той ці іншай падзеі зместу.

Рэпертуар тэатра Віленскай езуіцкай калегіі ў 70-я гг. XVI ст. складаўся пераважна з «імпартаваных» камедый і трагедый, што сведчыць пра адсутнасць такіх талентаў сярод тагачасных прафесараў вучэльні. Адна справа — арганізаваць з вучнямі тэатралізаваны дыспут паміж Навукай і Марнатраўствам, паправіць напісаныя студэнтамі лацінскія і польскія вершы ў гонар караля Стэфана Баторыя, і зусім іншая — стварыць арыгінальны дыялог альбо трагедыю, якая б адпавядала высокім мэтам ордэна, спадабалася б і кіраўніцтву вучэльні, і гледачам living рознага ўзросту, сацыяльнага статусу і веравызнанняў.

Праўда, якраз у Віленскай калегіі ў 1570–1573 гг. вывучаў філасофію, а ў 1574–1575 гг. выкладаў граматыку і паэтыку Марцін Лашч (1551–1615), які лічыцца першым польскім драматургам-езуітам. Выконваючы ў 1576–1579 гг. абавязкі прэфекта калегіі ў Пултуску, ён напісаў і паставіў з вучнямі тры дыялогі: «O drzewie żywota», «Abel i Kain», «Bacchus». Пра ранейшую (у Вільні) і пазнейшую (падчас працы ў калегіях Познані, Яраслава і Любліна) драматургічную творчасць М. Лашча нічога не вядома, затое, адышоўшы ў 90-х гг. ад педагагічнай дзейнасці, ён набыў гучную славу сваімі палемічнымі выступленнямі супраць пратэстанцкіх і праваслаўных аўтараў і нават трапіў пад псеўданімам «Шчасны-Жаброўскі» ў біябібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі»[1]. Наўрад ці, будучы студэнтам фі-

---

[1] Мельнікаў А. Шчасны-Жаброўскі // Беларускія пісьменнікі : біябібліяграф. сл. : у 6 т. Мінск, 1995. Т. 6. С. 414–415.

ласофіі, дзевятнаццацігадовы Марцін Лашч удзельнічаў у школьных прадстаўленнях Віленскай калегіі ў якасці акцёра (на сцэне выступалі дванаццаці-чатырнаццацігадовыя вучні малодшых класаў), будучы пазней выкладчыкам граматыкі і паэтыкі, ён мог прычыніцца да пастаноўкі спектакляў у якасці рэжысёра, але і пра гэты бок яго дзейнасці ў сталіцы Вялікага Княства Літоўскага нічога невядома.

Ю. Ляваньскі прыпісвае М. Лашчу аўтарства трагедыі «Ефтай»[1], паказ якой 2 кастрычніка 1574 г. на пляцы перад калегіяй у прысутнасці біскупа Валерыяна Пратасевіча і незлічонай колькасці гледачоў стаў самай значнай падзеяй віленскага тэатральнага жыцця 70-х гг. XVI ст. Я. Паплятэк мяркуе, што гэта была п'еса іспанскага езуіта Юзэфа дэ Акосты, прэм'ера якой адбылася ў 1556 г. у Медзіна дэль Кампа[2]. А. Кручыньскі лічыць першаасновай віленскага спектакля славутую трагедыю шатландскага гуманіста Джорджа Буханана, упершыню пастаўленую і надрукаваную ў сярэдзіне 50-х гг. XVI ст. у Парыжы, а ў 1587 г. выдадзеную ў Кракаве ў польскім перакладзе Яна Завіцкага[3]. У адным з лістоў Пятра Скаргі захавалася захопленае апісанне віленскага прадстаўлення, у якім адзначаецца, што «над трагедыяй паспяхова працаваў Мельхіёр»[4]. Меўся на ўвазе віленскі прафесар Мельхіёр Дзіцый, але ў якасці каго ён працаваў над трагедыяй — у якасці аўтара, адап-

---

[1] Lewański J. Dramat i teatr średniowiecza i renesansu w Polsce. Warszawa, 1981. S. 514.

[2] Poplatek J. Studia z dziejów jezuickiego teatru szkolnego w Polsce. Wrocław i in., 1957. S. 156.

[3] Kruczyński A. W teatrach jezuickich // Lewański J. Dramat i teatr średniowiecza i renesansu w Polsce. S. 440.

[4] Poplatek J. Studia z dziejów jezuickiego teatru szkolnego w Polsce. S. 156.




татара ці толькі рэжысёра — невядома. Заўважым, што Марцін Лашч у лісце П. Скаргі не згадваецца.

Трагедыя «Ефтай» з'яўляецца ўзорным увасабленнем спробаў езуіцкіх аўтараў стварыць новую — хрысціянскую па духу і класічную па форме — драму. Сюжэт п'есы ўзяты з Бібліі (Кніга Суддзяў), але ўмела ўпісаны ў паэтыку антычнай трагедыі, дзякуючы выразнай паралелі гісторыі Іфіс, дачкі галандскага палкаводца Ефтая, з гісторыяй Іфігеніі — дачкі грэчаскага цара Агамемнана (так званыя «аналагічныя матывы», якіх настойліва шукалі ў творчасці грэчаскіх і рымскіх аўтараў хрысціянскія гуманісты[1]). Перамогшы ворагаў, Ефтай пакляўся прынесці ў ахвяру Богу першага, каго сустрэне, вярнуўшыся дадому. На няшчасце, гэтым першым аказаўся не раб і не служка, а адзіная дачка палкаводца, юная Іфіс (у біблейскім тэксце імя яе не названа). Даведаўшыся пра неабачлівую клятву бацькі, дачка настояла прынесці яе ў ахвяру, каб не наклікаць Божы гнеў на сям'ю і на ўсю краіну. Таксама ўчыніла і Іфігенія, каб выратаваць угнявіўшага багоў Агамемнана.

Па справядлівасці, віленская трагедыя павінна была б называцца іменем галоўнай гераіні, таксама як іменем галоўнай гераіні называліся трагедыі Еўрыпіда «Іфігенія ў Аўлідзе» і «Іфігенія ў Таўрыдзе». Але не трэба забываць, што п'еса гралася ў школьным езуіцкім тэатры, дзе ўсе ролі выконваліся вучнямі-хлопцамі, а жанчыны нават у якасці глядачак дапускаліся ў абмежаванай колькасці і на асобныя ад мужчынаў месцы (у некаторых краінах жанчыны на прадстаўленні школьных тэатраў увогуле не дапускаліся). Кіраўніцтва ордэна настойліва рэкамендавала аўтарам-педагогам пры напісанні п'ес абысціся без жаночых роляў, а ў гатовых п'есах замяняць іх на мужчынскія, што пазней увайшло ў практыку. Жаночыя персанажы з'яўляліся

[1] Ziomek J. Renesans. S. 416.

ў якасці выключэння там, дзе без іх зусім нельга было абысціся, мусілі быць прыстойныя і цнатлівыя, каб не псаваць норавы набожных гледачоў. Канчатковая рэдакцыя «Ratio studiorum» 1599 г. зусім забараніла жаночыя ролі ў школьных прадстаўленнях, і хаця для некаторых правінцый, у тым ліку для польска-літоўскай, было зроблена выключэнне[1], мы не сустракаем у школьнай драматургіі XVII–XVIII стст. яскравых жаночых роляў.

Ператварыўшы ў 1579 г. з ласкі караля Стэфана Баторыя калегію ў акадэмію, віленскія езуіты яшчэ больш актывізавалі тэатральнае жыццё вучэльні, паказаўшы ў 80-х гг. больш за дваццаць прадстаўленняў, сярод якіх найважнейшыя: «Tragoedia Jehu», «Abraham... et Melchizedech» — 1581, «Dialogus de Pace» — 1582, «Dialogus in Bacchanalibus», «Comoedia de Angelorum cura», «Dialogus die Sanctae Catharinae» — 1584, «Absolon» — 1585, «Achabus» — 1590. У 1585 г. пышнай працэсіяй на свята Божага Цела і дыялогам «De Martyrum constantia» распачаў сваю дзейнасць тэатр Полацкай езуіцкай калегіі, паказаўшы ў наступныя пяць гадоў яшчэ некалькі спектакляў, назвы якіх не захаваліся. У тэатральным рэпертуары адбыліся прыкметныя змены ў параўнанні з папярэднім дзесяцігоддзем: побач з імпартаванымі п'есамі з'явіліся арыгінальныя творы, павялічылася колькасць камедый, вядучым жанрам стаў дыялог у шматлікіх яго разнавіднасцях, і самае галоўнае — у тэатры Віленскай езуіцкай акадэміі з'явіўся нарэшце свой аўтар, які мог напісаць твор на канкрэтную замову, пад канкрэтную нагоду.

Развіццё школьнай драматургіі ў Вялікім Княстве Літоўскім у 80-я гг. XVI ст. звязана ў першую чаргу з твор-

[1] Poplatek J. Studia z dziejów jezuickiego teatru szkolnego w Polsce. S. 19–20.

часцю Каспара Пянткоўскага (1554–1612). Паляк па паходжанні, ён нарадзіўся ў вёсцы Пянткова на Мазовіі ў шляхецкай сям'і. Вучыўся ў езуіцкіх калегіях у Пултуску (у 1574 г. уступіў тут у ордэн), Браневе, Познані, пазней сам выкладаў — спачатку ў Познані, потым у Браневе. Яшчэ падчас вучобы ў Браневе пачаў пісаць панегірычныя вершы і школьныя дыялогі, а ў 1579 г. у Браневе адбыўся яго тэатральны дэбют з лацінскім дыялогам у гонар вармінскага біскупа Марціна Кромера. Восенню 1581 г. Пянткоўскі пераехаў у Вільню, выкладаў у акадэміі грэчаскую мову і адначасова вывучаў філасофію, атрымаў тут сан ксяндза і ў 1584–1585 гг. выконваў абавязкі прапаведніка ў Гародні. Потым зноў выкладаў у Вільні грэчаскую мову, вывучаў тэалогію, а ў 1591–1592 гг. выкладаў яшчэ і матэматыку. Пазней жыў і займаўся педагагічнай дзейнасцю ў Яраславе, Торуні, Калішу, Познані, свой жыццёвы шлях скончыў у Кракаве[1]. Менавіта віленскі перыяд аказаўся найбольш плённым для К. Пянткоўскага, папоўніўшы ягоны творчы даробак панегірычнымі вершамі і рэлігійнымі гімнамі на лацінскай, грэчаскай і польскай мовах, драматычнымі дыялогамі на лацінскай і інтэрмедыямі на польскай і беларускай мовах.

Уражвае жанрава-тэматычная разнастайнасць дыялогаў К. Пянткоўскага, у ягонай спадчыне мы знаходзім дыялогі, прысвечаныя розным рэлігійным святам: «Пастухі», «Анёльская Дзева», «Пасха»; дыялогі з нагоды школьных урачыстасцяў: «Раскоша і Лянота», «Мудрасць і Юнак», «Два браты», «Бахус»; дыялогі ў гонар важных гасцей — «Вітанне караля Стэфана», «Дыялог пра мір для караля Стэфана», «Вітанне двух веснікаў міру» (назвы сваім творам Пянткоўскі даваў не лацінскія, а грэчаскія, таму падаём іх

[1] Soczewka A. Pętkowski Kasper // Polski słownik biograficzny. Wrocław i in., 1980. T. XXV. S. 748–749.

адразу па-беларуску). Не ўсе ягоныя п'есы, якія захаваліся ў рукапісе (у так званым «кодэксе Пянткоўскага» — найстарэйшым помніку езуіцкай драматургіі ў Рэчы Паспалітай), пабачылі сцэну, іншыя былі пастаўлены з купюрамі, бо не падабаліся цэнзарам. У заўвагах на палях рукапісу пісьменнік наракаў на ўмяшанне цэнзуры, неразуменне з боку рэжысёра і выказваў спадзяванне, што Бог больш справядліва ацэніць ягоныя творы, чым людзі[1]. Сімптаматычна, што ўсе віленскія пастаноўкі твораў Пянткоўскага (ад шасці да дзесяці, па розных звестках) прыпадаюць на 1581–1584 гг., пасля прыняцця духоўнага сану ў 1585 г. ён тэатрам не займаўся: ні ў акадэміі, ні ў іншых езуіцкіх вучэльнях, дзе працаваў.

Вяршыняй творчасці К. Пянткоўскага з'яўляецца, безумоўна, «Дыялог пра мір для караля Стэфана», які выклікаў шырокі рэзананс у грамадстве. Напісаны з нагоды заключэння Ям-Запольскага міру паміж Рэччу Паспалітай і Масковіяй дыялог быў з поспехам выкананы навучэнцамі Віленскай езуіцкай акадэміі 4 лютага 1582 г. у кафедральным саборы ў прысутнасці караля і найвышэйшых дзяржаўных асоб Вялікага Княства Літоўскага. Побач з алегарычнымі постацямі — Перамогай, Мірам, Цнотай — у дыялогу дзейнічаюць (прамаўляюць) прадстаўнікі розных грамадскіх слаёў — Селянін, Жаўнер, Святар, Ерэтык; усе яны актыўна абмяркоўваюць перавагі міру над вайной і выказваюць падзяку каралю за заключэнне доўгачаканага пагаднення з Іванам Грозным. На фоне тагачаснага панегірычна-эпічнага пісьменства Беларусі і Літвы, напоўненага патрыятычнымі заклікамі ваяваць да поўнай перамогі над ворагам, «Дыялог пра мір...»

---

[1] Łacińskie dialogi K. Pętkowskiego / wyd. A. Soczewka. Niepokolanów, 1978. S. 84–85.

вылучаецца сваімі гуманістычнымі і нават пацыфісцкімі ідэямі. Асабліва дэмакратычна гучыць маналог Селяніна ў 1-й сцэне 1-га акта:

Jakżeż los kmiotków ciężki w każdej dobie,
Lecz czasu wojny już chyba najgorszy!
Skromne jego mienie zdobyte w znoju i pocie czoła
Zabierają mu — o zgrozo — i rabują. <…>
Królowi i możni książęta — w waszej to jest mocy,
Abyście zrezygnowali czasem i z praw należnych,
A nie wszczynali o byle co wojny
Z tak wielką szkodą dla swoich poddanych[1].

Як справядліва адзначаў А.І. Мальдзіс, патрэбна была грамадзянская смеласць, каб выказаць усё гэта ў прысутнасці вяльможаў і Стэфана Баторыя[2]. І К. Пянткоўскі такую смеласць выявіў, пачаўшы панегірычную п'есу ў гонар караля з нараканняў простага селяніна, вось толькі кароль і вяльможы гэтых нараканняў не пачулі, бо ў самім прадстаўленні яны... адсутнічалі. З падрабязнага апісання віленскага спектакля, пакінутага пазнанскім канонікам Я. Бжэзіньскім, і з нататак самога К. Пянткоўскага на палях рукапісу мы даведваемся, што дзве першыя сцэны — маналог Селяніна і размова Селяніна з Жаўнерам — былі выкінуты з п'есы цэнзурай альбо рэжысёрам, а спектакль пачынаўся сцэнай размовы Святара з Сенатарам, якую драматург быў вымушаны дапісаць. Да гонару К. Пянткоўскага трэба адзначыць, што ў душы ён не пагадзіўся з такім рашэннем і ў кодэкс перапісаў аўтарскі варыянт твора[3].

---

[1] Dramaty staropolskie : w 6 t. / oprac. J. Lewański. Warszawa, 1961. T. 4. S. 389–390.

[2] Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII — XVIII ст.). Мінск, 1980. С. 168.

[3] Dramaty staropolskie. T. 4. S. 604–608.

Дэмакратызм, увага да праблемаў простага люду былі ўласцівы і іншым творам К. Пянткоўскага. Антываенныя матывы, асуджэнне паводзінаў жаўнераў, што рабуюць няшчасных сялян, гучаць таксама ў інтэрмедыі «Лікус, Скева, Секстус», напісанай да каляднага дыялога «Пастухі» (1584). А ў інтэрмедыі «Цімон Гардзілюд» да школьнага дыялога ў гонар апякункі студэнтаў св. Кацярыны (каля 1584 г.) віленскі Шавец у канфрантацыі з псеўдафілосафам Цімонам выказвае куды больш розуму і спрыту, чым высакародны Шляхціц. Дарэчы, размаўляе шавец-русін па-беларуску, і таму «Цімон Гардзілюд» заслужана лічыцца першай беларускай інтэрмедыяй[1]. Трэба дадаць, што напрыканцы XVI ст. жанр інтэрмедыі яшчэ толькі пачынаў фарміравацца і К. Пянткоўскі быў адным з першых драматургаў у Рэчы Паспалітай, хто аддаў перавагу інтэрмедыйным сцэнкам перад традыцыйнымі для антычнай і рэнесансавай п'есы выступленнямі хору.

Дыялогі і інтэрмедыі К. Пянткоўскага ўзбагацілі, безумоўна, рэпертуар Віленскай акадэміі, аднак у 80-х гг. так і не была створана арыгінальная трагедыя на біблейскі, агіяграфічны ці гістарычны сюжэт кшталту «Ефтая». Запатрабаванне на такую рэлігійна-дыдактычную трагедыю і з боку кіраўніцтва вучэльні (не толькі віленскай), і з боку гледачоў было вялікае, але па-ранейшаму мусіла задавальняцца імпартаванымі п'есамі. З гучным поспехам прайшла ў 1581 г. віленская прэм'ера п'есы Францішка Бенцыя «Tragoedia Jehu» паводле біблейскага сюжэта (Чацвёртая Кніга Царстваў). Зноў, адной з лепшых роляў у прадстаўленні аказалася жаночая — роля Езавель, жонкі караля ізраільскага Ахава. Сцэна аплаквання Езавеллю

---

[1] Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. С. 166–167; Міско С.М. Школьны тэатр Беларусі XVI–XVIII стст. С. 65–66.

сваіх дзяцей і мужа, забітых па загадзе няўмольнага Іуя, не магла не ўзрушыць прысутных гледачоў і жыва нагадвала славуты плач Гекубы з трагедыі Еўрыпіда ці літанні Андрамахі з трагедыі Сенэкі, якім Езавель даводзілася «літаратурнай сястрой».

Стварыць першыя ў Рэчы Паспалітай узоры арыгінальнай хрысціянскай трагедыі, якія пабачылі сцэну адразу ў некалькіх езуіцкіх тэатрах, было суджана ў 90-х гг. ураджэнцу Груйца, што на Мазовіі, Гжэгажу Кнапію (1564–1639), а першыя пастаноўкі ягоных п'ес былі здзейснены ў Вільні, дзе з 1594 па 1598 г. па волі лёсу знаходзіўся драматург. Кнапій (іншыя варыянты напісання прозвішча: Кнап, Кнапскі) паходзіў з мяшчанскай сям'і, першапачатковую адукацыю атрымаў у варшаўскіх школах, у 1582–1585 г. вучыўся ў езуіцкіх калегіях у Пултуску, Браневе. У 1585 г. у Калішы ён уступіў у ордэн. Пазней пазнаваў таямніцы філасофіі ў Пазнані, працаваў настаўнікам рыторыкі ў Пултуску, у Вільню прыехаў вывучаць тэалогію[1]. Тут, у 1586 г. напісаў і, хутчэй за ўсё, сам паставіў камедыя-трагедыю «Philopater seu Pietas», а праз год яшчэ адну п'есу — «Tragoedia Foelicitas».

Пра тэатральнае жыццё ў Вялікім Княстве Літоўскім у 90-я гг. XVI ст. захавалася надзіва мала звестак. Вядома, што ў 1593 г. у Вільні студэнты акадэміі ўшанавалі фунеральным дыялогам смерць Альберта Радзівіла, а ў Полацку ў тым самым годзе навучэнцы калегіі з поспехам паказалі трагедыю на польскай мове «Athalia» паводле Чацвёртай Кнігі Царстваў — пра іўдзейскую царыцу Гаталію, жорстка пакараную Богам за абразу святыняў і забойствы нявінных людзей (зноў яскравы жаночы вобраз на школьнай сцэне, нягледзячы на ўсе забароны!).

---

[1] Plezia M. Knapski Grzegorz // Polski słownik biograficzny. Wrocław i in., 1967–1968. T. XIII. S. 107–108.

Наступныя віленскія прэм'еры — дзве вышэйзгаданыя п'есы Г. Кнапія, і ўсё. Няўжо за цэлае дзесяцігоддзе два тэатры паказалі ўсяго чатыры спектаклі? А можа, сучаснікі проста прызвычаіліся ўжо да тэатральных прадстаўленняў і перасталі адзначаць кожнае з іх як незвычайную падзею, вартую ўвагі нашчадкаў?

Як бы там ні было, драматургія Г. Кнапія сталася вызначальнай з'явай тэатральнага жыцця Вялікага Княства Літоўскага 90-х гг. XVI ст. і атрымала прызнанне ва ўсёй Рэчы Паспалітай. Напісаныя ў Вільні творы драматурга ставіліся пазней у Пултуску, Калішы і Познані, а ў 1604 г. у Любліне адбылася прэм'ера ягонай трагедыі «Eutropius». Невядома, ці займаўся Кнапій тэатрам да прыезду ў Вільню, аднак ужо ў сваёй першай п'есе — камедыя-трагедыі «Філапатэр...» ён выявіў не толькі шырокую эрудыцыю, рытарычнае майстэрства вучонага-філолага, але і адчуванне спецыфікі тэатральнага мастацтва, прысутнае ў тэксце рэжысёрскае бачанне разгортвання сцэн і падзеяў. Праўда, з перспектывы сённяшняга дня напоўненыя вострым грамадска-палітычным зместам дыялогі і інтэрмедыі Пянткоўскага бачацца больш цікавымі і каштоўнымі, чым умела напісаныя ў канвенцыі школьнага езуіцкага тэатра дыдактычна-маралізатарскія п'есы Кнапія.

П'есы Кнапія тыпалагічна блізкія тым дыялогам Пянткоўскага, якія былі створаны для ўнутраных патрэбаў акадэміі і не закраналі актуальных праблемаў грамадска-палітычнага жыцця. Напісаны з аказіі пачатку навучальнага года «Філапатэр...» яўна нагадвае дыялог Пянткоўскага «Два браты», створаны пятнаццаццю гадамі раней з той самай нагоды. Абодва творы маюць падобную зыходную сітуацыю (выпрабаванне двух братоў: добрага і дрэннага), пачынаюцца з пралога-аргумента, у якім гледачам распавядаецца змест п'есы (у Кнапія па-польску) і заканчваюцца раздачай узнагарод з рук трыумфуючага галоўнага героя

(у Пянткоўскага — Філамусуса, у Кнапія — Філапатэра) лепшым вучням калегіі. Розніца палягае на тым, што ў Пянткоўскага дзеянне адбываецца непасрэдна ў школе (можа, нават у самой Віленскай акадэміі, хоць героі і маюць грэчаскія імёны), а ў п'есе Кнапія — сюжэт нібыта гістарычны, узяты з папулярнага зборніка апавяданняў, прыпавесцяў і анекдотаў «Gesta Romanorum»: стары кароль перад смерцю абяцае пакінуць трон таму з сыноў, хто трапіць у ягонае мёртвае цела з лука, а сам таемна папярэджвае сенатараў, каб пасля выпрабавання трон, наадварот, дастаўся таму сыну, які адмовіцца страляць у бацьку.

Цікава, што ў літаратурнай першакрыніцы ў жудасным выпрабаванні ўдзельнічалі чатыры браты і прыпавесць мела алегарычна-сімвалічны сэнс: кожны з братоў сімвалізаваў адпаведную веру (паганства, іудаізм, ерась, каталіцызм); зразумела, што трон (Каралеўства Божае) дастаўся малодшаму сыну, які ўвасабляў веру «слушную». Кнапій пакінуў у п'есе толькі двух братоў, зрабіўшы канфлікт больш драматычным, але пазбавіўшы яго заяўленага ў «Рымскіх дзеяннях» алегарычна-сімвалічнага вымярэння. На думку А. Кручыньскага, гэтае спрашчэнне было неапраўдана: замест гістарычнай трагедыі з рэлігійна-метафізічным падтэкстам з-пад пяра езуіцкага драматурга выйшла звычайнае школьнае маралітэ пра двух братоў[1]. Я. Абрамоўская, наадварот, лічыць, што Кнапій не адмовіўся ад алегарычна-сімвалічнага разумення каралеўскага выпрабавання, але надаў яму крыху іншую, тыпова каталіцкую трактоўку: «Бацька, які наладзіў сваім сынам цяжкае выпрабаванне, — гэта Бог. Філапатэр — гэта крыптанім чалавека набожнага, Тэлегон — грэшніка, карона азначае збавенне, выгнанне — пекла. Як бачым,

[1] Kruczyński A. W teatrach jezuickich. S. 453.

драма прэзентуе ў спрашчэнні эсхаталагічную дактрыну каталіцызму. <…> у перакладзе на тэалагічныя катэгорыі: кожнаму чалавеку даравана Ласка Божая, і ў той жа час ён акружаны спакусамі. Пасмяротны лёс залежыць ад свабоднага выбару чалавека»[1].

У п'есах Г. Кнапія стараннае наследаванне антычнай драме (у першую чаргу — дыдактычным-маралізатарскім трагедыям Сенэкі) спалучаецца з вернасцю традыцыям сярэднявечнага хрысціянскага тэатра, што ўвогуле было характэрна для творчасці езуіцкіх аўтараў. Калі жанр «Філапатэра» можна вызначыць як драму-маралітэ, то другая віленская п'еса Кнапія «Феліцыта» — гэта драма-міракль, драматургічная апрацоўка жыція святой пакутніцы Феліцыты (Шчаслівай). П'еса складаецца з пяці актаў, з пралогам, выступленнямі хароў і эпілогам па-польску (відавочна, мартаралагічная трагедыя не магла «перабівацца» інтэрмедыйнымі сцэнкамі), паказ спектакля адбыўся падчас вялікага з'езда шляхты ў Вільні ў 1597 г. Літаратурнай першакрыніцай Кнапію паслужыла, відаць, агіяграфічнае апавяданне з вядомай кнігі П. Скаргі «Żywoty świętych» (Вільня, 1579) ці тая самая гісторыя са зборніка К. Баронія «Martyrologium Romanum» (Рым, 1586). Хрысціянка Феліцыта пастаўлена рымскім намеснікам Публіем перад жорсткім выбарам: альбо пакланіцца паганскім багам, альбо прыняць разам са сваімі сынамі пакутніцкую смерць. Тыпалагічна вобраз Феліцыты блізкі вобразу Ніобы, дачкі Тантала, але ў адрозненні ад гераіні антычнай трагедыі, раздзёртай паміж любоўю да дзяцей і пакорай перад бацькам, Феліцыта не мае сумненняў у выбары паміж верай і сляпымі мацярынскімі пачуццямі: і гераіня, і яе сямёра сыноў з радасцю ідуць на смерць, г. зн.

---

[1] Abramowska J. Ład i Fortuna : o tragedii renesansowej w Polsce. Wrocław i in., 1974. S. 161.

выбіраюць вечнае жыццё ў Царстве Божым. У выніку такой адназначнай аўтарскай трактоўкі гісторыя пра пакутніцкую смерць маці і дзяцей сапраўды ператвараецца ў песню пра шчасце:

O bohatyrko, dziwnie potężna,
O y nad męże niewista mężna,
O Faelicitas, nader szczęśliwa,
O męczennikow matko prawdzowa,
Rusz się z ochotą, rusz się z radością,
Czeka cie niebo z welką iasnością[1].

Цалкам зразумела, чаму трагедыі Г. Кнапія, у адрозненне ад дыялогаў К. Пянткоўскага, не мелі праблемаў з цэнзурай і ахвотна прымаліся да пастаноўкі многімі школьнымі тэатрамі Рэчы Паспалітай. Зрэшты, пасля смерці аўтараў іх драматургічныя творы чакаў падобны лёс: поўнае забыццё. На працягу трох стагоддзяў пра К. Пянткоўскага памяталі выключна як пра перакладчыка палемічнага трактата Б. Абрама «Święty a powszechny Sobor w Florencji...» (Кракаў, 1609), а пра Г. Кнапія — як пра вучонага-лексікографа, аўтара фундаментальнага слоўніка «Thesaurus polono-latino-graecus» (1621), што перавыдаваўся больш за 35 разоў і не страціў значэння да нашага часу. Толькі ў другой палове XX ст., дзякуючы руплівасці А. Сачэўкі і Л. Віннічук, былі выдадзены з рукапісных кодэксаў лацінамоўныя п'есы драматургаў[2]. Акрамя таго, пераклад «Дыялога пра мір» і польскамоўныя інтэрмедыі К. Пянткоўскага трапілі ў шматтомную анталогію старапольскай драматургіі, падрыхтаваную Ю. Ляваньскім[3], а фрагменты «Цімона Гардзілюда» ўзнаўляліся ў працах беларускіх даследчыкаў: А. Мальдзіса, Г. Коласа, С. Міско.

---

[1] Cnapii G. Tragoediae. Wratislaviae etc., 1965. S. 165–166.

[2] Łacińskie dialogi K. Pętkowskiego; Cnapii G. Tragoediae.

[3] Dramaty staropolskie. T. 4.

Такім чынам, хаця творы Г. Кнапія і цешыліся большай папулярнасцю ў сучаснікаў, але ў нашчадкаў большае прызнанне заслужылі творы К. Пянткоўскага…

На завяршэнне гэтага раздзела, прысвечанага першаму этапу развіцця школьнага тэатра і драматургіі ў Вялікім Княстве Літоўскім, хацелася б яшчэ раз падкрэсліць, што драматургія як жанр узнікла ў шматмоўнай літаратуры Беларусі і Літвы позняга Рэнесансу, а не ў эпоху Барока. Адназначнае атаясамліванне творчасці езуіцкіх аўтараў XVI ст. са стылем барока і ідэалогіяй Контррэфармацыі неправамерна: у іх п'есах адлюстраваўся складаны працэс выпрацоўкі на аснове рэнесансавай паэтыкі нормаў і правілаў уласнаезуіцкай драматургіі, вынікі якога ў больш-менш чыстым выглядзе выявіліся толькі ў сярэдзіне XVII ст. у масавай творчасці драматургаў так званай «ліцвінскай барочнай школы»[1].



[1] Okoń J. Dramat i teatr szkolny : sceny jezuickie XVII wieku. Wrocław i in., 1970. S. 294.



# Заключэнне

Вялікае Княства Літоўскае, якое існавала з XIII па XVIII ст., было ўнікальнай дзяржавай на палітычнай карце Еўропы. Утворанае намаганнямі некалькіх народаў (літоўскага, беларускага, украінскага), а пазней злучанае уніяй з Польшчай, княства на працягу ўсёй сваёй гісторыі мела поліэтнічны, поліканфесійны і полікультурны характар, што яскрава адлюстравалася ў яго багатай шматмоўнай літаратуры.

У XVI — пачатку XVII ст. літаратура Вялікага Княства Літоўскага развівалася ў рэчышчы еўрапейскага Рэнесансу, аднак у творчасці мясцовых аўтараў новыя рэнесансавыя тэндэнцыі цесна перапляталіся з элементамі сярэднявечнай эстэтыкі, з асаблівасцямі беларускай і літоўскай культуры, а на пераломе XVI і XVII стст. — з барочнымі ўплывамі.

Эпоха Рэнесансу традыцыйна асацыіруецца з жанрам грамадска-палітычнай і рэлігійна-палемічнай *публіцыстыкі* (прадмовы Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага, М. Даўкшы, Л. Сапегі, трактаты А. Волана, М. Літвіна, А. Ратундаса, сачыненні П. Скаргі, І. Пацея, Х. Філалета, М. Сматрыцкага і інш.). Але з перспектывы развіцця прыгожага пісьменства, а не гісторыі палітычных, рэлігійных ці філасофскіх ідэй у Вялікім Княстве Літоўскім ёсць падставы сцвярджаць, што гэта быў зорны час *паэзіі*.

Першыя ўзоры паэтычных твораў з’явіліся ў пражскіх і кракаўскіх выданнях Ф. Скарыны, Я. Вісліцкага, М. Гусоўскага. Распаўсюджанне кнігадрукавання непасрэдным чынам спрычынілася да развіцця паэзіі ў Беларусі і Літве: згодна з тагачаснай традыцыяй друкары аздаблялі выданне рэлігійных тэкстаў, філасофскіх трактатаў, юрыдычных помнікаў

вершаванымі прадмовамі, зваротамі да чытача, эпіграмамі на герб мецэната. Менавіта да кніжна-эпіграматычнай паэзіі адносяцца першыя ўзоры вершаскладання на нацыянальных мовах, створаныя Ф. Скарынам, М. Мажвідасам, А. Рымшам, Л. Мамонічам. Мастацкая арыгінальнасць іх невялікая, але для далейшага развіцця беларускай і літоўскай літаратур важнай з'яўляецца сама наяўнасць такіх спробаў, дэкларацыя аўтарамі нацыянальна-патрыятычных пачуццяў.

Патрыятызм паэтаў Вялікага Княства Літоўскага выяўляўся таксама ў творах на лацінскай і польскай мовах, ужыванне гэтых моў у літаратурнай творчасці тлумачылася не толькі культурна-гістарычнымі прычынамі (арыентацыяй на «лацінскую» Еўропу, паступовай паланізацыяй беларуска-літоўскага грамадства), але і пануючымі эстэтычнымі ўяўленнямі таго часу: найбольш адпаведнай мовай для эпасу лічылася лацінская, для сатыры і маралістыкі — польская. Асобнымі зборнікамі выходзілі лацінамоўныя паэтычныя творы Я. Вісліцкага, М. Гусоўскага, Б. Гіяцынта, Ф. Градоўскага, Я. Радвана, польскамоўныя вершы і паэмы Ц. Базыліка, С. Кулакоўскага, Я. Пратасовіча, а некаторыя паэты змяшчалі пад адной вокладкай і лацінскія, і польскамоўныя творы (А. Рымша, Г. Пельгрымоўскі, Я. Казаковіч).

Амаль усе паэтычныя тэксты XVI — пачатку XVII ст. дайшлі да нас у друкаваным выглядзе, яны свядома ствараліся аўтарамі з разлікам на публікацыю (эпіграмы, эпічныя паэмы, вершаваныя маральна-дыдактычныя трактаты), у адрозненне ад празаічных тэкстаў, якія захаваліся пераважна ў рукапісах (летапісы, гістарычныя аповесці, рыцарскія раманы, дыярыушы і мемуары).

Найбольш вядомым і самабытным празаічным жанрам літаратуры Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу з'яўляюцца дзяржаўныя беларуска-літоўскія летапісы («Хроніка Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага», «Хроніка Быхаўца»). Але, дасягнуўшы свайго росквіту ў першай палове XVI ст., беларуска-літоўскае летапісанне ў другой палове гэтага стагоддзя прыходзіць у заняпад, летапісная традыцыя лакалізуецца ў мясцовых хроніках, індывідуалізуецца ў прыватных дыярыушах і ўспамінах.



Функцыю фіксацыі гістарычных падзеяў пачынаюць выконваць іншыя, новыя жанры: аўтарскія гістарычныя хронікі (А. Ратундас, М. Стрыйкоўскі), эпічныя паэмы (творы Ф. Градоўскага, А. Рымшы, Я. Радвана), мемуары (Р. Уніхоўскі, Г. Пельгрымоўскі, Ф. Еўлашоўскі).

Менавіта ў другой палове XVI — пачатку XVII ст. узнікае мемуарны жанр у літаратуры Вялікага Княства Літоўскага, прадстаўлены творамі Ю. Радзівіла, М. К. Радзівіла, М. Стрыйкоўскага, сямейства Уніхоўскіх, Г. Пельгрымоўскага, Ф. Еўлашоўскага. Сярод мемуарных твораў сустракаюцца тэксты, напісаныя на беларускай, лацінскай і польскай мовах. Адны з гэтых твораў узыходзяць да традыцыі хаджэнняў («Падарожжа ў Італію» Ю. Радзівіла, «Перэгрынацыя, або Падарожжа ў Святую Зямлю» М.К. Радзівіла), іншыя з'яўляюцца прыкладам сямейнай хронікі (нататкі Уніхоўскіх, «Успаміны» Ф. Еўлашоўскага), некаторыя створаны на мяжы паэзіі і мемуарыстыкі («...Сам пра сябе і прыгоды свае ў наведванні размаітых краін свету» М. Стрыйкоўскага, «Пасольства да вялікага князя маскоўскага» Г. Пельгрымоўскага). Але ўсе яны адлюстроўваюць характэрнае для эпохі Рэнесансу ўзрастанне асобаснага пачатку ў літаратуры, сведчаць пра ўсведамленне чалавекам каштоўнасці для гісторыі ягонага ўласнага жыцця і індывідуальнага вопыту.

Цікавасцю да прыватнага жыцця, да сферы чалавечых пачуццяў, да ўзаемаадносінаў мужчыны і жанчыны тлумачыцца з'яўленне ў літаратуры Вялікага Княства Літоўскага ў сярэдзіне XVI ст. такога жанру, як перакладны рыцарскі раман. Пранікненне папулярных вандроўных сюжэтаў у айчыннае пісьменства сведчыць пра запатрабаванасць іх мясцовымі чытачамі і чытачкамі, пра далучанасць нашых продкаў да еўрапейскай літаратурнай традыцыі з яе міфамі і архетыпамі. Раманы «Трышчан» і «Бава» ўзніклі ў заходнееўрапейскай літаратуры ў эпоху позняга Сярэднявечча, але, трапіўшы ў беларускую культурную прастору, набылі ў творчым перакладзе-адаптацыі рэнесансавае гучанне, сцвярджалі ідэалы кахання, якое ў тагачасным пісьменстве Беларусі і Літвы знаходзілася на перыферыі і выяўлялася выключна ў прыватнай карэспандэнцыі.

Выдатным узорам эпісталярнага жанру ў літаратуры Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу з'яўляюцца прыватныя лісты Барбары Радзівіл, адрасаваныя яе бацькам, братам і каханку — каралевічу Жыгімонту Аўгусту. Вобраз Барбары зафіксаваны на старонках беларуска-літоўскіх летапісаў і ў многіх пазнейшых мастацкіх творах, але мастацкі ўзровень яе лістоў сведчыць, што не толькі як *гераіня*, але і як *аўтарка* заслугоўвае яна месца ў гісторыі літаратуры, будучы папярэдніцай Катажыны Сангушкі з Сапегаў, Саламеі Пільштыновай з Русецкіх, Францішкі Уршулі Радзівіл з Вішнявецкіх.

Яшчэ адным новым жанрам у літаратуры Вялікага Княства Літоўскага XVI — пачатку XVII ст. была драматургія, якая ўзнікла разам са з'яўленнем школьных езуіцкіх тэатраў. Першымі драматургамі Беларусі і Літвы сталі выкладчыкі Віленскай езуіцкай акадэміі К. Пянткоўскі і Г. Кнапій. Прынята лічыць езуіцкую драматургію ўзорам стылю барока і адлюстраваннем ідэяў Контррэфармацыі, але аналіз творчасці згаданых аўтараў дае падставы гаварыць пра яе рэнесансавую аснову. Дэмакратызм і гуманістычнае гучанне «Дыялогу пра мір» К. Пянткоўскага ўражваюць нават пры параўнанні віленскага твора з тагачаснай еўрапейскай драматургіяй. У інтэрмедыі «Цімон Гардзілюд» гэтага ж аўтара адзін з персанажаў упершыню загаварыў па-беларуску, прадвяшчаючы з'яўленне беларускамоўных інтэрмедый у XVII–XVIII стст.

Літаратура Вялікага Княства Літоўскага XVI — пачатку XVII ст. стваралася на розных мовах (царкоўнаславянскай, лацінскай, грэчаскай, польскай, беларускай, літоўскай і інш.), аўтарамі розных хрысціянскіх канфесіяў (праваслаўнымі, каталікамі, пратэстантамі, уніятамі), а таксама вызнаўцамі іўдаізму і ісламу, прадстаўнікамі розных народаў (літоўцамі, беларусамі, украінцамі, палякамі, немцамі, французамі, яўрэямі, татарамі). Узнікшая на перасячэнні антычнай і біблейнай традыцый, у арэоле ўплываў як лацінскай, так і візантыйскай культуры, пісьменства Вялікага Княства Літоўскага з'яўляецца выдатным прыкладам гетэрагенічнай культуры і каштоўнай спадчынай адразу некалькіх народаў Сярэдне-Усходняй Еўропы.



# Скарына сярэднявечны, Скарына адраджэнскі

*Гутарка Сяргея Кавалёва з Алегам Лойкам*[1]

**С. К.:** Алег Антонавіч, напачатку — пытанне самае традыцыйнае: як і калі ўзнікла задума напісаць раман-эсэ пра Францішка Скарыну?

**А. Л.:** Задума ўзнікла пры няпэўнасці: пісаць ці не пісаць, брацца за такую надзвычайную тэму ці не брацца? Матэрыял па Скарыніяне — фактычны — мне быў дастаткова знаны даўно. Усе гіпотэзы — таксама. Але штуршком, з якога ўзнікла, нарэшце, рашучасць, было напатканне прозвішча Фаўста ў энцыклапедыі, дзе значыліся гады яго жыцця, і я ўбачыў, што ён быў сучаснікам Скарыны. Такім чынам, напачатку была прыкідка, намер. У сувязі з гэтым я і выпісваў персаналію, звязаную з гісторыяй Еўропы XIII–XVI стст. Папярэднікі, сучаснікі Скарыны. Я наперад адмовіўся ад прыдуманых персанажаў, разумеў поўную непадыходнасць сутыкнення такой асобы, як Скарына, з адвольным прымроеным суразмоўцам. Адразу ж рыхтаваў сябе да вырашэння задачы — даць гістарычны дух часу, выявіць яго атмасферу духоўную і рэальнасць побытавую, псіхалагічную адметнасць духоўнасці, гіста-

[1] Гутарка адбылася ў 1990 г. з нагоды выхаду ў свет рамана-эсэ Алега Лойкі «Францішак Скарына, або Сонца маладзіковае».

рычны каларыт рэальнасці. Верагодным становіцца навуковы гістарызм, ён не толькі ў канкрэтна-гістарычным, але і ў легендарна-міфічным. Легенда — таксама частка гісторыі, яна — у часе, сама — часцінка часу. Тым больш, што Сярэднявечча было часам не толькі народжаных ім універсітэтаў, але і прымхавасці, спірытуалізму. З Фаўстам у адзін шэраг тут жа ў маёй фантазіі стаў пан Твардоўскі, а за ім — Станіслаў Станьчык — блазан караля Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага, а за ім — міфічная фігура Голема — героя сярэдневяковай Прагі. Ядналіся ў адзін паднябесны круг зямлі, дзе Скарына бываў, — Нямеччына, Кракаў, Прага, каралі, ад якіх лёс Скарыны залежаў, — чэшскі Фердынанд, Ягелоны, Габсбургі, постаці феадалаў з Вільні — Гаштаўта, Астрожскага, Радзівілаў, з Ваверя — Кшыцкага, Таміцкага і іншых. Словам, «закручваўся» сюжэт. Знайшоў! «Эўрыка!» — загучала па-архімедаўску ўва мне. І тут ужо завірылася цікаўнасць: «А што з гэтага выйдзе? А ці выйдзе?..». І праца ўжо над самім раманам пачалася. Нейтральная прыкідка, збор матэрыялу на ўсякі выпадак — для лекцый, для гісторыі старабеларускай літаратуры — былі ўжо за спінай…

**С. К.:** Для нас, звыкла, Скарына — дзеяч эпохі Адраджэння, у кнізе ж акцэнт заўважна перанесены на Сярэднявечча. Чаму так сталася?

**А. Л.:** Бо Адраджэнне мы звыкліся штучна вырываць з Сярэднявечча ў той час, калі яно — паласа, перыяд, этап самога Сярэднявечча. Чалавек Адраджэння, ён яшчэ і сярэдневяковы чалавек. Ён — верыць у Бога і адчувае сябе сынам Прыроды. Ён — дуаліст: Бога ачалавечвае, чалавека абагаўляе. Але галоўнае тут, што асветніцкая дзейнасць Скарыны — гэта апагей рэлігійна-асветніцкай дзейнасці ранняга нашага Сярэднявечча, запачаткаванага Ефрасінняй Полацкай, Кірылам Тураўскім, і якую ў рамках другога паўднёвабалканскага ўплыву працягваў Грыгоры

Цамблак. Францішак Скарына, друкуючы Біблію як Святое Пісанне, быў прадаўжальнікам Ефрасінні Полацкай, але друк Бібліі на мове свайго народа, друк Бібліі Скарынам як чалавекам свецкім рабіў яго пачынальнікам іншага, чым сярэдневякова-рэлігійнага, асветніцтва — пачынальнікам рэнесанснага асветніцтва. Адраджэнства Скарыны было ў сімбіёзе з формай і зместам не новымі, бо з Бібліяй. Але тлумачэнне яе, славутыя прадмовы і пасляслоўі Скарыны да паасобных частак Бібліі, дзе іх аўтарам выпінаціся ідэі гуманізму, цнатлівасці, справядлівасці, — тут ужо Скарына найбольш «чысты» адраджэнец. Што датычыцца «пераняcення акцэнту» на Сярэднявечча, то, калі ён у кнізе ёсць, ёсць толькі таму, што ў задачу ўваходзіла спасціжэнне самога гістарычнага быцця, калі з улоння Сярэднявечча выспявала новае — Адраджэнне. Адраджэнне, вядома, супрацьстаяла Сярэднявеччу, але толькі цямранаму, інквізітарскаму, талмудысцкаму. У цэлым XIV–XV стагоддзі ў нас у Беларусі былі не толькі часам ранняга Сярэдневякоўя, але і часам перададраджэнскім, перадрэфармацыйным. Гэта ў цэлым было матчына ўлонне самога Адраджэння і Рэфармацыі, звязанае найперш з ерэтычнымі плынямі, што існавалі ў Вялікім Княстве Літоўскім у XIV–XV стст., як і з другім паўднёва-славянскім уплывам.

**С. К.:** У кнізе шмат месца адведзена сярэднявечнаму гораду. Як вядома, у XIX ст. традыцыі гарадской беларускай культуры былі перарваны ў значнай ступені. Зараз, калі вырашаецца, па сутнасці, быць ці не быць *беларускаму* гораду, што могуць даць нам традыцыі сярэднявечнага горада?

**А. Л.:** Гонар за іх, дзейсную павагу да продкаў-месцічаў, сапраўднае адчуванне «каранёў», гісторыі роднага народа, культуры, літаратуры. Традыцыйна ў першай палове XX ст. Беларусь лічылася сельскаю. Дасюль думаюць часта, што і яе гісторыя найперш сельская. Але калі мы

сваімі каранямі сапраўды з Кіеўскай Русі, то мы з той краіны, якую яе паўночныя суседзі — варагі-шведы называлі Гердарыкэ, гэта значыць, Краем Гарадоў. Асаблівае месца ў феадальнай Беларусі заняў горад з яго магдэбургскім правам — самакіраўніцтвам, феадальнай дэмакратыяй. А да таго, пачынаючы з часоў Кіеўскай Русі, усе яе буйныя гарады ўпраўляліся вечам, у тым ліку і Полацк, а Ноўгарад і Пскоў аж 400 гадоў мелі веча, былі вольнымі гарадамі, феадальнымі гарадамі-рэспублікамі. Мы сапраўды павінны ганарыцца гэтай феадальна-дэмакратычнай нашай спадчынай, вучыцца сёння і на яе вопыце дэмакратыі, а не ў духу сталіншчыны ідэалізаваць паняволенне Пскова ці Ноўгарада дэспатам Іванам Грозным. Героі нашай гісторыі — вольныя сярэдневяковыя гарады — вечавыя і магдэбургскія. Скарына — адэпт, абаронца паспольства, гэта значыць, тагачаснай формы дэмакратычнага горадакіраўніцтва. Сярэдневяковыя нашыя гарады пакінулі нам гатычныя і барокавыя храмы, якія і дасюль даюць сілуэт многім гарадам Беларусі. На жаль, менш захавалася ратуш — сядзіб райцаў — архітэктуры, што спадарожнічала магдэбургскаму праву. Заняпад беларускага сярэдневяковага горада пачаўся з палітычнага бяспраўя, якое прыйшло ў канцы XVIII ст. Адраджэнне памяці аб росквіце беларускага сярэдневяковага горада несумненна можа паўплываць на пералом нігілістычных адносін да нацыянальнай гісторыі, культуры, мовы.

**С. К.:** Загадзя рыхтавалася пытанне пра шлях у раман Фаўста, Твардоўскага, Голема, Станьчыка — Прыгожых Кветак Сярэднявечча, але на гэтае пытанне сам па сабе атрымаўся ўжо адказ, калі вы распавядалі пра ўзнікненне задумы твора…

**А. Л.:** Дадам тут толькі, што проста неацэнную службу паслужылі мне вобразы гэтых Прыгожых Кветак Сярэднявечча ў кампазіцыйна-сюжэтным плане, як прыём, што

ствараў верагоднасную, хоць і воланда-булгакаўскую сітуацыйнасць, даваў мажлівасць разгортвання дыспутаў, канфліктацыі думак і ідэй, пры гэтым нявымушана, даволі арганічна выяўляючы духоўны свет Скарыны-адраджэнца, мудраца, вучонага, грамадскага дзеяча, якім ён адкрываўся ў сваёй публіцыстыцы, цераз сваю друкарскую і перакладчыцкую справу.

**С. К.:** Ці паўплывалі нейкім чынам на стварэнне вобраза Скарыны ды і іншых гістарычных герояў кнігі творы жывапісу?

**А. Л.:** Вядома ж, паўплывалі. Асабліва жывапіс Яна Матэйкі — вялікага польскага мастака, якога натхняла не толькі ўласнапольская гісторыя, але і ўсё тое, што яднала ў Сярэднявеччы народы польскі, літоўскі, беларускі, украінскі. Станьчыка я ўяўляў па Матэйку, ды і Жыгімонта І. Не магу сказаць, што палотны нашых беларускіх жывапісцаў, звязаныя з узнаўленнем аблічча Скарыны, мне рэальна нешта давалі, хоць шмат што з нашай жывапіснай Скарыніяны мне вельмі да душы. Сам Скарына-мастак, калі ён сапраўды быў аўтарам гравюр і свайго партрэта ў Бібліі, ім друкаванай, мне найбольш дапамагаў уявіць аблічча яго як нашага вялікага першадрукара.

**С. К.:** Раней амаль традыцыйна лічылася, што бацька Скарыны быў незадаволены тым, што Францішак стаў не купцом, а кніжнікам. Чаму ў рамане з'явіўся поўнасцю супрацьлеглы погляд на гэты конт?

**А. Л.:** Згодзіцеся, пэўна, са мной, што сёння ніхто рэальна не можа сцвярджаць напэўна, якімі былі адносіны бацькі Лукаша да сына Францішка. Яны маглі быць канфліктнымі, а маглі быць і спрыяльнымі. На мой погляд, бацька нашага першадрукара быў больш абачлівым, больш шырокага погляду на свет чалавекам, чым вузкапрафесійным дзялком. Сын быў дастойны бацькі. Яблык далёка ад дрэва не

падае. Тым больш, у сям'і бацькі Лукаша быў старэйшы сын Іван, які ўнаследаваў купецкую справу бацькі. Пра тое, што шырокага кругагляду быў Лукаш Скарына, сведчыць і яго рэлігійная талерантнасць, спадчыннікам якое таксама стаў сын Францішак, які імкнуўся як друкар кніг Бібліі на народнай мове быць па-над канфесіянальнай рознасцю праваслаўных і каталікоў, які ў звароце да народнай мовы папярэднічаў дзеячам беларускай рэфармацыі: Сымону Буднаму і Васілю Цяпінскаму. Думаю, што Францішак вельмі паважаў і любіў і маці сваю, і бацьку свайго, сваю працу дзеля паспольства, народа, Радзімы, пачынаў як сын бацькоў сваіх, палачанін — са светлымі воблікамі маці і бацькі ў вачах сваіх, ва ўяве сваёй. Не стасаваўся вобраз жорсткага, кансерватыўнага, «антыкніжнага» бацькі Францішка Скарыны з маім разуменнем палачанскіх адраджэнскіх перадасноў Скарыны як гуманіста і першадрукара. Бацька Скарыны мне ўяўляўся перададраджэнцам. У сувязі з яго вобразам я намагаўся складаць гімн купцу-госцю, якога традыцыя няўдзячна абняславіла, у якім дасюль мы не бачым героя сваёй айчыннай гісторыі, якім жа і ён таксама быў. Праўда, не ў сваёй іпастасі ліхвяра, не ў той кепска-славутай іпастасі, у якой купецтва XIX ст. паўстала ў драмах А. Астроўскага. Я ішоў ад традыцыі ў былінах легендарнага купца-госця Садко, а не ад таго, што пра сярэдневяковага купца думалі фанабэрыстыя рыцары. Бо і славу трэба ж, нарэшце, учыніць купцу-першапраходцу, адкрывальніку зямель, яднальніку іх, пашыральніку культуры, чалавеку смеламу, адчайнаму, рызыкоўнаму, па-свойму гераічнаму і г.д. Відаць, усё гэта і прадвырашыла для мяне трактоўку Лукаша Скарыны як добрага бацькі…

**С. К.:** У рамане пра Скарыну амаль поўнасцю адсутнічае любоўны сюжэт, каханне Францішка да Маргарыты паказана высакародна-сімвалічна, строга і сціпла. А колькі ж было кахання ў папярэднім рамане, пра Янку Купалу!..

**А. Л.:** Сярэднявечча спарадзіла два жаноцкія культы — Божай Маці і Дамы сэрца рыцара. Але што, калі нават сярэднявечны куртуазны культ Дамы не быў звязаны з рэальным пачуццём да жанчыны, бо ёй магла быць у рыцара і жонка сюзерэна і ўвогуле баранеса, графіня, княжна. Праўда, у XVI ст. у Беларусі ўжо зачытваліся, як і ва ўсёй Еўропе, рыцарскім раманам пра Трыстана і Ізольду. Але вы, пэўна, памятаеце, як адносіўся Францішак Скарына да «Александрыі» і «Троі», супастаўляючы з імі кнігі Бібліі («более и справедливее в них знайдеш, нежели во Александрии или во Тройи»). А то ж былі яго адносіны да свецкай літаратуры, да раманнага пачатку ў ёй. І хоць упершыню ва ўсходнеславянскім кнігадруку «Песню песняў» Скарына выдрукаваў дзвюма фарбамі — чорнай і чырвонай, апошняй выражаючы несумненна і сваю радасць, святочнасць з выпадку друкавання «Песні песняў», але не думаю, што то была ў Скарыны радасць ад гэтай часткі Бібліі як ад найстарэйшай у чалавецтва кнігі лірыкі кахання. Відаць, як і ўсё рэлігійнае Сярэднявечча, у «Песні песняў» Скарына больш бачыў сімволіку любові, звязаную з Боскім фактарам. Адзначу, што ў Скарыны было сваё разуменне кахання, калі ён, напрыклад, разважаў, што ў «розмаитых речах люди на свете покладают мысли и кохання своя», гаворачы пры гэтым жа пра «любодеяния». Якраз заўсёды будучы на баку тых, што «хотять имети добрые обычае и познати мудрость и науку», Скарына ўжо гэтым супрацьстаяў якому-небудзь вольнаму погляду на каханне, будучы «за мужа и жены почтивое случение, детей пильное выхование», сам адносячы сябе да тых «пастырей и докторов, они же научають нас противитися бесовским покусам», не прымаючы «жадостей плотьских», «нечистоты… блуда». Дык ведаючы аб такой скарынаўскай стрыманасці ў сферы любоўных пачуццяў, ці ж не стрыманымі трэба нам быць у спасціжэнні свету кахання Скарыны? Адзін сказ адно

даваў мне мажлівасць на ўвядзенне раманнага пачатку — з таго скарынаўскага паслання, дзе ён напісаў: «Младые пак вдовице замуж да идуть». Маргарыта — маладая ўдава па віленскім купцы Юрыю Адверніку, якая стала жонкаю Францішка Скарыны, гэтым ягоным сказам самім Скарынам, па сутнасці, апраўдвалася сваім збліжэннем з ім. Сярэдневяковая цнатлівасць, калі яна была без ханжаства, была праявай чалавечнага ў чалавеку. Як валадар жаночых сэрцаў усё-такі ніяк не бачыцца Скарына за ўсім тым, што ён пісаў, хоць, як чалавек Адраджэння, не пазбаўлены авантурніцтва, рэальна ён і мог зазнаць і мукі кахання — здраду, нераздзеленае каханне. Але якія дзеля таго ў нас доказы? Ніякіх! А лёс Маргарыты, мажлівую ранейшую сустрэчу Скарыны з той, што, калі аўдавее, стане і яго жонкай,— такі лёс можна было Маргарыце дадумваць з меншай рызыкай, чым рабіць Скарыну рыцарам кахання.

У Купалы ж у жыцці жанчыны займалі вельмі значнае месца. Амаль як у жыцці Пушкіна. Але з біяграфіі Пушкіна ці ўжо не ўсё нам да гранічнага вядома, а з біяграфіі Купалы? Нават раскрыццё мной ягонага найвялікшага кахання да Паўліны Мядзёлкі выклікала ў нас даволі шматгалосае непрыняцце, а што ўжо казаць пра іншыя захапленні Купалы. Купала — паэт трагічны. Паэт трагічны не толькі рамантычным разладам з рэчаіснасцю, рэпрэсіраванасцю з боку берманаў і бэндаў, але і тым, што ў каханні ён быў найменш шчаслівы. Купалы і яго лёсу проста нельга было хоць на драбок глыбей ускрыць, не прыўзняўшы заслоны над яго любоўнымі пакутамі...

**С. К.:** Адкуль прыйшлі ў раман «прыдворны спявак» Жыгімонта І Чурылка і яго дзівосная песня пра аленя?

**А. Л.:** Чурылка — з Вавеля. Збіраючы вавельскую персаналію, імёны акружэння Жыгімонта І, я напаткаў і гэтае гістарычнае імя, а песню пра аленя вычытаў у часопісе «Помнікі гісторыі і мастацтва Беларусі».

**С. К.:** Чым жа ўсё-такі, на вашую думку, сакратаром быў Скарына — дацкага ці валашскага караля? У самім рамане пэўнага выбару з гэтых дзвюх версій так і не зроблена...

**А. Л.:** Бо пытанне застаецца адкрытым. А можа, ён быў і ў Валахіі, і ў Даніі, сакратаром і валашскага гаспадара, і дацкага караля. Усё-такі з 1508 па 1512 год — з года яго верагоднага расстання з Кракавам да прыходу ў Падуанскі ўніверсітэт прайшло чатыры гады. Ці ж гэтага часу недастаткова, каб Скарына мог пабываць і на поўдні Еўропы, і на яе крайнім Захадзе? Мог, вядома, пабываць толькі па адным з гэтых адрасоў, але тады чаму ў вучоных ёсць доказы і на валашскі варыянт, і на дацкі? Ды ўсё ж пакінем пытанне адкрытым.

**С. К.:** У кнізе неаднойчы згадваецца старажытны герб Вялікага Княства Літоўскага «Пагоня», вакол якога ў апошнія гады вядуцца ўпартыя спрэчкі паміж сапраўднымі гісторыкамі і «вучонымі» тыпу Залескага...

**А. Л.:** Я ўспрымаю «Пагоню» як жамчужыну нацыянальнай сімволікі, слаўнага гістарычнага мінулага нашага народа — і не толькі гераічнага, але і дзяржаўнабудаўнічага, мудрасна-прававога. Бо пад «Пагоняй» нашы продкі перамаглі пад Грунвальдам, бо «Пагоняй» адкрываліся Статуты Вялікага Княства Літоўскага, у напісанні першага з якіх, як лічыцца зараз, прымаў удзел і Францішак Скарына. І яшчэ не магу не выказаць сваіх адносін да гэтага дзяржаўнага герба як да праявы высокага мастацтва. «Пагоня» — надзвычай прыгожы герб: сваім белым канём, дынамізмам, супрацьпаставай драпежнасці львоў і арлоў, сімволікай мяча, узнятага на тых, хто на цябе гатовы ўзняць меч (так і чуюцца пры гэтым славутыя словы Аляксандра Неўскага). Такім гербам можна толькі ганарыцца, а не спісваць яго ў архіўныя сутарэнні.

**С. К.:** Ці не зашкодзіць займальнасці, чытальнасці кнігі яе значная інфармацыйная насычанасць, ці не стане

стылізаваная пад сярэднявечную манера выкладу «Скарыны» бар’ерам для пэўнай часткі чытачоў?

**А. Л.:** Зашкодзіць. Стане. Але я спадзяваўся, што ўсё-такі напачатку згушчаную інфармацыю чытач як-небудзь «глыне», як-небудзь «дацягне духам» да тых мясцін, дзе ўжо ёсць займальнасць, дзе ўжо я намагаўся займальна «раскручваць» сюжэт, даваць асобныя малюнкі ў атмасферы больш здыамізаванай рухам падзей. А да стылізацыі, мне здаецца, наш чытач з часоў «Апокрыфа» Максіма Багдановіча прывучаецца ўжо, праходзіць зараз і 8-томную школу стылізацыі па Уладзіміру Караткевічу, а ў памочніках тут сабе бачу я гістарычную прозу Л. Дайнекі, У. Арлова, В. Іпатавай і інш. А ўвогуле я рашаўся на «перабор» з інфармацыяй па дзвюх прычынах: 1) хацеў, каб кніга была не толькі пра асобу і лёс Скарыны, а ўвогуле пра дух, час, атмасферу Сярэдневякоўя; 2) як бы даваў бой нашаму ранейшаму «недабору» інфармацыі.

**С. К.:** Ці не з’явіліся ў самы апошні час якія-небудзь навуковыя матэрыялы, што абвяргаюць тыя ці іншыя моманты ў вашай кнізе пра Скарыну? Увогуле ж, нельга не заўважыць, што раман наўмысна напісаны такім чынам, каб ён быў дастаткова незалежны ад новай навуковай інфармацыі, ён не столькі фактаграфічны, колькі сімвалічны, абагульнена-вобразны.

**А. Л.:** Пісаць, каб не ўстарэла, — гэта ж прага кожнага, хто піша. Сімволіка — яна шматзначная, і яна сапраўды дае шанц застацца значным і сёння, і заўтра. Але сімволіка ў мяне на першым плане ад таго, што Сярэднявечча ўсё было ў сімволіцы. Без сімволікі, гаворачы пра Сярэдневякоўе, не зрабіць і кроку. Калі гэта будзе і мой крок у будучае, то гэта лішні раз дакажа, што сучаснае заўсёды на перавале паміж былым і наступным. З другога боку, каб кніга, зробленая на гістарычным матэрыяле, не ўстарэла, трэба, каб і новыя навуковыя матэрыялы яе не

абвяргалі. Я намагаўся пісаць так, каб ніякія новыя матэрыялы не паставілі мяне як аўтара ў нялоўкае становішча. Месцамі я быў некатэгарычны, месцамі, раздвойваючы адказ, не даваў канчатковага адказу, множачы пытанні, пакідаў адкрытымі пытанні, множачы гіпотэзы, скрозь даваў знаць, што гэта гіпотэзы. Я хацеў быць верагодным, бо ўпэўнены, што толькі ў верагоднае чытач паверыць, як прыме ён і неверагоднае, калі яно як неверагоднае і будзе яму пададзена, — дзеля адкрыцця большага: Праўды Гісторыі, яе Духу, яе Поступу.

**С. К.:** На заканчэнне хацелася б даведацца пра лёс нявыкарыстанага ў рамане матэрыялу пра Скарыну. Такі матэрыял, пэўна ж, у вас застаўся?

**А. Л.:** Так, застаўся. Бо ён назапашваўся не толькі для кнігі пра Скарыну, але і для напісання гісторыі старабеларускай літаратуры. Застаўся і ўжо лёг у аснову асобнай аповесці «Скарына на Градчанах», якая неўзабаве ўбачыць свет у выдавецтве «Юнацтва». Героі гэтай аповесці — малодшы сын Францішка Скарыны, таксама Францішак, і яго старэйшы брат Сімяон. Сюжэт аповесці — паводле вядомых матэрыялаў з другога пражскага перыяду жыцця першадрукара, калі ён служыў на Градчанах садоўнікам-батанікам, узяты на гэтую пасаду чэшскім каралём Фердынандам. Фінал яе трагічны: меншы сын Скарыны Францішак гіне ў агні пражскага пажару ў чэрвені 1541 г. Аповесць, можа, напісалася і таму, што было вельмі цяжка расставацца са Скарынам. Здавалася, свет абрываўся, калі праца над кнігай канчалася. Быць поруч са Скарынам — гэта ўсё ж найперш мець адчуванне, што і ты ёсць, што і ты з таго вялікага Адраджэнскага Святла, якое скарынаўскае, якое тваё...



# Шлях да Скарыны

*Гутарка Сяргея Кавалёва з Вячаславам Чамярыцкім*[1]

**С. К.:** Вячаслаў Антонавіч, і навукоўцы, і чытачы ведаюць вас перш за ўсё як даследчыка беларуска-літоўскіх летапісаў: па манаграфіі «Беларускія летапісы як помнікі літаратуры» і па публікацыях летапісных тэкстаў у часопісе «Спадчына». Чым была выклікана змена навуковага амплуа і пераход у «лагер скарыназнаўцаў»?

**В. Ч.:** Сапраўды, асноўная галіна маіх навуковых інтарэсаў і захапленняў — беларускія летапісы і хронікі, у вывучэнні якіх мне ўдалося нечага вартага ўвагі дасягнуць. Але вымушаны ўдакладніць вашае пытанне: маё захапленне Скарынам такое ж даўняе, як і летапісамі. У 1965 г. разам з маёю першай навуковай публікацыяй пра беларускія летапісы ў Весцях АН БССР з'явіўся і мой першы артыкул (у «Маладосці») пра беларускага асветніка — «Друкар кніг, перад тым нязнаных». Таму не было змены амплуа, пераходу з аднаго лагера ў іншы. Проста ў залежнасці ад навуковых планаў і грамадскіх патрэб часу, часткова і ад асабістых схільнасцяў давялося напачатку засяродзіцца на даследаванні беларускага летапісання, а ў апошняе дзесяцігоддзе, у сувязі з вы-

[1] Гутарка адбылася ў 1991 г. з нагоды выхаду ў свет шэрагу кніг «скарынаўскай серыі».

кананнем скарынаўскай праграмы, заняцца пераважна скарыназнаўствам.

Наогул жа, Скарына ў гісторыі нашай культуры постаць настолькі велічная, настолькі магутная і прыцягальная, што вельмі цяжка з ім размінуцца. Ужо наколькі былі з сучаснікамі У. Калеснік, А. Клышка, А. Лойка, А. Петрашкевіч, М. Арочка, але і яны не змаглі ўстаяць перад магіяй яго незвычайнай асобы. Што ўжо тут казаць пра даследчыкаў даўняй літаратуры. І гэта, думаецца, добры знак. Набліжаючыся да Скарыны, глыбей спасцігаючы яго, мы самі ўзбагачаемся і ўзвышаемся, узвышаем беларускую культуру, наш народ. У спадчыне Скарыны — нашыя нацыянальна-духоўныя вытокі. У Адраджэнні XVI ст. — адна з важнейшых крыніц і стымулаў нашага сённяшняга Адраджэння.

**С. К.:** Заўсёдныя наведвальнікі кнігарняў, несумненна, звярнулі ўвагу на серыю акадэмічных выданняў, прысвечаных Скарыне. Давайце пералічым гэтыя кнігі і назавём імёны вучоных, што іх падрыхтавалі.

**В. Ч.:** Кніг скарынаўскай серыі выйшла так шмат за апошняе пяцігоддзе, і не толькі ў выдавецтве «Навука і тэхніка», што было б нудна пералічваць іх тут усе. Таму назаву толькі асноўныя: «Францыск Скарына : зборнік дакументаў і матэрыялаў» (падрыхтаваны В. Дарашкевічам і Я. Неміроўскім); «Спадчына Скарыны : зборнік матэрыялаў першых Скарынаўскіх чытанняў»; «Ф. Скарына. Творы» (падрыхтоўка і каментарыі А. Коршунава); калектыўная манаграфія «Скарына і яго эпоха». Апублікаваны таксама кнігі А. Каўкі, Ю. Лабынцава, Я. Неміроўскага, В. Шматава, зборнік «Прадмовы і пасляслоўі паслядоўнікаў Францыска Скарыны», укладзены У. Кароткім, і інш. Шмат зрабілі для вывучэння поглядаў Скарыны У. Конан і С. Падокшын, яго мовы — У. Анічэнка, А. Булыка, А. Жураўскі, беларускай старадрукаванай кнігі — Г. Галенчанка. Некалькі кніг яшчэ чакаюць дру-

карскага станка. Большасць названых тут скарыназнаўцаў справядліва адзначаны Скарынаўскім медалём.

**С. К.:** Вячаслаў Антонавіч, вы былі навуковым рэдактарам некаторых вышэйпералічаных кніг. Звычайна чытачы не запамінаюць прозвішча рэдактара, яго праца застаецца незаўважанай і належным чынам не ацэненай. Растлумачце, калі ласка, у чым заключалася вашая роля пры падрыхтоўцы кніг да друку.

**В. Ч.:** Амаль да кожнай другой кнігі па скарыназнаўству, выдадзенай у апошнія гады ў Беларусі, мне давялося мець дачыненне: рэдагаваць, рэцэнзаваць або пісаць прадмову. Праца ж навуковага рэдактара сапраўды нялёгкая і не заўсёды ўдзячная. Даводзіцца не толькі правіць стыль, «жалезабетонны», канцылярскі ці яшчэ які, але і здымаць розныя супярэчнасці і недарэчнасці, уніфікаваць напісанне розных імёнаў і назваў, удакладняць шмат якія факты і даты, звяраць спасылкі і цытаты на розных мовах, сляпіцца над карэктурамі і г. д. А колькі бывае розных праблем па ўзгадненні правак з аўтарам і выдавецкім рэдактарам, а людзі ж не анёлы, колькі арганізацыйных клопатаў, асабліва калі кніга калектыўная! Нярэдка даводзілася ахвяраваць выхаднымі днямі і чарговымі адпачынкамі. Адным словам, пакуль кніга з друку выйдзе, з аўтара і рэдактара сем патоў сыдзе.

Не адзін год пайшоў у мяне на рэдагаванне кніг скарынаўскай праграмы. За гэты час можна было б напісаць і сваю. Аднак я не надта шкадую, бо гэтая мая праца не толькі дапамагла аўтарам і складальнікам зрабіць кнігі лепшымі, але нямала дала і мне самому. Душа радуецца, калі глядзіш на цэлы стос салідных кніг, у падрыхтоўку якіх ты ўклаў разам з аўтарамі столькі працы, столькі сіл і таму ў пэўнай меры можаш лічыць іх і сваімі.

**С. К.:** Якая з выдадзеных кніг мае, на ваш погляд, найбольшую навуковую каштоўнасць і якая — самая цікавая, прыдатная для чытання?

**В. Ч.:** Вельмі цяжка вылучыць якую-небудзь адну кнігу, бо цэлы шэраг кніг мае сваю асаблівую каштоўнасць. Гэта, у першую чаргу, зборнік дакументаў і матэрыялаў, прысвечаных Скарыне, самы поўны збор яго твораў з навуковымі каментарыямі, а таксама фундаментальная манаграфія пра жыццё і дзейнасць беларускага асветніка, напісаная вядомым кнігазнаўцам Я. Неміроўскім. Каго ж спецыяльна цікавіць эпоха Адраджэння на Беларусі, час, у якім жыў і працаваў наш першадрукар, то незаменнай будзе праца «Скарына і яго эпоха» — своеасаблівая энцыклапедыя беларускай культуры XVI ст. Усе яны вельмі каштоўныя і цікавыя.

Для шырокага ж чытача найбольш прыдатны, на маю думку, энцыклапедычны навукова-папулярны даведнік «Францыск Скарына і яго час», а таксама раман-эсэ А. Лойкі «Францыск Скарына, або Сонца маладзіковае», хоць апошні і не абяцае надта лёгкага чціва. Даволі даступна і цікава напісана і згаданая вышэй вельмі змястоўная, насычаная самым разнастайным канкрэтным матэрыялам манаграфія Я. Неміроўскага.

**С. К.:** Не маглі б вы крыху падрабязней распавесці пра кнігу «Францыск Скарына : зборнік дакументаў і матэрыялаў»? Якія новыя, не вядомыя раней дакументы ўвайшлі ў гэтую кнігу? Ці ёсць сярод іх сенсацыйныя, якія кардынальна перайначваюць нашыя ўяўленні аб жыцці і дзейнасці Скарыны?

**В. Ч.:** Названы вамі зборнік — унікальнае выданне. У ім упершыню сабраны звыш пяцідзесяці каштоўнейшых дакументаў, што датычаць Скарыны. Яны апублікаваны тут як у арыгінале, на сямі мовах, так і ў перакладзе на беларускую і рускую мовы. Гэтая кніга — плён шматгадовай працы яе ўкладальніка В. Дарашкевіча і перакладчыка лацінамоўных тэкстаў А. Жлуткі. У выніку настойлівых пошукаў у Варшаве знойдзены два зусім не вядомыя на-

вуцы дакументы — дэкрэты 1552 г. караля Жыгімонта Аўгуста па справе маёмасці ўжо нябожчыка Ф. Скарыны. Яны дадаткова падмацоўваюць вывад аб смерці беларускага асветніка ў сярэдзіне XVI ст. Упершыню поўнасцю змешчаны ў зборніку і 19 дакументаў Пазнанскай справы 1529 і 1532 гг., якія яскрава раскрываюць гісторыю турэмнага зняволення і вызвалення Скарыны. Калі дадаць яшчэ, што амаль палову кнігі займае зводны каталог і паэкзэмплярнае апісанне ўсіх вядомых Скарынавых выданняў, прафесійна зробленае Я. Неміроўскім, то можна смела сказаць, што перад намі настольная кніга скарыназнаўца. Ёю, яшчэ ў рукапісе, шчодра пакарысталіся ўжо і пісьменнікі і даследчыкі А. Лойка, М. Арочка, А. Петрашкевіч, Я. Неміроўскі.

**С. К.:** Ёсць пэўная катэгорыя людзей (на жаль, нешматлікая), якія захапляюцца чытаннем не столькі саміх кніг, колькі — каментарыяў да іх. Мусіць, гэтым людзям акадэмічная скарынаўская серыя прыйшлася даспадобы…

**В. Ч.:** Мабыць, ёсць такая катэгорыя людзей. Але ўсё залежыць, як напісаны такія каментарыі і пра што. Паказальная ў гэтых адносінах кніга «Ф. Скарына. Творы». Амаль палову яе тэксту займаюць каментарыі, у якіх растлумачаны сотні біблейскіх імёнаў, прозвішчаў і геаграфічных назваў. Гэта ж своеасаблівы даведнік па Бібліі, якой захапляюцца сёння многія тысячы людзей. Творы ж Скарыны, выдадзеныя летась невялікім тыражом, усё яшчэ ляжаць у некаторых кнігарнях. Як бачыце, наш чытач, хоць і дасведчаны і цікаўны, ды не заўсёды дасціпны.

**С. К.:** Ці можна сцвярджаць, што 1988–1990 гг. — цэлы этап, новы перыяд у вывучэнні жыцця, дзейнасці, творчасці Ф. Скарыны, што пасля ўсіх выдадзеных кніг (не толькі ў «Навуцы і тэхніцы») скарыназнаўства ўзнялося на якасна іншы ўзровень?

**В. Ч.:** Больш правільна будзе гаварыць пра цэлае дзесяцігоддзе, 1981–1990 гг., калі выконвалася Скарынаўская праграма, праводзіліся асноўныя скарыназнаўчыя даследаванні і пісаліся кнігі, што выйшлі з друку ў апошнія тры гады. За гэты час выдадзены добрыя два дзясяткі важкіх кніг, апублікавана каля 1000 розных артыкулаў — амаль палова ўсёй Скарыніяны, якая налічвае больш за 200 гадоў і звыш 2000 асобных бібліяграфічных пазіцый. Да таго, што вышэй згадвалася, дадам яшчэ двухтомны «Слоўнік мовы Скарыны» і факсімільнае перавыданне Бібліі Скарыны ў трох тамах, якое ажыццяўляе БелСЭ.

Скарыназнаўства пайшло ўшыркі і ўглыб, узняўся навуковы ўзровень даследаванняў. Да яго падключыліся вучоныя самых розных галін навукі. Скарынам сур'ёзна зацікавіліся прадстаўнікі іншых народаў. Ды і многія беларусы, здаецца, лепш зразумелі і глыбей адчулі, якою неацэннаю нацыянальна-культурнай спадчынай яны багаты. Таму адказ тут адназначны — гэта сапраўды новы этап, цэлая эпоха ў скарыназнаўстве, яго небывалы раней узлёт, рэзкі скачок наперад, які пэўна падцягне, падштурхне развіццё іншых галін і напрамкаў беларусазнаўства. Тое, што зроблена і выдадзена ў апошняе дзесяцігоддзе, гаворачы словамі Максіма Багдановіча, «і праз сто гадоў будзе сведчыць пра нас».

**С. К.:** Вам не здаецца, што ў выніку ўсіх гэтых даследаванняў асоба Скарыны не толькі не наблізілася да нас, не стала больш зразумелай і вытлумачанай, а, наадварот, аддалілася, зрабілася яшчэ больш загадкавай і таямнічай? Скарына ператвараецца ў найбольш вядомую і велічную постаць беларускай гісторыі і культуры, робіцца своеасаблівым сімвалам Беларусі...

**В. Ч.:** Не, не здаецца. Апублікаваныя дакументы і матэрыялы, навуковыя даследаванні і літаратурныя творы

якраз наблізілі да нас асобу Скарыны, зрабілі яго больш жывым, зямным чалавекам з усімі яго будзённымі справамі і клопатамі, перажываннямі і надзеямі. Мы прывыклі ўяўляць Скарыну здалёк і на вельмі высокім п’едэстале: першадрукар, вялікі асветнік-гуманіст, таленавіты пісьменнік і перакладчык, выдатны вучоны-энцыклапедыст, самаахвярны грамадзянін-патрыёт, незвычайная рэнесансавая асоба. Але адначасова ён быў і рэальным чалавекам свайго часу, са сваімі густамі і патрэбамі, цэльнаю, але і складанаю, можа, нават у нечым і супярэчліваю натураю. Ён займаўся самымі рознымі справамі, быў клапатлівым мужам і бацькам. Ён вымушаны быў думаць не толькі пра высокія ідэалы, але і пра хлеб штодзённы, быў вымушаны змагацца за сваё існаванне. Яму давялося адчуць любоў і нянавісць, перажыць радасць перамогі і расчараванне, крыўду турэмнага зняволення і боль развітання з роднымі, сябрамі, бацькоўскай зямлёю. Мы сёння, несумненна, глыбей адчуваем жыццёвую драму Скарыны, лепш разумеем яго сапраўдную веліч.

Бясспрэчна, у жыццёвай і творчай біяграфіі беларускага асветніка засталося яшчэ нямала «белых плям». Але калі гаварыць пра загадкавасць і таямнічасць яго асобы, то яны мне найперш бачацца ў спасціжэнні феномена Скарыны. Як у такіх умовах ён здолеў здзейсніць свой патрыятычны подзвіг і ўзняцца да такіх духоўна-творчых вышынь, што стаў упоравень з тытанамі еўрапейскага Адраджэння? Амаль па цаліку пракласці новыя шляхі ў шмат якіх галінах беларускай культуры і столькі зрабіць для духоўнага ўзвышэння свайго народа, што стаў, як слушна вы кажаце, «своеасаблівым сімвалам Беларусі», яе нацыянальнаю святыняю, якая злучае два нашыя Адраджэнні, XVI і XX стст., і яднае наш народ. Хацелася б, каб адчуванне еўрапейскае велічы Скарыны, каб справядлівы гонар за тое, што беларуская зямля дала чалавецтву такога генія сусветнай культуры, сталі ўсенароднымі.

**С. К.:** Ці можа скарыназнаўства заняць такое ж месца ў беларускай культуры, як пушкіназнаўства — у рускай? Там людзі самых розных прафесій і заняткаў цікавяцца нават дробнымі фактамі з жыцця і творчасці Аляксандра Сяргеевіча і збіраюць усе, па меры магчымасці, прысвечаныя паэту кнігі і матэрыялы.

**В. Ч.:** Скарыназнаўства можа пры пэўных умовах і павінна заняць яшчэ большае месца ў беларускай культуры, у беларускім грамадстве, чым пушкіназнаўства ў Расіі. Бо Скарына больш усебаковая і ўніверсальная асоба. Бо яго жыватворнае значэнне для беларускага Адраджэння і для духоўнага лёсу нашага народа, улічваючы сённяшні стан нашай мовы, культуры, нацыянальнай свядомасці, невымерны.

**С. К.:** Вячаслаў Антонавіч, што вы асабіста адчуваеце пасля «юбілейных» скарынаўскіх мерапрыемстваў і ўрачыстасцяў 1988–1990 гг.: задаволенасць зробленым, звычайную чалавечую стомленасць ці, можа, расчараванне і падсвядомую крыўду з прычыны паслясвяточнага «адтоку» ўвагі грамадства ад асобы Скарыны і яго даследчыкаў?

**В. Ч.:** Як і кожны чалавек пасля цяжкай, напружанай, але і плённай працы — і стомленасць, і задаволенасць. Што ж да расчаравання і крыўды, то яны не ад таго, што назіраецца пэўны спад і пераключэнне на іншыя тэмы і асобы. Гэта натуральна. Пры малалікасці на Беларусі даследчыкаў, якія займаюцца даўняй беларускай літаратурай, нашай культурнай спадчынай далёкай мінуўшчыны, шмат што даводзіцца рабіць талакою. Спачатку разам налягаць на адно, а пасля пераходзіць на іншае. Крыўдна, што некаторыя, нават дасведчаныя людзі мяркуюць, быццам Скарына ўжо вычарпаны і што пара ўжо згортваць даследаванні па скарыназнаўству. Не ад юбілею да юбілею, а пастаянна ім трэба займацца, бо гэта ж цэлая эпоха ў гісторыі бела-

рускай культуры. Скарына нам патрэбен і сёння, і заўтра. Яго спадчына заўсёды актуальная. Таму крайне неабходна, каб аддзел скарыназнаўства, якога, на жаль, сёння няма ні ў адным гуманітарным інстытуце Беларускай акадэміі, абавязкова быў адкрыты ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны.

Па тым, як мы ставімся да сваёй культурна-гістарычнай спадчыны, у свеце мяркуюць, што мы за народ. Не буду казаць пра помнікі беларускага дойлідства, стан захаванасці якіх агульнавядомы. Нагадаю толькі некалькі паказальных фактаў, што датычаць літаратуразнаўства. Для параўнання. у Грузіі ў акадэмічным Інстытуце грузінскай літаратуры, апрача аддзела старажытнай літаратуры, дзе працуюць каля 20 навукоўцаў, ёсць асобны аддзел руставелазнаўства (15 чал.). а яшчэ 10 чалавек уваходзяць у спецыяльную камісію, што займаецца вывучэннем толькі паэмы «Віцязь у тыгравай шкуры». Апрача ўсяго гэтага, даследаванне пісьмовай спадчыны грузінскага народа з шырокім размахам праводзяць Інстытут рукапісаў і іншыя ўстановы Грузіі.

У нас жа нават і блізка нічога падобнага няма. І таму ўжо не крыўдна, а абуральна, што пры такім цяжкім становішчы, якое склалася сёння ў нас з роднаю моваю, з вывучэннем і зберажэннем нашай нацыянальнай спадчыны, яшчэ не пераводзяцца на Беларусі наёмныя далакопы беларускай культуры і беларускага Адраджэння. Я, у прыватнасці, маю на ўвазе брудны памфлет «Вслед за резидентом ЦРУ...», змешчаны сёлета ў «Славянских ведомостях» (№ 3). Вельмі знаёмы почырк. З дыскрэдытацыі заслужаных дзеячаў беларускай навукі і культуры, беларускага Адраджэння, нагадаем, пачыналі і ў канцы 20-х гг. І, бадай, самае абуральнае і агіднае, што такі антыбеларускі і антыславянскі матэрыял друкуе газетка, якая выдае сябе

за ярага абаронца ўсяго славянскага і выпускаецца ў нас у друкарні галоўнага выдавецтва рэспублікі.

**С. К.:** На заканчэнне размовы, Вячаслаў Антонавіч, хачу папрасіць вас падсумаваць галоўныя вынікі і акрэсліць бліжэйшыя наступствы «года Скарыны». А яшчэ — хачу падзякаваць за цікавыя і змястоўныя кнігі.

**В. Ч.:** Здаецца, я ўжо часткова падсумаваў вынікі «года Скарыны», незабыўнага, зорнага часу ў гісторыі скарыназнаўства. Не верыцца, што ўдалося столькі зрабіць. Апошнія гады імя беларускага першадрукара і асветніка гучала ўсюды і вельмі часта: пачынаючы ад сельскай школы да высокай урадавай трыбуны, ад раённай газеты і да салідната навуковага часопіса. Скарына яшчэ глыбей увайшоў у свядомасць людзей самых розных узростаў і прафесій як неад'емная частка нацыянальнай культуры і духоўнасці. Сваім прыкладам ён пераканаўча паказаў, як шмат можа зрабіць для свайго народа адзін чалавек, апантаны, самаахвярны, захоплены высокай патрыятычнай ідэяй.

Веру, што Скарына дапаможа шмат каму з беларусаў духоўна вярнуцца ў Беларусь і з большым гонарам пачуваць сябе прыналежным да вялікага народа з тысячагадовай, еўрапейскага ўзроўню гісторыяй і культурай. Веру ў адраджэнне нашай Бацькаўшчыны, у тое, што наш шматпакутны і гераічны народ знойдзе ў сабе сілы, каб са Скарынавай настойлівасцю імкнуцца дасягнуць вялікай нацыянальна-гістарычнай мэты — зажыць багата і шчасліва на вольнай зямлі, у незалежнай і дэмакратычнай Беларусі.





# Сымон Будны: вандроўкі свабоднага духу

*І.В. Саверчанка.*
*Сымон Будны — гуманіст і рэфарматар.*
*Мінск : Універсітэцкае, 1994.*

Сымон Будны — адна з самых прыкметных постацяў руху Рэфармацыі, эпохі Адраджэння, беларускай мінуўшчыны ўвогуле. Ніхто, апроч Францішка Скарыны, не карыстаўся такой увагай даследчыкаў, нікому, апроч Ф. Скарыны, не прысвечана столькі артыкулаў, раздзелаў кніг і асобных манаграфій, як С. Буднаму. Але ўвага да асобы Скарыны даўно выйшла за межы чыста навуковай цікавасці да першадрукара, перакладчыка і каментатара Бібліі, бо сам Скарына даўно ператварыўся ў своеасаблівы сімвал Беларусі, яе апазнавальны знак, аб'ект нацыянальнага гонару.

А чым заслужыў да сябе такую ўвагу Сымон Будны, рэлігійны дзеяч і багаслоў-тэолаг Вялікага Княства Літоўскага, які не быў апантаным праваслаўным артадоксам-пакутнікам на ўзор Афанасія Філіповіча або слынным паэтам прамаскоўскай палітычнай арыентацыі, як Сімяон Полацкі, і тым не менш нават за савецкім часам ушаноўваўся артыкуламі, кнігамі, абавязковым асобным раздзелам ці падраздзелам ва ўніверсітэцкіх падручніках па гісторыі літаратуры?




Як правіла, у светапоглядзе Сымона Буднага вылучалі наступныя рысы: адраджэнскі рацыяналізм (як процівага сярэднявечнаму містыцызму), беларускі патрыятызм (выдаваў кнігі па-беларуску, хоць большую частку — па-польску), антыкаталіцызм (хоць не менш востра выступаў Будны і супраць праваслаўя) і ўрэшце атэізм (у чым беспадстаўна абвінавачвалі Буднага езуіты і што за савецкім часам ставілася Буднаму ў заслугу).

Паслядоўнік Скарыны і папярэднік Лышчынскага, патрыёт і ерэтык, беларускі філосаф, які быў па нацыянальнасці паляк, — вось абагульнены вобраз-стэрэатып Сымона Буднага ў нашым уяўленні. Стэрэатып, які шмат у чым адлюстроўвае рэальны вобраз Буднага, але шмат у чым неадэкватны яму, заснаваны на свядомай і несвядомай фальсіфікацыі сапраўднага вобраза. Найбольш яскрава такая дэфармацыя выявілася, аднак, не ў сур'ёзных навуковых даследаваннях светапогляду С. Буднага (варта адзначыць заслугі ў вывучэнні спадчыны філосафа двух вучоных: С.А. Падокшына і Я.І. Парэцкага), а, так бы мовіць, на перыферыі навукі: у навучальна-дыдактычнай і папулярызатарскай літаратуры.

Напрыклад, нават у найлепшым на сённяшні дзень падручніку па гісторыі старажытнай беларускай літаратуры можна прачытаць наступнае сцвярджэнне: «Развенчваючы міф пра Хрыста, С. Будны аб'явіў яго простым смяротным чалавекам. Ён адхіліў і тэалагічнае вучэнне аб бессмяротнасці душы як самастойнай субстанцыі, ахарактарызаваўшы яго як пустую казку, якую нельга ўзгадніць з чалавечым вопытам і здаровым розумам»[1]. Адмаўляць боскасць Хрыста — значыць, не быць хрысціянінам, адмаўляць бессмяротнасць душы — зна-

---

[1] Гісторыя беларускай літаратуры : старажытны перыяд. С. 181.

чыць, быць матэрыялістам, у сапраўднасці ж Будны з'яўляўся перакананым хрысціянінам і ніколі не быў матэрыялістам. Але пра антыхрысціянства і матэрыялізм Буднага чытаем і ў іншых навучальных дапаможніках, напрыклад: «Надрукаваў таксама трактат "Аб галоўнейшых палажэннях хрысціянскай веры". У гэтым трактаце даказваў тое, што Ісус Хрыстос просты смяротны чалавек, і адхіляў тэалагічнае вучэнне пра бессмяротнасць душы»[1]. З гэтага ж дапаможніка мы даведваемся, што прычынай выгнання Буднага з арыянскага Збору сталі не ягоныя тэалагічныя і палітычныя разыходжанні з большасцю братоў-арыянаў, а навуковы падыход пратэстанцкага вучонага да выдання Бібліі: «С. Будны заўважыў, што ў грэчаскіх, лацінскіх і славянскіх тэкстах шмат заблытаных момантаў, недакладнасцяў, скажэнняў, фальсіфікацый. Пра гэта ён неаднойчы выказваўся публічна, за што быў абвешчаны ерэтыкам і пазбаўлены пасады святара, выгнаны з лоскай друкарні»[2].

Нямала памылак, недакладнасцяў ці проста спрэчных момантаў у асвятленні жыцця і дзейнасці С. Буднага сустракаецца і ў замежнай навуковай і навучальна-дыдактычнай літаратуры. Напрыклад, у падручніку па гісторыі беларускай літаратуры Францішка Сяліцкага можна прачытаць, што «ў 1562 г. Будны выдаў у Нясвіжы пераклад "Катэхізіса" Марціна Лютэра»[3]. Варта, аднак, паспрачацца з польскім вучоным, бо нясвіжскі «Катэхізіс» 1562 г. хоць і наследаваў парадак і назвы раздзелаў «Катэхізіса» М. Лютэра 1529 г., але ўсё ж быў арыгінальны твор, напісаны, а не перакладзены С. Будным.

---

[1] Беларуская літаратура : інфарм.-давед. і метад. дапам. Мінск, 1992. С. 54.

[2] Тамсама. С. 54.

[3] Sielicki F. Literatura białoruska do końca XVIII wieku. Wrocław, 1985. S. 27.

Вось чаму з'яўленне новай, абагульняючай манаграфіі, прысвечанай С. Буднаму, — кнігі І.В. Саверчанкі «Сымон Будны — гуманіст, рэфарматар» — бачыцца заканамерным і абгрунтаваным не толькі з нагоды 400-х угодкаў смерці выдатнага беларускага тэолага і філосафа, а і таму, што, як піша сам аўтар кнігі ў прадмове да чытача, «сёння наспела пільная патрэба не толькі падагульніць усё вядомае пра Сымона Буднага, удакладніць шэраг момантаў яго біяграфіі, але й перагледзець ранейшыя састарэлыя ацэнкі, адкінуць неабгрунтаваныя абвінавачванні ў адрас асветніка, урэшце, адкрыта сказаць пра значэнне тэалогіі Буднага, вызначыць яго месца ў хрысціянска-багаслоўскай традыцыі»[1].

Філолаг І.В. Саверчанка, які ў папярэдніх сваіх працах выступаў не толькі як літаратуразнавец, але і гісторык, гэтым разам звярнуўся да тэалогіі і грамадазнаўства, асноўную ўвагу прысвяціўшы тэалагічным і сацыяльна-грамадскім поглядам Сымона Буднага, разглядаючы яго як выдатнага багаслова, герменеўтыка і экзэгета, а таксама філосафа, чые выказванні пра дзяржаву, грамадства і месца чалавека-індывіда ў дзяржаўна-грамадскай структуры не страцілі важнасці і актуальнасці да сённяшняга дня. Упершыню С. Будны прадстаў перад намі не столькі «чыстым» філосафам, колькі тэолагам, не столькі пісьменнікам, колькі біблеістам-герменеўтыкам — і ў гэтым навізна і нетрадыцыйнасць манаграфіі І.В. Саверчанкі.

Але даць сістэмнае апісанне тэалагічнай дактрыны С. Буднага — немагчыма ў прынцыпе, бо такой дактрыны як цэласнай, статычнай сістэмы ніколі не існавала. Такую дактрыну можна было б рэканструяваць на аснове ўсіх твораў філосафа, а далёка не ўсе з іх да нас дайшлі, і, што самае галоўнае, — амаль у кожным наступным тво-

---

[1] Саверчанка І.В. Сымон Будны — гуманіст і рэфарматар. Мінск, 1994. С. 6.

ры С. Будны выяўляў погляды, адрозныя ад папярэдніх, змененыя ў выніку духоўнай эвалюцыі аўтара. Пачынаў Будны сваю рэфарматарскую дзейнасць як кальвініст, потым перайшоў на пазіцыі арыянізму, а скончыў як «буднаіт» (прыхільнік уласных поглядаў, «паслядоўнік» сябе самога), прычым ягоныя перакананні напрыканцы жыцця нам увогуле невядомыя, бо за апошнія дзесяць гадоў Будны нічога не надрукаваў. Калі й магчыма апісаць тэалагічную дактрыну Буднага, то як дынамічны рух, а не статычную сістэму, і якраз такі шлях выбраў І.В. Саверчанка, даўшы назву трэцяму, галоўнаму раздзелу манаграфіі: «Тэалагічныя пошукі».

Наступная праблема, якая паўстала перад даследчыкам, народжана ягонымі адносінамі да поглядаў Буднага як да жывога, актуальнага і сёння рэлігійна-філасофска-этычнага вучэння. Але ж тэалагічныя погляды Буднага, якія яшчэ пры ягоным жыцці абвяшчаліся ерэтычнымі прадстаўнікамі ўсіх веравызнанняў Вялікага Княства Літоўскага, сёння на Беларусі таксама не знойдуць паслядоўнікаў-сімпатыкаў ні сярод праваслаўных, ні сярод каталікоў і пратэстантаў, ні сярод атэістаў. Якую ж пазіцыю мусіў быў заняць у гэтай сітуацыі аўтар кнігі: пазіцыю свайго героя — Буднага, пазіцыю крытычную ў адносінах да Буднага ці нейкую нейтральную, абыякава-аб'ектыўную (калі такая ўвогуле магчымая пры абмеркаванні тэалагічных пытанняў)?

Выкладаючы перад намі тэалагічныя погляды С. Буднага, І.В. Саверчанка імкнуўся аналізаваць іх і каментаваць з дастаткова аб'ектыўных, нейтральных пазіцыяў, хоць падчас захапленне героем выяўлялася і тут, а не толькі ў раздзеле, прысвечаным разгляду этычнай дактрыны гуманіста, дзе такое захапленне — натуральнае і дарэчы.

А цяпер сцісла ахарактарызуем кожны з чатырох раздзелаў кнігі, каб чытач атрымаў больш поўнае ўяўленне пра яе.

У першым раздзеле «Штрыхі да біяграфіі» разглядаецца жыццёвы шлях, рэфармацыйная дзейнасць і асноўныя этапы творчасці С. Буднага. Абапіраючыся на папярэднія даследаванні, нешматлікія дакументальныя крыніцы і, у першую чаргу, на сведчанні і выказванні самога Буднага, змешчаныя ў ягоных творах, І.В. Саверчанка прасочвае біяграфію філосафа, кампенсуючы недахоп у навуцы дакументальных фактаў пра жыццё і дзейнасць С. Буднага гіпатэтычнымі разважаннямі і ўскоснымі звесткамі (адзіна магчымы шлях у такой сітуацыі). Упершыню ў навуковай літаратуры адкрыта ставіцца пытанне пра беларускае паходжанне гуманіста, паказваецца непераканаўчасць і хісткасць аргументаў пра польскае паходжанне Буднага.

У невялікім другім раздзеле «Перадумовы і агульнатэарэтычны грунт новага вучэння» сцісла падаюцца зыходныя прынцыпы філасофіі С. Буднага, прасочваюцца вытокі ягонай дыялектыкі, робіцца выснова, што «філасофскі метад Буднага ўяўляў сінтэз ratio і schola, спалучаў элементы сярэднявечнай схаластыкі і рэнесансавага рацыяналізму»[1]. Асаблівая ўвага звяртаецца на антрапалагічныя ідэі вучонага, погляды на чалавека, ягонае месца ў Сусвеце і ўзаемаадносіны з Богам. Паколькі поўнасцю адасобіць Буднага-філосафа ад Буднага-тэолага фактычна немагчыма, як увогуле немагчыма выдзеліць «чыстую філасофію» ў светапоглядзе дзеячаў Сярэднявечча і Адраджэння, ужо ў другім раздзеле закранаюцца тэалагічныя пытанні, сатэрыялагічныя і эсхаталагічныя ўяўленні С. Буднага. У прыватнасці, адзначаецца, што Будны зусім не адкідаў вучэння пра бессмяротнасць душы, наадварот, «лічыў, што па смерці людзей душы не знікаюць бясследна, не рас-

[1] Саверчанка І.В. Сымон Будны. С. 62.

тхараюцца ў касмічнай прасторы і не гінуць незваротна. Яны толькі губляюць тыя рысы, якія ім былі ўласцівыя пры жыцці чалавека»[1].

У трэцім раздзеле — «Тэалагічныя пошукі» — даследчык сістэматызуе, выкладае, каментуе тэалагічную дактрыну С. Буднага, вылучаючы такія пытанні, як сутнасць веры, вучэнне пра Абсалют, знакі веры, прыроду Святога Духа, хрысталогію і эсхаталогію. Погляды С. Буднага разглядаюцца з улікам іхняй эвалюцыі і ўсведамленнем важнасці кожнага, нават дробнага разыходжання ідэяў рэфарматара з афіцыйным багаслоўем. Таму студэнты і абітурыенты, якія са сваіх падручнікаў і дапаможнікаў ведаюць, што Будны развенчваў міф пра Хрыста і лічыў яго простым чалавекам, прачытаўшы гэты раздзел кнігі, змаглі б даведацца, што Будны зусім адмаўляў боскасць Хрыста, але лічыў яго адначасова і чалавекам і Богам, які не існаваў спрадвеку і не браў удзелу ў стварэнні Сусвету разам з Богам-Бацькам. Вера ў выратавальную місію Хрыста — аснова тэалогіі С. Буднага.

Асобнае месца ў раздзеле «Тэалагічныя пошукі» займае падраздзел «Біблейная герменеўтыка і асновы экзэгетыкі», у якім аўтар аналізуе важнейшыя метады і прынцыпы вывучэння і перакладу Будным біблейных кніг, зыходныя палажэнні вучонага ў каментаванні Святога Пісання. І хоць аўтар папярэджвае нас, што «поўны, сістэмны выклад экзэгетыкі і герменеўтыкі Буднага, тлумачэнне і каментаванне ім біблейных вершаў кожнага твора Святога Пісання ў храналагічнай паслядоўнасці мяркуецца ажыццявіць у асобнай кнізе», гэта не змяншае значэння ўжо выкананай даследчыкам працы і нашае цікавасці акурат да гэтага падраздзела кнігі. Бо погляды С. Буднага, напрыклад, на прыроду зачацця Хрыста і ўдзел вучонага ў тагачасных

[1] Саверчанка І.В. Сымон Будны. С. 69.

дыскусіях на гэтую тэму ўсё ж такі сёння менш цікавыя для нас, чым ягоны філалагічны метад каментавання Святога Пісання, ягоныя спробы рэканструкцыі архетыпу Бібліі. У наш час, калі герменеўтыка даўно выйшла за межы біблеістыкі і юрыдычнай практыкі, зрабілася, па сутнасці, універсальным метадам усіх гуманітарных навук, беларускія філосафы, гісторыкі, філолагі маюць магчымасць абаперціся на ўласную герменеўтычную традыцыю, закладзеную ў XVI ст. Ф. Скарынам і ўзнятую на самы высокі еўрапейскі ўзровень С. Будным.

Не страціла актуальнасці і этычнае вучэнне С. Буднага, ягоныя погляды на чалавека і грамадства, разгледжаныя І.В. Саверчанкам у раздзеле «Этычная дактрына: ідэал асобы і грамадства». Нават больш таго: некаторыя прынцыпы ўладкавання дзяржаўнай сістэмы, прапанаваныя гуманістам чатырыста гадоў назад, — яшчэ заўчасныя, відаць, для Рэспублікі Беларусь, якую вялікі гуманіст не назваў бы ні прававой, ні дэмакратычнай.

Важна адзначыць, што ў сваіх поглядах на дзяржаву, законы, чалавечую мараль С. Будны быў рэалістам, памяркоўным прагматыкам, у адрозненне ад крайніх ідэалістаў Якуба з Калінаўкі, Паўла з Візны і іншых прадстаўнікоў левага, радыкальнага крыла арыянства. І.В. Саверчанка слушна лічыць адметнасцю этычнай дактрыны Буднага тое, «што ён адрозніваў найвышэйшыя маральныя законы, дадзеныя Богам у запаведзях Майсея, а затым паўтораныя Хрыстом, ад законаў, устаноўленых людзьмі, з тым каб рэгуляваць грамадскія дачыненні, улічваючы сапсаванасць прыроды асобных людзей»[1]. Бо, як пісаў сам С. Будны ў «Катэхізісе»: «Прото не для того Бог дал закон, абы он человѣк выполнити мог, але набо-

[1] Саверчанка І.В. Сымон Будны. С. 153.

леи, абы у собѣ не уповал, але бы гдѣ ниде лѣкарства и спасенья искал».

І.В. Саверчанка падрабязна прасочвае развіццё дыскусіі вакол праблемаў сацыяльнай справядлівасці і грамадскай гармоніі, улады і ўрада паміж С. Будным і радыкальнымі дзеячамі Рэфармацыі, якіх даследчык называе камуністамі і анархістамі XVI ст. і ацэньвае іхнія погляды і дзейнасць негатыўна, крытычна, насуперак пазітыўным ацэнкам вучоных за савецкім часам.

Праўда, выклікае пярэчанне відавочнае перабольшванне аўтарам непасрэднага, практычнага ўплыву гэтае дыскусіі і яе вынікаў на тагачаснае палітычнае жыццё, заканадаўства, дзяржаўны лад: «Тэарэтычныя дыскусіі пераходзілі ў плоскасць практычных дзеянняў: яны маглі аказаць непасрэдны ўплыў на канкрэтны змест новай рэдакцыі Статута, што мела як станоўчыя, гэтак і адмоўныя бакі. Перад Будным і яго аднадумцамі, такім чынам, паўстала звышзадача: разбіць сістэму аргументаў радыкальна настроеных дзеячаў Рэфармацыі, адкінуць іх сацыяльна-палітычную канцэпцыю, пераканаць дзяржаўных дзеячаў, юрыстаў, членаў статутавай камісіі ў тым, што асноватворчыя палажэнні камуністычнай дактрыны з'яўляюцца памылковымі»[1]. Дазволім сабе падобраму і незласліва ўсміхнуцца: Будны і ягоныя аднадумцы маглі ў гэтым кірунку асабліва не высільвацца. Нават калі б С. Будны не напісаў ні радка супраць ідэяў Якуба з Калінаўкі, нават калі б увогуле не нарадзіўся на зямлі такі чалавек — Сымон Будны, сацыяльна-палітычная канцэпцыя радыкальных рэфарматараў не перамагла б у XVI ст. ні ў Вялікім Княстве Літоўскім, ні ў іншых краінах тагачаснай Еўропы. Магнатаў Льва Сапегу, Астафія Валовіча, Мікалая Радзівіла Рудога і іншых урадоўцаў не трэба было перакон-

---

[1] Саверчанка І.В. Сымон Будны. С. 166.

ваць у тым, «што асноватворчыя палажэнні камуністычнай дактрыны з'яўляюцца памылковымі».

Захоплены сваім героем, аўтар кнігі ўвогуле перабольшвае ўплыў этычнай дактрыны С. Буднага, ягоных кніг на тагачаснае дзяржаўнае жыццё і дзяржаўных дзеячаў Вялікага Княства Літоўскага, на Статут 1588 г. Напрыклад, піша, што «Л. Сапега з прыкладу Буднага падтрымаў ідэю ўсталявання ў Княстве абмежаванай асвечанай манархіі»[1], што «калі рыхтавалася новая рэдакцыя Статута, пераглядаліся многія артыкулы, Будны сваімі палемічнымі трактатамі аказаў станоўчае ўздзеянне не толькі на фармаванне канцэпцыі, але й на змест канкрэтных раздзелаў і артыкулаў»[2].

Выклікаюць пярэчанні, жаданне падыскутаваць, паспрачацца з аўтарам і іншыя моманты ў кнізе, але гэта ўжо — не віна аўтара, а віна ягонага героя — асобы неаднназначнай і супярэчлівай, рэфарматара, які ў аднолькавай ступені прычыніўся і да пашырэння рэфармацыйнага руху і да ягонага заняпаду, да развіцця беларускага пісьменства і да распаўсюджвання польскага. Бо і задумвалася кніга не толькі як падсумаванне дасягнутага, абагульняючае даследаванне, апошні па часе навуковы сінтэз у вывучэнні жыцця, дзейнасці, творчасці С. Буднага, але і як пачатак дыскусіі, пачатак новага этапу ў вывучэнні спадчыны выдатнага дзеяча эпохі Адраджэння.



[1] Саверчанка І.В. Сымон Будны. С. 201.

[2] Тамсама. С. 201.



# Сціплае хараство аўтарскага падручніка

*Лойка А.А.*
*Старабеларуская літаратура.*
*Мінск : Вышэйшая школа, 2001.*

Знаёмства з аўтарскім падручнікам А.А. Лойкі «Старабеларуская літаратура» пачалося для мяне, па-сутнасці, яшчэ ў 1981 г., калі я, студэнт-першакурснік, слухаў лекцыі Алега Лойкі па гісторыі старадаўняй беларускай літаратуры і прызвычайваўся да яго экспрэсіўнай, вобразна-асацыятыўнай манеры выкладання (пазней я быў сведкам таго, якое моцнае ўражанне зрабіла гэтая эмацыянальная манера чытання лекцый на студэнтаў-беларусістаў Люблінскага ўніверсітэта імя М. Складоўскай-Кюры). На пачатку 80-х гг. выразна адчуваліся ўжо недахопы падручнікаў па гісторыі старажытнай беларускай літаратуры, выдадзеных у 50–60-х гг. Пра многіх беларускіх пісьменнікаў XVI–XVIII стст. студэнты маглі пачуць толькі на лекцыях прафесара Лойкі. Здавалася б, менавіта ў той час, як вынік плённай працы са студэнцкай аўдыторыяй, і павінен быў з'явіцца падручнік А.А. Лойкі «Старабеларуская літаратура», але лёс распарадзіўся іначай. У 80-я гг. Алег Лойка працаваў над раманамі-даследаваннямі пра Янку Купалу і Францыска Скарыну, потым на пасадзе дэкана займаўся рэарганізацыяй філалагічнага факультэ-

та Белдзяржуніверсітэта, а яшчэ пісаў вершы, артыкулы, перакладаў польскіх і нямецкіх паэтаў...

Між тым у 1985 г. выйшаў з друку створаны вялікім калектывам аўтараў пад агульнай рэдакцыяй прафесараў М.А. Лазарука і А.А. Семяновіча падручнік «Гісторыя беларускай літаратуры : старажытны перыяд», які стаў для студэнтаў кананічным і потым шмат разоў перавыдаваўся. Для свайго часу гэты падручнік быў бясспрэчным дасягненнем, абапіраўся на набыткі беларускага літаратуразнаўства некалькіх дзесяцігоддзяў, хаця рэцэнзенты адразу адзначылі і ягоныя сур'ёзныя недахопы: напрыклад, супярэчнасць канцэпцый розных аўтараў і блытаніну ў перыядызацыі гісторыі беларускай літаратуры[1]. Але непрыкметна мінула амаль дваццаць гадоў, з'явіліся новыя даследаванні і пераклады шматмоўнай літаратурнай спадчыны XI–XVIII стст., і падручнік пад рэд. М.А. Лазарука, А.А. Семяновіча стаў выглядаць прыкладна гэтаксама, як на пачатку 80-х гг. падручнік П.П. Ахрыменкі і М.Р. Ларчанкі «Старажытная беларуская літаратура» (Мінск, 1968): агульныя заканамернасці літаратурнага развіцця вызначаюцца ў ім на падставе знаёмства з 30–40 % ад агульнай колькасці адкрытых твораў. Адзін характэрны прыклад: у апошнім перавыданні падручніка «Гісторыя беларускай літаратуры : старажытны перыяд» няма падраздзела пра Яна Вісліцкага, хаця ягоная творчасць разглядаецца ў манаграфіях В. Дарашкевіча «Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы: первая половина XVI в.» (Мінск, 1979) і Я. Парэцкага «Ян Вісліцкі» (Мінск, 1991), а паэма «Пруская вайна» перакладзена на беларускую мову Ж. Некрашэвіч-Кароткай (Маладосць. 1997. № 12).

На пачатку XXI ст. на кафедры гісторыі беларускай літаратуры Белдзяржуніверсітэта была распрацавана

---

[1] Сідарэвіч А. Дапытлівы юнак спытае // Літаратура і мастацтва. 5.X.1986.

новая «Праграма па гісторыі беларускае літаратуры XI–XVII стст.», у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі складзена «Анталогія даўняй беларускай літаратуры : XI — першая палова XVIII ст.» (Мінск, 2003) і падрыхтавана «Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стст.» (Мінск, 2006–2007). Наспела таксама неабходнасць стварэння новага ўніверсітэцкага падручніка альбо нават серыі альтэрнатыўных падручнікаў па гісторыі беларускай літаратуры даўніх эпох: Сярэднявечча, Рэнесансу, Асветніцтва. Да гонару прафесара А.А. Лойкі трэба адзначыць, што менавіта ён, а не ягоныя маладыя вучні распачалі гэтую важную працу: у 2001 г. у выдавецтве «Вышэйшая школа» пабачыла свет кніга Алега Лойкі «Старабеларуская літаратура», зацверджаная Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь у якасці падручніка для студэнтаў філалагічных спецыяльнасцей вышэйшых навучальных устаноў.

У падручніку разглядаецца гісторыя беларускай літаратуры ад часу яе ўзнікнення да першай трэці XVI ст.: г. зн. літаратура Сярэднявечча і ранняга Рэнесансу. Аўтар не супрацьстаўляе эстэтыку дзвюх эпох, а лагічна выводзіць росквіт беларускай літаратуры ў эпоху Адраджэння з плённага развіцця старажытнаўсходнеславянскага пісьменства ў XI–XIII стст., з першых упэўненых крокаў уласнабеларускай літаратуры ў перыяд станаўлення Вялікага Княства Літоўскага. Згадваецца колішняе выказванне А.А. Лойкі: «Адраджэнне мы звыкліся штучна вырываць з Сярэднявечча ў той час, калі яно — паласа, перыяд, этап самога Сярэднявечча»[1].

Параўнаўчая характарыстыка дзвюх эпох у іх непарыўнай узаемасувязі даецца ва «Уводзінах», а ва «Уступе»

[1] Скарына сярэднявечны, Скарына адраджэнскі : дыялог Сяргея Кавалёва і Алега Лойкі // Беларусь. 1990. № 2. С. 22.

выкладаецца агульная канцэпцыя падручніка, якая грунтуецца на разуменні беларускай літаратуры як літаратуры гетэрагенічнай і полілінгвістычнай: «Сёння вывучаць як уласна нацыянальныя толькі беларускамоўная помнікі мінулага — гэта свядома звужаць абсягі духоўнага мацерыка нашых продкаў, скажаць агульны малюнак грамадска-культурнага развіцця сярэднявечнай Беларусі, грэбаваць багаццем нацыянальнай спадчыны, створанай беларусамі і народамі Беларусі»[1].

У трох асноўных частках разглядаецца старабеларуская літаратура XI — пачатку XVI ст. у апісальна-панарамным аспекце (напрыклад, у раздзеле «Сацыяльна-гістарычныя абставіны і параўнаўчая характарыстыка літаратураў XIV–XVI стст.»), жанравым (напрыклад, у раздзелах «Летапісанне», «Летапісанне перыяду Вялікага княства») і манаграфічна-біяграфічным (напрыклад, у раздзелах «Кірыла Тураўскі», «Мікола Гусоўскі»). Дарэчы, гэта першы падручнік па гісторыі беларускай літаратуры, у якім ёсць асобны раздзел пра творчасць Яна Вісліцкага. А самым лепшым раздзелам падручніка з'яўляецца, канечне, раздзел пра Францыска Скарыну, даследаванню жыцця і творчасці якога А.А. Лойка прысвяціў шмат гадоў.

Безумоўна, хочацца, каб разгляд гісторыі старабеларускай літаратуры быў даведзены прафесарам Лойкам да канца XVIII ст. (незавершанасць падручніка, гвалтоўны абрыў аповеду на сярэдзіне эпохі Рэнесансу кідаецца ў вочы), каб разам з ранейшым ягоным падручнікам «Гісторыя беларускай літаратуры : дакастрычніцкі перыяд»[2] атрымалася ўнікальная чатырохтомная праца пра развіццё беларускай літаратуры ад XI да пачатку XX ст. Ведаю,

[1] Лойка А.А. Старабеларуская літаратура. С. 5.

[2] Лойка А.А. Гісторыя беларускай літаратуры : дакастрычніцкі перыяд : у 2 ч. 2-е выд. Мінск, 1989.

што ў выдавецтве «Вышэйшая школа» рыхтуецца новае выданне падручніка пад назвай «Старадаўняя беларуская літаратура», у якім разгляд гісторыі айчыннага пісьменства даведзены шаноўным аўтарам ужо да канца XVII ст.

Падручнік А.А. Лойкі «Старабеларуская літаратура» — падручнік аўтарскага тыпу, з арыгінальнай канцэпцыяй развіцця старабеларускай літаратуры і непаўторным стылем выкладу матэрыялу. Падобных падручнікаў робіцца ўсё менш, у апошнія гады заўважаецца выразная тэндэнцыя да напісання калектыўных прац, калі асобныя раздзелы пішуцца спецыялістамі па канкрэтным перыядзе, жанры, творчасці канкрэтнага пісьменніка. Калектыўныя падручнікі больш грунтоўныя і выверанья ў навуковых адносінах, але затое ім бракуе канцэптуальнай і стылёвай цэльнасці, яны не пазначаны пячаткай аўтарскай індывідуальнасці. Бясспрэчнай заслугай А.А. Лойкі з'яўляецца спалучэнне абгрунтаванай навуковай аргументацыі з жывой манерай апавядання; адчуваецца, што падручнік «Старабеларуская літаратура» напісаны не кабінетным вучоным, а вопытным, прафесійным выкладчыкам, які імкнецца зацікавіць чытачоў, уцягнуць іх у атмасферу далёкіх эпох, наблізіць да моладзі постаці Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Яна Вісліцкага, Мікалая Гусоўскага, Францішка Скарыны…





# Гісторыя ў асобах

*Кніжная серыя «Нашы славутыя землякі».*
*Мінск : Навука і тэхніка ; Тэхналогія, 1988–2010.*

З 1988 года ў кнігарнях Беларусі пачалі з'яўляцца невялікія (каля 3 аркушаў) кніжачкі ў вокладках серабрыстасталёвага колеру, якія адразу прыцягнулі да сябе ўвагу чытачоў. Танныя па кошту кніжачкі аказаліся насычаныя каштоўнай інфармацыяй па гісторыі, культуры, навуцы і літаратуры Беларусі XII–XX стст., прычым інфармацыя гэтая была выкладзена займальна і, што самае адметнае, — «праз асобы», праз біяграфіі нашых славутых землякоў.

Серыя так і называлася — «Нашы славутыя землякі», выходзіла ў акадэмічным выдавецтве «Навука і тэхніка», аўтарам ідэі і куратарам быў Зміцер Санько. На працягу дзесяці гадоў чытачы мелі магчымасць пазнаёміцца з біяграфіямі Якуба Наркевіча-Ёдкі, Уладзіслава Сыракомлі, Уладзіслава Дыбоўскага, Ефрасінні Полацкай, Саламеі Русецкай, Кароля Чаховіча, Тадэвуша Касцюшкі, Вацлава Ластоўскага, Алеся Гаруна, Усяслава Полацкага, Льва Сапегі, Казіміра Чарноўскага, Канстанціна Астрожскага, Язэпа Руцкага і іншых выдатных асобаў. Спектр выбару герояў быў даволі шырокі: навукоўцы, дзяржаўныя і грамадскія дзеячы, палкаводцы, рэвалюцыянеры, пісьменнікі, падарожнікі, асветнікі і друкары.

У шырокім сэнсе разумелася і паняцце «біяграфія»: не анкетна-фактаграфічная, а гісторыка-літаратурная — пар-

трэт асобы на фоне эпохі. Ды і ці мажліва было напісаць інакш, скажам, пра святую Ефрасінню Полацкую? Таму, чытаючы пра Ефрасінню Полацкую, трапляеш у культурнае асяроддзе XII ст., а калі знаёмішся з асобай Уладзіслава Сыракомлі — нямала даведаешся пра літаратуру беларуска-польскага памежжа сярэдзіны XIX ст. І ў гэтым бачыцца найвялікшая каштоўнасць кніг серыі «Нашы славутыя землякі». Яшчэ не напісана новая, навуковая гісторыя Беларусі. Няма, па-сутнасці, гісторыі беларускае навукі і гісторыі беларускае культуры. Ды і гісторыя літаратуры патрабуе дапрацоўкі: палітычнае рэабілітацыі некаторых пісьменнікаў XX стагоддзя і моўнае рэабілітацыі (г. зн. перакладу на сучасную беларускую мову) пісьменнікаў XVI–XVIII стст., якія пісалі на лацінскай і польскай мовах. Кожную з кніжачак серыі можна разглядаць як асобы, тэматычна-спецыялізаваны нарыс па беларускай гісторыі, а ўсю серыю цалкам — як своеасаблівую персаналізаваную гісторыю Беларусі, «гісторыю ў асобах».

Няшмат матэрыялу знойдзе чытач у афіцыйных дзяржаўных выданнях пра паўстанне 1794 г. супраць расейскага імперскага прыгнёту на тэрыторыі Польшчы і Беларусі. Але нават у гэтых лічаных публікацыях і само паўстанне, і ягоныя прычыны асветлены наўмысна цьмяна і блытана, тэндэнцыйна. А вось прачытаўшы кніжачку Я. Юхо «За вольнасць нашу і вашу», прысвечаную Тадэвушу Касцюшку, аматар гісторыі даведаецца хоць нешта і пра падзелы Рэчы Паспалітай, і пра Канстытуцыю 3 мая 1791 г., і пра непрывабную ролю вялікага рускага палкаводца А. Суворава ў падаўленні паўстання 1794 г. І, зразумела, даведаецца ён пра жыццё і дзейнасць галоўнага героя кнігі, нашага знакамітага земляка Тадэвуша Касцюшкі.

Зрэшты, у якім сэнсе — знакамітага, дзе, сярод каго — славутага? Ягоная слава — вынік тае выключнае ролі, якую ён адыграў у гісторыі ЗША, Польшчы і Вялікага Княства

Літоўскага, яна існуе аб'ектыўна, незалежна ад рэальнае славы і пашаны ў нашчадкаў. Тадэвуш Касцюшка — нацыянальны герой Польшчы і ЗША. Але ў Беларусі ён амаль невядомы, а яшчэ менш вядомы як *беларус*. Па сутнасці, у гэтай жа сітуацыі знаходзяцца і іншыя героі серыі, якую больш правільна, хаця і алагічна, было б назваць «Нашы невядомыя славутыя землякі». Славутыя сваім укладам у навуку, асвету, літаратуру, сваімі заслугамі перад Айчынай. Вядомыя нярэдка ў многіх краінах, а то і ва ўсім свеце. Невядомыя нам, іх нашчадкам, беларусам.

Папулярызацыя незаслужана забытых намі імёнаў, а праз канкрэтныя імёны і ўсяго гістарычнага і культурнага абсягу — вось галоўная мэта і задача гэтай надзвычай цікавай і патрэбнай серыі, распачатай па ініцыятыве З. Санько. Задачам папулярызацыі спрыяе і невялікі памер кніжачак, і танны кошт, і «нарысавы» стыль, якім большасць з іх напісана. Гэта і зразумела: чытацкая аўдыторыя такіх кніг мусіць быць значна шырэйшая, чым грунтоўных навуковых выданняў альбо падручнікаў.

Дарэчы, наконт падручнікаў. Як паказвае практыка выкладання старадаўняй беларускай літаратуры, студэнты ахвотна выкарыстоўваюць у працэсе падрыхтоўкі да экзаменаў кнігу У. Арлова «Асветніца з роду Усяслава», прысвечаную Ефрасінні Полацкай. І сапраўды, у кнізе сабрана амаль усё, што вядома сёння навуцы пра асветніцу і святую, пераказваецца змест «Жыція Ефрасінні Полацкай» (заканамерна, бо «Жыціе...» — асноўная крыніца звестак аб Ефрасінні), сцісла, але выразна малюецца тагачасны палітычны і культурны фон. А разглядаючы ў кантэксце гісторыка-мемуарнай літаратуры падарожны дзённік Саламеі Пільштыновай-Русецкай, выкладчык сам вымушаны адсылаць студэнтаў да кнігі В. Грыцкевіча «Адысея наваградскай лекаркі» як да адзінае даступнае крыніцы (калі не лічыць ранейшых публікацый таго ж

аўтара): у падручніку па гісторыі беларускай літаратуры яе творчасць не разглядаецца.

У другой палове 90-х гг. XX ст. над серыяй «Нашыя славутыя землякі» навіслі хмары, з дзяржаўнага выдавецтва «Навука і тэхніка» яна была перанесена ў прыватнае выдавецтва «Тэхналогія», куды перайшоў і З. Санько. Кнігі сталі выходзіць радзей, значна меншым накладам, на нейкі час серыя ўвогуле згубілася з поля зроку чытачоў. Але паступова справа наладзілася і аматары айчыннай гісторыі, культуры, навукі атрымалі ў рукі біяграфіі Яна Караля Хадкевіча, Ігната Дамейкі, Аркадзя Смоліча, Міхася Забэйды-Суміцкага, Антона Тызенгаўза, Соф'і Кавалеўскай. Серыя стала менш масавай, у пэўным сэнсе нават элітарнай (масавага чытача можа зацікавіць жыццё Усяслава Полацкага ці Канстанціна Астрожскага, але наўрад ці прыцягне біяграфія мітрапаліта Мельхісэдэка, прыхільніка незалежнасці беларускай праваслаўнай царквы ў 20-я гг. XX ст.). Увогуле, у апошнія гады серыя «Нашы славутыя землякі» ператварылася ў адкрывальніка незаслужана забытых імёнаў, прычым імёнаў — часта «выклятых» афіцыйнай дзяржаўнай прапагандай (як, напрыклад, актыўная дзеячка партыі эсэраў у Беларусі Палута Бадунова ці змагар супраць таталітарызму Расціслаў Лапіцкі).

Узнікшая на хвалі нацыянальнага адраджэння і пры актыўнай дзяржаўнай падтрымцы, серыя «Нашы славутыя землякі» выдаецца сёння намаганнямі энтузіястаў-заўзятараў, а пішацца аўтарамі, бескарысліва адданымі сваім героям, паставіўшымі сабе высакародную мэту вярнуць незаслужана забытыя, а часам абылганыя імёны ў кантэкст айчыннай гісторыі. За дваццаць з лішнім гадоў выйшла каля трыццаці кніжачак гэтай унікальнай серыі. Хочацца спадзявацца на яе плённы працяг, каб і надалей яна радавала чытача і ўзбагачала яго ведамі па беларускай гісторыі, навуцы, мастацтву, літаратуры.



# Ад Барбары Радзівілянкі[1] да Францішкі Радзівіл з Вішнявецкіх

Адметны ўклад у літаратуру Вялікага Княства Літоўскага XVI–XVIII стст. унеслі прадстаўнікі роду Радзівілаў: публіцысты, мемуарысты, паэты, драматургі. Актуальныя праблемы грамадска-палітычнага і рэлігійнага жыцця знайшлі адлюстраванне ў эпісталярнай спадчыне Мікалая Радзівіла Чорнага (1515–1565), ля вытокаў мемуарнага жанру знаходзяцца падарожныя нататкі Юрыя Радзівіла (1556–1600), еўрапейскую славу набыла кніга «Перэгрынацыя, або Падарожжа ў Святую Зямлю» Мікалая Крыштафа Радзівіла «Сіроткі» (1549–1616), шырокую панараму дзяржаўнага жыцця Рэчы Паспалітай адлюстраваў у сваіх мемуарах Альбрыхт Станіслаў Радзівіл (1593–1656), а Багуслаў Радзівіл (1620–1669) напісаў першую літаратурную аўтабіяграфію, сямейнай сагай можна назваць шматтомны «Дыярыуш» Міхала Казіміра Радзівіла Рыбанькі (1702–1762), Геранім Фларыян Радзівіл (1715–1760) пісаў паляўнічыя нататкі, маральна-дыдактычныя трактаты і параднікі, Удальрык Радзівіл (1712–1770)

---

[1] У многіх беларускіх навукова-папулярных артыкулах падаецца менавіта такая форма прозвішча Барбары (Радзівілянка — г. зн. з Радзівілаў).

быў здольным паэтам і перакладчыкам, Мацей Радзівіл (1749–1800) стварыў лібрэта да славутай оперы Яна Давіда Голанда «Агатка».

Што праўда, у гэтым доўгім пераліку імёнаў выразна бракуе прадстаўнікоў жаночага полу. Да нядаўняга часу ў беларускай культурнай прасторы прысутнічала толькі імя Барбары Радзівіл (каля 1520–1551), але яна была знаная не як аўтарка цікавых эпісталаграфічных твораў, а як палкая каханка каралевіча Жыгімонта Аўгуста, гераіня беларуска-літоўскіх летапісаў і п'есаў «Барбара Радзівіл» Раісы Баравіковай ды «Чорная панна Нясвіжа» Аляксея Дударава.

У гэтай сітуацыі надзвычай радуе тая імклівая літаратурная кар'ера, якую на нашых вачах «робіць» у беларускай літаратуры і культуры Францішка Уршуля Радзівіл з Вішнявецкіх (1705–1753), паэтка, драматург, аўтарка больш за тысячу лістоў, у тым ліку шэдэўра эпісталаграфічнага жанру XVIII ст. — вершаваных «Лістоў да мужа»…

У скарбніцы сусветнага пісьменства, неад'емнай часткай якога з'яўляецца беларуская літаратура, захоўваецца два тыпы твораў: тыя, якія належаць выключна да гісторыі літаратуры і ніяк не ўплываюць на сучасную культуру, і тыя, якія актыўна прысутнічаюць у сучаснай культурнай прасторы, натхняючы на стварэнне новых твораў як у літаратуры, так і ў іншых відах мастацтва: жывапісе, музыцы, тэатры, кіно. Помнікі першага тыпу ўяўляюць цікавасць выключна для даследчыкаў-філолагаў як важны элемент, «цаглінка» для рэканструкцыі панарамы гістарычнага развіцця літаратуры, тэксты другога тыпу трапляюць у сучасную культуру як у сваім першапачатковым выглядзе, так і ў форме цытат, алюзій, перайманняў, інтэрпрэтацый, прамаўляюць да розуму і пачуццяў сучасных чытачоў, слухачоў, гледачоў. Творы другога

тыпу, носьбіты актуальных мастацкіх сэнсаў і значэнняў удзельнічаюць у фарміраванні сучаснага аблічча культуры і ў той жа час гарантуюць пераемнасць традыцый. Яскравымі прыкладамі такіх твораў з'яўляюцца «Песня пра зубра» Мікалая Гусоўскага і «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» Яна Баршчэўскага: перакладзеныя адпаведна з лацінскай і польскай моваў гэтыя тэксты (здавалася б, назаўсёды забытыя) на працягу апошніх дзесяцігоддзяў зрабілі фенаменальную кар'еру ў сучасным беларускім мастацтве і трывала ўвайшлі ў свядомасць беларусаў як частка нацыянальнай культурнай традыцыі.

Ці мае шанец паўтарыць поспех гэтых твораў які-небудзь тэкст аўтарства Францішкі Уршулі Радзівіл, да актыўнага ці да пасіўнага тыпу помнікаў адносіцца яе спадчына, якім быў яе шлях на Беларусь і наколькі заўважная прысутнасць творчасці пісьменніцы ў беларускай культуры — вось кола пытанняў, на якія мы паспрабуем адказаць, цалкам усведамляючы гіпатэтычны характар некаторых адказаў, не правераных як след часам. Бо хаця нарадзілася, жыла, стварала «нясвіжская Сафо і Мельпамена» ў XVIII ст., у беларускай культурнай прасторы яна прысутнічае як «свая» ўсяго некалькі дзесяцігоддзяў.

Першы перыяд зацікаўленасці творчасцю Ф.У. Радзівіл у Беларусі прыпадае на 80-я гг. XX ст. і звязаны з працамі вядомых вучоных Адама Мальдзіса і Гурыя Барышава. Спачатку літаратуразнаўца А. Мальдзіс у сваёй манаграфіі «На скрыжаванні славянскіх традыцый: літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII–XVIII ст.) (1980) прысвяціў некалькі старонак Нясвіжскаму тэатру і ягонай стваральніцы, прааналізаваўшы ідэйна-мастацкі змест асобных п'ес. Потым мастацтвазнаўца Г. Барышаў у першым томе «Гісторыі беларускага тэатра» (1983) змясціў раздзел «Тэатры Радзівілаў у Нясвіжы і Слуцку», дзе

разгледзеў асноўныя асаблівасці драматургічных твораў княгіні Радзівіл і спецыфіку іх сцэнічнага ўвасаблення. Абодва яны ў сваіх працах абапіраліся на публікацыі польскіх вучоных Ю. Кжыжаноўскага, К. Вяжбіцкай, А. Сайкоўскага, прычым Г. Барышаў (напэўна, уведзены ў зман назвай зборніка «Teatr Urszuli Radziwiłłowej»[1], падрыхтаванага К. Вяжбіцкай), называў нясвіжскую аўтарку *Уршуляй Францішкай*, а не *Францішкай Уршуляй* Радзівіл, і менавіта гэты памылковы варыянт імя надоўга замацаваўся за пісьменніцай у беларускай культурнай традыцыі.

Такім чынам, калі ў 80-я гг. XX ст. нехта ведаў у Беларусі пра Ф.У. Радзівіл, то, пераважна, дзякуючы вышэйзгаданым працам А. Мальдзіса і Г. Барышава, ведаў як пра драматурга, заснавальніцу першага ў Вялікім Княстве Літоўскім магнацкага тэатра; пра вершы і маральна-дыдактычныя трактаты пісьменніцы інфармацыя адсутнічала. У 1986 г. выйшла яшчэ краязнаўчая кніга К.Я. Шышыгінай «Музы Несвижа», але яе аўтарка звесткі пра Ф.У. Радзівіл таксама брала з публікацый А. Мальдзіса і Г. Барышава. Зразумела, не вывучалася творчасць Ф.У. Радзівіл ва ўніверсітэцкім курсе гісторыі беларускай літаратуры: у падручніку П. Ахрыменкі і М. Ларчанкі «Старажытная беларуская літаратура» (1968 і пазнейшыя перавыданні) пра пісьменніцу не было ані слова, што тлумачылася, відаць, яе магнацкім паходжаннем і іншамоўным характарам творчасці. І нават калі ў 1985 г. з'явіўся новы ўніверсітэцкі падручнік, які амаль без зменаў перавыдаецца да нашага часу, — «Гісторыя беларускай літаратуры : старажытны перыяд» пад рэд. М. Лазарука і А. Семяновіча, Францішцы

---

[1] Teatr Urszuli Radziwiłłowej / oprac. K. Wierzbicka. Warszawa, 1961.

Уршулі было прысвечана ў ім усяго два словы, хаця раздзел «Літаратура другой паловы XVII — XVIII ст.» пісаў... А. Мальдзіс[1].

Другі перыяд вывучэння і папулярызацыі творчасці Ф.У. Радзівіл у Беларусі супадае па часе з хваляй нацыянальнага адраджэння ў першай палове 90-х гг. XX ст. Навуковыя і навукова-папулярныя працы па гісторыі Бацькаўшчыны, даследаванні шматмоўнага пісьменства Беларусі XI–XIX стст. былі запатрабаваны грамадствам, якое імкнулася адрадзіць забытыя за гады савецкай улады традыцыі, у тым ліку і тэатральныя. У 1992 г. выходзіць у свет грунтоўная манаграфія Г. Барышава «Театральная культура Белоруссии XVIII века», дзе Нясвіжскаму тэатру і драматургіі *Уршулі Францішкі* Радзівіл прысвечаны асобны раздзел[2]. На жаль, няправільны варыянт імя пісьменніцы і іншыя недакладнасці з папярэдніх публікацый вучонага перавандравалі ў новую працу, але ўвогуле з'яўленне кнігі і абароненая Г. Барышавым доктарская дысертацыя мелі вырашальнае значэнне для ўвядзення драматургічнай творчасці Ф.У. Радзівіл у кантэкст беларускай культуры. Невыпадкова, спектакль Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра пра Францішку Радзівіл «Навука кахання» (2001) быў прысвечаны светлай памяці Гурыя Іларыёнавіча Барышава. Да гэтага часу ў асяроддзі беларускіх мастацтвазнаўцаў і крытыкаў імя Ф.У. Радзівіл асацыіруецца пераважна з кнігай Г. Барышава, вядома — у варыянце «*Уршуля Францішка*».

Неўзабаве пасля выхаду ў свет манаграфіі Гурыя Барышава і, відаць, пад яго ўплывам на Беларусі з'явіўся яшчэ

---

[1] Гісторыя беларускай літаратуры : старажытны перыяд. С. 329.

[2] Барышев Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Мінск, 1992. С. 103–140.

адзін даследчык, папулярызатар і *першы перакладчык* твораў Ф.У. Радзівіл — Вацлаў Арэшка. Сумесна з драматургам Артурам Вольскім ён пераклаў на беларускую мову п'есу «Гульня Фартуны». Фрагмент перакладу пад назвай «Забава Фартуны» быў апублікаваны ў часопісе «Спадчына»[1], і менавіта да гэтай адзінай публікацыі доўгі час адсылалі студэнтаў выкладчыкі Белдзяржуніверсітэта, распавядаючы пра творчасць Ф.У. Радзівіл у курсе лекцый па гісторыі беларускай літаратуры. Магчыма, з'яўленне перакладу «Гульні Фартуны» было выклікана задумай рэжысёра Аляксея Ляляўскага паставіць п'есу на сцэне Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек: А. Вольскі, адзін з перакладчыкаў п'есы, працаваў у гэты час загадчыкам літаратурнай часткі тэатра, а ў А. Ляляўскага быў ужо вопыт пастаноўкі батлеечнага «Цара Ірада» пры актыўным удзеле Гурыя Барышава, які выступаў у ролі не толькі навуковага кансультанта, але і драматурга. На жаль, пастаноўка п'есы Ф.У. Радзівіл «Гульня Фартуны» не была здзейснена, па словах А. Ляляўскага — з-за адмовы Міністэрства культуры прафінансаваць праект. Дзіўна, бо ў той час рэпертуарная палітыка Міністэрства культуры і саміх тэатраў Беларусі была скіравана якраз на пошукі «забытай» класікі, на пастаноўку твораў нацыянальнай драматургіі, пра што сведчаць спектаклі паводле «Ідыліі» і «Залётаў» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, «Камедыі» Каэтана Марашэўскага, п'есаў Францішка Аляхновіча, шматлікіх драматургічных перапрацовак «Шляхціца Завальні...» Яна Баршчэўскага. Можа, творчасць Ф.У. Радзівіл не асацыіравалася яшчэ з нацыянальнай культурай?

Менавіта Вацлаў Арэшка першы на Беларусі загаварыў пра *паэзію* Францішкі Уршулі Радзівіл, прычым гаварыў

---

[1] Радзівіл Ф.У. Забава Фартуны / пер. А. Вольскага і В. Арэшкі. // Спадчына. 1994. № 1.

ён пра яе не толькі на Радзіме: у 1994 г. у Любліне мне давялося чуць ягонае эмацыянальнае выступленне пра эратычныя вершаваныя загадкі княгіні Радзівіл на навуковай канферэнцыі з цыклу «Muzyka Kresów». Не ведаю, ці быў В. Арэшка знаёмы з манаграфіяй польскай даследчыцы Барбары Юдковяк «Інсцэніраванае слова. Пра Францішку Уршулю Радзівіл — паэтку»[1], якая выйшла ў тым самым 1992 г., што і кніга Гурыя Барышава «Театральная культура Белоруссии XVIII века». Але напэўна вядома, што гэты цікавы даследчык працаваў з радзівілаўскімі матэрыяламі ў Беларускім дзяржаўным гістарычным архіве, пераклаў на беларускую мову фрагменты дыярыуша Міхала Радзівіла Рыбанькі — мужа Францішкі[2] і збіраўся пісаць дысертацыю пра творчасць нясвіжскай пісьменніцы, якую ён услед за Ю. Кжыжаноўскім і Г. Барышавым называў *Уршуляй Францішкай* Радзівіл[3].

На жаль, задуму сваю Вацлаў Арэшка не здзейсніў, але дысертацыя пра творчасць Францішкі Уршулі Радзівіл у Беларусі ўсё ж такі была напісана (праўда, не пра ўсю творчасць, а пакуль толькі пра драматургічную яе частку, як бы дапаўняючы «польскую» дысертацыю Б. Юдковяк пра паэзію). У 1999 г. Жанна Некрашэвіч-Кароткая абараніла кандыдацкую дысертацыю, а ў 2002 г. выдала на яе аснове манаграфію «Нясвіжская Мельпамена: драматургія Францішкі Уршулі Радзівіл». Менавіта са з'яўлення артыкулаў Ж. Некрашэвіч-Кароткай у дру-

---

[1] Judkowiak B. Słowo inscenizowane : o Franciszce Urszuli Radziwiłłowej — poetce. Poznań, 1992.

[2] Радзівіл Рыбанька М. Дыярыюш / пер. В. Арэшкі // Спадчына. 1994. № 4–5; 1995. № 1–6; 1996. № 1–2, 4.

[3] Арэшка В. У пошуках новае прасторы пачуццяў : некаторыя элементы абсцэну і эротыкі ў творчасці У.Ф. Радзівілавай // Нясвіж — Гісторыя. Культура. Мастацтва. Варшава ; Мінск, 1998. С. 66–72.

гой палове 90-х гг. XX ст. пачаўся трэці этап засваення творчасці Ф.У. Радзівіл сучаснай беларускай культурай, працэс усталявання погляду на яе як на пісьменніцу не толькі польскую, але і беларускую. Маладая даследчыца імкнулася не паўтараць памылак сваіх папярэднікаў, пачынаючы з напісання імя княгіні: *Францішка Уршуля*, пастаралася быць дастаткова незалежнай у сваіх высновах ад меркаванняў такіх аўтарытэтных вучоных, як А. Штэндэр-Петэрсан, Ю. Кжыжаноўскі, А. Сайкоўскі, даўшы найбольш высокую ацэнку таленту «нясвіжскай Мельпамены».

Недзе ў другой палове 90-х гг. захапіўся асобай нясвіжскай Мельпамены і аўтар гэтага артыкула, але не як навукоўца, а як драматург. Адразу пасля напісання п’есы «Чатыры гісторыі Саламеі» пра Саламею Русецкую ўзнікла задума напісаць пра яе сучасніцу і жыццёвага антыпода (асабліва ў стаўленні да кахання і сям’і) княгіню Францішку Уршулю Радзівіл. Я не збіраўся ствараць біяграфічную драму, дакументальную п’есу-жыццяпіс, мяне больш цікавіла незвычайная атмасфера пры двары Міхала і Францішкі Радзівілаў, неверагоднае перапляценне, узаемапранікненне рэальных падзей і тэатральных сюжэтаў. Пры знаёмстве з гістарычнымі матэрыяламі я быў уражаны тым фактам, што не толькі княгіня Радзівіл, а ўсё яе акружэнне было захоплена, «заражана» тэатрам: п’есы пісалі ксёндз Юзаф Катэнбрынг, Станіслаў Мыцельскі, а пазней Мацей Радзівіл; у спектаклях бралі ўдзел дзеці Францішкі, а таксама сваячніца Ганна Мыцельская — будучая жонка Міхала Радзівіла, здольная актрыса і паэтка. Ну, і вядома, таямнічая асоба каменданта Рыцарскай акадэміі, вернага паплечніка княгіні Якуба Фрычынскага, які пасля смерці Францішкі Уршулі выдаў яе п’есы і ладзіў тэатральныя прадстаўленні ў Жоўкве і Алыцы…

Спецыяльна для гэтага праекта паэтка Наталля Русецкая пераклала на беларускую мову камедыю Ф.У. Радзівіл

«Распуснікі ў пастцы» («Niecnota w sidłach»), якая цалкам увайшла ў маю п’есу і адыгрывала ў ёй важную ролю. Чамусьці асобныя фрагменты «Распуснікаў…» выклікалі ў мяне асацыяцыі з драматургіяй рускіх абсурдыстаў Хармса і Увядзенскага, а маналог Аруі нагадваў маналог Ніны Зарэчнай пра «львоў, тыграў, хамелеонаў» з чэхаўскай «Чайкі»:

Адзіны Божа, па тваёй вышэйшай волі
Рыбы, і птушкі, і звяры жывуць на волі,
Хамелеоны, матылькі, мурашкі, молі,
Казуркі розныя не ведаюць нядолі.
Навошта ж даў ты столькі бедаў і мучэнняў
На падабенства тваё злепленым стварэнням?[1]

Напісаную ў 1999 г. п’есу «Францішка, або Навука кахання»[2] паставіў у 2000 г. на сцэне Гомельскага абласнога драматычнага тэатра Віталій Баркоўскі, а ў 2001 г. на сцэне Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра Алег Жугжда. Не мне ацэньваць мастацкую вартасць спектакляў і тым больш п’есы, але той факт, што праз 250 гадоў пасля напісання і прэм’еры ў Нясвіжы «Распуснікі ў пастцы» зноў пабачылі сцэну, стаўшы *першай пастаноўкай драматургіі Ф.У. Радзівіл у сучасным беларускім тэатры* выклікае ў мяне пачуццё гонару і глыбокага задавальнення. Акрамя эстэтычнай функцыі пастаноўкі ў Гомелі і Гродне несумненна выконвалі важную асветніцкую задачу: большасць гледачаў толькі на спектаклі даведвалася пра існаванне Францішкі Уршулі Радзівіл і яе Нясвіжскага тэатра XVIII стагоддзя…

Такім чынам, на пачатку XXI ст. у беларускай культурнай прасторы Ф.У. Радзівіл прысутнічала ўжо як *аб’ект* навуковых даследаванняў, «персанальная гераіня» манаграфіі

---

[1] Радзівіл Ф.У. Выбраныя творы. Мінск, 2003. С. 237.

[2] Кавалёў С. Навука кахання. С. 135–199.

«Нясвіжская Мельпамена: драматургія Францішкі Уршулі Радзівіл» і як *гераіня* мастацкага твора — п'есы «Францішка, або Навука кахання», пастаўленай у двух тэатрах. Але выразна бракавала яе прысутнасці ў якасці *аўтара*, у чытача не было магчымасці пазнаёміцца з яе *творамі*, акрамя згаданага ўжо фрагмента «Гульні Фартуны» ды яшчэ «Распуснікаў у пастцы», якіх трэба было «вылушчваць» з тэксту сучаснай п'есы.

Выданне ў 2003 г. «Выбраных твораў» Ф.У. Радзівіл стала важнай падзеяй у працэсе засваення беларускай культурай спадчыны нясвіжскай Сафо і Мельпамены. Сама ідэя выдання была добрая і ўсім зразумелая, але рэалізацыя яе аказалася надзіва доўгай і шматпакутнай. Спачатку была размова з дырэктарам Польскага Інстытута ў Мінску Цэзарыем Карпінскім, які адразу падтрымаў праект і звязаўся з Фондам «Pro Helvetia». Першапачаткова планавалася выдаць зборнік п'ес Францішкі Уршулі, дадаўшы да перакладзеных В. Арэшкам, А. Вольскім і Н. Русецкай двух твораў яшчэ некалькі. Да працы падключылася Ж. Некрашэвіч-Кароткая, у якой нават аказаўся адзін гатовы пераклад (здаецца, гэта быў «Суддзя, пазбаўлены розуму»). Але зборнік вырашылі выдаваць у серыі «Беларускі кнігазбор» аднайменнага выдавецтва, і яго галоўны рэдактар Кастусь Цвірка слушна параіў дадаць да драматургічных твораў яшчэ вершы і лісты Ф.У. Радзівіл. Зразумела, узнікла пытанне, хто і калі перакладзе гэтыя вершы і лісты на беларускую мову, але рэдактар паабяцаў падключыць да працы лепшага беларускага перакладчыка, народнага паэта Беларусі…

Размова са спадаром Цвіркам адбылася на пачатку 2001 г., народны паэт перакладаў вершы Францішкі Уршулі Радзівіл да лета 2002, столькі ж часу патрабаваў нашчадак аднаго вядомага празаіка на пераклад французскамоўных вершаў і трактатаў княгіні. У выніку ні першы, ні другі

не пераклалі ані радка замоўленых тэкстаў, а Фонд «Pro Helvetia» ў сувязі з затрымкай выдання адклікаў выдзеленыя сродкі. Кнігу ўратавалі маладыя перакладчыкі: Наталля Русецкая, Жанна Некрашэвіч-Кароткая, Андрэй Хадановіч, Наталля Гардзіенка, Галіна Жарко, Ала Канапелька і Алесь Астраўцоў; унёс свой сціплы ўклад у справу Казімір Камейша, французскамоўныя трактаты бліскуча пераклаў Зміцер Колас (у кнізе з-за памылкі рэдактара два трактаты разбіты на тры і пераклад першага прыпісаны А. Хадановічу). Вацлаў Арэшка перадаў копіі вершаў з Беларускага дзяржаўнага архіва, пераклад «Гульні фартуны» і фрагментаў дыярыуша Міхала Радзівіла; навуковую рэдакцыю зборніка зрабіў Мікола Хаўстовіч. Фінансавы цяжар выдання лёг на Польскі Інстытут у Мінску і «Беларускі кнігазбор», якія мусілі парадзіць сабе без падтрымкі «Pro Helvetia». Напэўна, над выданнем кнігі чуваў дух Францішкі Уршулі…

Калі пазней я прапаноўваў беларускім рэжысёрам паставіць у тэатры п'есы Ф.У. Радзівіл, галоўным доказам іхняй «беларускасці» было выданне ў серыі «Беларускі кнігазбор»: побач з творамі Янкі Купалы, Цёткі, Максіма Багдановіча, Францішка Аляхновіча, Ларысы Геніюш. З'яўленне тома, у якім Ф.У. Радзівіл была прадстаўлена не толькі як драматург, але таксама як аўтарка разнастайных у жанравых адносінах вершаў, маральна-дыдактычных трактатаў і шматлікіх лістоў, адкрывала шлях для далейшых даследаванняў творчасці пісьменніцы і для выкарыстання гэтых тэкстаў як эмпірычнага матэрыялу ў працах гісторыкаў, культуразнаўцаў, мастацтвазнаўцаў, філолагаў. Вершы Францішкі Уршулі сталі ўключацца ў розныя паэтычныя анталогіі[1], такі ж лёс, несумненна, чакае яе п'есы

[1] Яна і я : анталогія беларускай любоўнай лірыкі / укл. У. Сіўчыкава. Мінск, 2005. С. 50–52.

пры перавыданні анталогій і хрэстаматый па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі.

Вывучэннем паэзіі Ф.У. Радзівіл у кантэксце шматмоўнай літаратуры Беларусі XVIII ст. занялася Н. Русецкая, якая перад гэтым выступала ў ролі перакладчыцы. У навуковым друку пачалі з'яўляцца артыкулы маладой даследчыцы[1], а неўзабаве пабачыла свет яе манаграфія «Сямейная муза. Паэзія Францішкі Уршулі Радзівіл» (Мінск, 2007), у якой княгіня Радзівіл прадстаўлена ўжо не як «нясвіжская Мельпамена», а як «нясвіжская Сафо».

Вынікі публікацыі спадчыны нясвіжскай пісьменніцы праявіліся таксама ў вывучэнні гісторыі даўняй беларускай літаратуры ва ўніверсітэтах Беларусі: творчасць Францішкі Уршулі Радзівіл сталася адной з улюбёных тэм рэфератаў, курсавых і дыпломных прац студэнтаў-філолагаў[2]. Прычым сярод гэтых прац сустракаюцца сапраўды арыгінальныя і адкрыўчыя, як, напрыклад, рэферат Юрыя Кіма, прачытаны на студэнцкай канферэнцыі, а пазней апублікаваны[3]. Студэнт аддзялення французскай мовы і літаратуры БДУ зацікавіўся французскамоўнымі трактатамі Ф.У. Радзівіл «Пра шлюб» і «Пра ўзаемныя абавязкі...» і з дапамогай электроннага праекта GoogleBooks, у базе якога

---

[1] Русецкая Н.Л. Перасцярогі збавенныя Францішкі Уршулі Радзівіл // Наша Вера. 2003. № 2. С. 50–51; Русецкая Н.Л. Любоўная лірыка Францішкі Уршулі Радзівіл // Веснік БДУ. Серыя 4. 2006. № 1. С. 14–18.

[2] Гл. напр.: Мазурава Н. Матывы «Дэкамерона» Дж. Бакачыо ў п'есах Ф.У. Радзівіл // Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта. Мінск, 2005. Вып. 6. С. 101–104.

[3] Кім Ю. Да праблемы аўтарства маральна-дыдактычных трактатаў Францішкі Уршулі Радзівіл // Мова і літаратура : матэрыялы 66-й навук. канферэнцыі студэнтаў і магістрантаў філал. фак. БДУ (22 крас. 2009 г.). Мінск, 2009. С. 47–51.

знаходзіцца 7 мільёнаў адсканаваных кніг, адкрыў, што трактаты княгіні з'яўляюцца канспектам пятнаццатага і шаснаццатага раздзелаў трактата французскага маралiста Эсташа Ле Нобля (1643—1711) «Школа свету, або Навука бацькі сыну наконт таго, як жыць у свеце; падзеленая на Размовы». Гэтыя раздзелы так і называліся: «Пра шлюб» і «Пра абавязкі мужчыны і жанчыны», а сам трактат, забыты ў наш час, быў даволі папулярны ў Еўропе ў XVIII ст., пра што сведчыць з'яўленне ў 1761 г. рускага перакладу Сяргея Валчкова.

Зразумела, што сучасных студэнтаў (студэнтак!) больш цікавіць праблема ўзаемаадносінаў мужчыны і жанчыны да шлюбу і пасля яго, узнятая ў творах Радзівіл, чым праблема ўзаемаадносінаў каталіцызму і праваслаўя да і пасля заключэння Брэсцкай уніі 1596 г., разгледжаная ў рэлігійна-палемічных трактатах П. Скаргі, І. Пацея, Х. Філалета, М. Сматрыцкага... Хаця ў папулярным універсітэцкім падручніку «Гісторыя беларускай літаратуры : старажытны перыяд» Францішцы Уршулі прысвечана, як ужо адзначалася, усяго два словы, але творчасць пісьменніцы ўключана ў новыя ўніверсітэцкія праграмы[1] і досыць падрабязна разглядаецца ў лекцыях многіх выкладчыкаў.

Асобна трэба адзначыць з'яўленне раздзелаў пра Ф.У. Радзівіл у двух грунтоўных акадэмічных выданнях, якія падсумоўваюць здабыткі беларускага гістарычнага літаратуразнаўства за некалькі дзесяцігоддзяў (а то і за паўстагоддзя, калі весці адлік ад легендарнай «Хрэстаматыі па старажытнай беларускай літаратуры» (1959) Аляксея Коршунава). У «Анталогіі даўняй беларускай

---

[1] Праграма па гісторыі беларускае літаратуры XI–XIX стагоддзяў / пад рэд. М. Хаўстовіча. Мінск, 2002; Гісторыя беларускае літаратуры XVIII–XIX стст. : вучэб. праграма / пад рэд. М. Хаўстовіча. Мінск, 2005.

літаратуры : XI — першая палова XVIII стагоддзя» (2003), выдадзенай пад рэд. В. Чамярыцкага, прадстаўлены вершы Францішкі Уршулі «Пра рай салодкія ўспаміны», «Апісанне персяў жаночых», «Верш пра каханне» і «Ліст да мужа» з невялікай прадмовай Н. Русецкай[1], а ў першым томе «Гісторыі беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў» (2006), падрыхтаваным таксама пад рэд. В. Чамярыцкага, змешчаны раздзел пра творчасць княгіні Радзівіл аўтарства Ж. Некрашэвіч-Кароткай[2].

Менавіта на прыкладзе апошняга выдання выразна відаць, якое месца займае Ф.У. Радзівіл у гісторыі беларускай літаратуры. З мноства творцаў, якія жылі на Беларусі у XI — першай палове XVIII ст., толькі пятнаццаці прысвечаны ў кнізе персанальныя раздзелы, сярод іх княгіня Радзівіл — адзіная жанчына, адзіны прадстаўнік позняга Барока, адзіная сярод прадстаўленых паэтаў, хто пісаў пра каханне, і ледзь не адзіны драматург (ёсць яшчэ Сімяон Полацкі, які напісаў дзве драмы ў маскоўскі перыяд творчасці).

На жаль, на Беларусі засталося незаўважаным 300-годдзе з дня нараджэння пісьменніцы, якое прыпадала на 2005 г. Але ёсць шанец, што годам Францішкі Уршулі Радзівіл у беларускай культуры станецца 2011 г., у сувязі з рэалізацыяй двух цікавых праектаў: тэатральнага і выдавецкага.

Мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Мікалай Пінігін узяўся за рэалізацыю пастаноўкі «Выкраданне Еўропы, або Тэатр Францішкі Радзівіл» (прэм'ера запланавана на вясну 2011 г.). Знаны з выдатных пастановак беларускай класікі («Ідылія»

---

[1] Анталогія даўняй беларускай літаратуры. С. 857–860.

[2] Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў. Т. 1. С. 855–875.

і «Пінская шляхта» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, «Тутэйшыя» Янкі Купалы, «Сымон-музыка» Якуба Коласа») рэжысёр задумаў пры ўвасабленні твораў Ф.У. Радзівіл спалучыць на купалаўскай сцэне тры віды мастацтва: балет, оперу і драматычны спектакль: так, як гэтыя віды мастацтва спалучаліся ў Нясвіжскім і іншых прыдворных тэатрах Беларусі XVIII ст.

Напісаны намі сцэнарый прадстаўлення абапіраецца на тры п'есы княгіні Радзівіл: «Дасціпнае каханне», «Шчаслівае няшчасце» («Опера Еўропы») і «Распуснікі ў пастцы». Першы твор набудзе ў пастаноўцы сучаснага рэжысёра форму балета (у арыгінале быў вялікі балетны дывертысмент), другі — оперы (так, як задумваўся Францішкай Радзівіл), а трэці — камедыі dell'arte, якім і з'яўляецца па сваёй прыродзе. Гледачу прапануюцца тры розныя гісторыі пра каханне, якія аб'ядноўвае постаць Арлекіна. Упершыню Арлекін з'явіўся на нясвіжскай сцэне менавіта ў «Дасціпным каханні» (1746), а потым яшчэ тройчы ўзнікаў у камедыях Францішкі Радзівіл. Невыпадкова жанр спектакля «Выкраданне Еўропы...» вызначаны як *«нясвіжская арлекініяда»*. Агульную назву спектаклю даў сюжэт оперы «Шчаслівае няшчасце»: старажытны міф пра Еўропу ў аўтарскай апрацоўцы Францішкі Радзівіл. У творы выразна прачытваецца паралель з лёсам самой аўтаркі, якую Юпіцер-Радзівіл «выкраў» з Чартарыйска і прывёз у Нясвіж...

Праект мініяцюрнага зборніка інтымнай лірыкі «Нясвіжскі альбом» нарадзіўся ў працэсе падрыхтоўкі спектакля «Выкраданне Еўропы...». Па задуме сцэнарыста і рэжысёра ў перапынку паміж балетам і операй Арлекін загадвае гледачам загадкі, а тых, хто адгадае, узнагароджвае падарункамі... мініяцюрнымі кніжачкамі Францішкі Радзівіл. Так было і ў Нясвіжскім тэатры, пасля прэм'еры «Дасціпнага кахання» — толькі падарункі былі, вядома,

іншыя. Ілюстрацыі для «Нясвіжскага альбома» зрабіла маладая мастачка Ганна Ціханава, прадмову напісала Наталля Русецкая, яна ж пераклала і большасць вершаў. У адрозненне ад выдадзеных у 2003 г. «Выбраных твораў» Ф.У. Радзівіл, «Нясвіжскі альбом» — выданне двухмоўнае, у зборніку паралельна змешчаны польскамоўныя арыгіналы і беларускія пераклады. Памятаю, што, калі я скончыў укладанне зборніка любоўнай лірыкі Францішкі Уршулі Радзівіл, са мной здарыўся сапраўдны эстэтычны шок. Я не мог паверыць, што перада мной аўтэнтычныя вершы XVIII ст., выбраныя са старажытных рукапісаў і перакладзеныя на сучасную беларускую мову, што гэта не містыфікацыя, не таленавітая гульня сучаснага паэта ў «літаратуру даўніх эпох». Такога яскравага выяўлення інтымных пачуццяў жанчыны, як у паэзіі княгіні Радзівіл, такой увагі да гендэрнай праблематыкі, як цяпер модна казаць, мы не знойдзем у прыгожым пісьменстве Беларусі ні ў XIX, ні нават у першай палове XX ст.

Францішка Уршуля — першая жанчына-пісьменніца ў гісторыі шматмоўнай беларускай літаратуры, калі не залічваць да пісьменніцкага цэху аўтарак прыватных лістоў накшталт Барбары Радзівілянкі ці Соф'і Хадкевіч. У адрозненне ад свайго мужа, Міхала Крыштафа Радзівіла, альбо лекаркі Саламеі Пільштыновай-Русецкай, якія ўвайшлі ў літаратуру як аўтары ўласных дыярыушаў і мемуараў, Францішка Уршуля пакінула пасля сябе вялікую, жанрава-разнастайную спадчыну, мноства твораў сапраўды мастацкага, а не дакументальнага зместу.

Безумоўна, Ф.У. Радзівіл — таленавітая і цікавая, але *не геніяльная* пісьменніца, у яе спадчыне няма твораў на ўзроўні «Песні пра зубра» М. Гусоўскага ці «Шляхціца Завальні, або Беларусі ў фантастычных апавяданнях» Я. Баршчэўскага, якія сталіся для беларускай культуры *знакавымі*. Не які-небудзь канкрэтны *тэкст*, а ўся

творчасць, жыццё, *постаць* Францішкі Уршулі ўяўляе цікавасць для сучаснай беларускай культуры, якая мусіць абапірацца на даўнія традыцыі, каб дынамічна развівацца ў сучаснасці. Зрэшты, і памянёныя творы Гусоўскага і Баршчэўскага набылі вагу геніяльнасці толькі трапіўшы ў беларускую культурную прастору: у кантэксце польскай культуры яны амаль не заўважныя, лічацца такімі ж другараднымі з'явамі, як і «аматарская» творчасць княгіні Радзівіл.

У творах Гусоўскага і Баршчэўскага прысутнічае таямнічы код, які «расшыфроўваецца» толькі ў кантэксце нацыянальнай гісторыі і культуры, гэты код звязаны з вобразам Бацькаўшчыны, з грамадска-палітычным зместам твораў, выяўленым у адметных мастацкіх формах. У вершах, трактатах, п'есах княгіні Радзівіл зусім іншы код, звязаны з праблемамі прыватнага жыцця чалавека, гендэрнымі адносінамі ў грамадстве, мастацкі сусвет яе твораў дастаткова касмапалітычны, універсальна-абстрактны. Але, магчыма, гэтая маральна-філасофская праблематыка і незвычайная, каларытна-экзатычная форма яе выяўлення, жаноцкае ўспрыманне свету таксама з'яўляюцца актуальнай для сучаснай беларускай культуры, традыцыйна «перагружанай» сацыяльна-палітычнымі і нацыянальна-адраджэнскімі матывамі, здамінаванай мужчынскім разуменнем грамадства і спосабаў яго развіцця.

Прыкметнае ўзрастанне цікавасці да асобы і творчасці Ф.У. Радзівіл, якое назіраецца ў апошнія гады, з'яўляецца найлепшым пацвярджэннем гэтага тэзісу.





# Summary

*Siarhei Kavaliou.*
*The Literature of the Grand Duchy of Lithuania of the $16^{th}$ — early $17^{th}$ cc.: Phenomenon of the Cultural Borderland*

The Grand Duchy of Lithuania that existed in the $13^{th}$–$18^{th}$ cc. was a unique state on the political map of Europe. Created by several peoples (Lithuanian, Belarusian, Ukrainian) and later united with Poland, the Duchy had a polyethnic, polyconfessional and polycultural nature during its all history, which distinctly reflected in its rich multilingual literature.

In the $16^{th}$ — early $17^{th}$ cc. the literature of the Grand Duchy of Lithuania developed in the frameworks of the European Renaissance, though the local authors combined new Renaissance trends with the elements of medieval aesthetics with the peculiarities of the Belarusian and Lithuanian cultures and at the turn of the centuries — with the Baroque influence.

The Renaissance is traditionally associated with the genre of the socio-political and religio-polemic essays (prefaces by F. Skaryna, S. Budny, V. Tsiapinski, M. Dauksha, L. Sapieha, treatises by A. Volan, M. Litvin, A. Ratundas, works by P. Skarha, I. Patsei, Kh. Philalet, M. Smatrytski, etc.). But from the point of view of belles-letters rather than the history of political, religious and philosophic ideas in the Grand Duchy of Lithuania, there are grounds to state that it was the triumph of poetry.

The first examples of poetic works appeared in Prague and Krakow editions of F. Skaryna, J. Vislitski, M. Husouski. The spread of the book-printing was directly connected with the spread of poetry in Belarus and Lithuania: according to the then tradition the printers decorated the religious texts, philosophic treatises, juridical texts with poetic prefaces, appeals to readers, epigrams to the coat of arms of a patron. The first examples of versification in the national languages created by F. Skaryna, M. Mazhvydas, A. Rymsha, M. Mamonich belong to book-epigramic poetry. Their artistic peculiarity is not big but these attempts of the authors to declare their national-patriotic feelings are of a great importance for the further development of the Belarusian and Lithuanian literatures.

Patriotism of the poets of the Grand Duchy of Lithuania showed up also in their works written in Latin and Polish. The use of these languages in literature could be explained not only by cultural-historical reasons (orientation to «Latinized» Europe and gradual Polonization of the Belarusian-Lithuanian society) but also by prevailing aesthetic ideas of that time: Latin was considered to be the most appropriate language for epic, while Polish — for satire and moralistics. Poetic works written in Latin by J. Vislitski, M. Husouski, B. Hiyatsynt, F. Hradouski, J. Radvan were issued as separate books as well as Polish poems by C. Bazylik, S. Kulakouski, J. Pratasovich. Some poets published their works written in Latin and Polish within one volume (A. Rymsha, H. Pielhrymouski, J. Kazakovich).

Almost all poetic texts of the $16^{th}$ — early $17^{th}$ cc. came to us in a printed version. The authors created them meaning to publish them (epigrams, epic poems, moral-didactic treatises written in verse) unlike prosaic texts that survived mainly in a form of manuscript (chronicles, historic narratives, romances, diaries and memoirs).

The most popular and original prose genres of the literature of the Grand Duchy of Lithuania of Renaissance are state

Belarusian-Lithuanian chronicles («The Chronicle of the Grand Duchy of Lithuania, Russia and Samogitia» and «The Bykhavets Chronicle»). But having reached its pick in the first part of the $16^{th}$ c. the Belarusian-Lithuanian chronicles writing declined. Annalistic tradition localized in local chronicles and individualized in private diaries and memoires. The function of fixation of historical events was performed by new genres: author's historical chronicles (A. Ratundas, M. Stryikouski), epic poems (works by F. Hradouski, A. Rymsha, J. Radvan), memoirs (R. Unikhouski, H. Pielhrymouski, F. Yeulashouski).

It is in the second half of the $16^{th}$ c. — early $17^{th}$ c. when the genre of memoirs appear in the literature of the Grand Duchy of Lithuania, presented by works of Y. Radzivil, M.K. Radzivil, M. Stryikouski, H. Pielhrymouski, F. Yeulashouski. Among memoirs there are texts written in Belarusian, Latin and Polish. Some of them go back to the tradition of pilgrimages («Journey to Italy» by Y. Radzivil, «Peregrination or Journey to the Holy Land» by M.K. Radzivil), others are the example of family chronicles (The Unikhouskis Papers, «Memoirs» by F. Yeulashouski), some are created on the border of poetry and memoirs («...On myself and my adventures during the visits to different countries of the world» by M. Stryikouski, «Mission to the Grand Duke of Moscow» by H. Pielhrymouski). But they all reflect the typical for the Renaissance growth of the individual principle in literature, testify to the fact that the person realized the value of his/her own life and individual experience for the history.

Interest to private life, to the sphere of human feelings, to the relations between man and woman explains the appearance of such genre as a translated romance in the literature of the Grand Duchy of Lithuania in the middle of the $16^{th}$ c. Invasion of popular adventure plots into domestic literature testifies to the their demand by local readers, to closeness of our ancestors to the European literary tradition with its myths and archetypes.

The novels «Tristan» and «Bava» appeared in Western-European literature during the late Middle Ages but when they entered the Belarusian cultural space they received Renaissance perception, asserted ideals of love that during that time was on the periphery and expressed only in private letters.

The excellent example of epistolary genre in the literature of the Grand Duchy of Lithuania of Renaissance is Barbara Radzivil's letters to her parents, brother and lover — the great prince Zhyhimont August. Barbara's image is fixed on the pages of the Belarusian-Lithuanian chronicles and many other literary works of the later period, but the artistic level of her letters testifies that she deserves a place in the history of literature not only as a character but also as an author. She was a predecessor of Katarzyna Sanguszko of the Sapiehas, Salomea Pilsztynowa of the Rusieckis, Urszula Franciszka Radzivil of the Vishnyavetskis.

One more new genre in the literature of the Grand Duchy of Lithuania of the 16th — early 17th cc. was drama which appeared together with school Jesuitical theatres. The first playwrights of Belarus and Lithuania were the teachers of Vilnia Jesuitical academy K. Pyantkouski and H. Knapiy. It is accepted to consider Jesuitical drama a model of Baroque style and reflection of Counterreformation ideas, but the analysis of these authors afford ground for speaking about its Renaissance basis. Democratism and humanism of «The Dialogue About Peace» by K. Pyantkouski impress when you compare it with modern European drama. In interlude «Tsimon Hardziliud» one of the characters for the first time spoke Belarusian, which designated the appearance of interludes in Belarusian in the 17th–18th cc.

The literature of the Grand Duchy of Lithuania of the 16th — early 17th cc. was created in different languages (Church Slavonic, Latin, Greek, Polish, Belarusian, Lithuanian etc.) by authors of different religions (Orthodox, Catholic, Protestant, Greek-Catholic, Judaism and Islam) by representatives of

different nationalities (Lithuanians, Belarusians, Ukrainians, Poles, Germans, the French, Jews, Tatars). The literature of the Grand Duchy of Lithuania that appeared at the intersection of the local and Biblical traditions under the influence of Latin and Byzantine cultures is an excellent example of the heterogeneous culture and precious heritage of several peoples of the Middle-Eastern Europe.





# Літаратура


1. Анталогія беларускай паэзіі : у 3 т. / рэдкал.: Р. Барадулін [і інш.]. — Мінск, 1993. — Т. 1.
2. Анталогія даўняй беларускай літаратуры : XI — першая палова XVIII стагоддзя / пад рэд. В.А. Чамярыцкага. — Мінск, 2003.
3. Анушкин, А.А. На заре книгопечатания в Литве / А.А. Анушкин. — Вильнюс, 1970.
4. Арэшка, В. У пошуках новае прасторы пачуццяў : некаторыя элементы абсцэну і эротыкі ў творчасці У.Ф. Радзівілавай / В. Арэшка // Нясвіж — Гісторыя. Культура. Мастацтва. — Варшава ; Мінск, 1998. — С. 66–72.
5. Ауэрбах, Э. Мимесис / Э. Ауэрбах. — М., 1976.
6. Ахрыменка П.П. Старажытная беларуская літаратура : вучэб. дапаможнік для філал. фак. ВНУ / П.П. Ахрыменка, М.Р. Ларчанка. — Мінск, 1968.
7. Багдановіч, М. Поўны збор твораў : у 3 т. / М. Багдановіч. — Мінск, 1991. — Т. 1.
8. Багдановіч, М. Поўны збор твораў : у 3 т. / М. Багдановіч. — Мінск, 1993. — Т. 2.
9. Барокко в славянских литературах. — М., 1982.
10. Барышев, Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII века / Г.И. Барышев. — Минск, 1992.
11. Бахтин, М. Вопросы литературы и эстетики / М. Бахтин. — М., 1975.
12. Беларуская літаратура : інфарм.-давед. і метад. дапаможнік. — Мінск, 1992.
13. Беларуская літаратура X–XV стст. / укл. І. Саверчанкі. — Мінск, 2010.
14. Беларускі Трышчан = Białoruski Tristan / падр. тэксту і пер. А. Бразгунова і Н. Старавойтавай ; пад рэд. М. Машкевіча. — Вроцлаў, 2006.

15. Беларускія Александрыя, Троя, Трышчан... : перакладная белетрыстыка Беларусі XV–XVII стст. / укл., пер., камент. А. Бразгунова. — Мінск, 2009.
16. Белоруссия в печати XVI столетия / сост. М. Василевская. — Минск, 1985.
17. Белоруссия в печати XVII столетия / сост. М. Василевская. — Мінск, 1985.
18. Беркаў, П.Н. Ф. Скарына і пачатак усходнеславянскага кнігадрукавання / П.Н. Беркаў // 450 год беларускага кнігадрукавання. — Мінск, 1968.
19. Бразгуноў, А. Вандроўныя сюжэты старой беларускай літаратуры ў сучаснай драматургіі / А. Бразгуноў // Сучасная беларуская літаратура і працэсы славянскага культурнацывілізацыйнага ўзаемадзеяння : матэрыялы Міжнар. навук.-практ. канф. да 80-годдзя НАН Беларусі, 28 мая 2008 г. — Мінск, 2008. — С. 116–121.
20. Бразгуноў, А. Перакладная белетрыстыка Беларусі XV–XVII стагоддзяў / А. Бразгуноў. — Мінск, 2007.
21. Бразгуноў, А.У. Перакладны рыцарскі і гістарычны раман Беларусі XV–XVI стст. : еўрапейскі кантэкст, эвалюцыя і трансфармацыя жанру : дыс. ... канд. філал. навук / А.У. Бразгуноў. — Мінск, 2002.
22. Васілеўскі, П. Застацца сабою / П. Васілеўскі // Літаратура і мастацтва. — 1980. — 19 снеж. — С. 7.
23. Варонін, В. Прадмова / В. Варонін // Летапісы і хронікі Беларусі. Сярэднявечча і раннемадэрны час. — Мінск, 2010. — С. 4–6.
24. Веселовский, А.Н. Из истории романа и повести : материалы и исследования / А.Н. Веселовский. — Санкт-Петербург, 1888. (СОРЯС. Славяно-романский отдел. — Т. 44. — № 3. — С. 1–350).
25. Вісліцкі, Я. Пруская вайна / Я. Вісліцкі ; пер. Ж. Некрашэвіч // Маладосць. — 1997. — № 12. — С. 93–130.
26. Вісліцкі, Я. Пруская вайна = Visliciensis J. Bellum Prutenum : на лац. і бел. мовах / Я. Вісліцкі ; укл., пер., камент. Ж.В. Некрашэвіч-Кароткай. — Мінск, 2005.
27. Вислицкий, Я. Прусская война / Я. Вісліцкі ; пер. Я.И. Порецкого // Беларуская літаратура і літаратуразнаўства. — Мінск, 1973. — Вып. 2. — С. 165–175.

28. Вялікае княства Літоўскае : гісторыя вывучэння ў 1991–2003 гг. — Мінск, 2006.
29. Вялікае княства Літоўскае : энцыклапедыя : у 3 т. — Мінск, 2005–2010.
30. Галенчанка, Г.Я. Францыск Скарына — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар / Г.Я. Галенчанка. — Мінск, 1993.
31. Галенчанка, Г. Невядомыя і малавядомыя помнікі духоўнай спадчыны і культурных сувязей Беларусі XV — сярэдзіны XVII ст. / Г.Я. Галенчанка. — Мінск, 2008.
32. Гаробчанка, Т. На мяжы стагоддзяў : сучасны беларускі драматычны тэатр / Т. Гаробчанка. — Мінск, 2002. — С. 102–110.
33. Гарэцкі, М. Гісторыя беларускае літаратуры / М. Гарэцкі. — Мінск, 1992.
34. Гісторыя беларускага тэатра : у 3 т. / рэдкал. У.І. Няфёд [і інш.]. — Мінск, 1983. — Т. 1 : Беларускі тэатр ад вытокаў да Кастрычніка 1917 г.
35. Гісторыя беларускае літаратуры XVIII–XIX стст. : вучэб. праграма / пад рэд. М. Хаўстовіча. — Мінск, 2005.
36. Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры : у 2 т. / рэдкал.: В.В. Барысенка [і інш.]. — Мінск, 1968. — Т. 1 : З старажытных часоў да канца XVIII ст.
37. Гісторыя беларускай літаратуры : старажытны перыяд / пад рэд. М.А. Лазарука і А.А. Семяновіча. — Мінск, 1985.
38. Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стст. : у 2 т. — Мінск, 2006. — Т. 1 : Даўняя літаратура : XI — першая палова XVIII ст. / пад рэд. В. Чамярыцкага.
39. Гісторыя філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі : у 6 т. / рэд. В. Евароўскі, С. Санько [і інш.]. — Мінск, 2008. — Т. 1 : Эпоха Сярэднявечча.
40. Гісторыя філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі : у 6 т. / рэд. В. Евароўскі, С. Санько [і інш.]. — Мінск, 2010. — Т. 2 : Протарэнесанс і Адраджэнне.
41. Грицкевич, А.П. Белоруссия во времена Ивана Федорова / А.П. Грицкевич // Иван Федоров и восточнославянское книгопечатание. — Минск, 1984. — С. 53–61.
42. Грынчык, М.М. Зараджэнне і развіццё беларускай сілабічнай паэзіі / М.М. Грынчык // Беларуская літаратура. — Мінск, 1977. — Вып. 5. — С. 16–23.

43. Грынчык, М.М. Шляхі беларускага вершаскладання / М.М. Грынчык. — Мінск, 1973.
44. Гудавичюс, Э. История Литвы с древнейших времен до 1569 года / Э. Гудавичюс. — М., 2005.
45. Гудмантас, К. Летописи Великого княжества Литовского как памятник культурной полиглоссии / К. Гудмантас // Дыяспара. Культуралогія. Гісторыя : матэрыялы IV Міжнар. кангрэса беларусістаў. — Мінск, 2006. — С. 249–255.
46. Голенищев-Кутузов, И.Н. Гуманизм у восточных славян (Украина и Белоруссия) / И.Н. Голенищев-Кутузов. — М., 1963.
47. Голенищев-Кутузов, И.Н. Итальянское Возрождение и славянские литературы XV–XVI веков / И.Н. Голенищев-Кутузов. — М., 1963.
48. Голенищев-Кутузов, И. Славянские литературы : статьи и исследования / И. Голенищев-Кутузов. — М., 1973.
49. Голенченко, Г.Я. Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XV — середине XVII в. / Г.Я. Голенченко. — Минск, 1989.
50. Голенченко, Г.Я. История белорусского книгопечатания XVI–XVIII веков / Г.Я. Голенченко. — М., 1965.
51. Гусовский, М. О жизни и деяниях божественного Иакинфа / М. Гусовский // Беларуская літаратура і літаратуразнаўства. — Мінск, 1974. — Вып. 3. — С. 159–183.
52. Гусовський, М. Пісьня пра зубра / М. Гусовський ; пер. А. Содомора. — Рівне, 2007.
53. Гусоўскі, М. Перамога над туркамі / М. Гусоўскі ; пер. Ю. Свіркі і Я. Парэцкага // Полымя. — 1990. — № 6. — С. 147–150.
54. Гусоўскі, М. Песня пра зубра : на лац., беларус., рус. мовах / М. Гусоўскі ; пер. Я. Семяжона, Я. Парэцкага. — Мінск, 1980.
55. Гусоўскі, М. Песня пра зубра / М. Гусоўскі ; пер. Н. Арсенневай // Крыніца. — 1997. — № 7. — С. 3–32.
56. Гусоўскі, М. Песьня пра зубра / М. Гусоўскі ; пер. У. Шатона. — Мінск, 1994.
57. Гусоўскі, М. Пра змяю; Пра яе ж, з арлом злучаную; Да найяснейшай Валадаркі і Пані Боны…; Яснавяльможнаму Пану Людовіку Альфію… / М. Гусоўскі ; пер. Ж. Некрашэвіч-Кароткай // Беларуская мова і літаратура. — 2005. — № 3. — С. 33–34.

58. Дарашкевіч, В. Мастацкі помнік Грунвальду / В. Дарашкевіч // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. — 1975. — № 3. — С. 55–59.
59. Дзмітрачкоў, П.Ф. Беларусь у складзе Вялікага княства Літоўскага : другая палова XIII — першая палова XVII ст. / П.Ф. Дзмітрачкоў. — Магілёў, 2003.
60. Дорошевич, Э. Очерки эстетической мысли Белоруссии / Э. Дорошевич, В. Конон. — М., 1972.
61. Дорошкевич, В.И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы : первая половина XVI в. / В.И. Дорошкевич. — Минск, 1979.
62. Ермаловіч, М. Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае / М. Ермаловіч. — Мінск, 2000.
63. Ермаловіч, М.І. Па слядах аднаго міфа / М.І. Ермаловіч. — Мінск, 1989.
64. Еўлашоўскі, Ф. Успаміны / Ф. Еўлашоўскі // Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст. / уклад. А.Ф. Коршунаў. — Мінск, 1983.
65. Європейське Відродження та українська література XIV–XVIII стст. / ред. О. Мишанич. — Київ, 1993.
66. Жлутка, А. Мікола Гусоўскі / А. Жлутка // Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў : у 2 т. — Мінск, 2006. — Т. 1. — С. 309–357.
67. Захаранка, М.А. Песня пра зубра / М.А. Захаранка // Беларуская літаратура. — Мінск, 1986. — Вып. 14. — С. 119–130.
68. Зимин, А.А. Опричнина Ивана Грозного / А.А. Зимин. — М., 1964.
69. Зимин, А.А. Россия времени Ивана Грозного / А.А. Зимин, А.Л. Хорошкевич. — М., 1982.
70. Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии : избр. произв. XVI — начала XIX в. — Минск, 1962.
71. Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии : дооктябрьский период. — Минск, 1977.
72. Историческая поэтика : литературные эпохи и типы художественного сознания. — М., 1994.
73. История белорусской дооктябрьской литературы / ред. В.В. Борисенко [и др.]. — Минск, 1977.
74. Кавалёў, С.В. Героіка-эпічная паэзія Беларусі і Літвы канца XVI ст. / С.В. Кавалёў. — Мінск, 1993.

75. Кавалёў, С.В. Гісторыя беларускай літаратуры : другая палова XVI ст. : курс лекцый / С.В. Кавалёў. — Мінск, 2005.
76. Кавалёў, С. Дзяржаўна-палітычная самасвядомасць паэтаў Беларусі эпохі Рэнесансу / С. Кавалёў // Acta Albaruthenica. — 2003. — № 3. — С. 3–7.
77. Кавалёў, С. Літаратура Беларусі позняга Рэнесансу : жанры, творы, асобы / С. Кавалёў. — Мінск, 2005.
78. Кавалёў, С. Літаратура Вялікага княства Літоўскага ў эпоху рэнесанса : тры плыні / С. Кавалёў // Феномен памежжа. Славянскія мовы, літаратуры і культуры : этнас у святле гісторыі і сучаснасці : зб. навук. прац / рэд. С. Мусіенка. — Гродна, 2009. — С. 31–39.
79. Кавалёў, С. Літаратура Вялікага Княства Літоўскага як агульная спадчына літоўцаў, беларусаў, украінцаў, палякаў / С. Кавалёў // На ўшанаванне памяці Ежы Гедройца : матэрыялы Міжнар. навук. канферэнцыі «Канцэпцыя УЛБ (Украіна, Літва, Беларусь) — ад ідэі да рэалізацыі». — Мінск, 2006. — С. 135–146.
80. Кавалёў, С. Навука кахання : п'есы / С. Кавалёў. — Мінск, 2005.
81. Кавалёў, С.В. Станаўленне польскамоўнай паэзіі ў полілінгвістычнай літаратуры Беларусі эпохі Рэнесансу / С.В. Кавалёў. — Мінск, 2002.
82. Кавалёў, С.В. Традыцыі Я. Вісліцкага і М. Гусоўскага ў герока-эпічнай паэзіі Беларусі і Літвы канца XVI стагоддзя / С.В. Кавалёў // Вестник БГУ. Сер. 4. — 1990. — № 1. — С. 3–10.
83. Кавалёў, С. Шматмоўнасць літаратуры Вялікага княства Літоўскага ў эпоху Рэнесансу / С. Кавалёў // Cyryl i Metody w duchowym dziedzictwie Słowian : materiały III Międzynarodowej konferencji naukowej «Cyryl i Metody w języku i kulturze Słowian» / red. P. Sotirow. — Biała Podlaska, 2009. — S. 253–259.
84. Кавалёў, С. Шматмоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу / С. Кавалёў. — Мінск, 2010.
85. Казакевіч, А. Вялікае княства Літоўскае як ідэалагічная рэальнасць / А. Казакевіч // Arche. — 2003. — № 5. — С. 43–60.
86. Казбярук, У.М. Славянскія літаратуры і праблемы беларускага параўнальнага літаратуразнаўства : дакастрычніцкі перыяд / У.М. Казбярук. — Мінск, 1982.

87. Калеснік, У. Вяртанне зор / У. Калеснік // Полымя. — 1971. — № 7. — С. 196–212.
88. Калеснік, У. Зорны спеў : літаратурныя партрэты, нарысы, эцюды / У. Калеснік. — Мінск, 1975.
89. Калеснік, У. Тварэнне легенды : літаратурныя партрэты і нарысы / У. Калеснік. — Мінск, 1987.
90. Кароткі, У.Г. Дзяржаўная і дынастычная гісторыя ў «Пруской вайне» Яна Вісліцкага / У.Г. Кароткі // Взаимодействие литератур в мировом литературном процессе. Проблемы теоретической и исторической поэтики : в 2 ч. — Гродно, 2001. — Ч. 2. — С. 200–264.
91. Кароткі, У.Г. Пісаў пра мінуўшчыну, думаў пра будучыню… / У.Г. Кароткі // Маладосць. — 1997. — № 12. — С. 89–93.
92. Кароткі, У.Г. Праблема элітарнасці ў беларускай літаратуры другой паловы XVI — першай паловы XVII ст. / У.Г. Кароткі // Шляхам стагоддзяў : матэрыялы дзвюх канферэнцый. — Мінск, 1992. — С. 101–106.
93. Кароткі, У. Эпохі і стылі ў старажытных усходнеславянскіх літаратурах (дыскусійныя праблемы літаратуразнаўчай тэрміналогіі) / У. Кароткі // Славянскія літаратуры ў кантэксце сусветнай. — Мінск, 2007. — С. 8–20.
94. Кароткі, У. Я. Вісліцкі : паміж Ягелонамі і Рурыкавічамі / У. Кароткі // Славянскія літаратуры ў сусветным кантэксце : у 2 ч. — Мінск, 1999. — Ч. 2. — С. 79–81.
95. Карповіч, Г. Антыкізацыя прасторы ў шматмоўнай паэзіі Беларусі XVI ст. : вертыкальная карціна свету / Г. Карповіч // Acta Albaruthenica. — Warszawa, 2007. — Т. 6. — S. 162–169.
96. Карповіч, Г. Антычная топіка ў шматмоўнай эпіграматычнай паэзіі Вялікага княства Літоўскага XVI ст. / Г. Карповіч // Феномен пагранічча. Польская, украінская і беларуская літаратура — уплывы і ўзаемаўзбагачэнне / пад рэд. С. Кавалёва, І. Набытовіча. — Мінск, 2008. — С. 33–41.
97. Карповіч, Г. Антычныя традыцыі ў літаратуры Беларусі эпохі Рэнесансу : стан і перспектывы даследаванняў / Г. Карповіч // Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта. — Мінск, 2007. — Т. 8. — С. 77–89.
98. Карповіч, Г. Па слядах аднаго міфа : антычныя вытокі дынастычных канцэпцый у хроніках Заходняй Еўропы і ВКЛ /

Г. Карповіч // Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта. — Мінск, 2005. — Т. 6. — С. 98–100.
99. Карский, Е. Белорусы : в 3 т. / Е. Карский. — Петроград, 1921. — Т. 3, ч. 2.
100. Каўка, А. Тут мой народ : Францішак Скарына і беларуская літаратура XVI — пачатку XX ст. / А. Каўка. — Мінск, 1989.
101. Кім, Ю. Да праблемы аўтарства маральна-дыдактычных трактатаў Францішкі Уршулі Радзівіл / Ю. Кім // Мова і літаратура : матэрыялы 66-й навук. канферэнцыі студэнтаў і магістрантаў філал. фак. БДУ (22 красавіка 2009 г.). — Мінск, 2009. — С. 47–51.
102. Кіпель, З. Беларуская літаратура XVI стагоддзя: самабытнасць і літаратурныя сувязі / З. Кіпель // Спадчына. — 1999. — № 3. — С. 171–176.
103. Кіпель, З. Беларуская мова як культурна-сацыялагічны фактар : на прыкладзе аднэй сямейнай хронікі XVI ст. / З. Кіпель // Беларусіка. Albaruthenica. — Мінск, 1994. — Т. 3. — С. 177–184.
104. Кіпель, З. Беларуская перакладная літаратура XV–XVII стст. як мост паміж Усходам і Захадам / З. Кіпель // Беларусіка—Albaruthenica. — Мінск, 1997. — Кн. 6, ч. 2. — С. 175–181.
105. Кісялёў, Г. Сейбіты вечнага : артыкулы пра беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў рэвалюцыйнага руху 1863 г. ; Скарынаўская сімволіка : вытокі, традыцыі, інтэрпрэтацыі / Г. Кісялёў. — Мінск, 2009.
106. Кніга жыцій і хаджэнняў / уклад. А. Мельнікава. — Мінск, 1994.
107. Кондратович, Л. (Сырокомля). История польской литературы / Л. Кондратович. — М., 1861. — Т. 1.
108. Конан, У. Мастацкая культура Беларусі эпохі Рэнесансу / У. Конан // Мастацтва. — 2000. — № 7–12.
109. Конон, В.М. От Ренесанса к классицизму : становление эстетической мысли Белоруссии в XVI–XVIII вв. / В.М. Конон. — Минск, 1978.
110. Корженевский, Г. Песня о зубре / Г. Корженевский // Советская Белоруссия. — 2007 — 23 окт.
111. Коршунаў, А.Ф. Волан Андрэй / А.Ф. Коршунаў // Беларускія пісьменнікі : біябібліягр. сл. : у 6 т. — Мінск, 1993. — Т. 2. — С. 31.

112. Коршунаў, А.Ф. Лепшыя здабыткі старажытнай беларускай мемуарыстыкі / А.Ф. Коршунаў // Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст. / укл. А.Ф. Коршунава. — Мінск, 1983. — С. 3–30.
113. Коршунаў, А.Ф. Новыя даныя аб Фёдары Еўлашоўскім / А.Ф. Коршунаў // Весці АН БССР. Серыя грамадск. навук. — № 1. — 1983. — С. 116–117.
114. Коршунаў, А.Ф. Рымша Андрэй / А.Ф. Коршунаў // Беларускія пісьменнікі : біябібліягр. сл. : у 6 т. — Мінск, 1995. — Т. 5. — С. 188–190.
115. Кузьмина, В.Д. Рыцарский роман на Руси: Бова, Петр Златых Ключей / В.Д. Кузьмина. — М., 1964.
116. Культура эпохи Возрождения и Реформации. — М., 1981.
117. Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в. : проблемы взаимоотношений Польши, России, Украины, Белоруссии и Литвы в эпоху Возрождения. — М., 1976.
118. Лабынцаў, Ю. Пачатае Скарынам : Беларуская друкаваная літаратура эпохі Рэнесансу / Ю. Лабынцаў. — Мінск, 1990.
119. Левшун, Л. Леонтий Карпович : Жизнь и творчество / Л. Левшун. — Минск, 2001.
120. Левшун, Л. О слове преображенном и слове преображающем / Л. Левшун. — Минск, 2009.
121. Летапісы і хронікі Беларусі : Сярэднявечча і раннемадэрны час / укл. В. Варонін. — Мінск, 2010.
122. Літва і Беларусь: тысяча гадоў разам // Arche. — 2009. — № 9.
123. Липатов, А.В. Древнеславянские письменности и общеевропейский процесс : к проблеме исследования литератур как системы / А.В. Липатов // Барокко в славянских культурах. — М., 1982.
124. Лихачев, Д.С. Внутренний мир художественного произведения / Д.С. Лихачев // Вопросы литературы. — 1968. — № 8. — С. 74–87.
125. Лихачев, Д.С. Поэтика древнерусской литературы / Д.С. Лихачев. — М., 1979.
126. Лихачев, Д.С. Развитие русской литературы X–XVII веков : Эпохи и стили / Д.С. Лихачев. — Л., 1973.
127. Лойка, А. Дзеля чаго існуе Адраджэнне / А. Лойка // Галгофа : Кніга лёсаў. — Слонім, 2001. — С. 32–41.

128. Лойка, А.А. Нам засталася спадчына… / А.А. Лойка // Вобраз-89 : літ.- крыт. арт. / скл. С. Лаўшук. — Мінск, 1989. — С. 3–28.
129. Лойка, А.А. Старабеларуская літаратура / А.А. Лойка. — Мінск, 2001.
130. Лойка, А. Ян Вісліцкі : Пад знакам лаціны / А. Лойка. // Культура. — 1992. — № 7. —С. 4–5.
131. Лосев, А.Ф. Эстетика Возрождения / А.Ф. Лосев. — М., 1978.
132. Лотман, Ю. Структура художественного текста / Ю. Лотман. — М., 1970.
133. Любавский, М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно / М.К. Любавский. — М., 1915.
134. Лямент у света убогих на жалосное преставленіе святоблівого… отца Леонтіа Карповича // Старажытная паэзія Беларусі : XVI — першая палова XVII ст. / І.В. Саверчанка. — Мінск, 1992. — С. 150–164.
135. Мазурава, Н. Беларускі рыцарскі раман «Трышчан» у даследаваннях Э. Згамбаці / Н. Мазурава // Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта. — Мінск, 2003. — Вып. 4. — С. 136–140.
136. Мазурава, Н. Матывы «Дэкамерона» Дж. Бакачыо ў п'есах Ф.У. Радзівіл / Н. Мазурава // Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта. — Мінск, 2005. — Вып. 6.— С. 101–104.
137. Мальдзіс, А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый : літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII — XVIII ст.) / А.І. Мальдзіс. — Мінск, 1980.
138. Мельнікаў, А. З неапублікаванай спадчыны / А. Мельнікаў. — Мінск, 2005.
139. Мельнікаў, А. Пельгрымоўскі Гальяш / А. Мельнікаў // Беларускія пісьменнікі : біябібліягр. сл. : у 6 т. — Мінск, 1994. — Т. 4. — С. 518–519.
140. Мельнікаў, А.А. Станаўленне напрамку барока ў беларускай літаратуры / А.А. Мельнікаў // Беларуская літаратура. — Мінск, 1983. — Вып. 11. — С. 142–149.
141. Мельнікаў, А. Стрыйкоўскі Мацей / А. Мельнікаў // Беларускія пісьменнікі : біябібліягр. сл. : у 6 т. — Мінск, 1995. — Т. 5.— С. 434–436.

142. Мельнікаў, А. Шчасны-Жаброўскі / А. Мельнікаў // Беларускія пісьменнікі : біябібліягр. сл. : у 6 т. — Мінск, 1995. — Т. 6. — С. 414–415.
143. Міско, С.М. Школьны тэатр Беларусі XVI–XVIII стст. / С.М. Міско. — Мінск, 2000.
144. Многоязычие и литературное творчество : сб. ст. — Л., 1981.
145. Мовы Вялікага Княства Літоўскага : матэрыялы IV Міжнар. навук. канферэнцыі. — Брэст, 2005.
146. Надсан, А. Заходняя літаратура на Беларусі ў XV–XVII стст. / А. Надсан // Спадчына. — 1997. — № 6. — С. 73–90.
147. Някрашэвіч-Кароткая, Ж.В. Беларуская лацінамоўная паэзія : ранні Рэнесанс / Ж.В. Некрашэвіч-Кароткая. — Мінск, 2009.
148. Некрашэвіч, Ж. Літва, літоўцы, беларусы ў лацінамоўных паэмах Яна Вісліцкага і Яна Радвана / Ж. Некрашэвіч // Славянскія літаратуры ў кантэксце сусветнай : у 3 ч. — Мінск, 2001. — Ч. 1. — С. 122–127.
149. Некрашэвіч-Кароткая, Ж.В. Новалацінская літаратура Беларусі і Літвы ў літоўскім гістарычным літаратуразнаўстве / Ж.В. Некрашэвіч-Кароткая // Беларускае літаратуразнаўства. — Мінск, 2008. — Вып. 6. — С. 42–46.
150. Некрашэвіч-Кароткая, Ж.В. Нясвіжская Мельпамена : драматургія Францішкі Уршулі Радзівіл / Ж.В. Некрашэвіч-Кароткая. — Мінск, 2002.
151. Некрашэвіч-Кароткая, Ж.В. Творчасць Яна Вісліцкага і лацінамоўная пісьмовая культура эпохі Рэнесансу на Беларусі / Ж.В. Некрашэвіч-Кароткая // Вісліцкі Я. Пруская вайна = Visliciensis J. Bellum Prutenum : на лац. і бел. мовах / укл., перакл., камент. Ж.В. Некрашэвіч-Кароткай. — Мінск, 2005. — С. 5–98.
152. Нікалаеў, М.В. Гісторыя беларускай кнігі : у 2 т. / М.В. Нікалаеў. — Мінск, 2009. — Т. 1 : Кніжная культура Вялікага княства Літоўскага.
153. Нікалаеў, М.В. Палата кнігапісная : рукапісная кніга на Беларусі ў X–XVIII стст. / М.В. Нікалаеў. — Мінск, 1993.
154. Оссовская, М. Рыцарь и буржуа : исследования по истории морали / М. Оссовская. — М., 1987.
155. Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). — Минск, 1973.
156. Падокшын, С.А. Беларуская думка ў кантэксце гісторыі і культуры / С.А. Падокшын. — Мінск, 2003.

157. Падокшын, С.А. Роля антычных традыцый у развіцці культуры і грамадскай думкі на Беларусі ў XVI–XVII стст. / С.А. Падокшын // Беларуская літаратура. — Мінск, 1977. — Вып. 5. — С. 6–16.
158. Падокшын, С.А. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі : ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага / С.А. Падокшын. — Мінск, 1990.
159. Панченко, А.М. Русская стихотворная культура XVII века / А.М. Панченко. —Л., 1973.
160. Парэцкі, Я.І. Вершаваныя творы Сымона Буднага / Я.І. Парэцкі // Беларуская літаратура. — Мінск, 1977. — Вып. 5. — С. 133–144.
161. Парэцкі, Я.І. Невядомыя вершы М. Гусоўскага (1523–1533) / Я.І. Парэцкі // Беларуская літаратура і літаратуразнаўства. — Мінск, 1975. — Вып. 3. — С. 179–180.
162. Парэцкі, Я.І. Паэма М. Гусоўскага «Жыццё Іакінфа» / Я.І. Парэцкі // Беларуская літаратура і літаратуразнаўства. — Мінск, 1974. — Вып. 2. — С. 159–182.
163. Парэцкі, Я. «Сармацкі паэт» Ян Вісліцкі / Я. Парэцкі // Беларусь. — 1990. — № 12. — С. 16–17.
164. Парэцкі, Я.І. Ян Вісліцкі / Я.І. Парэцкі. — Мінск, 1991.
165. Парэцкі, Я.І. Паэма Я. Вісліцкага «Пруская вайна» / Я.І. Парэцкі, Ю.І. Прэнская // Беларуская літаратура і літаратуразнаўства. — Мінск, 1973. — Вып. 1. — С. 161–175.
166. Пасольства Льва Сапегі ў Маскву, паводле дыярыуша Гальяша Пельгрымоўскага / уступ. сл., пер. і публ. У. Казберука // Полымя. — 1999. — № 4. — С. 263–284.
167. Пельгрымоўскі, Г. Гутарка аднаго паляка з маскалём на маскоўскім замку ў годзе 1601 / Г. Пельгрымоўскі // Згукі Бацькаўшчыны : зборнік // укл. У.М. Казбярук, Я.Я. Янушкевіч. — Мінск, 1998. — С. 172–179.
168. Пельгрымоўскі, Г. Патрыёт Айчыны / Г. Пельгрымоўскі ; пер. Г. Карповіч // Літаратура Беларусі позняга Рэнесансу : жанры, творы, асобы / С. Кавалёў. — Мінск, 2005. — С. 165.
169. Пельгрымоўскі, Г. Rozmowa Polaka z Moskalem na zamku moskiewskim… / Г. Пельгрымоўскі ; публ. У. Казберука // Спадчына. — 1992. — №. 4. — С. 49–53.
170. Перетц, В.Н. Малорусския вирши и песни в записях XVI–XVII вв. / В.Н. Перетц // Известия ОРЯС Императорской Академии Наук. — 1899. — Т. IV. — С. 882.

171. Петровский, Ф. Эпиграмма как литературный жанр / Ф. Петровский // Греческая эпиграмма. — М., 1960. — С. 5–8.
172. Пичета, В.И. Белоруссия и Литва XV–XVI вв. : исследования по истории социально-экономического, политического и культурного развития / В.И. Пичета. — М., 1961.
173. Піўтарак, Р. Дзяржаўная мова ў Вялікім Княстве Літоўскім і праблема размежавання ўкраінскіх і беларускіх пісьмовых помнікаў / Р. Піўтарак // Беларусь і беларусы ў прасторы і часе : зб. да 75-годдзя прафесара Адама Мальдзіса. — Мінск, 2007. — С. 115–119.
174. Повесть о Трыщане // Легенда о Тристане и Изольде / подг. А.Д. Михайлов. — М., 1976. — С. 384–474.
175. Подокшин, С.А. Воззрения на историю в общественно-политической и философской мысли эпохи Возрождения в Белоруссии (XVI–XVII вв.) / С.А. Подокшин // Человек и история в средневековой философской мысли русского, украинского и белорусского народов : сб. науч. трудов. — Киев, 1987.
176. Подокшин, С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XVI — начало XVII в.) / С.А. Подокшин. — Минск, 1970.
177. Порецкий, Я. Неизвестные стихи Андрея Рымши / Я. Порецкий // Неман. — 1969. —№ 2. — С. 186–187.
178. Порецкий, Я.И. Николай Гусовский / Я.И. Порецкий. — Минск, 1984.
179. Праграма па гісторыі беларускае літаратуры XI–XIX стагоддзяў / пад рэд. М. Хаўстовіча. — Мінск, 2002.
180. Прашковіч, М. І. Беларуская паэзія канца XVI — пачатку XVII ст. / М. І. Прашковіч // Весці АН БССР. Серыя грамадск. навук. — 1964. — № 2. — С. 78–88.
181. Прашковіч, М.І. Паэзія Сімяона Полацкага (Ранні перыяд — 1648–1664) : дыс. канд. … філал. навук / М. І. Прашковіч. — Мінск, 1964.
182. Прокопович, Ф. Сочинения / Ф. Прокопович. — М. ; Л., 1961.
183. Псалмы Давида-пророка и царя … съ возследованием. — Вильно, 1593.
184. Псалтырь с восследованием. — Вильно, 1586.
185. Радагляд Гладкатварскі. Румяны / Радагляд Гладкатварскі ; пер. Н. Русецкай // Літаратура Беларусі позняга Рэнесансу : жанры, творы, асобы / С. Кавалёў. — Мінск, 2005. — С. 162–164.

